ISSN 0130 — 8068

3/2008



# ПОЛЫМЯ

Што ж спрадвеку тварылася
ў Лідскім замку?
Тут чужынец няпрошаны
грукаўся ў брамку.

...Сцены замка —
народу верныя служкі —
не лічылі смяротных страт,
як паставілі тут
салдаты Касцюшкі
васемнаццаць сваіх гармат.

Камяні не баяліся згубы
ад світальных дзён Гедыміна
да дзён, як фашысцкая міна
аб муры пакрышыла зубы.

Данута Бічэль-Загнетава



# ПОЛЫМЯ

**3**

**(941)**

**2008**

**сакавік**

**ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
ЧАСОПІС**

**ВЫДАЕЦЦА СА СНЕЖНЯ 1922 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Мікола МЯТЛІЦКІ**



**РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

**Мінск 2008**

## *ЗМЕСТ*





**ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь; грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»; рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»**



Раіса БАРАВІКОВА

# ВЕЦЕР З ЧОРНАГА ЯРА

*Аповесць*

## Частка першая

*Бура — вельмі моцны вецер, які небяспечны вялікімі разбурэннямі і чалавечымі ахвярамі. Калі вецер перавышае трыццаць метраў у секунду, — гэта ўжо ўраган: на сушы, на моры, у акіяне.*

*Ураганы маюць самыя розныя назвы — Іван, Жанна, Катрына... І разбуральная сіла ў іх розная, адпаведная сіле ветру. Апошнія бываюць паўднёвыя, паўночныя, заходнія і ўсходнія. Мой вецер — вецер з Чорнага яра.*

***Ад аўтара***

---

*__Баравікова Раіса Андрэеўна__ нарадзілася 11 мая 1947 года ў вёсцы Пешкі Бярозаўскага раёна.*

*У 1965 годзе скончыла Бярозаўскую сярэднюю школу. Працавала ў быхаўскай раённай газеце «Маяк Прыдняпроўя». Вучылася ў Літаратурным інстытуце імя М. Горкага (г. Масква), працавала рэдактарам на кінастудыі «Беларусьфільм», карэспандэнтам тыднёвіка «Літаратура і мастацтва», літкансультантам у газеце «Чырвоная змена». Узначальвала часопіс «Алеся» («Работніца і сялянка»). Цяпер — галоўны рэдактар часопіса «Маладосць».*

*Першы зборнік вершаў «Рамонкавы бераг» выйшаў у 1974 годзе. Выдала кніжкі паэзіі «Слухаю сэрца», «Такое кароткае лета», «Адгукнуся голасам жалейкі», «Каханне», «Пад небам першага спаткання...», кнігу прозы «Вячэра манекенаў», для дзяцей — «Галенчыны «Я» альбо Планета цікаўных хлопчыкаў», «Дзве казкі пра Міжпланетнага Пажарніка і казка пра жабяня Квыш-Квыш», «Казкі астранаўта» (касмічныя падарожжы беларусаў).*

*Аўтар драмы «Барбара Радзівіл» (прэм'ера ў тэатры «Вольная сцэна», рэжысёр В. Мазынскі, 1994).*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова (1987), Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы (1994) і спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі «Мастацкая літаратура» (1998). Узнагароджана медалём Францыска Скарыны (2007).*

## *Позняя восень 1937-га. Лёс завязаўся*

Невялікая вёсачка Ліпкі быццам утапілася ў цемры позняга лістападаўскага вечара. Моцнага снегу яшчэ не было, а той, што паспеў пацерушыць, дадаў раздарожжа, што не высыхала пасля працяглых восенькіх дажджоў. Косцік Бузяк — дваццацішасцігадовы, хударлявы, але немалога росту мужчына, падняўшы каўнер бы не са свайго пляча караткаватай ватоўкі, ішоў шпаркім крокам, трымаючыся платоў, каб можна было ўхапіцца за штыкеціну, калі раптам паслізнецца на гразкай сцежцы. Ён ужо бачыў невыразны, прысадзісты пад намоклым саламяным дахам абрыс сваёй хаты, што была перадапошняй у даволі доўгім ланцугу хат, якія мала чым адрозніваліся адна ад адной. Ва ўсялякім выпадку, у гэтай вільготнай цемрадзі, з якой нечакана вынырнула і спынілася перад ім жаночая постаць, захутаная ў тоўстую суконную хустку.

— Косцік, ты-ы? Пазнала толькі цяпер, па шапцы.

— Я... Я, цётка Хадора. Цьфу ты, напалохала!

— Бач, палахлівы які! А я — ад вас... Пэўна ж, сам здагадаўся, чаго газніца ў вокнах свеціцца! Разрадзілася твая Валя, а цябе ногі дзесьці носяць. Сын у цябе, Косцік! Бацькам ты ўжо стаў. Малога памылі, а Валя яшчэ нячыстая. Я адыходзіла, вада закіпала, яе мыць пачнуць. Тады ўжо малога да цыцкі прыкладзе. Сэрца ў грудзях ірвецца, га-а?

— Праўду сказала, забілася сэрца, — але ўсмешка, якою ён хацеў выказаць радасць, не выдавала шырокай. Вочы свяціліся трывогай, у іх гарэў нядобры агонь, як у чалавека пасля ліхаманкавай гарачкі. — Значыцца, сын. Сына мы з Валяю і чакалі.

— Ну ідзі ўжо, не перамінайся з нагі на нагу, — цётка Хадора ямчэй нацягнула на лоб хустку. — Вецер ніяк не сцішыцца, і ты ж, во-о, у якой ватовачцы лёгкай, а ў бацькі ж твайго, помню, добрая світка была. Вось яно, як жыццё складваецца. Раненька пакінуў гэты свет бацечка твой, унука не дачакаўся.

— У нас там, у хаце, многа жанчын? — бы спахапіўся Косцік, раптам успомніўшы ў думках пра нешта сваё, што гняло ці, наадварот, радавала.

— Ды адкуль тыя жанчыны? Чаго ім быць цяпер у вас? Я, во-о, была, ды Каця Антонава яшчэ засталася. Пупа яна вязала. Ёй на хутар ісці, дык, можа, у вас і заначуе.

— То я пайду ўжо, — заспяшаўся Косцік.

— Глядзі, у лужыну не ўлезь каля плота вашага. Вады многа за дзень нагнала, — але цётка Хадора гэта ўжо сказала наўздагон Косціку і адказу ад яго не пачула. Толькі ў бліжэйшым двары скавытнуў сабака, быццам нехта адагнаў яго ад сябе нагою. Вёска гэтым познім часам яшчэ не ўся спала. «Чуў нехта, пра што мы тут з Косцікам гаманілі, — падумала Хадора. — Заўтра ўжо ўсе будуць ведаць, што Валя хлопца нарадзіла. Сёй-той і ў адведкі збярэцца». Яна таксама старалася не ісці па слізкай, размытай вадою сцежцы, збочвала да платоў. А Косцік ледзь не подбегам ужо набліжаўся да сваёй хаты. Спыніўся каля лужыны, сагнуўся і адною рукою, трымаючы другую за пазухай, пачаў мыць высокія гумовыя боты. Потым пастаяў нейкае імгненне, прыслухаўся, быццам не даваў веры дрымоце, у якую ўпадала вёска, і пайшоў да брамкі...

Калі падыходзіў да сенцаў, пабачыў маці. Яна выцягвала з дзвярэй вялікі цэбар.

— Чаго ж ты стаў як укопаны, бярыся за вушка, — адазвалася да яго. — Ваду пад яблыню трэба выліць, каб тут... у двары ніхто не таптаўся па ёй. Парадзіху ж мылі. Валя хлопчыка нарадзіла.

— Ведаю, Хадору сустрэў, — падумаў і загаварыў пра іншае: — З мястэчка сёння ажно ўпяцёх прыязджалі...

— Ага-а, казалі людзі... Цябе з упаўнаважаным бачылі. З кацапам... Ямчэй бярыся, цэбар цяжкі. Ну, панеслі... — і яна ўзялася за другое вушка...

Парожні цэбар Косцік ужо нёс сам, але ў сенцы яго не ўнёс. Паставіў каля дзвярэй, нахіліўся да маці і сказаў ціха:

— Давай за вугал хаты зойдзем. Толькі Валі пакуль нічога не кажы.

— Чаго не казаць Валі?

— Вось пра што не казаць, — ён хутка выцягнуў з-за пазухі невялікі вузельчык, але цяжкаваты, ёмісты. — Бяры... Гэта трэба схаваць, толькі не ў хаце, — яго дыханне стала гарачым. — У клець занясі... пад транты якія...

— Што ж тут, у гэтай анучы, такое, што трэба хаваць?

— Гро-ошы, ма-а! Золата... Чырвонцы яшчэ царскія!

— Адкуль яны ў цябе? Кажы, адкуль?! — яе рукі раптам сталі непаслухмянымі, вузельчык выпаў з іх, і Косцік паспеў падхапіць яго. І тут жа зашаптаў з жаданнем хутчэй выказацца. Дыханне зрабілася частым, але словы не блыталіся.

— У Каранеўскіх забраў... Забраў, і ўсё! Гэта ж да іх з мястэчка прыязджалі па золата гэтае... Хтосьці давёў, што Сцяпанаў дзед калісьці бровар меў і грыбаварню, і кузня свая ў іх была. Але не шукалі, не трэслі, акуратна ўсё! Відаць, баяліся пасля таго выпадку, калі Цялешку да палонкі цягнулі і потым нехта з іх застрэліўся... Не вытрымаў... Мяккае сэрца ў чалавека было. — Яго перапаўняла хваляванне, і, здавалася, ён вось-вось задыхнецца ад гэтага свайго гарачага шэпту. — Каранеўскі на сваім стаяў, як і Цялешка тады: нічога няма і няма! А я позірк перахапіў... Сцяпан Вандзе вачамі паказаў на ўслончык. І яна села на яго. Тут я пра ўсё і здагадаўся. Успомніў, як даўно, яшчэ з бацькам па барану да іх хадзілі... А Каранеўскі той услончык якраз рабіў... І ножкі выдзёўбваў... Я тады яшчэ здзівіўся... А тут адразу цюкнула: у тых ножках ёсць нешта! І не памыліўся, ма-а! Калі ўпаўнаважаныя ад'ехалі, я вярнуўся... На-а... На-а... Бяры! — І ён сціснуў сваімі рукамі матчыны рукі, быццам забаяўся, што цяжкаваты вузельчык зноў выпадзе з іх.

— Гы-ы-ы-ы... Гы-ы-ы-ы... — вырвалася з матчыных грудзей, і яна закашлялася, папярхнулася гэтым сваім глухім, нечаканым плачам. — Божачкі, што ж гэта на цябе такое найшло, сыночак! — выціснула з сябе. — Галеча нашая, куды ж цябе завяла, зацягнула? Дух у мяне заняло... Пайду... Зараз жа пайду да Каранеўскіх... Назад людзям дабро іхняе занясу. Занясу, павінюся... Гы-ы-ы... Што ты нарабіў?! Я газы пляшку ўчора ў Ванды пазычыла... Як жа буду ёй аддаваць? Як парожак іхні пераступлю? Павінюся... Пайду!

І яна адпіхнула сына ад сябе, наважваючыся ісці. Той выхапіў вузельчык з матчыных рук і міжволі заступіў дарогу. У голасе пачулася злосць:

— Хочаш, каб гэтыя... з мястэчка забралі. А яны вытраслі б, як толькі трэсці пачалі б! На Каранеўскіх усе паперы гатовыя... Яны яшчэ таго не ведаюць, а недзе там... ужо ўсё вырашылі. Высяляць іх адсюль будуць. Праз які тыдзень прыедуць і павязуць... У Сібір ці яшчэ куды! А мо і заўтра нават. Сюды яны ўжо не вернуцца. Хто, пра што дазнаецца, ма-а? Каму яны паскардзяцца? Каму што раскажуць! Ад уладаў золата хавалі? Хай толькі пікнуць... Іх жа адразу таго... Сцяпан гэта разумее. Ён толькі збялеў, калі я ўслончык аб падлогу бразнуў... Анэля старая за ватоўку чаплялася, руку мне падрапала...

— Божа... Божа... — Маці абхапіла яго шыю рукамі. — Злітуйся... Хіба ты з чужога разжывешся, сынок?

— Разжывуся! — Косцік разняў яе рукі і зашаптаў: — Сын у мяне... Васіль! Васілём назавем... Сёння лёс яго завязаўся, і золата гэтае будзе лёсу ў

падмогу. Знойдзем, як ва ўжытак пусціць! — І ўздрыгнуў, пачуўшы, што расчыніліся дзверы ў сенцах.

— Нюра-а! Ню-юра-а! — данёсся незнаёмы жаночы голас. — Дзе ты там?

— Гэта Каця Антонава, — шапнула маці і адазвалася гучна: — Не крычы, я — тут! Косцік прыйшоў, дык яшчэ па адзін цэбар у хлеў паслала. Заўтра мо пялюшкі будзем мыць. Зачыняй дзверы, холаду ў сенцы напусціш. Мы зараз ідзем! — І маці прыхінулася да звільгатнелай сцяны, быццам адчула, як падгінаюцца ногі... быццам пабачыла перад сабою абрыў, куды Косцік уцягнуў сябе і яе ўцягвае... Адзін толькі зрух — і паляціць...

— Ну-то, пойдзем ужо, — сказаў Косцік.

— Зараз пойдзем... Не... Чакай... Ванда, што, калі ты...

— Ванда? Ды яна... Ну... Ванда дачок у другі пакой вывела, калі я з ножак золата пачаў вытрасаць. Яны заенчылі...

І маці здалося, што яна страчвае апору... Апусцілася на каленкі, чапляючыся за сцяну, заганяючы ў пальцы стрэмкі.

— Гы-ы-ы-ы... Людзей абабраў! Ты... Ты...

Словы не знаходзіліся, каб сказаць, хто ён. І плечы яе затрэсліся ў плачы.

Ванда Каранеўская таксама плакала. Яна ляжала ў байкавай кофце і ў камізэльцы з аўчыны на мяжы свайго бульбянога палетка, за якою пачынаўся глыбокі роў, празваны Чорным ярам. Глыбока ўнізе вілася рачулка Чарняўка, якая ніколі не высыхала, але ў любым месцы яе можна было перайсці, а то і проста пераскочыць. Ды людзі рэдка спускаліся да яе. Да рова прыходзілі, каб наламаць вербалозніку, з якога плялі кашы, лапці... Ванда не ведала, чаму апынулася тут, ля самай стромы. Помніць, што загаласіла толькі тады, калі Косцік, запіхваючы анучу за пазуху, у якую зграб чырвонцы, выбег з хаты. Кінулася да свайго Сцяпана. Хапала яго за рукі, лашчыла іх у сваіх руках і вымаўляла адно: «Сцёпачка... Сцёпачка... Чаму ты яго не забіў? Чаму не забіў?! Трэба было забіць! Швайкаю закалоць, як свінню колем! У цябе ж ручкі такія дужыя, сілы ў іх многа... А то сякерка вунь пад лаваю... А можна ж было і віламі запароць! Ці ж ты не адужаў бы яго?!»

Старая Анэля — Сцяпанава маці, якая дагэтуль моўчкі сядзела ля стала, перахрысцілася і разважыла, як ёй думалася:

— Трэба было да пчол, у вулей пакласці грошы... Помню, дзед твой, Сцёпка, там іх хаваў...

— Сціхніце! Абедзве сціхніце! — закрычаў Сцяпан. — Ага-а, у вулей?! Дык жа і яго забраць могуць разам з пчоламі! Пчол яны пабаяцца... За кожны вулей падатак плачу, і за курыцу кожную, і за яблыню... Вунь колькі іх павысякаў, каб меней плаціць! А паспрабуй не заплаці... Гм-м, пчолы некага спыняць? Напалохаюць?!

— О-о, як раскрычаўся! А я ж проста так сказала, дзеда твайго ўспомніла. Па гэтых грашах найболей у яго душа баліць на тым свеце.

— Забіць яго трэба было, забіць! — і яснасці не было ў вачах Ванды. Памутнелым позіркам пазірала на Сцяпана, не выпускаючы яго рукі са сваёй. — У роў зацягнулі б! У Чарняўку ўцiснулі б! Закапалі б у яе дно!

Сцяпан падняўся з лавы, на якой сядзеў ля акна:

— Э-э, у Чарняўку яна ўціснула б!.. Да магілы падвяла б і мяне, і сябе! Іх, — кіўнуў на дзверы ў другі пакой, — на каго пакінула б? Надзя як з двара прыйшла, дык ніхто і не пакарміў! Пра дачок падумай!.. І... І мяне не чапайце, дайце да сябе прыйсці!

— Прыходзь да сябе, Сцёпачка, прыходзь, — закрычала Ванда. — А я ў свет пабягу... Куды ногі панясуць! Не будзе ўжо жыцця ў хатачцы гэтай! Сёння грошы басяк забраў, а заўтра кароўку з хлява выведзе...

Яна кінулася да дзвярэй як ашалелая. Не патрапляючы адразу, нацягнула на ногі буркі, пашытыя са старога шыняля, і выбегла з хаты...

Абмінула свіран, дабегла да хлява, потым да веснічак у высокім шчытным штыкетніку. Адкінула зашчапку і выбегла на палетак, дзе адразу ж вецер сарваў хустку з галавы, і яна заматлялася на шыі. Буркі вязлі, набралі вільгаці, ледзь выцягвала іх з гразкай глебы і бегла, не ведаючы куды і навошта? Гэты палетак у хвіліны вялікай роспачы ўжо неаднойчы вабіў, прыцягваў яе, быццам мог вывесці да суцяшэння, да яснасці ў думках і душэўнага спакою. Вандзе раптам згадалася, як даўно, яшчэ да іхняга вяселля, вырашылі яны са Сцяпанам паехаць у мястэчка. Тады ў Сцяпанавых бацькоў яшчэ быў свой конік, якога яны доўга не здавалі ў калгас. Яна, Ванда, намерылася накупляць тканіны на падарункі сваім будучым сваякам. І накупляла. А калі вярнуліся ў Ліпкі, Сцяпан запрасіў яе да сябе ў хату. І Анэля радасна сустрэла іх, адразу пасадзіла да стала, наліла поўную міску мёду, нарэзала белага хлеба, а потым вазьмі і скажы: «А мы ж, Вандачка, яшчэ да тваіх бацькоў сватоў не пасылалі, а ты ўжо падарункаў нам усім накупляла!..»

І тады Ванда таксама выбегла з хаты і пабегла сюды, на гэты палетак, дзе тым летам расло высокае жыта. Сцяпан даганяў яе і дагнаў, калі яна ўжо выбегла на мяжу і, знясіленая, задыханая, упала ў густую траву, у высокія рамонкі... Сцяпан апусціўся побач і цалаваў яе, і шаптаў: «Табе ў нас будзе добра... Ты дарэмна ўскочыла і пабегла... Маці гэтак няўмела пажартавала, яна даўно ўпанаравіла цябе... І бацька мой таксама ўпанаравіў... Цябе прымуць як маладую гаспадыню, і ты ўсім будзеш распараджацца ў нас гэтаксама, як маці». Яна слухала, лёгенька адбівалася ад яго пацалункаў і чула, як блізка ў Чорным яры бушуе, гудзе вецер. Вецер! Яна і цяпер пачула яго, бо ўжо стаяла на той мяжы. І, як калісьці, павалілася, упала, распласталася...

— А-а-а-а... А-а-а-а... — паспрабаваў рассунуць густую цемрадзь яе стогн, але не разляцеўся рэхам, перайшоў у надрыўны плач. А побач у яры шумеў, свістаў, шугаў вецер. І яна пасунулася па слізкім месіве зямлі і пажухлай, пасохлай травы на самы край. — О-о-о-о, мой ветрыку! Ці чуеш ты мяне? Ці пазнаў?! Ты ж абвейваў мяне на гэтым палетку, калі я тут лецейка ў лецейка шчыравала, потам умывалася... Ты патыхаў халадком, калі садзілася перадыхнуць пад куст вербалозу, і сваім лёгенькім павевам лашчыў мяне. — Яна глыбока ўздыхнула, колькі змагла набрала халоднага паветра ў грудзі і выдыхнула са словамі: — Пакарай басяка! Адпомсці! І яму, і дзецям ягоным калісьці пакажы сваю сілу... Усяму роду ягонаму! Не ведай ніякай літасці! Раздушы, раструшчы, каб у нас забранае на бяду ішло, бокам вылазіла...

Ванда наструнілася і ўздрыгнула, азірнулася... Ззаду ля яе са світкай у руках стаяла старая Анэля.

— Уставай, Вандачка! Паднімайся, родненькая! — залямантавала яна. — На сырой зямельцы ляжыш! Вядома, што бокам вылезе... А зараз супакойся... Душачку сваю не разжалобвай! Я па тваіх слядочках ішла... Во-о і світка, і хустка цёплая ў рукаве. Я ўжо баялася, каб у роў гэты не ўкінулася. Знявечылася б уся! Паднімайся... Дзень страшны быў, дзеці без цябе ў ложак не кладуцца... Паслухайся, не ляжы, здубянееш!

І Ванда паднялася. Азяблымі, растапыранымі пальцамі, якія не слухаліся яе, узяла світку, выцягнула з рукава хустку. Усю яе біла дрыготка, якую яна ніяк не магла стрымаць.

— Бедная... Бедная... — трэсла галавою Анэля. Ты ж скалела дарэшты... Хутчэй, Вандачка, хутчэй світку нацягвай. О-о-о, як вецер яе за краёчкі ірве!

— Угу-у, угу-у, бачу, што ірве, — высільвала з сябе Ванда, нацягваючы на плечы світку. — Моцна ірве, знак такі падае. Ён пачуў, пачуў мае словы, ён усё зразумеў... І зараз, во-о, хоча сказаць мне пра гэта...

## *Красавік 1984-га. Інтымная сувязь*

Васіль Канстанцінавіч Бузяк з моцным раздражненнем спрабаваў завязаць новенькі гальштук. Ён стаяў апрануты, што называецца з іголачкі, перад люстэркам у сваёй спальні. Гальштук не завязваўся, і ён, скамечыўшы, са злосцю шпурнуў яго на ложак. Тут жа выглянуў са спальні, сказаў гучна:

— Галя-я, каву зрабі, я ўжо катастрафічна спазняюся!

Пасля чаго хутка падышоў да шафы, расчыніў яе, пачаў перабіраць завязаныя на вузел старыя гальштукі, прыкідваючы, які з іх найбольш падыдзе да цёмна-шэрага гарнітура, у які ён быў апрануты. Нарэшце выбраў, зацягнуў на шыі, яшчэ нейкі момант пастаяў перад люстэркам і пайшоў на кухню, дзе ўжо на стале стаяў кубачак з кавай.

— Ты сабе не ўяўляеш, як я спазняюся, — сказаў жонцы, Галіне Міхайлаўне, якая сядзела за сталом, чакаючы яго.

Яна правяла позіркам па ягонай постаці знізу ўверх і ўдакладніла:

— Ты, Вася, не спазняешся! Ты ўжо спазніўся! Паглядзі на гадзіннік, пятнаццаць на дзесятую...

— Ну, гэта яшчэ нічога, — і ён пачаў хутка адпіваць каву з кубка. — Сёння, у прынцыпе, можна трошкі і затрымацца. Алфёраў прыязджае ў дзевяць нуль пяць, варшаўскім. Як ты разумееш, ужо прыехаў. Ну і пакуль сустрэнуць, завязуць у міністэрства... Там, адпаведна, размова ў міністра... У камітэце ён з'явіцца каля адзінаццаці, а з ім і начальства ўсё нашае. Нарада прызначана на адзінаццаць. — Ён адставіў кубак, адзначыў для сябе, што ў жонкі стомлены выгляд, мяшкі пад вачыма, і працягваў. — А ўвогуле, Галка, нічога добрага. Калі камітэт далучаць да міністэрства, у першую чаргу пацерпяць кадры. Адных на пенсію, другіх перавядуць куды-небудзь у іншае месца, ну а трэціх... самых няўгодных — скароцяць! Відаць, трашчыць бюджэт у дзяржаве, калі камітэт такім чынам ліквідуюць.

— Вася, з усяго я разумею адно: вечарам у цябе зноў банкет, як учора, як пазаўчора...

— Дык пазаўчора было выязное пасяджэнне!

— Я разумею... — Яна апусціла галаву, уздыхнула. — Праблема ў нас, Вася, і не малая. А ў цябе ні хвіліны на сям'ю. Ты забыўся, што ў цябе акром выязных пасяджэнняў яшчэ ёсць дзеці.

— Што, нешта зноў у Валодзькі ў школе? — ён зазірнуў у парожні кубак. — Кавы было шкада?

— Не шкада, Вася, і ў Валодзькі ўсё добра, — з халадком адказала Галіна Міхайлаўна.

— Значыцца, у Анжэлы? Дык схадзі ў школу... У цябе сёння ў паліклініцы прыём з чатырох. І выклікаў на дом не густа. Сама мне ў ложку пра гэта сказала, ёсць вольны час. Можна і ў школу заскочыць!

— Вася, у Анжэлы не школьныя праблемы! Нам трэба сур'ёзна пагаварыць, і размова не на дзве хвіліны...

— Ну хопіць! — узарваўся ён. — Не спрабуй павесіць на мяне тое, што можаш, напэўна, зрабіць сама. Табе пляваць! Наш камітэт у міністэрстве зро-

быць упраўленнем. Івана Казіміравіча начальнікам не прызначаць, гэта факт! Яму шэсцьдзесят адзін год. Я не набіваю сабе цану, я не выпендрываюся перад табою. Самым рэальным прэтэндэнтам на начальніка магу быць я! І ты думаеш, у мяне няма ворагаў? І ты думаеш, Іван Казіміравіч проста так здасць пазіцыі? Перад Алфёравым будуць сёння ўсе прагінацца... Апошняе слова, як гэта заўжды бывае, будзе за Масквою — каго зацвердзіць, каго адхіліць.

— Ты таксама прагнешся... — у вачах Галіны Міхайлаўны засвяцілася штосьці глыбока насмешлівае. Яна паднялася, сказала, як адмахнулася. — Ну ўсё, ідзі, Вася. Ідзі... Вечарам, калі мне чакаць цябе? І, дарэчы, у якім стане?

Васіль Канстанцінавіч толькі ўскінуў руку, маўляў, ці варта нешта адказваць, калі яго справы жонцы даўно да лямпачкі. На некалькі хвілін зазірнуў у спальню і, апранаючы на хаду плашч, выйшаў з кватэры...

Душыла злосць, што Галя ніяк не можа зразумець элементарнага. Яму ўжо сорак сем. Так... Ён загадчык аддзела, і ёсць два варыянты: альбо праседзець у аддзеле да канца ўжо ў новай структуры, гэта значыцца, да пенсіі, альбо пайсці ўверх... Стаць начальнікам упраўлення. А там... вышэй і вышэй... Гэта разумее і Іван Казіміравіч, цяперашні старшыня камітэта кантролю за якасцю сельгаспрадукцыі. Яго намесніка ўжо даўно цэляць у нейкае іншае месца, і ў прэтэндэнтах застаюцца загадчыкі аддзелаў, з якіх сама падыходзячы на начальніка ён — Васіль Канстанцінавіч Бузяк. Таму і ізаляваў старшыня яго сёння адусюль. Ад выступлення, якое ён на ўсялякі выпадак падрыхтаваў, каб засвяціцца перад маскоўскім начальствам, увогуле ад удзелу ў нарадзе. Безумоўна, ён не мог сказаць Галі, што ўчора перад самым канцом працоўнага дня Іван Казіміравіч выклікаў яго да сябе і неяк нязвыкла, па-таварыску, сказаў:

— Нечаканасць, Канстанцінавіч, атрымалася... Толькі што пазванілі з Масквы. Алфёраў прыязджае не сам, а з жонкаю. Таму і на адзін дзень. Будзеш яе заўтра суправаджаць. Павер, я ўсіх перабраў... Не прыставіш жа да яе жанчыну! А з нашых мужчын... У аднаго пуза во-о, збянтэжыць хоць каго можа. У другога язык, што калода, лішні раз не паверне ім. Трэці ўвогуле, — лысы... Галава, што калена! Застаешся ты адзін... І ёй будзе прыемна, і табе... Ва ўсялякім выпадку, адпачнеш!

І Васіль Канстанцінавіч пасля гэтых слоў старшыні ў думках вылаяўся: не хоча стары, каб ён сёння падняўся на трыбуну і падцяўкнуў Маскве. Маўляў, правільна... Камітэт цалкам непатрэбная ўстанова: функцый — на пальцах пералічыш, затое пасад, як у тым міністэрстве...

Ён выйшаў з пад'езда, зірнуў на гадзіннік і павярнуў на сцежку, што вяла да тралейбуснага прыпынку. «Абавязкова трэба будзе купіць кветкі, — разважаў. — Знак увагі! Жанчынам ва ўзросце гэта асабліва падабаецца. А ёй, напэўна, ужо за пяцьдзесят, як і Алфёраву». І калі праз якіх паўгадзіны Васіль Канстанцінавіч увайшоў у гасцінічны нумар пад лічбай трыста семдзесят восем, то пашкадаваў, што купіў толькі тры гваздзікі...

Жонцы Алфёрава было дзесьці пад сорак, і яна ўмомант перакрэсліла ўсё, што ён намерваўся сказаць. Падала руку, другою адкінула густыя чорныя валасы з ілба, вялікія вочы звузіліся, быццам вывучала, што ж гэта за тып такі тут з'явіўся. Але вось заўсміхалася і сказала:

— Я — Ірэна Вацлаваўна, але не палячка, выключна руская. Вы, мне ўжо сказалі, — Васіль Канстанцінавіч. З раскладам нашай вандроўкі я ўжо азнаёмілася. Хатынь — занадта сур'ёзна, трагедыя народа, гэта не проста прагулянка... Ад гэтага я адразу адмовілася. Ну і ваш Курган Славы... Таксама... Я ж — не ветэран!.. Таму застаецца адно: праедземся па горадзе... У ЦУМ завітаю з прыемнасцю, а потым... Потым абед... Вам будзе не ў цяжкасць заказаць яго цяпер. Думаю, што лепш, каб тут... у нумары!

Яна не дала яму ніякай магчымасці ўставіць хоць слоўка, і, пакуль прамаўляла ўсё гэта, ён уважліва разглядваў яе... Ёсць штосьці цыганскае, а можа, малдаванка, хаця не... Ці мала брунетак і сярод рускіх жанчын? Безумоўна ж, у ёй адразу бачыцца сталічны шарм, і разам з тым так усё проста — запанібрата! Успомніў сваю жонку... Галя апошні тыдзень знерваваная, п'е нейкія кроплі ад бяссоння, і ўсё — дзеці, дзеці... Праблемы ў Валодзькі, зараз нейкія клопаты ў Анжэлы, а гэтая... гладзенькая, пад вачыма ні зморшчынкі! Дзесьці там, у Маскве, не вылазіць з касметычных салонаў... На здароўе! Для гэтага і існуюць касметычныя салоны, каб іх нехта наведваў.

— Я вас загрузіла сваёй балбатнёю, і вы задумаліся... Штосьці не так? Лепш адразу вызначыцца ў праграме. Праўда? Я люблю яснасць у дзеяннях! А зараз пасумуйце... Я ў ванны пакой. Трэба пераапрануцца!

— Дык, можа, я цяпер у рэстаран? Зраблю заказ...

— Няхай прывозяць роўна а першай. Я звычайна ем у адзін і той жа час. Клапачуся пра талію. І абавязкова грыбкі на халоднае... У нас, як толькі хто згадвае Мінск, адразу пачынае гаварыць пра грыбкі. Я не выключэнне! На гарачае — кавалак цяляціны. Усё астатняе, як вам падкажа ваш густ.

— Вядома, і шампанскае?

— Не-не... Каньяк! Шампанскае залішне ўрачыста. Мы з вамі не ў ЗАГСе! У нумар ужо не паднімайцеся, чакайце на выхадзе. Штосьці яшчэ?

І ён заспяшаўся ў рэстаран, думаючы, як лёгка, напэўна, Алфёраву з гэтай жанчынай. Можна здагадацца, што ў іхняй сям'і ўсім кіруе яна. Муж у яе пад абцасам. Але Алфёраву гэта можа нават падабацца. У іх з Галяй усё па-іншаму — ціхая варажнеча год за годам, калі кожны хоча ўзяць верх, і ніхто не паддаецца. Адсюль спрэчкі, папрокі, узаемныя абвінавачванні...

Ён зрабіў заказ у рэстаране, прыкінуў, што на вандроўкі па Мінску ім, безумоўна ж, хопіць дзве гадзіны. Калі выйшаў з гасцініцы, адразу пабачыў камітэцкую «Волгу», падышоў да вадзіцеля — маладога хлопца, запытаўся:

— Ну што там у нас, Толя?

Той паціснуў плячыма:

— Не ведаю, я з гаража адразу сюды. Ужо хвілін пятнаццаць чакаю.

— Ну яшчэ хвілін пяць пачакай...

Васіль Канстанцінавіч вярнуўся на гасцінічны ганак. Запаліў... У гасцініцу засялялася нейкая замежная дэлегацыя. Людзі з цяжкасцю ўцягвалі праз вузкія дзверы валізкі на колцах. У думках абурыўся, чаму побач другія ўваходныя дзверы адміністрацыя гасцініцы трымае на замку. Але вось за шклом дзвярэй мільганула знаёмая постаць, і ён хутка кінуў цыгарэту ў сметніцу. Пайшоў насустрач Ірэне Вацлаваўне... Акінуў яе захопленым позіркам і падумаў, што хоць аднойчы для яго старшыня камітэта зрабіў штосьці вельмі і вельмі прыемнае...

Яны праехаліся па Ленінскім праспекце, потым прайшліся па Траецкім прадмесці, затым пад'ехалі да скверыка Янкі Купалы...

«Куды яшчэ? Куды яшчэ?!» — напружана думаў ён. І яна, быццам прачытала яго думкі, падказала:

— Цяпер давайце ўжо ў магазін. Я там магу забавіцца.

Але ў ЦУМе яны не забавіліся. Прайшлі ў кабінет дырэктара, які сказаў, што, маўляў, так... Сапраўды... Яму тэлефанавалі з Міністэрства сельскай гаспадаркі. Ён іх чакае. І адразу павёў Ірэну Вацлаваўну на склад, каб там прапанаваць штосьці дэфіцытнае. Васіль Канстанцінавіч папрасіў у сакратаркі «Праўду», прабегся вачамі па газетных загалоўках і пачаў чытаць праграму тэлеперадач. У кабінет зазірнула сакратарка:

— Вас да тэлефона, здыміце трубку...

Са склада тэлефанаваў дырэктар ЦУМа, сказаў, што Ірэна Вацлаваўна хоча набыць насценны гадзіннік з зязюляю... Гэтыя гадзіннікі карыстаюцца вялікім попытам і на складзе іх цяпер няма.

— Вам трэба звязацца са сваім начальствам, — сказаў дырэктар. — Няхай тэлефануюць на гадзіннікавы завод. Ён жа тут... побач. Думаю, што там змогуць задаволіць жаданне вашай госці.

І Васіль Канстанцінавіч набраў нумар Люсі — сакратаркі старшыні камітэта:

— Люсечка, тэрмінова далажы Івану Казіміравічу... Няхай каго-небудзь пасылае на гадзіннікавы завод. Патрэбен гадзіннік з зязюляй для жонкі Алфёрава. Ну... ты ж ведаеш... у форме дамка, з якога кожную гадзіну выглядвае зязюля: ку-ку, ку-ку...

Люся ў сваю чаргу сказала Васілю Канстанцінавічу, што старшыня загадаў, каб Толя адразу ж ехаў у камітэт, як толькі адвязе яго з жонкай маскоўскага начальніка назад у гасцініцу...

Ён яшчэ не паклаў тэлефонную трубку, а дырэктар ЦУМа з Ірэнай Вацлаваўнай ужо вярталіся ў кабінет. Яна трымала ў руках невялікі скрутак.

— Вось... спартыўны касцюм для сына набыла.

— А што-небудзь сабе? — з прыязнай усмешкай запытаўся Васіль Канстанцінавіч.

Яна развяла рукамі, а дырэктар як апраўдваўся:

— На жаль... На жаль, тое, што ёсць на складзе, Ірэну Вацлаваўну не задаволіла. Затое ў мяне тут кава ёсць.. вышэйшы клас! Зараз паклічу сакратарку...

— Не-не, — запярэчыла Ірэна Вацлаваўна. — Дзякуй за ўсё. Хутка абед. Нам трэба спяшацца.

І потым увесь час, пакуль яны ехалі да гасцініцы, Васіль Канстанцінавіч у думках дакараў сябе... якім жа дурнем ён аказаўся. Чаму таксама не пайшоў на склад, дзе быць таго не можа, каб аніякага выбару! Хай нейкую дробязь, але купіў бы для яе. Ірэна Вацлаваўна відавочна была расчараваная наведваннем магазіна, пазірала ў акно машыны і да яго амаль не звярталася. Гаворкі не атрымлівалася, хоць у яго ўвесь час круцілася ў галаве традыцыйнае пытанне: «Ну, як вам, Ірэна Вацлаваўна, наш горад? Якое ўражанне зрабіў Мінск?» Пра гэта і запытаўся, як толькі апынуліся ў гасцінічным нумары.

— Мінск амаль не змяніўся, — адказала яна. — Я ўжо была ў ім раней. У свае студэнцкія гады прыязджала сюды з бацькам. У мяне мачаха была мінчанка.

— А-а-а, — працягнуў ён, — вырашылі, так сказаць, яшчэ раз прайсціся па слядах юнацтва?

— Вешайце свой плашч у шафу. Можаце і маю куртку павесіць, калі адразу не здагадаліся. І якія там сляды юнацтва! — павысіла яна голас. — Я тут, даруйце, у ролі цэрбера... Ужо з год, куды Алфёраў, туды і я... Туркменія, Малдавія, Грузія, Украіна... Аднойчы ўзяла і ўсё перапыніла!

— Што перапынілі, Ірэна Вацлаваўна? — ён ужо зачыняў шафу і спахапіўся, што, напэўна, сказаў нешта недарэчнае, запытаўся пра тое, што яму, вядома ж, не трэба ведаць. Але яна ўдакладніла:

— А вашай жонцы спадабалася б? А-а? Вяртаецца з чарговай камандзіроўкі... пачынаю вытрасаць яго саквояж... Кашулі ў блявоціне, у губной памадзе, і яшчэ Бог ведае ў чым! Так... Днём вырашаюцца нейкія пытанні, а вечарам п'янкі-пагулянкі!.. Да мяне аднойчы ў кватэру ўдмуртка заявілася... Дзевятнаццаць гадоў! Ён яе, аказваецца, папрасіў, каб яна адразу да яго... з вакзала! Зразумела, па п'янцы... А яна прыняла ўсё за чыстую манету...

Васіль Канстанцінавіч не чакаў такога прызнання, як, напэўна, і яна сама гэтых слоў ад сябе, таму што на яе твары з'явілася збянтэжанасць, ажно шчокі расчырваneліся. Усталявалася нялоўкая паўза. «Манета... Манета...», — у думках учапіўся ён за яе апошняе слова і выцягнуў з унутранай кішэнькі пінжака чырвонец старой царскай чаканкі, падышоў да яе, сказаў мякка:

— Ірэна Вацлаваўна... Вы тут трошкі расхваляваліся... І ў ЦУМе нічога для сябе не выбралі... Дык я тут... вырашыў падаруначак вам прыпаднесці... Вось... вазьміце...

Яна ўзяла манету, пачала ўважліва разглядваць яе, а Васіль Канстанцінавіч патлумачыў:

— Гэта — чырвонец... Дзесяць рублёў яшчэ царскія. Золата найчысцейшай, самай высокай пробы.

— Золата? — няўпэўнена перапытала яна.

— Ага-а... Знойдзеце добрага майстра... Ён вам завушніцы зробіць ці пярсцёнак... У жонкі маёй цудоўненькі наборчык атрымаўся. Твор мастацтва! — ён асекся... Не надта хацелася цяпер згадваць пра жонку, тым больш пра яе ўпрыгажэнні. — Карацей, на будучае зрабіла, хутчэй не для сябе, а для дачкі... Пакуль яна ў нас васьмікласніца. А вы самі насіць будзеце. Можна і файны ланцужок вырабіць.

У дзверы пастукалі...

— Не зачынена! — гучна прамовіла Ірэна Вацлаваўна, заціскаючы чырвонец у руцэ.

Афіцыянт уцягнуў у нумар цялежку, загружаную посудам, стравамі і пляшкамі — каньяк, мінералка.

— Сервіраваць гэты стол? — паказаў рукою на невялікі столік ля акна.

— Мы не супраць, калі ласка, — пагадзіўся Васіль Канстанцінавіч.

Яны моўчкі назіралі, як шчыруе афіцыянт, і, калі ўсё было расстаўлена, Ірэна Вацлаваўна не змагла схаваць свайго захаплення:

— Як цудоўненька! Як цудоўненька! — але голас быў робленым, нейкім ненатуральным, быццам была занята ў гэты момант зусім іншымі думкамі. Паглядзела на Васіля Канстанцінавіча. — А ў вас добры густ... Ікра... Жульен... Масліны... Баржом...

— І цяляціна, якую вы заказалі, і каньяк... «Белы бусел», — ён расплыўся ў задаволенай усмешцы.

— Прыемнага апетыту, — пажадаў афіцыянт. — Калі трэба будзе забраць посуд, патэлефануйце... Нумар тэлефона ў даведніку, — і, паказаўшы позіркам на кніжку, якая ляжала ля тэлефона, пакінуў іх.

Ірэна Вацлаваўна расціснула кулак... Перакінула чырвонец з рукі на руку, быццам узважвала.

— Калісьці гэта былі, напэўна, вельмі вялікія грошы? — сказала яна і запытальна паглядзела на Васіля Канстанцінавіча. — У вашай жонкі — наборчык... Ланцужок? Завушніцы? Бранзалетка?

— І першае, і другое, — заківаў галавою ён. — І яшчэ пярсцёнак... Да бранзалеткі недадумалася.

— Дык вы што? У нейкай там пушчы аднойчы скарб знайшлі?!

Васіль Канстанцінавіч засмяяўся...

— Скарбы ў нас, здараецца, у мурах знаходзяць, а мне... у спадчыну ад дзядоў-прадзедаў... Не паверыце... Маці дзесяцігоддзямі ў зямлі трымала! Закопвала, перакопвала... Я малы быў... Бацька з фронту не вярнуўся... Для мяне гэтую спадчыну берагла. Потым мне і аддала... Думаю, што ўжо трэба і за стол... Вы як? Ваша цяляціна астывае.

— Значыцца, вы з багаценькіх? — сказала Ірэна Вацлаваўна, калі селі за стол і Васіль Канстанцінавіч прапанаваў тост за яе. Прыгубіўшы, укінула ў рот масліну, якую доўга наколвала на відэлец. — А мой Алфёраў галечагалечай... Патомны пралетар! Пасля інстытута ў камсамол рынуўся... Потым, як гэта звычайна бывае, «партыя сказала трэба, камсамол прамовіў: ёсць!»... І ўжо ўсё пачалося па партыйнай лініі, куды прызначаць, туды і ішоў... А жывем, у прынцыпе, у звычайнай трохпакаёўцы... Гэта ён тут... начальства высокае!

— Ірэна Вацлаваўна... — Васіль Канстанцінавіч перахапіў яе позірк і не адвёў свайго. — Я прапаную за вашу прыгажосць...

Яна прыкрыла рукою сваю чарку, запярэчыла:

— Мне дастаткова... Нават калі за маю прыгажосць!

Ён паклаў сваю руку на яе руку... І колькі пасля ўжо не згадваў гэты момант, не мог дакладна згадаць, як усё адбылося. Што з ім такое сталася? Нешта шаптаў, цалаваў яе рукі, як у непрытомнасці. Яна таксама, бы не ў сабе, расшпільвала яго кашулю, сцягвала з ягоных плячэй пінжак... Ён лавіў сваімі губамі яе губы і расшморгваў замок на яе джынсах, лёгенька штурхаючы такую ўсю паслухмяную і разамлелую да ложка... У яе былі прыгожыя невялікія грудзі, і здавалася, што яны смочкамі цягнуцца яму насустрач... Прыпадаў да гэтых смочак, адчуваючы трапятанне і дрыготкую нецярплівасць яе гарачых клубоў...

Потым яны ляжалі моўчкі, і Ірэна Вацлаваўна першая парушыла гэтае маўчанне:

— Дзіўны ў нас брудэршафт атрымаўся, Вася. Ты гэтак не лічыш?

— Мы ўжо на «ты»? — і ён прыцягнуў яе да сябе. Потым раптоўна падхапіўся: — А ў нас гэта... Нумар не зачынены!

Ірэна Вацлаваўна прыўзнялася, чмокнула яго ў шчаку, прашаптала:

— Позна зачыняць, Вася, — яна лёгка саскочыла з ложка. Пачала апранацца, паказваючы на столік. — Нам яшчэ трэба даесці гэты абед. А ў семнаццаць нуль-нуль з'явіцца машына... Гэты ваш маўклівы Толя завязе нас на банкет!

Пры слове «маўклівы» Васіль Канстанцінавіч пасміхнуўся. Іхні вадзіцель Толя сапраўды быў не гаваркім, але прыехаў ён не ў семнаццаць нуль-нуль, а значна раней. Ірэна Вацлаваўна не паспела яшчэ даесці сваю цяляціну, а ён, амаль не закусваючы, усё адпіваў і адпіваў з чаркі каньяк. Калі ў дзверы пастукалі, Ірэна Вацлаваўна сказала, што падыдзе сама, усёткі яна — гаспадыня нумара. І тут жа, як толькі адчыніла дзверы, пачуліся яе воклічы:

— А гэта яшчэ што такое?! Навошта?! Навошта?! Вось дык здзівілі!

Вадзіцель Толя ўнёс у нумар скручаны ў трубку дыван і некалькі кардонных скрынак:

— Гэта падарункі ад камітэта, — сказаў Васілю Канстанцінавічу. — Дыван... А ў скрынках гадзіннік і дзесяць штофаў «Белавежскай»... Я заскочу дамоў на паўгадзінкі, — паглядзеў на столік. — Яшчэ не паабедаў нідзе, а потым буду чакаць вас ля ўвахода ў гасцініцу. У пяць у «Папараць-кветцы» банкет!

Васіль Канстанцінавіч хацеў запытацца, чаму банкет у «Папараць-кветцы», калі ўчора ішла размова пра «Матэль». І скеміў, што ўсё пераігралася. «Матэль» быў бы, калі б Алфёраў прыехаў адзін, без жонкі. Таму проста кіўнуў Толю, маўляў, добра, я ўсё зразумеў, ідзі... І той выйшаў.

— Трэба было запрасіць вадзіцеля да стала, — няўпэўнена прамовіла Ірэна Вацлаваўна. — Да жульену мы яшчэ не дайшлі...

Васіль Канстанцінавіч памацаў дыван і зазначыў, спрабуючы пажартаваць:

— Гм-м... «Бойся данайцаў, якія дарункі прыносяць!..» Віцебскі!.. Колер прыемны, — дадаў сур'ёзна.

— Ну... Беларусы, скажам, не данайцы... — пасміхнулася Ірэна Вацлаваўна. — Хітрасці аніякай... І дыван самы звычайны. Вось у туркменаў, — ажывілася яна, — ручная работа! Алфёраў два ці тры прывозіў. А з Узбекістана, помню, посуд... Мельхіёр, пакрыты нейкай спецыфічнай эмаллю. У арнаменце — увесь таямнічы Усход... А з Малдавіі які вінаград... Які вінаград! А віно! Хоць і няма ў іх там Алазанскай даліны...

«Не фіга сабе мода ў цэнтры, — падумаў Васіль Канстанцінавіч. — Проста абіралаўка нейкая... Што могуць адусюль цягнуць!» — і схамянуўся, быццам Ірэна Вацлаваўна магла падслухаць гэтыя яго думкі.

А яна, скінуўшы з сябе джынсы і світэр, мітусілася перад ім у кароценькай камбінэ... Прасіла патрымаць прыўзнятыя цяжкія валасы, пакуль яна засоўвала ў іх шпількі, робячы нейкую адмысловую прычоску. Потым апранула чорную элегантную сукенку, і ён зашпільваў ззаду гаплікі...

«Ба-а, што робіцца! — думаў ён, пазіраючы асалавелым позіркам на Ірэну Вацлаваўну. — Ну і ўдружыў мне Іван Казіміравіч! Бачыў бы ён гэта ўсё, удар хапіў бы!»...

А Іван Казіміравіч у гэты самы момант, ужо седзячы за банкетным сталом у малой зале рэстарана «Папараць-кветка», шаптаў Алфёраву:

— Ды не хвалюйцеся вы, Ігар Мікалаевіч. Яны з хвіліны на хвіліну будуць. Мы ж трошкі раней прыехалі, а ім было сказана роўна а семнаццатай. Напэўна, дзесьці ўжо на пад'ездзе... Ды я зараз таго... выйду на вуліцу... сустрэну... — і ён падняўся з-за стала...

Калі камітэцкая «Волга» пад'ехала да рэстарана, Іван Казіміравіч міжволі зірнуў на гадзіннік. Бузяк з Ірэнай Вацлаваўнай спазніліся роўна на дваццаць хвілін. Ён ужо страчваў усялякую цярплівасць і нават хацеў тэлефанаваць у гасцініцу, але нарэшце... «Ну дзякуй Богу!» — з палёгкай уздыхнуў і кінуўся да машыны, усю ўвагу скіраваўшы на Ірэну Вацлаваўну:

— Будзем знаёмы... Рады вітаць... Шкада, што толькі на адзін дзень... — і тут жа шапнуў Васілю Канстанцінавічу: — Ідзі ў малую залу...

І Васіль Канстанцінавіч таксама з палёгкай уздыхнуў. Яму не хацелася, каб Алфёраў пабачыў яго разам з Ірэнай Вацлаваўнай. «А раптам нейкае не тое слова, не той рух, — думаў. — Бывае, нават адзін позірк можа сказаць пра многае. Потым зноў жа... Невядома, як пры мужу павядзе сябе з ім яна?..» Але гэтая думка турбавала дарэмна. На працягу ўсяго вечара Ірэна Вацлаваўна ніводнага разу нават не зірнула ў яго бок. І гэта таксама насцярожвала... Прамаўляўся тост за тостам... Васіль Канстанцінавіч бачыў, як Алфёраў штосьці сказаў Івану Казіміравічу, і той падняўся:

— Шаноўныя!.. — пастукаў відэльцам па пляшцы. — Шаноўныя! Заключнае слова скажа наш дарагі Ігар Мікалаевіч... А пакуль... Пакуль... — ён паглядзеў па баках, шукаючы, каму б даць слова. — Мы яшчэ не чулі нашага галоўнага бухгалтара...

І Васіль Канстанцінавіч падняўся, — самы момант папаліць... Каб потым ужо не прапусціць заключнага слова Алфёрава. Выйшаў на ганак. Дастаў з пачка цыгарэту... Накрапваў па-вясноваму цёплы дождж. Адышоў да сцяны... «Калі што і паспела набегчы, — падумаў, — не было ж ні хмурынкі, — і адчуў, як хтосьці дакрануўся да пляча. — Няўжо яна выйшла следам за мною?» Гэта сапраўды была Ірэна Вацлаваўна.

— Сказала Алфёраву, што выйду падзякаваць табе, — пачуў ён. — Тут мае тэлефоны, пакладзі ў кішэню, — і лёгенька сціснула яго далонь, уклад-

ваючы ў яе кавалак паперчыны. — Будзеш прыязджаць у камандзіроўкі ў Маскву, зможам бачыцца.

— Гэта ўжо як пашлюць, — адказаў ён. — Камандзіроўкі ў Маскву не ў маёй кампетэнцыі.

— Пашлюць! — і голас яе гучаў упэўнена. — Усе гэтыя вашы змены-перамены я вазьму пад свой... жаночы кантроль. — І яшчэ раз сціснула яго руку, што ўжо было падобна на развітанне.

Калі ён вяртаўся ў малую залу рэстарана, каб зноў сесці за стол, Іван Казіміравіч заўважыў яго і махнуў рукою:

— Васіль Канстанцінавіч, ты тост які казаць будзеш?

На што ён толькі адмоўна крутнуў галавою, падсвядома ўжо ведаючы, што ўсе яго галоўныя тосты дзесьці наперадзе...

Дамоў вярнуўся а дзесятай гадзіне. Вечар яшчэ быў не позні, і Васіля Канстанцінавіча трошкі здзівіла, што жонка ўжо ляжала ў ложку, ды і дзеці нешта рана разышліся па сваіх пакоях.

— Штосьці ў нас сёння ціха, — сказаў жонцы, зайшоўшы ў спальню. — Нават тэлевізар ніхто не глядзіць. Павячэралі ўжо?

— Анжэлка, напэўна, лягла, — адказала Галіна Міхайлаўна. — А ў Валодзькі заўтра кантрольная па фізіцы, дык рыхтуецца. І ты ж сёння не позна...

— Спяшаўся... Сама ж сказала, што праблемы. Вось і пагаворым. Толькі душ прыму.

І калі праз якіх паўгадзіны лёг побач з жонкай у ложак, пацягнуўся да яе:

— Дождж на вуліцы. Спачатку цёплы накрапваў, а потым такі вецер усчаўся, проста з ног збіваў, хоць пагрэюся ля цябе. — Заўважыў на тумбачцы бутэлечку, запытаўся. — Зноў кроплі ад бяссоння піла?

— Піла, Вася, і ты зараз віп'еш, — жонка павярнулася да яго: — Анжэлка наша зацяжарыла... Дзіцятка... Дзіцятка ў яе будзе..

— Ты ў сваім розуме? — ён ажно прыўзняўся над ёю. — Якое дзіцятка? Ёй жа... Ёй жа толькі пятнаццаць у чэрвені споўніцца!

— Ага-а... пятнаццаць. Але ўзрост дзетанараджальны, — і Галіна Міхайлаўна ўсхліпнула. — Вася... Ужо ледзь не пяць месяцаў. Усё позна... Усё позна... Я не вар'ятка калечыць яе і дзіця... Трэба раджаць... Ёй трэба раджаць...

— Яе згвалцілі? Хто? Калі? — у голасе была паніка.

Галіна Міхайлаўна адказала не адразу... А яму схацелася падхапіцца і пайсці да дачкі, каб пачуць ад яе самой, як жа такое магло здарыцца. У ім пакуль кіпела толькі гэтае пытанне.

— Ляжы, Вася. І спакойна... Спакойна, — нарэшце выціснула з сябе Галіна Міхайлаўна, але голас быў роўны. — Ніхто Анжэлку не згвалціў... Наколькі я разумею, усё адбылося добраахвотна... А хто ён, гэта не мае ніякага значэння. Хтосьці выпадковы... Зараз трэба думаць пра іншае, і я ўжо надумала... Буду звальняцца з працы. А там... Там з'едзем з ёю куды-небудзь... Яна народзіць, а вярнуўшыся, скажам, што гэта я нарадзіла. Дзіцятка на сябе запішам і будзем гадаваць як сваё...

— Ты... Ты... Я заўжды ведаў... Ты ідыётка! — ён ажно сарваў з яе плячэй коўдру. — А яна... Яна шлюха малалетняя! Як ты ўсё гэта элементарна... аформіш?! А я?.. Я, значыцца, яшчэ раз стану бацькам? Дудкі! Дудкі вам! Ніякага дзіцятка тут не будзе! Ды я... Я... Я пасаду магу атрымаць... Мяне з усіх бакоў прасвечваць будуць перад тым, як прызначыць! Людзі не сляпыя... Дудкі вам! Нічога не схаваеце! У маім уласным доме — амаральшчына... Распуста!.. Вось як яно, аказваецца... Шлюха малалетняя!

— Ну, скажам, не шлюха, а твая дачка, Вася. І ўсё.. Хопіць! Спі. Пагаварылі. Я табе сваю думку выказала. Ляжы і думай... Думай, Вася, — і яна адвярнулася ад мужа, нацягнула на плечы коўдру.

Розныя пачуцці кіпелі ў ім... І пераважала злосць: на дачку, на жонку. «Выхавала дачушку, выпеставала... Анжэлачка — разумніца, Анжэлачка — выдатніца, — і згадваў жончыны словы. — Няхай адарвецца ад падручнікаў, няхай пойдзе куды з сяброўкамі... Дахадзілася!» А потым пачало выплываць штосьці даўняе... Вось ён фатаграфуецца з Анжэлкай у фотамайстэрні. І яна, малая, не хоча стаяць побач, а просіцца да яго на калені і ўжо на каленях шчасліва смяецца: «Ты мой самы... самы любімы татачка!» А вось ён вядзе яе з дзіцячага садка і дае два вялізныя чырвоныя яблыкі. «Гэта я з'ем, — кажа дачка і запіхвае яблык у кішэньку сваёй куртачкі. — А вось гэты з'еш сам... А калі я вырасту, то буду табе купляць многа-многа яблыкаў...» «Ну вось і атрымаў той самы яблык!.. Выганю! Выганю з дому!» І разумеў, што нікуды не выганіць. Хацелася расштурхаць жонку, каб пачуць усё ў падрабязнасцях... Дачка, напэўна ж, сказала ёй, хто той нягоднік! Ён знойдзе яго... Для чаго? Каб сказаць, што яго дачка цяжарная?! І што ён, бацька, хоча? Сапраўды што? Каб той нехта ажаніўся з пятнаццацігадовай дзяўчынкай?! Не, такога ён не хоча, як нікому не зможа сказаць і пра тое, што яго дачка, разумніца і выдатніца, — цяжарная! І згадалася Ірэна Вацлаваўна... Згадалася, як зашпільваў гаплікі на яе сукенцы, а потым ужо на ганку «Папараці-кветкі» ейны дотык, цяпло мяккай далоні і ціхі голас: «Усе гэтыя вашы змены-перамены я вазьму пад свой... жаночы кантроль»... І ён уткнуўся тварам у падушку. Нават схацелася задыхнуцца ад безвыходнасці. Ва ўсялякім выпадку, ніякага выйсця з таго, што здарылася, ён не бачыў. А потым быў сон... Снілася яблыня ўся ў яблыках. І пад яблыняй — Ірэна Вацлаваўна, голенькая, без анічога... Працягвала да яго рукі... І тут пачаўся вецер, вельмі моцны вецер, голле зашумела, закалыхалася... І не яблыкі пачалі падаць на Ірэну Вацлаваўну, а чырвонцы, абсыпаючы яе ўсю. А пасля аднекуль з'явілася яго нябожчыца-маці, і ён пабачыў, як яна трасе кулаком... І было незразумела, каму пагражала: яму ці Ірэне Вацлаваўне? «Трэба падысці да маці», — падумаў ён і ў гэты момант прачнуўся. І адразу адчуў, што жонка ўжо не спала, хоць толькі-толькі пачынала днець...

— А ты добра спаў, Вася, — адазвалася жонка.

— Голую жанчыну сасніў, — прамармытаў ён.

— Голая жанчына — гэта сорам... Сорам, Вася.

Ён рэзка павярнуўся да жонкі, зашаптаў у самае вуха, збіваючыся, што выспела ў ім раптоўна:

— Ты паедзеш... Паедзеш з Анжэлкай! На Гомельшчыну... У Карму да сваёй інстытуцкай сяброўкі... Але ніякага дзіцёнка тут не будзе!.. Чуеш, ніколі!.. Я не дазволю!.. Дзіцёнак застанецца там... У раддоме! І запомні... Пакуль гэта ўсё не адбудзецца, у мяне няма дачкі! Я гэтак вырашыў! — перадыхнуў і нават уздыхнуў з палёгкай. — Усё астатняе рабі сама. І каб у школу Анжэлка больш ні нагой! Прыдумай ёй хваробу... Ты — доктар... Даведку з паліклінікі арганізуеш!..

## *Май 1984-га. Сяброўкі*

Калі Таццяна Акрайчык, школьная Анжэлчына сяброўка, увайшла ў яе пакой, Анжэлка мыла акно. Яна адразу ж перахапіла цікаўны Таццянчын позірк, які слізгануў па яе жываце, і, кіўнуўшы на канапу, маўляў, сядай, пачала хутка нацягваць на лёгкую маечку і джынсы аб'ёмны світэр.

— Ды нічога ў цябе яшчэ асабліва не відаць, — сказала Таццянка і села на канапу. — Ну, трошкі папаўнела... Затое можаш радавацца... У цябе за чвэрць толькі пяць чацвёрак, а за год, дык і ўвогуле дзве! Ліля Апанасаўна прасіла цябе павіншаваць з заканчэннем навучальнага года і перадае прывітанне. — І яна дастала з сумкі, якую трымала ў руках, Анжэлчын табель з адзнакамі за восьмы клас. Аддала Анжэлцы, якая, нават не зірнуўшы, шпурнула табель на стол.

— Маці пабегала, — сказала з раздражненнем. — За табель ёй трэба сказаць дзякуй! А твая сястра мне, можа, знарок тыя таблеткі падсунула, маўляў, пі і спадзявайся... Я, ненармальная, і паспадзявалася... І вось... — паклала руку на жывот. — Калі б не гэтыя таблеткі, я што-небудзь іншае прыдумала б у першыя ж месяцы.

— На сястру не трэба бочкі каціць, — адразу ж зрэагавала Таццянка. — Ёй таблеткі дапамаглі!

— Дык, можа, яна і не была цяжарная?

— Была... Яшчэ й як была, праўда, яна і траву нейкую піла... Але траву ёй хлопец ейны арганізаваў, цяпер ён у войску служыць. Сястра нават не ведае, што гэта была за трава. А потым... Ты ж ва ўсім магла прызнацца маці... Твая маці, гэта не мая... Праўда, твой бацька... Твайго бацькі я заўжды баюся... Ён во-о і зараз у мой бок галавы не павярнуў, сядзіць на кухні. А маці ў цябе добрая... — Таццянка зрабіла паўзу і запыталася ўжо зусім пра іншае. — Ты калісьці мне расказвала пра гэтыя завушніцы, якія зараз на тваёй маці?

— А што там у яе ў вушах?

— Зоркі на трох вісюльках. Вельмі прыгожыя. Такіх у магазіне не купіш. І на ланцужку, што ў яе на шыі, — такія ж зорачкі.

— Дык жа мастак-ювелір рабіў... Яшчэ ёсць і пярсцёнак... Наборчык у адным стылі. Глядзіцца сапраўды класна.

— Бацькі твае некуды сабраліся? У маці святочны выгляд.

— Ніякага свята. Яна заўжды так выглядае. Сочыць за сабой, каб не было відно, што старэй на некалькі гадоў за бацьку. Напэўна, у магазін пойдуць сумку дарожную купляць. Бацька заўтра ў камандзіроўку ў Маскву едзе.

— А цябе прымусілі акно мыць? Пакаралі? І што, ты зусім на вуліцу не выходзіш?

— Не-а, не выходжу, бацька забараніў, — сказала Анжэлка і ўзяла са стала табель, затрымала позірк на адзнаках. — Хіміца ўсё-ткі пяцёрку паставіла. Цярпець не магу хімію, вучу толькі дзеля маці. Хоча, каб пасля школы ў медыцынскі паступала. А я дык і пасля дзевяці не супраць, каб у тэхнікум...

— Ага-а, — Таццяна зірнула на Анжэлчын жывот. — Табе цяпер сапраўды лепш у тэхнікум. — І падсунулася бліжэй да Анжэлкі, нават прыцішыла голас, быццам іх нехта мог падслухаць. — А ты ведаеш, Генка Мікульчык дакументы з нашай школы забраў, у дзевяты клас у іншую школу пойдзе, з матэматычным ухілам. Табе не званіў? Думаю, ён пра нешта здагадваецца... Ну што ты... гэта... І баіцца!

— Чаго ён баіцца, Танька? Чаго?! Што ты такое мелеш? — узарвалася Анжэла. — Пра што ён здагадваецца? — яна зморшчыла свой даволі сімпатычны тварык, і гэта было падобна на грымасу адчаю.

— А хіба... Хіба... Ну ты ведаеш, пра што я, — і ў Таньчыным голасе чулася недаўменне. — У вас жа з ім усё было, ты сама мне пра гэта казала. Ты — цяжарная. Павінен жа ён пра гэта ведаць.

Анжэла маўчала. А Таццянцы хацелася хутчэй пачуць пра тое, што ад яе сяброўка ўпарта ўтойвала. Гэтак было і некалькі тыдняў таму назад, калі яна заходзіла да Анжэлы, пачуўшы ад класнай кіраўніцы, што Анжэла Бузяк

цяжка захварэла і што да канца навучальнага года ў школу ўжо не прыйдзе. Тады Анжэлка ахвотна расказвала пра свае адчуванні ў такім цікавым становішчы, а пра Генку Мікульчыка нават слухаць не схацела. І вось цяпер зноў...

— А бацькам пра Генку ты што-небудзь расказвала? Твая маці магла б пагаварыць з яго маці...

— Танька, перастань! Генка тут ні пры чым... — закрычала Анжэлка і сцішыла голас. — Мы з ім яшчэ ў лістападзе пасварыліся. Генка да мяне і на дыскатэках не падыходзіў ужо, усё са Светкай Чыжык танцаваў. Ты ж пра гэта ведаеш, я злавалася... Ён яшчэ пашкадуе, што ў другую школу пераходзіць. Я яму падабаюся, з шостага класа падабалася. Ён жа нават плакаў, калі мяне ад яго перасаджвалі... Помніш? А на мяне пакрыўдзіўся... Я яго бацьку алкаголікам абазвала...

— Ну а гэта... — Таццянка рукой правяла па сваім жываце. — Ад каго тады ты зацяжарыла? Ты ж ні з кім не сустракалася?

— У гэтым і ты вінаватая.

— Я вінаватая?! Тады ты мне ніякая ні сяброўка, калі не раскажаш... Як гэта я магу быць вінаватай? Ты зноў пра тыя таблеткі?

Анжэла вагалася нейкае імгненне, а потым папрасіла Таццянку:

— Толькі ты пакляніся, што ўсё застанецца паміж намі, каб ніколі нікому нічога не расказала.

— Клянуся! — хутка прамовіла Таццянка.

І Анжэла пачала расказваць:

— Я тады табе тэлефанавала... Ну, помніш, у снежні... Мяне запрасіла да сябе Каця, з якой я сябравала, калі мы жылі на старой кватэры. Я прасіла, каб ты са мною паехала, а ты сказала, што з Дзянісам сустракаешся... Успомніла?

— Штосьці прыгадваю...

— Калі б ты тады са мною паехала, нічога б гэтага не здарылася!

— Там што, і хлопцы былі? І цябе згвалцілі? — Тані не цярпелася як мага хутчэй пачуць пра галоўнае. Выгляд у яе быў усхваляваны. У вачах свяцілася цікаўнасць. А Анжэлка наадварот пра ўсё распавядала абыякавым, бясколерным голасам.

— Брат Кацін тады з Віцебска прыехаў, ён там вучыцца, і да яго сябра прыйшоў. Таксама студэнт ужо... Ну... сядзелі, слухалі музыку. Дзве пляшкі «Кабернэ» распілі... А потым Алег, ну, сябра Каціната брата, пачаў збірацца дамоў... Ён нейкі тэлефонны званок чакаў, здаецца, ад бацькоў, якія былі ў ад'ездзе... Я таксама заспяшалася... А на вуліцы такая завея была... Такі вецер свістаў... Алег сказаў, што не можа правесці мяне з-за званка, але прапанаваў зайсці да яго, сагрэцца... Я і пагадзілася. У яго там было нейкае «чарніла»... Мы зноў трошкі выпілі... Ён запытаўся, ці ёсць у мяне «кадр»? Я ўспомніла Генку, згадала, як на апошняй дыскатэцы ён пазіраў на мяне, а потым дэманстратыўна падыходзіў да Светкі... Мне хацелася яму адпомсціць... І... І... Ён мяне потым пасля ўсяго нават дамоў не правёў, толькі з пад'езда вывеў...

— А бацькі яму тэлефанавалі?

— Не помню... Ды і якая розніца.

— І вы з ім болей не бачыліся?

— Анжэлка, ты дома? — за дзвярыма пачуўся голас Валодзькі, дванаццацігадовага брата Анжэлкі, і ён увайшоў у пакой. Пабачыў Таню, заўсміхаўся. — А цябе, Танька, там Дзяніс ля пад'езда, напэўна, чакае... Я і падумаў, што ты ў нас. Мінулы раз ён прасіў цябе прыспешыць, а цяпер нічога не сказаў. Сядзіць на лавачцы.

— О-о, я й забылася пра яго, — спахапілася Таццяна і тут жа папрасіла: — Валодзечка, міленькі, спусціся да яго. Скажы няхай ідзе дамоў, я затрымаюся ў Анжэлкі.

— Добра, скажу, — паабяцаў Валодзька. — Я са стадыёна прыбег майку пераапрануць, зараз назад пайду. Анжэлка, а дзе бацькі?

— У магазін збіраліся. Відаць, пайшлі... Бацька хоча сумку купіць.

— А-а-а, — працягнуў Валодзька і выйшаў з пакоя.

Анжэлка шчыльна зачыніла за ім дзверы, а Таццяна запыталася:

— Валодзька ведае, што ты цяжарная? Здагадваецца?

— Вядома, не. З ім пра гэта ніхто не гаворыць, ні я, ні бацькі. Навошта? Ён увогуле праз тыдзень у піянерскі лагер паедзе, адразу на дзве змены. А потым у Баранавічы... да матчынай сястры. Усё лета дома не будзе. Не хапала, каб мяне з жыватом бачыў!

— Ну а той, Алег... Ты мне не адказала, Валодзька якраз зайшоў... Вы з ім больш не бачыліся? — яшчэ раз запыталася Таццянка.

Анжэла адказала не адразу... Яна шмат разоў згадвала той вечар у Каці, з якой сустракалася вельмі рэдка, але тады чамусьці ахвотна пагадзілася наведаць былую сяброўку. Помніла, якую музыку слухалі тады і як разам з Алегам выйшлі з пад'езда на вуліцу. Снег залепліваў вочы, завея шумела, віхурылася, і такі дзьмуў вецер, што яны не ішлі, а рухаліся подбегам, вецер падганяў іх і ўсё шпурляў снег у твары... Сцюжа апякала, пранізвала. Калі б не тая завея, калі б не той вецер, можа б, яна і не пагадзілася зайсці дамоў да Алега. Усё астатняе яна забараняла сабе згадваць, проста не згадвала, і ўсё...

— А навошта нам бачыцца, — нарэшце адказала Таццянцы. — У нас і размовы не было пра далейшыя сустрэчы. Ён такі прышчавы...

— А калі раптам яго недзе выпадкова сустрэнеш, скажаш яму пра маленькага ці маленькую?

— Ты... Ты хочаш сказаць пра дзіця?

Анжэла нейк палахліва, з-пад ілба зірнула на Таццянку і нечакана ажывілася... Да гэтага моманту яна толькі адказвала на пытанні Таццянкі, а тут, бы прарвала, яна ўсхвалявана і горача даказвала сабе ці сяброўцы, што нарадзіць яна вымушана, але не ўяўляе сябе маці. Гэта проста нейкі абсурд. Што яна будзе рабіць з дзіцёнкам і што за жыццё ў яе будзе пасля? Гэта разумеюць і бацькі, таму ўжо ўсё вырашана. У жніўні яна паедзе разам з маці ў Карму, дзе ніхто іх не ведае, але даўняя матчына сяброўка, якая неаднойчы спынялася ў іх падчас розных нарадаў, працуе там галоўным урачом... Яна там народзіць і ад дзіцёнка давядзецца адмовіцца... Пакінуць у раддоме і — забыць, забыць пра ўсё! Як забылася пра студэнта Алега.

— Калі б мне было хаця семнаццаць, дык, напэўна, і тады бацька нізавошта не пагадзіўся б! Ты разумееш, пра што я кажу? Разумееш? Сапсаваць жыццё сабе? А колькі плётак розных будзе?! Бацька ў мяне ўвесь правільны... Увесь час думае пра кар'еру, а тут такі пасаж з дачкой?! Ты разумееш? Разумееш?! Гэта ўсё словы маці... Яна так пакутуе... А... А бацька са мною ўвогуле не размаўляе... Я для яго не існую... Я... Я нешта ганебнае...

— Цс-с, — Таццянка прыклала палец да губ. — Здаецца, твае бацькі ўжо вярнуліся. Чуеш? — кіўнула на дзверы. — Там галасы...

Анжэлка села на канапу, прыціснулася да Таццянкі, зарумзала:

— Я ў гэтай кватэры буду сядзець усё лета... Не хачу... Нічога не хачу...

А бацькі сапраўды ўжо вярнуліся. За дзвярыма чуліся іхнія неразборлівыя галасы. То заціхалі, то набліжаліся да дзвярэй.

— Я пакуль буду ў Мінску, — сказала Таццянка. — Калі хочаш, магу кожны дзень да цябе заходзіць.

— Ты ўжо збіраешся ісці?

Таццяна паднялася з канапы, зірнула на акно, на вядро з вадою, потым на Анжэлку. У позірку прамільгнула шкадаванне, што з сяброўкай такое здарылася.

— Можа, табе дапамагчы акно дамыць?

— Не... Не трэба... Ідзі, — сказала Анжэла суха. Ёй не спадабалася, што Таццянка яе пашкадавала. — Заўтра прыходзь, толькі нікому нічога не расказвай... Ты паклялася.

...Калі Галіна Міхайлаўна зазірнула ў пакой да дачкі, Анжэлка дамывала акно. «Якія ў яе худзенькія рукі, зусім яшчэ як у падлетка. І тварык бледны, няхай бы на балкон часцей выходзіла, — падумала, назіраючы, як Анжэлка скамечанай газетай выцірае аконнае шкло. — Стараецца, дзяўчынка мая... А плямы ўсё роўна застаюцца... Першае акно, якое яна ў сваім жыцці мые... Не гаспадыня яшчэ...» — Акно расплывалася, і Галіна Міхайлаўна нічога не магла зрабіць з сабою: гарачае пачуццё матчынай любові да дачкі апякала, сціскала яе ўсю, і слёзы нагортваліся і нагортваліся на вочы...

## *Жнівень 1984-га. Плач, Галіна Міхайлаўна, плач!*

Чамусьці менавіта гэтае акно і худзенькія Анжэлчыны рукі згадала Галіна Міхайлаўна, лежачы на вузкім ложку ў гасцінічным нумары, дзе яна жыла ўжо больш як тыдзень. Калі прыехалі з Анжэлкай у Карму — невялікі гарадок на Гомельшчыне, дык адразу і пасяліліся тут, хоць інстытуцкая сяброўка Наталля, якая цяпер у мясцовай бальніцы працавала галоўным урачом, і прапаноўвала пажыць у яе, маўляў, у нас вялікі дом, а можна і ў прыбудовачцы, — жнівень такі цёплы, ды ці трэба надакучаць людзям! Наталля і так шмат усяго зрабіла, што звычайна і не робіцца, — выціснула ўсё, што можна было выціснуць з пасады галоўурача. А галоўнае, адразу ж паклала Анжэлку ў радзільнае аддзяленне, каб тая ўвесь час была пад наглядам. Тут не ўгадаеш, што і як: можна не данасіць дзіця, а можна і наадварот... Гэтак, напэўна, і ёсць, — Анжэлка пераношвае ўжо, калі не схлусіла ёй, што зацяжарыла на пачатку снежня. Да школы застаецца трошкі больш, як тыдзень. Але якая тут ужо школа, хоць бы ўсё добра скончылася! А як яно можа скончыцца добра? І Галіна Міхайлаўна цяжка ўздыхнула... Забярэ яна Анжэлку з раддома, пакінуць яны гэты абшарпаны гасцінічны нумар без тэлефона і іншых выгод, а дзіцятка застанецца... Ёй не ляжалася. Паднялася з ложка, падышла да акна... Нейкая цётка праехала на ровары, ледзь не пад самым акном спыніліся тры падлеткі, пачалі лічыць капейкі, выцягваючы іх з кішэняў: можа, у кіно збіраюцца, можа, у магазін... У дзверы пастукалі...

— Ці ёсць тут хто? — пачуўся жаночы голас. І Галіна Міхайлаўна хутка пайшла да дзвярэй, адчыніла... Гэта была дзяжурная па гасцініцы.

— Ну, дзякуй Богу, вы ў нумары, — сказала яна. — Вам ужо другі раз доктарка наша звоніць, Наталля Пятроўна. Першы раз я і забылася, вы ўжо даруйце, чалавек пасяляўся. А цяпер, дык і трубку не клала, у Наталлі Пятроўны нешта пільнае да вас...

І Галіна Міхайлаўна сарвалася з месца... Літаральна пабегла са свайго другога паверха ўніз, да тэлефона. «Відаць, пачалося. Вось усё і пачалося... Бедная мая Анжэлачка!.. Цярпі, міленькая... Цярпі, дочачка!» — мітусіліся, бы малаточкам, выстуквалі думкі. З Наталляй у іх была дамоўленасць, што, як толькі пачнуцца роды, тая адразу пазвоніць, хаця раніцай, калі яна заходзіла

да Анжэлкі, ніякіх прыкмет яшчэ не было... І вось званок!.. А можа, штосьці зусім кепскае?! Падхапіла трубку:

— Алё-ё, алё-ё... Наталля, я слухаю, — і ўсё ў ёй расслабілася. — Дзякуй Богу... Дзякуй Богу...

— Ну што, бабуля, — гучаў у трубцы Наталлін голас. — Віншую! Дзяўчынку твая Анжэла нарадзіла. Два восемсот... І высоканькая будзе, ажно пяцьдзесят два сантыметры...

Галіна Міхайлаўна расшпіліла верхні гузік халата, у які была апранута, правяла языком па перасохлых вуснах і запыталася:

— А Анжэлка?! Як яна...

— У палаце ўжо... Малайцом трымалася, можа, ад перапуду... Надзіва ўсё лёгка... Ну... вядома, без швоў не абышлося, але гэта ўжо дробязь... Жанчынам наканавана цярпець.

З другога паверха спусцілася дзяжурная па гасцініцы, падышла да Галіны Міхайлаўны, паклала перад ёю ключ.

— Ваш нумар зачыніла, — і запыталася: — Можа, вам табурэтачку, дык я зараз прынясу.

— Не-не, дзякую, — адазвалася Галіна Міхайлаўна.

— Ты гэта каму? — гучала ў трубцы, і Наталля, не пачуўшы адказу, прапанавала: — Давай, Галка, збірайся... Я спецыяльна на працы затрымалася, каб да канца дачакацца, дык ты ўжо ляці... Унучку... Дзяўчынку табе пакажу... Нашы тут усе разышліся, адны дзяжурныя...

Галіна Міхайлаўна маўчала... Пачала камечыць каўнер халаціка, быццам гэта магло супакоіць, бо расхвалявалася яна незвычайна.

— Галка, ну што ты маўчыш? Кажу, збірайся... Дзяўчынку я вынесу, ну і да Анжэлкі зойдзеш у палату.

Галіну Міхайлаўну кінула ў жар, шчокі заірдзеліся.

— Не, не, Наталля, — прашаптала ў трубку і азірнулася на дзяжурную, якая ўжо сядзела за сталом і выпісвала квіток нейкаму маладому чалавеку, які, відаць, пакідаў гасцініцу. — Я лепш дамоў да цябе прыйду... Я хуценька, зараз жа апрануся... І ты збірайся... Разам да цябе пойдзем... Толькі дзе сустрэнемся?.. Кажы, дзе?..

— Ну, як хочаш! — Наталля памаўчала ў трубку і дадала: — Давай праз паўгадзіны, каля цэнтральнага універмага...

Галіна Міхайлаўна сабралася хутка, моцнае ўзрушэнне перайшло ў міжвольную палёгку... «Швы — гэта не страшна, — думала яна. — Калі ўсё будзе добра, праз дні чатыры Анжэлку могуць і выпісаць... Тут і Наталля ўмяшаецца, дапаможа з выпіскай... А я сама дома ўжо як след Анжэлку дагледжу, яшчэ і ў школу паспее, першага верасня прыйдзе, як усе...»

Яна спусцілася на першы паверх, папярэдзіла дзяжурную:

— Я магу позна ў гасцініцу вярнуцца, дык пастукаюся ў дзверы... Вы мне тады ўжо адчыніце...

— Ну а як жа? Вядома, адчыню, — дзяжурная слізганула па ёй позіркам і зазначыла: — Нешта ж парасона я пры вас не бачу, а там жа, кіўнула на дзверы, — вецер.. Такі ўжо вецер падняўся, нейкае ліха нагоніць. Абавязкова нагоніць. Навальніца можа быць, і па радыё дождж перадавалі...

— Я чула, — адказала Галіна Міхайлаўна. — А вось жа парасон не ўзяла і вяртацца ўжо не буду.

Ёй карцела як мага хутчэй сустрэцца з Наталляй. Яна і ветру не заўважала, які адразу ж растрапаў валасы і прыўзнімаў лёгкую сукенку. На імгненне прыпынілася ля магазіна з шыльдай «Прадукты», але не зайшла, падумала, што сок і яшчэ што для Анжэлкі і заўтра раніцай зможа купіць. Можа, толь-

кі што-небудзь для Наталлі на вячэру, але цяпер не да гэтага. Тым больш, што вунь там каля універмага яна ўжо, здаецца, стаіць... І з нейкім пакетам. Напэўна, паспела сама зайсці ў магазін і ўзяць нешта з прадуктаў, пакуль яна збіралася ў гасцініцы. Наталля таксама яе прыкмеціла і пайшла насустрач.

— Бегла? Пот на ілбе вытры, — і Галіне Міхайлаўне ў Наталлінiм голасе пачуліся незнаёмыя ноткі. Яна правяла рукою па лбе, выдыхнула:

— Значыцца, як я разумею, схваткі цягнуліся нядоўга і без кесарава абышлося.

Яны завярнулі за вугал двухпавярховага дома і выйшлі на вуліцу, дзе ўжо не было цагляных дамоў. Пачынаўся той самы прыватны сектар, вуліцы якога ў такіх невялікіх гарадках, як Карма, нагадваюць вясковыя — сады, кветнікі... Вось яшчэ прамінуць два завулкі і ўваткнуцца ў вароты Наталлінага дома.

— Ну як яна? — Галіна Міхайлаўна не хавала сваёй нецярплівасці. — Ідзеш і маўчыш..

— Ты ўсё пачула, Галка, — Наталля нават прыпынілася. — Што яшчэ хочаш пачуць? Я табе прапанавала... Прыходзь, завяду ў палату да Анжэлы, пакажу ўнучку... Ну і што?

І Галіна Міхайлаўна неяк на вачах адразу асунулася, сцялася, у вачах свяцілася і трывога, і адчай, і яшчэ Бог ведае што, калі чалавек адчувае сябе прыбітым, прыціснутым да нечага...

— Наташа, — выдыхнула яна, — Наташа... Дык гэта ж не па-людску... Як я магу! Як магу! Прыехаць да гэтага гаротнага дзіцяці, паглядзець на яго, кожную рысачку разгледзець... Можа, яшчэ і на рукі ўзяць? А праз некалькі дзён пакінуць і з'ехаць... без яго... Не... Не... Мне лепш не бачыць, каб потым валасы на сабе не ірваць... Каб на сцяну не лезці... Я ж замардую сама сябе і ўсіх замардую... Анжэлку, Васіля... А мне ж Анжэлку яшчэ трэба ў людзі вывесці... І Валодзька... Ён цэлае лета дома не прыткнуўся... У лагеры... Цяпер ледзь не месяц у сястры маёй... Не... Не, Наташа, я ж ад слёз не прасохну... Мне лепш не бачыць!

— Ага-а, — Наталля рэзка, са злосцю павярнулася да яе. — Ты сябе шкадуеш... Спакою свайго шкадуеш, каб валасы на сабе не ірваць! І Анжэлку табе шкада, і Валодзьку пашкадавала... А хто немаўлятка гэтае пашкадуе?!. У яе носік твой... Маленечкі, але твой, Галка, твой... Чужыя людзі няхай шкадуюць... Нянечкі ў раддоме, а потым выхавацелькі ў інтэрнаце сірочым... Ёй во цяпер недзе сосачку тыцкаюць, каб да грудзей матчыных не прывучаць...

— Наташа... Як ты можаш, Наташа!

І нібыта раптоўна страціўшы раўнавагу, Галіна Міхайлаўна прыткнулася да штыкецiны рэдзенькага невысокага плота. Проста павалілася на гэты плот. Плечы затрэсліся ў плачы... Наталля захінула яе сваёй высокай паўнаватай постаццю ад позіркаў цікаўных прахожых, але не супакоілася:

— Плач, Галіна Міхайлаўна... Плач, даражэнькая... Мы не сталічныя, мы людзі простыя... Выказала табе ўсё, што хацела выказаць... Слёзы палёгку даюць, плач...

У гародчыку за плотам над флёксамі, якія ўжо страсалі дробненькія пялёсткі, кружылі чмялі. І гардзіна ў акне блізкага дома трапятала. Хтосьці стаяў за гардзінай і назіраў за імі. Здаралася, што прахожыя віталіся з Наталляй Пятроўнай, добра ведаючы свайго доктара, яна стрымана адказвала і больш не даймала сваімі словамі сяброўку. Але вось дакранулася да Галіны Міхайлаўны, паклала руку на яе плячо. У голасе з'явілася цеплыня:

— Ну хопіць, Галка, распускаць нюні. Не маленькая. Я па дарозе шампанскага ўзяла, хай і горкая, але ўсё ж урачыстасць...

— Не... Давай, вернемся да магазіна. — Галіна Міхайлаўна яшчэ трымалася за штыкету, але ўжо не плакала. — Гарэлкі возьмем...

— Ну-у, — працягнула Наталля. — Гарэлка і ў маім доме знойдзецца. Давай пойдзем ужо...

І яны моўчкі, кожная пры сваіх думках, павольна пайшлі да таго завулка, дзе, седзячы на ганку свайго дома, іх ужо даўно чакаў муж Наталлі — Пётр Сяргеевіч. Радасна пайшоў насустрач, але, зірнуўшы на твар Галіны Міхайлаўны, прыпухлы ад слёз, збянтэжыўся, забаяўся гэтай сваёй радасці, апусціў галаву:

— Наталля, я таго... бульбы зварыў, каб што гарачае з'елі. Магу яшчэ салату зрабіць.

— Добра, ідзі рабі салату. Нам пакуль не перашкаджай...

І павяла Галіну Міхайлаўну ў дом, у прасторны пакой для гасцей, пасярод якога стаяў вялікі круглы стол, а сервант ля сцяны зіхацеў розным посудам...

— Вось так мы і жывём, Галка, — паказала рукамі на сцены і тут жа завойкала. — Што ж гэта я такое кажу?! Ты ж пазаўчора была ў нас, усё гэта бачыла... Вось як расхвалявалася, галаву згубіла. Ну давай сваю сумку, пастаўлю дзе, і сядай на канапу...

Галіна Міхайлаўна паглядзела на яе змучаным позіркам і ўзяла за руку:

— Не, Наташачка, на канапу давай сядзем разам, каб потым ужо было нам лягчэй, каб ты ведала, як усё гэта мне бачыцца... І просьба ў мяне да цябе ёсць...

І, калі яны селі на канапу, Галіна Міхайлаўна дастала з сумкі канверт, працягнула яго Наталлі:

— Толькі нічога не кажы... Спачатку ўсё да канца выслухай... Тут, — і яна ўклала канверт у Наталліну руку, моцна яе сціснула. — Тут... Тры чырвонцы. Манеты залатыя, яшчэ з царскіх часоў. Адну сабе возьмеш, гэта мая табе падзяка, ну а дзве астатнія гэта ўжо, як ты вырашыш... Каму трэба будзе, таму і аддасі... Сама ведаеш, грошы любыя вароты адчыняюць.

— А ты, Галка, у сабе? — Наталля спрабавала выслабаніць руку. — Ты нібыта гэтым золатам ад нечага адкупляешся?

— Я? Адкупляюся?.. Не, Наташачка... Думаеш, вернемся з Анжэлкай у Мінск і на гэтым кропка? Мне ўсё... Усё трэба будзе ведаць пра дзяўчынку. Калі і куды аддадуць яе з раддома... Не адправяць жа ў Брэсцкую ці Віцебскую вобласць. Дзесьці тут... на Гомельшчыне і застанецца. Я пад сваім назіркам буду яе трымаць, я ўсё, усё хачу ведаць пра яе... І ў гэтым толькі ты мне зможаш дапамагчы, але за так нічога не робіцца... Вось і спатрэбяцца табе грошы гэтыя. А праз тры гады Анжэлка школу закончыць. Я адпраўлю яе вучыцца куды-небудзь у Маскву, у Ленінград ці які Вільнюс... Вось тады і ўдачарым з Васем дзяўчынку, забярэм дадому... Я яе не пакіну...

У пакой зазірнуў гаспадар, запытаўся:

— Яшчэ не закончылі размовы свае? Я ўжо і бульбу разагрэць паспеў, і салату зрабіў, і шпроты адкрыў... Дык мо на стол несці?

— Пачакай яшчэ трошкі, — махнула рукою Наталля, маўляў, тут не да цябе. — Там у халадзільніку мяса, але не чапай, я сама падсмажу.

— Я сапраўды яе не пакіну, — і было не зразумела, каго хоча пераканаць у гэтым Галіна Міхайлаўна, Наталлю ці яе мужа. Пётр Сяргеевіч хутка зачыніў дзверы, знікаючы за імі, а Галіна Міхайлаўна працягвала. — Цяпер мой Васіль і чуць пра гэта не хоча... Зараз ён на кані... Ужо з месяц як прызначылі начальнікам упраўлення... А ён жа па жыцці — няўдачнік... Хай толькі што цюкне, прыцісне як след. А яго абавязкова нешта цюкне... Вось тады ён па-

іншаму на свет паглядзіць... Калі цюкае, людзі больш добрымі робяцца... Прызнае ўнучку, нікуды не падзенецца... І за сваю дачку запіша.

— Дык вазьмі і патэлефануй яму. Тэлефон магу прынесці сюды... Шнур дазваляе. Не каменнае ж сэрца ў чалавека...

— Патэлефанавала б, калі б дома быў. Ён цяпер у Маскве, у камандзіроўцы. Толькі паслязаўтра вернецца...

Наталля ўздыхнула, паднялася з канапы, канверт з чырвонцамі паклала за шкло ў сервант і ўвесь гэты час прамаўляла, быццам Галіны Міхайлаўны і не было ў пакоі:

— Ну і сямейка... Хм-м... Непаўналетняя дачка нараджае немаведама дзе... Жонка залатыя манеты раздае... Чырвонцы, нібы з якога двара манетнага. Адкуль яны ў вас?

— Ад свякрухі... У спадчыну... Васіль казаў, яго род заможным некалі быў. — Задумалася. — Я баюся, каб дзяўчынку не ўдачарылі.

Наталля накрывала круглы стол квяцістай цыратай, адказала, не павярнуўшыся да Галіны Міхайлаўны:

— Не бойся... Калі б так хутка ўдачаралі ці ўсынаўлялі, сірочых дамоў у нас не было б. — Уздыхнула і дадала: — Пайду, няхай Пеця сваю бульбу нясе. Мяса падсмажыцца хутка.

І выйшла з гасцявога пакоя. Галіна Міхайлаўна зняла туфлі, расцерла ногі, паднялася з канапы і падышла да акна... Адхінула лёгкую штору... Акно выходзіла ў сад, пад моцным ветрам згіналася голле яблынь. «Вось і навальніца недзе блізка, — думала яна. — Анжэлка, напэўна, у раддоме ўжо заснула. Мы з Васем некалі першага хлопчыка чакалі... Я пялюшак блакітных накупляла, а нарадзілася яна... І ў яе — першая дзяўчынка...»

— Бачыце, Галіна Міхайлаўна, колькі ў нас там яблыкаў! — голас Наталлінага мужа прымусіў азірнуцца. Ён на вялікім падносе нёс салату, хлеб, пляшку гарэлкі... Усё паставіў на стол.

— Я па магазінах вашых за гэтыя дні прайшлася, — сказала Галіна Міхайлаўна. — Пуста, гола... Ні мяса добрага, ні каўбасаў. Адна ліверка ляжыць...

— Дык жа ўсё на Маскву і на Ленінград ідзе... Мясакамбінаты ў кожным райцэнтры, і ўсе працуюць на адзін напрамак.

Галіна Міхайлаўна зноў села на канапу. Пётр Сяргеевіч асцярожна падсунуў стол бліжэй да яе.

— Гэта ў нас на пачатку лета адзін наш доктар у Камарова ездзіў, — сказала Галіна Міхайлаўна. — Ну яшчэ песня такая пяецца пра гэты гарадок, — паміж Ленінградам і Масквой... У яго родзічы там нейкія. Пахадзіў па магазінах: адны макароны і кілька ў таматным соусе... «Чым жа вы тут харчуецеся?» — запытаўся ў родзічаў, а яны ў адказ, маўляў, хочам — у Маскву едзем, хочам — у Ленінград... Затаварваемся і жывем! — Галіна Міхайлаўна пасміхнулася.

— Ага-а, жывуць... А дзе ж нам, беларусам, затаварвацца, калі ўсё туды пхаем? — і Пётр Сяргеевіч паставіў дзве чарачкі на стол, якія дастаў з серванта.

Галіна Міхайлаўна назірала за ім, потым адазвалася:

— Мой муж цяпер у міністэрстве працуе... У нас магчымасці ёсць... Ваш жа Паўлік ва універсітэце ў Мінску, дык няхай зойдзе калі... Я перадам і каўбаскі, і мяса добрага... Мужава пасада дазваляе карыстацца тым, што ідзе з-пад прылаўка.

— Хацеў бы я пабачыць вашага мужа, — і ў голасе Пятра Сяргеевіча пачуўся выклік. Ва ўсялякім выпадку гучала штосьці дзёрзкае, што яна зразумела па-свойму і зніякавела. Паспяшалася адказаць шчырасцю:

— У нас з мужам, Наталля ведае пра гэта, доўга не было дзяцей... Гадоў пяць! Ужо справа да разводу даходзіла... А потым адно за адным: Анжэлка, Валодзька... Дзеці, на жаль, мала што змянілі... Жывем, як кот з сабакам...

— Зразумеў... Адным словам, не па-чалавечы!

— Па-чалавечы! Усё па-чалавечы! — пачуўся Наталлін голас, якая якраз у гэты момант увайшла ў гасцёўню з другім падносам, на якім узвышалася бульба на шырокай талерцы, абкладзеная кавалкамі мяса, тут жа быў і салатнік з салёнымі грыбкамі.. — Вячэра хоць і позняя, — урачыста сказала Наталля, — але... пальчыкі абліжаш.

Пётр Сяргеевіч узяў з яе рук паднос, паставіў на стол... Талерку з бульбай размясціў пасярэдзіне і заспяшаўся пакінуць сяброўак:

— Вы тут ужо без мяне... Па-жаночы. Пайду папалю... Хутка Паўлік з'явіцца, дзесьці, бач, забавіўся... З ім на кухні павячэраю.

І, калі Пётр Сяргеевіч выйшаў, Наталля падсунула крэсла да стала, села.

— Не звяртай увагі, — супакоіла Галіну Міхайлаўну, якая ўвесь гэты час насцярожана пазірала на мужа сяброўкі. — Ён жа жывы чалавек і па-свойму рэагуе на твае абставіны... А ўвогуле, давай вып'ем за тваю ўнучку... — І яна разліла гарэлку па чарках.

Галіна Міхайлаўна ўзяла сваю чарку, памарудзіла...

— Помню, Наташка, калі мне ў раддоме Анжэлку прыносілі... У яе на ручцы кавалачак цыраты матляўся, дзе было напісана: «Анжэла Бузяк»... Вядома ж, не на цыраце, а ў дакументах, якія будуць афармляцца на дзіцятка... На дзяўчынку нашу ты запішы: «Маня... Манечка Праневіч... Успомніла маё дзявочае прозвішча? Пра-не-віч! А Манечка... Не Марыя, а менавіта, Маня... Сястрычка ў мяне была... Маці брата нарадзіла... Ён у войску трагічна загінуў... Потым нарадзілася я... Затым мая сястра — Люда... У Баранавічах цяпер жыве... Ну, а потым, Манечка... Спіць, спавітая ў пялюшках... Мы з маці падыдзем, а яна ў сне пасміхаецца... І мама кажа: «Глядзі, Галачка, як у нашай Манечкі смех па губках бегае... Гэта з ёю анёлы забаўляюцца»... У чатыры месяцы памерла Манечка... — Галіна Міхайлаўна круціла чарку ў руках. — Дык ты запомніла? Манечка Праневіч... А па бацьку няхай, як і я, будзе, — Міхайлаўна... Ты запомніш?

І Наталля моўчкі выпіла сваю чарку...

А праз пяць дзён пасля гэтага вечара Галіна Міхайлаўна ў гасцінічным нумары ў вялікую дарожную сумку пакавала рэчы: свае і Анжэлчыны... Анжэлка, бледная і паблажэлая, з хвосцікам, у які сабрала валасы, сядзела на ложку. Назірала, як збіраецца маці, і асабліва не ўслухоўвалася ў яе словы:

— Ну навошта нам прыязджаць у чатыры раніцы? Цягнікам нам нязручна! У чатыры і бацька не прыйдзе сустрэць, а сумка ў нас цяжкая... Таксі хоць і дарага, але ж гэта — таксі! Мы не агледзімся, як дамоў прыедзем. Ты і паспаць у машыне зможаш... Паглядзі, які я табе світэр тут купіла. Зроблена ў Венгрыі, нават трошкі махеру ў ім ёсць, — і Галіна Міхайлаўна разгарнула перад ёю світэр. — Можа, прымераеш?

— Дома, не цяпер.

— Ну тады пакладу ў сумку, — яна зашморгнула замок і ўздыхнула. — Вось мы і сабраліся. Дзякуй гэтаму пакойчыку... — у яе вачах бліснулі слёзы.

Анжэлка хутка падхапілася з ложка, абхапіла маці рукамі, прыціснулася тварам да яе пляча.

— Мамачка... А мне маленькую нават не паказалі. Жанчыны ў палаце казалі, што паказваюць. Нават, калі малых пакідаюць...

— Можа, і паказваюць, гэта, як каму, — Галіна Міхайлаўна нервовым рухам правяла па валасах Анжэлкі, рука яе дрыжэла. — Сэрца мне не рві, чуеш? Каб пра маленькую больш ні слова... А помніць будзеш, будзеш, дачушка, — і яна лёгенька адштурхнула дачку ад сябе. — Трэба ісці. Пакуль за нумар разлічымся, таксі пад'едзе...

Калі выйшлі з гасцініцы, таксі яшчэ не было, затое адразу згледзелі Наталлю Пятроўну, якая, пабачыўшы іх, прыспешыла крок. У адной руцэ яна несла нейкі пакет, у другой — сетку з яблыкамі. Яшчэ здаля адазвалася да іх:

— Баялася, не паспею... А вось і паспела, машыны яшчэ няма!

— Пастой каля сумкі, Анжэлка, — сказала Галіна Міхайлаўна. — Пайду сетку з яблыкамі вазьму, цяжка ёй, — і, калі падышла да сяброўкі, папрасіла ціха: — Спыніся на хвілінку, пры Анжэлцы не хачу пра гэта... Калі Манечку будуць забіраць у дзіцячы дом, адразу тэлефануй мне, куды яе забіраюць, хто там у тым доме дырэктар, і каб абавязкова на прозвішча Праневіч запісалі. А ты ўжо тут глядзі за ёй, як за сваёй...

— Можа, яшчэ твой Бузяк назад па яе цябе сюды прышле, а ты ўжо ў дзіцячы дом дзіця здаеш, — ці то папракнула, ці то суцешыла Наталля, і Галіна Міхайлаўна нічога не адказала ёй. Толькі ўжо, калі падыходзілі да Анжэлкі, запыталася: — Пачакаеш, пакуль таксі пад'едзе, ці зараз развітаемся?

— Пачакаю... Для таго і прыйшла, каб правесці. На... — працягнула пакет. — Пірог яблычны вам у дарогу спякла.

І праз хвілін пятнаццаць яна ўжо махала рукою ўслед зеленаватай «Волзе», але Галіна Міхайлаўна не бачыла гэтага. Яна напружана пазірала ў акно то на адзін бок вуліцы, то на другі, быццам хацела запомніць шлях да гасцініцы, — дзе якая паваротка, дзе які завулак, а раптам і сапраўды давядзецца вярнуцца? Анжэлка, наадварот, утульна ўладкавалася на заднім сядзенні, падклала руку пад галаву, быццам намервалася хутчэй заснуць. Яна ведала напэўна, што ў гэты маленькі гарадок на Гомельшчыне ёй ужо ніколі не давядзецца вярнуцца.

### *Верасень 1993-га. Ах, Манечка, Манечка!..*

Валодзя Бузяк, якому толькі-толькі споўніўся дваццаць адзін год, стаяў на апусцелым пероне і азіраўся... Ну вось і станцыя Лясная. Людзей тут сышло з цягніка не многа, і ўсе падаліся да мястэчка. А яму маці тлумачыла, каб убок мястэчка не ішоў, а адразу звярнуў на сцежку, што вяла да рэдзенькага бярэзніку. Маўляў, за тым бярозавым невялікім гаем і будзе дзіцячы дом. Вунь, напэўна, і тая сцежка...

Да канца перона было далёка, і ён, перакінуўшы сумку цераз плячо, збег з адхону. Паабіраў калючкі з джынсаў і рушыў да бярэзніку... Валодзя паабяцаў маці, што абавязкова прыедзе сюды, але пра сустрэчу са сваёй дзевяцігадовай пляменніцай, якую ніколі ў сваім жыцці не бачыў і пра існаванне якой нават нічога не ведаў раней, не думаў... Валодзька ішоў і злаваўся на Анжэлку. Сястра жыла ў Маскве і з тыдзень таму назад разам з мужам і двухгадовым сынам паехала некуды ў Балгарыю, каб яшчэ заспець цёплае мора, адысці ад усяго... Прасіў пакінуць яму ключ ад іхняй кватэры, таму што праз некалькі дзён едзе ў Маскву, і Анжэлка не схацела гэтага зрабіць, маўляў, мы здаем кватэру пад сігналізацыю. Ты ж не хочаш, каб нас абрабавалі? І калі ўжо Ірэна Вацлаваўна прапанавала яму ўвайсці са сваёй доляй у яе бізнес, дык, вядома ж, зможа і нешта знайсці, дзе ён часова пажыве. Да ўсяго яшчэ і папярэдзіла, каб Ірэну Вацлаваўну слухаў, а рабіў усё так, як палічыць патрэбным сам.

Бацька ж, наадварот, расхвальваў Ірэну і казаў, што ёй ва ўсім можна верыць. І ўсялякі раз, калі Ірэна Вацлаваўна тэлефанавала яму, пасля размовы заходзіў у пакой да Валодзькі і пачынаў прыспешваць, маўляў, хутчэй ужо едзь у Маскву. Нават параіў узяць ва універсітэце, дзе Валодзька вучыўся, акадэмічны адпачынак на год, а там, калі бізнес і сапраўды раскруціцца, як кажа Ірэна, можна будзе і на завочнае аддзяленне перавесціся. Больш таго, бацька паабяцаў усё ўладкаваць з яго доляй. Валодзька згадаў, як зусім нядаўна бацька сказаў:

— Давядзецца золата пускаць у справу. Для пачатку хопіць і дзесяці чырвонцаў, тым больш, што Ірэна ведае пра іх існаванне...

І Валодзьку было непрыемна чуць пра гэта ад бацькі. Чаму чужы чалавек, жонка нейкага высокага маскоўскага начальніка, што ўжо некалькі гадоў не мае ніякага дачынення да міністэрства, у якім працуе бацька, павінна штосьці ведаць з жыцця іх сям'і? А яна ведае не толькі пра чырвонцы... І Валодзьку ўспомнілася, як даўно ўжо, калі гасцяваў у сястры ў Маскве, адразу пасля яе вяселля, на якое была запрошана і Ірэна Вацлаваўна з мужам, Анжэлка сказала яму:

— Ірэна па жыцці сцерва, а маці хоць бы аднойчы па-сапраўднаму выбрыкнула... Няўжо ёй не надакучыла гуляць у гэтую вечную ціхмянасць? А можа, і не гуляе. З узростам натура мяняецца... Нейкі надлом у ёй. Ірэна гэтым карыстаецца.

Тады Валодзька нічога не зразумеў, а цяпер усё разумее. І, калі б ён быў больш прывязаны да бацькі, гэта яго аддаліла б... Але ён заўсёды цягнуўся да маці, і пра якую ўжо большую аддаленасць зараз думаць?

Ён мінаў бярэзнік. Позірку адкрыўся яшчэ па-летняму стракаты лужок, за якім на ўзгорку бачылася адна-адзіная двухпавярховая будыніна, абнесеная нейкім адмысловым плотам, які цяжка было разгледзець, — штыкеты прыкрывалі кусты бэзу і, напэўна, шыпшыны. Там раслі і высокія дрэвы. «Глядзіцца як аазіс які», — падумаў Валодзька. Але, пабачыўшы некалькі падлеткаў з партфелямі, што ішлі па дарозе, якая вілася праз лужок да варот будыніны, спахмурнеў. «Якая ж там, гэтая Манечка?» — мільганула думка...

Сцежка ўваткнулася ў дарогу, злілася з ёй. «Відаць, гэтая дарога вядзе да мястэчка, — вырашыў Валодзька. — Па ёй і трэба будзе вяртацца назад». І ён шпарка пайшоў да шырока расчыненых варотаў, каля якіх стаяў стары сіні «Масквіч». За варотамі ж нейкі дзядзька ў пацёртай скуранай кепцы касою выкошваў высокі быльнёг, які чарнеў усцяж плота. Да гэтага дзядзькі падышоў Валодзька і, прывітаўшыся, запытаўся:

— Дзе можна пабачыць Ларысу Паўлаўну, дырэктара дзіцячага дома?

— Калі вы наконт уладкавання электрыкам, — сказаў дзядзька, — дык месца ўжо занятае. Учора ўзялі чалавека.

— Не-е... Я не наконт працы. У мяне асабістае пытанне.

— Вунь там цэнтральны ўваход, дзе, высокі ганак, — паказаў рукою дзядзька. — Туды і ідзіце. На першым паверсе шыльду пабачыце... Паўлаўна ў сябе, з гуманітаркай разбіраецца.

І Валодзька пайшоў да высокага ганка. На яго з цікавасцю пазіралі дзве дзяўчынкі, што ля клумбы ў папяровыя кулькі збіралі насенне з кветак. Валодзька ж глядзеў на вокны. Дзе-нідзе яны былі расчыненыя, і вецер пакалыхваў лёгкія празрыстыя шторкі. Хутка ўзбег па прыступках і, калі апынуўся ў калідоры першага паверха, адразу ж па шыльдачцы вызначыў дзверы дырэктарскага кабінета, які ўразіў яго сваёй загрувашчанасцю, як толькі ён увайшоў туды. Паўсюль, куды толькі можна было прыткнуць, стаялі вялікія кардонныя каробкі. Жанчына, якая штосьці вымала з адной з іх, прыўзняла галаву:

— Да мяне? Калі што не пільнае, бачыце, я занятая, — але ад каробкі адышла і больш уважліва паглядзела на яго. Валодзька адзначыў у думках, што і гладка прычасаныя валасы, і твар без касметыкі, і сціплае адзенне неяк не ўвязваюцца з пасадай дырэктара, хутчэй, з гаспадыняй вялікага дома, вялікай сям'і.

— Мяне маці вельмі прасіла, каб прыехаў сюды, — адказаў на яе запытальны позірк. — Мне трэба Маню... Манечку Праневіч пабачыць.

— Праневіч? А вы, уласна кажучы, кім ёй даводзіцеся? Яна ў нас запісана як круглая сірата.

— Я... Я... — Хацеў сказаць — яе дзядзька, яна — дачка маёй сястры, але штосьці стрымлівала. Таму проста патлумачыў: — Я паабяцаў маці, што абавязкова прыеду да Манечкі. Яна тое-сёе перадала для яе... Вы павінны помніць маю маці. Яна прыязджала сюды два гады таму назад... Галіна Міхайлаўна... Пра вас у яе вельмі прыемнае ўражанне склалася.

І Валодзька ў думках вярнуўся ў мінулае, яшчэ такое нядаўняе. Ён збіраўся на стадыён, ужо быў куплены білет на матч, які яму хацелася пагля-дзець, а тут маці паклікала ў Анжэлчын пакой, у які даўно ўжо перасялілася, адразу пасля ад'езду Анжэлкі ў Маскву. І гэтае яе перасяленне паглыбіла адчужанасць, якая ўжо не адзін год была паміж бацькамі. Валодзька ўвайшоў тады ў пакой, і тое, што пабачыў, здалося матчыным дзівацтвам. На канапе ляжалі дзве дзіцячыя сукеначкі, чырвоныя маленькія туфлікі з жоўтымі банцікамі і лялька Барбі. Дзе толькі і дастала яе маці! Яшчэ ляжаў нейкі скрутачак...

— Ну як табе гэта ўсё? — і маці заплакала, папрасіла: — Давай сядзем, Валодзечка, мне шмат пра што табе трэба расказаць. І сукеначкі, і Барбі табе ўжо давядзецца завезці на Гомельшчыну для Манечкі...

Тым вечарам ён не пайшоў на матч, і гэта быў самы доўгі вечар у яго яшчэ даволі кароткім жыцці.

— Дык вы ўспомнілі маю маці? Больш ніхто не мог прыязджаць да Манечкі... Вы не маглі забыцца...

— Ну вядома... Вядома, не забылася... — і Ларыса Паўлаўна села за стол, яму таксама прапанавала сесці. Потым на нейкае імгненне задумалася і запыталася: — А чаго ж яна сама не прыехала? Тады так і не схацела да Мані падысці... Помню, усё казала: «Потым... Потым... Я вярнуся... Пастараюся хутка прыехаць...» І вось вас паслала... Праз некалькі гадоў.

— Маці памерла... Месяцы два, як яе няма. Я павінен быў раней прыехаць, але не атрымлівалася.

— Памерла? — На твары Ларысы Паўлаўны з'явілася непадробнае шкадаванне. — Яшчэ ж маладая зусім была... Прыгожая жанчына... Ах, Манечка! Манечка! А я ўсё чакала вашу маці... Усё чакала... Думала, няхай хоць у аднаго дзіцяці неяк па-добраму ўсё складзецца... — Яна зірнула на Валодзьку, потым перавяла позірк на кардонныя каробкі. — Гэта цяпер у нас, во-о, колькі гуманітаркі! Немцы прысылаюць, па нейкіх чарнобыльскіх праграмах, а два гады таму назад нам тут найгорай было... А тут ваша маці... Многа розных падарункаў прывезла... Не толькі для Манечкі... Нешта і другім дзецям перапала. Казала, што ў Мінску ў вас вялікая кватэра, дык што ж цяпер будзе?.. Ах, Манечка... Манечка...

— Я не пакіну Маню, маці паабяцаў... Але... Але хай яшчэ тут падрасце...

Ларыса Паўлаўна маўчала. Валодзька бачыў, што яна хоча пра нешта запытацца і вагаецца. Нарэшце сказала:

— Даруйце, я... Я тады неяк не адважылася, але хочацца ведаць... Манечкіна маці? Што з ёю здарылася?

Валодзька не чакаў гэтага пытання, яно апякло, узарвалася ў ім злосцю на Анжэлку, і ён адказаў, асабліва не думаючы:

— Шкура яе маці... На яе Манечцы не трэба разлічваць. У сваё жыццё сястра Манечку не возьме. Ніколі не возьме!

Валодзька расхваляваўся... І хоць Ларыса Паўлаўна многае зразумела з яго адказу, сваёй цікаўнасці яна не задаволіла, таму і запыталася:

— А дзед Манечкін?.. Ну... Ваш бацька... Можа, і ён да Манечкі калі прыедзе, ці і яго ўжо няма?

— Дзярмо мой бацька, поўнае дзярмо, — і Валодзька замоўк, ён раптам адчуў вялікую самоту, позірк яго патух і ўжо не хацелася ніякай гаворкі. Дырэктарка заўважыла гэтую перамену ў ім і паспрабавала перавесці размову на іншае.

— У нас тады якраз школьная лінейка была, калі ваша маці прыязджала. Да пятага класа дзеткі нашы тут вучацца, а потым ужо ў мястэчка ў школу ходзяць. Помню, Манечка ў белым фартушку, з белымі бантамі, што лялечка... Яна якраз тады ў першы клас ішла... Кажу вашай маці: «Падыдзіце... Пацалуйце ўнучку, прызнайцеся ёй, хто вы...» А яна: «Не-не... Я здаля на яе пагляджу», а слёз стрымаць не магла... І ўсё руку каля сэрца трымала. Відаць, ад інфаркту памерла?

— Не, ад рака. Рак у яе быў. Сюды прыязджала пасля аперацыі. Яе добры хірург аперыраваў, маці спадзявалася, што ўсё абыдзецца, а потым... Метастазы ў страўнік пайшлі... І ўжо не было надзеі.

— Ларыса Паўлаўна, — у кабінет зазірнула маладзенькая дзяўчына. — Мяса з Сенькаўскай фермы прывезлі. Нешта ў дакументах не сыходзіцца. Кладаўшчыца просіць, каб вы да яе зайшлі...

— Дакументы — справа важная, — сказала Ларыса Паўлаўна і паднялася з крэсла. — Пайду пагляджу, зірну ў тыя накладныя. А вы затрымайцеся тут. Што там у нас у Манечкі? — Яна падышла да сцяны, дзе, узяты ў рамку, быў прымацаваны расклад урокаў. — Вось ён трэці клас, — павярнулася да яго. — Манечка ўжо ў трэцім класе. У іх цяпер фізкультура, апошні ўрок. Вярнуся, дык давядзецца зняць яе з урока, — і Ларыса Паўлаўна выйшла з кабінета.

«От, д’ябал! І што гэта мяне папёрла, — думаў Валодзька. — Анжэлку шкурай абазваў, а бацьку прадставіў гэтай жанчыне як дзярмо-дзярмом... Маці ж нічога ёй не расказвала, інакш чаго ёй цяпер было пытацца? «І ён згадаў маці, успомніў увесь той апошні яе дзень. Раніцай прыехала цётка Люда — матчына сястра з Баранавіч і ледзь не ўвесь дзень прасядзела каля канапы, з якой ужо тыдзень не паднімалася маці. Бацька тым днём не пайшоў на працу, таму што двое рабочых шклілі ў іх лоджыю. Вялікая рама не ўстаўлялася, і рабочыя доўга свідравалі бетонную сцяну. «Хоць бы хутчэй яны ўсё гэта перапынілі, — нервавалася цётка Люда. — Колькі можна тарахцець!» А маці нічога, спакойна ляжала, быццам і не чула гэтага тарахцення. Нават супакойвала цётку Люду: «Пацярпі ўжо, хай уставяць раму. На мяне такім холадам з балкона цягне... І дзверы балконныя зачыненыя, і фортка ў акне на зашчапцы, а скразняк па пакоі гуляе... У мяне ікаўка ўвесь час ад гэтага холаду». А дзесьці пасля абеду прыйшла медсястра рабіць маці ўкол і ўжо, адыходзячы, прысароміла бацьку: «У вас іншага дня не знайшлося, каб балкон зашкліць?! Няўжо не бачыце, у якім яна стане? Пыл, грукат... Адпраўляйце рабочых!» І ўсё ж рабочыя тым днём паставілі раму, толькі не замацавалі як след, сказалі, што замацуюць заўтра... Потым цётка Люда згатавала для іх вячэру і стала збірацца на вакзал... Бацька пайшоў яе правесці да тралейбуснага прыпынку, а ён, Валодзька, зазірнуў у пакой да маці і пацікавіўся:

— Ты цётцы Людзе пра Маню расказала?

— Падыдзі да мяне, сядзь на канапу, — папрасіла маці. — Не расказала я сястры нічога. Цябе цётка любіць, хачу, каб і Анжэлку заўжды любіла, каб ні ў чым не змагла яе папракнуць. Жыццё доўгае, усё ў ім бывае, — узяла яго руку ў сваю. — А ты ўжо, сыночак, смецце з балкона заўтра прыбяры. Сам зрабі гэта, каб бацька не хадзіў тут... Люду прасіла застацца, а ў яе нешта там дома... Можа, ужо і не пабачымся?

— Ну што ты такое кажаш, мама! Чаго гэта вы з цёткаю Людай не пабачыцеся? Цётка сказала, што на выхадныя зноў прыедзе.

Але ў маці, напэўна, ужо было прадчуванне... Сярод ночы Валодзька прачнуўся ад моцнага грому. Над Мінскам бушавала навальніца. Маланкі ўспыхвалі адна за адной. Ён саскочыў з ложка, зачыніў фортку, у якую з кроплямі дажджу ўрываўся вецер. Легчы не паспеў, у пакой увайшоў бацька і закрычаў з парога:

— Чаму балкон у матчыным пакоі не зачыніў? У гэтым доме ўсё не палюдску! Вецер шалёны... Рама ўніз рухнула, шкло, напэўна, усё паляцела. А ўсё з-за скразняку... Сказалі ж рабочыя, што не замацавалі яе! — І ўжо спакойна дадаў: — Сціхне дождж, пойдзем па раму, унясем у кватэру.

Бацька вярнуўся ў свой пакой, а Валодзька пайшоў да маці... Балконныя дзверы былі расчыненыя насцеж і парыпвалі, парыпвалі... Вецер гуляў па балконе, і шамацеў парваны папяровы мяшок з-пад цэменту... Маці ляжала толькі па пояс прыкрытая коўдрай, кінуўся да яе:

— Табе ж халодна, ма-а!

І ў тое ж імгненне зразумеў, што ў шырока раскрытых матчыных вачах ужо няма жыцця...

Калі Ларыса Паўлаўна вярнулася ў кабінет, Валодзька стаяў ля акна, глядзеў, як на футбольным полі падлеткі ганялі мяч, і, павярнуўшыся да яе, запытаўся:

— У вас тут і спартыўная зала ёсць? Нешта ж не бачна малых, каб у двары фізкультураю займаліся.

— Фізкультура ўжо скончылася, — адказала Ларыса Паўлаўна. — Манечка цяпер абедае, а мы з вамі ў іншае месца пяройдзем. Круглых сірот у нас мала, пераважна тыя дзеткі, каго ад бацькоў забралі, дык, здараецца, маці да іх прыязджаюць... Хоць і п’яніцы горкія, а дзеці да іх цягнуцца... Вось мы і абсталявалі пакойчык для сустрэч з бацькамі, ды і ўвогуле... Зараз жа да нас з розных дзіцячых фондаў прыязджаюць, ёсць дзе нефармальна паразмаўляць. Хадземце.

Валодзька ўзяў сваю сумку, рушылі да дзвярэй, і дырэктарка раптам спынілася:

— Чакайце, ледзь не забылася. Ведаеце, я з вамі шчырая... Гуманітарка да нас пайшла, і замежныя госці пачалі прыязджаць... У нас яшчэ не было такога, а ў іншых дзіцячых дамах ужо сутыкнуліся з гэтым... Людзі з замежжа ахвотна ўсынаўляюць нашых дзяцей, дык раптам нехта Манечку ўпадабае і схоча яе ўдачарыць? — Ларыса Паўлаўна запытальна паглядзела на Валодзьку. — Што мне рабіць тады? Ваша маці яе за сваю прымала і напраміłы Бог мяне прасіла, каб толькі каму не аддалі... І вы ж прыехалі... Дык, можа, адрас мне свой пакінеце, калі што такое, я з вамі звязвацца буду.

— Пакіну, канечне, пакіну, — адазваўся Валодзька. — І новы адрас прышлю, — падумаў і дадаў: — Я ў Маскву збіраюся. Магу там і застацца.

Ларыса Паўлаўна вярнулася да стала, узяла ручку...

— Дыктуйце, — сказала Валодзьку. — Я пакуль на календары запішу.

І Валодзька прадыктаваў:

— Горад Мінск, вуліца Карла Маркса, дом 110, кватэра 11. Уладзіміру Бузяку.

— Бузяку? А Манечка ж — Праневіч, — у голасе Ларысы Паўлаўны пачулася трывога.

— У яе дзявочае прозвішча маёй маці, — патлумачыў Валодзька. — І імя па-бацьку ў яе, як матчынае. Міхайлаўна.

— А-а-а, — працягнула Ларыса Паўлаўна і заўсміхалася. — Значыцца, вы — Валодзя, а я і не здагадалася раней запытацца пра вашае імя. Дык пойдземце, Валодзя...

Пакой, у які яны ішлі, знаходзіўся тут жа, на першым паверсе, і як толькі Ларыса Паўлаўна пачала адмыкаць яго, падышла супрацоўніца, якая дагэтуль сядзела ў холе, шапнула дырэктарцы:

— Манечку зараз прыводзіць ці пазней?

— Прыводзьце зараз, — і шырока расчыніла дзверы. — Заходзьце, тут у нас, як музей!

Відаць, дырэктарка мела на ўвазе шматлікія граматы і дыпломы, што віселі на сценах у рамках пад шклом, як у музеі. Былі тут яшчэ і дзве канапы, і дыван на падлозе, і невялікі нізенькі столік пасярод пакоя. Крэслы стаялі ля сцяны. На адно з іх Валодзька паставіў сваю сумку, адчуваючы, як яго агортвае хваляванне. «Пра што размаўляць з гэтай дзяўчынкай? З чаго пачаць размову? Маці казала, што самае страшнае, калі яна адчуе сябе падманутай... Маленькаму чалавеку нельга расчароўвацца. Гэта ўжо будзе на ўсё жыццё: крыўда і недавер да людзей»...

У дзверы пастукалі, і ўсё тая ж супрацоўніца ўвяла за руку ў пакой дзяўчынку.

— Вось і мы, — сказала супрацоўніца і запыталася: — Мне ісці?

Ларыса Паўлаўна кіўнула, маўляў, ідзіце, і, калі супрацоўніца выйшла, звярнулася да Манечкі:

— А чаму ты не прывіталася? Гэта, Манечка, да цябе прыехалі. Паглядзі, які малады ў цябе дзядзька. Ён — твой сваяк.

Манечка стаяла, апусціўшы кучаравую галоўку, і наском сандаліка калупала падлогу. Валодзька адзначыў, што ў яе валасы, як і ў Анжэлкі, — цёмна-каштанавыя і, як і ў Анжэлкі, завіваюцца ў кудзеркі. А вочы — цёмныя, як дзве агатавыя пацеркі, нагадвалі вочы яго маці. Гэта ён заўважыў адразу, як толькі ўвайшла Манечка ў пакой. Валодзька адкашляўся і запытаўся:

— Ты засаромелася, Маня? Бачу, саромеешся... Я, канечне, вінаваты, што так доўга не прыязджаў. А вось бабуля да цябе прыязджала...

— Манечка была вельмі маленькая, яна не памятае бабулю, — прыйшла яму на помач Ларыса Паўлаўна, і Валодзька зразумеў, што нешта не тое сказаў. Зноў адкашляўся...

— Канечне, Манечка была маленькая, — падыграў ён Ларысе Паўлаўне. — А бабуля старая... Старыя не жывуць доўга. Бабуля памерла, — Валодзька зрабіў паўзу, а Манечка прыўзняла галоўку, паглядзела на яго. — Яна цябе любіла, Манечка, вельмі любіла... І падарункі даўно для цябе падрыхтавала, а потым яна захварэла... І вось прыехаў я, прывёз бабуліны падарункі. Ты яшчэ гуляеш у лялькі?

Манечка кіўнула галоўкай, і Валодзька выцягнуў з сумкі ляльку Барбі, паднёс да дзяўчынкі:

— Як яна называецца, ведаеш?

— Барбі, — сказала Манечка. — Мы па тэлевізары такую бачылі, і Аксана Іванаўна сказала, што гэта Барбі.

— Яна твая, Манечка, бяры!

І Манечка схапіла ляльку, зіхотка заўсміхалася. Валодзька таксама ўсміхнуўся.

— А цяпер, Манечка, давай падыдзем да маёй сумкі. Не... Спачатку пасапраўднаму пазнаёмімся, — ён працягнуў руку Манечцы. — Я — Валодзя... Ага-а... Можаш называць мяне Валодзькам. А ты?

— Маня, — засмяялася дзяўчынка і працягнула сваю руку, якую Валодзька ўжо не выпусціў са сваёй. Ён павёў Манечку да сумкі, адкуль пачаў выцягваць сукеначкі, туфлікі, нейкі скрутачак і вялікую каробку з цукеркамі. Зрабіў усё так, як і прасіла маці. І калі Манечка села на канапу і пачала адкрываць каробку, каб узяць цукерку, Валодзька паглядзеў на Ларысу Паўлаўну, якая ўвесь гэты час моўчкі назірала за імі.

— Ларыса Паўлаўна, — звярнуўся хлопец да яе. — У мяне яшчэ ёсць адзін падарунак для Манечкі... Каштоўны падарунак, — і выцягнуў з унутранай кішэні лёгкай курткі футаральчык, раскрыў яго, паднёс да Ларысы Паўлаўны. — Паглядзіце, якая прыгажосць!.. Маці гэта ўсё насіла. Золата самай высокай пробы. Калісьці нейкі мастак-ювелір гэтыя ўпрыгажэнні ёй вырабіў.

— І вы гэта Манечцы? — Ларыса Паўлаўна не адрывала позірку ад завушніц, ланцужка і пярсцёнка, якія ляжалі ў футарале.

— Ёй, — адказаў Валодзька. — Маці вырашыла пакінуць гэта ўнучцы. У вас жа ёсць нейкі сейф. Патрымайце гэта ў сейфе, а потым, калі Манечка пасталее, перадайце ёй...

— Няхай лепш у вас, — няпэўна прамовіла Ларыса Паўлаўна. — Вы ж казалі...

Валодзька зразумеў яе і паўтарыў тое, што сказаў раней у кабінеце:

— Я не пакіну Маню... Маці паабяцаў. А гэта ўсё, — паказаў позіркам на футарал, — павінен перадаць вам... для Манечкі. Такая была яе воля.

Але перад тым, як аддаць футарал Ларысе Паўлаўне, падышоў да Манечкі, запытаўся:

— Табе падабаецца? Паглядзі, што тут...

Манечка ўзяла завушніцу, пакруціла ў руках, уважліва разглядваючы...

— Дык табе падабаецца? — перапытаў Валодзька.

— Угу-у... Толькі вушы ў мяне не праколатыя. — Яна паклала завушніцу назад і ўзяла ў рукі Барбі.

Ларыса Паўлаўна засмяялася... Валодзька шчоўкнуў футаралам і перадаў ёй. Паглядзеў на Манечку, прыцішыў голас:

— Маці яшчэ і ашчадную кніжку перадала на таго, хто прад'явіць... Значыцца, на Манечку, — і выцягнуў з усё той жа ўнутранай кішэні курткі ашчадную кніжку. — Гэты рахунак яна адкрыла яшчэ ў восемдзесят чацвёртым годзе, адразу пасля Манінага нараджэння. Цяпер самі разумееце, хоць і дакладвала мільёны, але ўсё з'ядала інфляцыя... Вазьміце... Грошы, вядома, сыдуць на нуль, але будзе ў Манечкі памяць.

Ларыса Паўлаўна ўзяла ашчадную кніжку, і Валодзька сеў на канапу побач з Манечкай.

— Чытаць ужо ўмееш?

Манечка кіўнула галавой і сказала:

— У Барбі туфлі здымаюцца, я зняла, і адзін назад не налазіць.

— Ну, гэта справа лёгкая! Зараз абуем тваю Барбі. Давай мне туфлік...

Валодзька развітаўся з Манечкай праз гадзіну. Ларыса Паўлаўна павяла дзяўчынку на другі паверх, дзе ў Манечкі быў пакой, у якім яна жыла з яшчэ дзвюма дзяўчынкамі. На развітанне Манечка сказала Валодзьку:

— Я цябе буду чакаць.

Ён чмокнуў яе ў шчаку, весела падміргнуў:

— Трымайся... Калі некалі прыедзеш са мною ў Мінск, мы адразу пойдзем у цырк. Ты ж, напэўна, яшчэ ніколі не была ў цырку?

Манечка памахала рукою, а Ларыса Паўлаўна папрасіла Валодзьку:

— Пачакайце мяне тут, унізе. Я хачу вам нешта паказаць.

Яна не забавілася і, як толькі спусцілася з другога паверха і падышла да Валодзькі, які стаяў каля яе кабінета, шчыра прызналася:

— Вось... Яшчэ раз пераканалася, знешнасць падманлівая. Вы мне, Валодзя, спачатку нагадалі хіпі. Памятаеце, рух такі быў?

— Не, не памятаю.

— А я помню... — яна адмыкала дзверы. — Парваныя джынсы, даўгія валасы, розныя плямбы на куртках... Адным словам, — ахламоны! Цяпер у мяне іншая думка пра вас. Паслухала, як вы размаўлялі з Манечкай, далібог не адмовілася б ад такога выхавацеля. Ну, праходзьце...

Ён перакінуў сумку цераз плячо і прайшоў у кабінет... Ларыса Паўлаўна спынілася ля кніжнай паліцы, застаўленай не толькі кнігамі. Пачала перабіраць вялікія тоўстыя канверты, складзеныя стосам.

— Ну вось ён, першы клас тысяча дзевяцьсот дзевяноста першага, — і яна пачала выцягваць з канверта фотаздымкі, разглядвала іх і зноў засоўвала ў канверт. — Дзе ж ён? Дзе ж гэты фотаздымак? Ага-а... Не згубіўся! Валодзя, падыдзіце...

І, калі ён падышоў, працягнула яму фотаздымак:

— Пазнаеце?

Валодзя яшчэ не ўзяў фота ў рукі, а ўжо штосьці падказвала: на здымку — маці. І гэтае падсвядомае пачуццё не падвяло яго. Маці стаяла побач з Ларысай Паўлаўнай. Схуднелая пасля аперацыі, у такім знаёмым плашчы... Валодзька адзначыў, што позірк у маці не проста сумны, а нейкі разгублены, як быццам у той момант ёй задалі няпростае пытанне і яна не знаходзіла адказу на яго.

— Пазналі? А тут... Бачыце краёчак белага фартушка і руку з кветкаю... Гэта — Манечка! Але яна ўся не трапіла ў аб'ектыў...

— Я магу ўзяць здымак? — запытаўся Валодзька.

— Не-не, што вы! — запярэчыла Ларыса Паўлаўна. — Гэта ўласнасць дзіцягага дома, наша гісторыя, — і яна ўзяла здымак з Валодзькавых рук, паклала назад у канверт. — Ваша маці тады таксама доўга не затрымлівалася...

— Я цікавіўся раскладам аўтобусных рэйсаў у Мінску, — сказаў Валодзька. — На аўтобус, які ідзе з Гомеля, магу паспець, а цягнік ідзе праз Лясную толькі ноччу.

— Канечне, на аўтобус паспееце. Я правяду вас да варотаў...

Але выйсці разам яны не паспелі нават на ганак. Ужо ад самых дзвярэй Ларысу Паўлаўну гукнулі да тэлефона, маўляў, ніяк не могуць дазваніцца да яе з рана. Яны паспешліва развіталіся. І Валодзька быў гэтаму рады. Яму хацелася пабыць аднаму. Задаволенасці ад сустрэчы з Манечкай не было... «І я... І я таксама нягоднік... — думаў ён. — Ведаю, што яна свая, родная, і пакідаю тут. Туфлік дапамог нацягнуць на нагу Барбі... Цукерачкі прывёз... А праз дзень з'еду ў Маскву... На паўгода? На год? Сволач бацька... Застанецца адзін у чатырохпакаёвай кватэры. Будзе з балкона на тратуар сыпаць крошкі галубам... Будзе перад люстэркам у сваёй спальні прымерваць то адзін, то другі гальштук, а, вярнуўшыся з працы, абурацца нейкай старою бабуляй, што збірае пад вокнамі парожнія пляшкі... Потым будзе сядзець у ванне і ўжо зусім позна вечарам тэлефанаваць у Маскву Ірэне Вацлаваўне: «Твой Бузячок сумуе»... Стары ідыёт! Ён папракаў маці, што яна распаўнела»...

Валодзька ўжо выйшаў за вароты. Сіні «Масквіч» яшчэ стаяў каля іх, а дзядзькі ў пацёртай кепцы з касою ўжо не было. Карцела азірнуцца, але ён

казаў сам сабе: «Толькі не азірайся... Толькі не азірайся... Пабачыш у акне гэтую дзяўчынку і вернешся... І не таму, што раптоўна палюбіў яе, такога не бывае. Вернешся, таму што яе любіла твая маці»... Ішоў да мястэчка і думаў, думаў... «Як неперараканаўча гучала, што пра Маню маці не магла расказаць цётцы Людзе! Шкадавала яе? Не хацела, каб цётцы дадалося роспачы, душэўных пакутаў? Манечка не чужая і ёй — унучка роднай сястры». І ён успомніў матчыны словы: «Цябе цётка любіць, хачу, каб і Анжэлку яна заўжды любіла, каб ні ў чым не змагла яе папракнуць». А цётка Люда ўжо папракнула Анжэлку, можа, нават яе ўзненавідзела. І Валодзька згадаў у думках жалобны стол па маці... Ужо разышліся суседзі і супрацоўніцы — медсёстры і доктаркі, з якімі яна разам працавала ў паліклініцы. Засталіся толькі ўсе свае, ды яшчэ Таня Акрайчык — даўняя школьная сяброўка сястры. Цётка Люда, яе муж і бацька, седзячы за сталом, вылічвалі, на які дзень прыпадуць дзевяціны. Танцянка і Нэля — дачка цёткі Люды, ціха размаўлялі пра штосьці сваё, а Анжэлка выйшла ў былы свой пакой, у якім і памерла маці. Неўзабаве вярнулася і падсела да бацькі, уздыхнула:

— Ну ўсё я пераратрэсла! Усё перагледзела, нідзе ўпрыгажэнняў няма — ні завушніц, ні ланцужка, ні пярсцёнка. Пакінула пасля сябе памяць называецца! Адзін шырспажыў магазінны ў розных яе скарбоначках.

Валодзька тады апусціў галаву, ён здагадаўся, пра якія матчыны ўпрыгажэнні гаворыць Анжэлка, нават хацеў выйсці з пакоя, каб нічым сябе не выдаць. Тыя ўпрыгажэнні ляжалі ў яго спартыўнай сумцы разам з іншымі падарункамі, якія маці папрасіла яго завезці Манечцы. І ён выканае волю маці.

— Можа, яны ў тваім пакоі? — запыталася Анжэлка ў бацькі.

— У мяне іх няма, — хутка адказаў той. — Яна ўсё сваё даўно перанесла ў твой пакой.

— А пра што гэта вы такое? — запыталася цётка Люда. — Упрыгажэнні нейкія ўспомнілі... Ці да часу?

— Не нейкія ўпрыгажэнні, а самыя сапраўдныя! Мастак-ювелір вырабіў, — з запалам пачала тлумачыць Анжэлка. — Я з маці тады хадзіла да яго ў майстэрню. Я помню таго мастака. А цяпер ён, ведаеце дзе? У Нью-Ёрку! І яго вырабы ўпрыгожваюць самыя прэстыжныя салоны.

— А ты тут у горцы глядзела? — бацька зірнуў на горку, што стаяла ля сцяны з посудам і іншаю крыштальнаю драбязою.

— Яшчэ ўчора, як толькі прыехала, — адказала Анжэлка. — Нічога не знайшла.

І цётка Люда не стрымала сябе, усхліпнула і ўзарвалася:

— Куды ж гэта ты сорам свой падзела?! Дык ты не над труною матчынай плакала, што яна свет гэты так раненька пакінула, а ўпрыгажэнні яе шукала! Угу-у... Тое, што маці над табою ўсё жыццё трэслася, гэта ўжо і не памяць... Бессаромная ты, Анжэлка! Бессаромная!

— Я сваё шукала! — агрызнулася Анжэлка. — Маці для мяне гэтыя ўпрыгажэнні берагла.

— А для каго ж яшчэ ёй было берагчы... Я дзень яе апошні з ёю правяла, і яна толькі і гаварыла то пра Валодзьку, то пра цябе...

— А і сапраўды, — ажывіўся бацька. — Ты ж, Людміла, цэлы дзень каля яе сядзела, перад канцом, дык, можа, яна і аддала табе тыя ўпрыгажэнні, ты ж яе родная сястра. А магла і сама ўзяць...

— Я?.. Узяць? Паднімайся, Коля, — павярнулася яна да мужа. — І ты, дачушка, збірайся, — сказала Нэлі. — Мяне тут за злодзея трымаюць... Э-э... Перад канцом!

— Ну ўсё, супакойся, Люда. Толькі пахавалі Галку і адразу сваркі пачаліся, — дзядзька Коля паглядзеў на бацьку. — Не пра тое гаворка пайшла.

— Добра... Даруй, — адазваўся бацька. — Мы сёння ўсе ў трансе...

«Цётка Люда моцна пакрыўдзілася тады і на Анжэлку, і на бацьку, — разважаў Валодзька. — Дык якая цяпер розніца, што яна падумае пра яе, калі ён раскажа цётцы пра Манечку. Цётка добрая, яна пашкадуе дзяўчынку. Вось уладкую ўсе справы з Ірэнай Вацлаваўнай у Маскве і праз які месяц вырвуся ў Баранавічы... Па тэлефоне толкам нічога не скажаш...»

Ззаду прасігналіла машына. Валодзька азірнуўся і пабачыў сіні «Масквіч», які прытармажваў. З яго выглянуў дзядзька ў пацёртай кепцы, які выкошваў быльнёг:

— У мястэчка? Садзіся, падвязу!

І Валодзька сеў у машыну. Яна зрушыла з месца, а Валодзька не вытрымаў, азірнуўся, але праз задняе шкло ён ужо не пабачыў дзіцячага дома. Толькі дарога няроўна вілася і вецер разганяў пыл на ёй.

### *Жнівень 2002-га. Вуліца Карла Маркса, 110...*

Каля аркі, што вяла ў двор вялікага пяціпавярховага дома, на шматлюднай мінскай вуліцы Карла Маркса, стаялі дзве дзяўчыны, — высокія і на высокіх абцасах, якія рабілі іх постаці яшчэ больш стройнымі. Бландзінка з ледзь прыкметным рабаціннем на кірпатым носіку пераконвала сяброўку з доўгімі цёмна-каштанавымі валасамі і карымі вачамі, як дзве бліскучыя пацеркі:

— Ну глядзі, Маня... Навошта табе ехаць з рэчамі, калі праз некалькі тыдняў вернешся? Адны падручнікі рукі адарвуць. І для чаго ты іх сюды перла?

— Падручнікі якраз мне і трэба завезці назад, а астатняе сапраўды магу пакінуць у цябе, — сказала Маня.

— Тады вечарам мы заедзем у інтэрнат з братам. Толькі ты спакуй усё ў якую сумку і няхай стаіць у нас. Колькі ты прабудзеш у гэтых сваіх знаёмых?

Маня паціснула плячыма:

— Не ведаю...

— Адным словам, вечарам мы прыязджаем! Пакуль...

Бландзінка махнула рукою і няспешна пайшла на зялёнае святло святлафора. Маня ўвайшла ў арку...

У двары яна спынілася каля бліжэйшага да яе пад'езда і, пабачыўшы на шыльдачцы над дзвярыма лічбу чатыры, пайшла далей, у канец дома. «Мне трэба ў першы пад'езд і, відаць, на трэці паверх», — падумала яна і не ўгадала. Давялося падняцца вышэй, таму што кватэра пад нумарам адзінаццаць, у якую яна ішла, была на чацвёртым паверсе. Націскаць на кнопку званка адразу не стала. Вагалася... І прыкметна хвалявалася. Таму і не выклікала ліфт, а пайшла пешшу, каб суняць гэтае хваляванне. І не змагла. Можа, яна сюды і не прыйшла б, каб не ўчарашні званок Ларысы Паўлаўны — дырэкаркі дзіцячага дома, які Маня праз некалькі тыдняў назаўсёды пакіне. «Зайдзі... Абавязкова зайдзі, — настойвала Ларыса Паўлаўна. — Ты ж тую Барбі столькі гадоў пры сабе трымала. Яна і цяпер дзесьці ў цябе ляжыць. А зайдзі толькі для таго, каб ведалі, што табе ад іх нічога не трэба. Каб сорамна стала, каб штосьці ў душы ў іх зварухнулася». «А ў каго ў іх?» — падумала Маня і націснула на кнопку званка...

Дзверы адчыніла жанчына гадоў трыццаці ў шортах і доўгай зялёнай майцы, бы не са свайго пляча:

— Вам каго? Пэўна, памыліліся кватэрай? — кінула хуткі позірк на дзяўчыну, і штосьці змянілася ў яе твары.

— Я... Я... — больш ніякіх слоў не знаходзілася. Маня разгубілася.

Жанчына глядзела на Маніну завушніцу... Потым перавяла пагляд на ланцужок, што пабліскваў на Манінай загарэлай шыі, і сказала, бы цяжка выдыхнула, з напружаннем:

— Ну што я... я... Заходзь! Здаецца, я здагадваюся, хто ты.

У не малым, з высокай столлю пярэднім пакоі гарэла святло, хоць дзень толькі пачынаў хіліцца да адвячорка. Маня стаяла ў парозе, і жанчына ўважліва разглядвала яе, не хаваючы сваёй цікавасці.

— Я вырашыла зайсці, каб запытацца... — нарэшце вымавіла Маня.

— Пытацца будзеш пасля, спачатку я запытаюся. — Памаўчала нейкі момант і звярнулася да Мані: — Завушніцы гэтыя і ланцужок як да цябе трапілі?

— Бабуля перадала.

— Што? Проста так узяла і праз некага перадала?

— Іх мне хлопец прывёз... Валодзя. Пра яго я і хачу запытацца, — нарэшце патлумачыла Маня прычыну свайго прыходу ў гэтую кватэру.

Жанчына занервавалася. Маня бачыла гэтае яе хваляванне і паспяшалася супакоіць:

— Вы не хвалюйцеся, я зараз пайду. Бачу, вы нервуецеся.

— Паспееш пайсці... О-о, ды ў цябе абцасы! Давай, разувайся, у нас тут паркет... усюды.

Маня марудзіла... Жанчына дастала з паліцы для абутку пантофлі. — Калі будуць і завялікія, з нагі не спадуць. — Яна памаўчала, назіраючы, як Маня здымае туфлі, і нарэшце запыталася, але неяк асцярожна, стрымана: — А калі да цябе прыязджаў Валодзя?

— Даўно.

— Даўно — паняцце няпэўнае. У якім годзе гэта было?

— У дзевяноста трэцім, — адказала Маня. — У верасні. Я тады ў трэцім класе была. Тады мне і ўпрыгажэнні прывёз. Барбі...

Жанчына цяжка ўздыхнула, правяла рукою па лбе, быццам выцірала пот:

— Божа! Колькі тут усяго было з-за гэтых завушніц, з-за ланцужка... У цябе ж, напэўна, і пярсцёнак? І ўсё гэта спачатку знаходзілася ў Валодзькі, а потым ужо ў цябе?..

— А дзе Валодзя? Ён у Маскве? Я чамусьці гэтак і думала. Ён тады нашай дырэктарцы нешта казаў пра Маскву.

— Ну ўсё... Няма чаго стаяць тут. Пойдзем... — Жанчына раптоўна зноў занервавалася. Яна расчыніла дзверы ў вялікі пакой і павярнулася да Мані. — Няма Валодзькі. У тым жа дзевяноста трэцім годзе і не стала. Тады ж у верасні...

І ў тое ж імгненне Маня нібыта вярнулася на дзевяць гадоў назад... Вось яе вядзе за руку выхавацелька Клаўдзія Антонаўна, адчыняе перад ёю дзверы ў пакой, куды ёй заўсёды хацелася так патрапіць, каб нехта ў гэтым пакоі чакаў яе, як, здаралася, чакалі іншых дзяцей. Яна бачыць Ларысу Паўлаўну і высокага, прыгожага маладога хлопца і ёй вельмі радасна чуць ад дырэктаркі, што нарэшце і да яе прыехалі, што гэты хлопец яе сваяк...

— А дзе... Як гэта здарылася? — і язык прыліпаў да засмяглых Маніных вуснаў, і трывожыла, апякала пытанне, якое круцілася ў галаве, а хто ж гэтая жанчына? Хто? Можа... Можа... І яна баялася, хай сабе і ў думках, вымавіць слова «маці».

— Я тут націрала паркет. — Яны ўжо зайшлі ў пакой. — Пах непрыемны, праўда? Сядай на канапу ці ў крэсла? — І, калі Маня села на канапу, жанчына

перапытала: — Дык ты хочаш ведаць, што здарылася з Валодзькам? Тады мне давядзецца расказаць табе ўсё... І гэта ўжо цэлая гісторыя... Горкая сага пра сям'ю Бузякоў. Хм-м... Ты таксама Бузяк?

— Не, я — Праневіч. Такім было дзявочае прозвішча ў маёй бабулі.

— А завуць цябе як?

— Маня.

— Ну а я... Я — Таццяна Віктараўна — даўняя, яшчэ школьная сяброўка, — яна зрабіла паўзу і дадала: — Тваёй маці. А хочаш, проста... Таццяна. Я раскажу табе ўсё, усё, Маня. Але... Але, калі захочаш прэтэндаваць на гэтую кватэру, у цябе нічога не атрымаецца! Ты не зможаш даказаць, што ты — унучка Васіля Канстанцінавіча. Пра тваё існаванне ніхто не ведае. Я... Адна толькі я ведаю... Анжэлка — твая маці, ад самага пачатку ўсё мне расказвала, і як зацяжарыла, а потым і як нараджала цябе. — Яна паглядзела на Маню і ўсміхнулася ўсмешкай спагадлівай жанчыны, якой застаецца цяпер адно: паспачуваць Мані. — Ага-а... Я ведаю, што ты ўнучка, але гэта нічога не мяняе, што адбылося, тое адбылося... — Таццяна села на канапу побач з Маняй, у голасе пачулася паддобрыванне, быццам тая не паверыць яе словам. — Разумееш, ён добраахвотна ўсё перапісаў на нас. Усе дакументы, што ён пакідае нам гэтую кватэру, юрыст афармляў... Мы юрыста сюды... дамоў прывозілі. Я адпакутавала разам з тваім дзедам! Божа-а! Пад канец — памперсы, кармленне з лыжачкі, а ноччу... стук яго кульбы! Ён дубасіў па сцяне, каб я прачнулася. Каб накрыла... Яго холад даймаў. Крычаў, што з усіх вааконных шчылін скразнякі дзьмуць... Я ледзь разбірала словы, а ён крычыць... Крычыць!

— Дзед памёр? — перапыніла яе Маня і адчувала, што ўсё ў ёй супакойваецца. Валодзя быў нітачкай, якая звязвала яе з гэтай кватэрай. Яго не стала, і нітачка абарвалася.

— Гэта здарылася пасля другога інсульту, — пачала расказваць Таццяна Віктараўна. — А пасля першага нічога... Выкараскаўся, ачуняў. Неўзабаве пасля пахавання Валодзькі з ім і здарыўся першы інсульт. — Яна зрабіла паўзу. — Можа, гарбаты хочаш, дык давай на кухню пройдзем. — Прыязна заўсміхалася, і ў голасе ўжо не чулася ранейшага напружання. — Я адразу здагадалася, хто ты такая, як толькі пабачыла гэтыя завушніцы, — і Таццяна дакранулася да вісюлек з зорачкамі. — У вушах Галіны Міхайлаўны часта іх бачыла, дык ты як наконт гарбаты?

Маня толькі цяпер усвядоміла, наколькі Таццяна Віктараўна ашаломленая яе нечаканым прыходам: інтанацыі яе голасу ўвесь час мяняліся, твар расчырванеўся, у кожным руху адчувалася ўзбуджанасць. «Лепш бы я не прыходзіла сюды», — думала Маня і прызнавалася сабе, што ёй хацелася, вельмі хацелася прыйсці ў гэтую кватэру аднойчы... І вось як яно аказваецца... Бабуля памерла... І дзед памёр, пра якога яна амаль нічога не ведае. І Валодзі, яе дзядзькі, якога яна запомніла такім маладым, таксама няма... А яна чакала яго прыезду ўсе гэтыя дзевяць гадоў. Чакала, не ведаючы, што яго ўжо даўно не было. І Маня запыталася ў Таццяны Віктараўны:

— А Валодзя?.. Што сталася з ім? Вы мне так і не сказалі.

— Гэтага, Маня, ніхто не ведае. Яго прывезлі з Масквы Ірэна Вацлаваўна і яе сын... Мёртвага прывезлі. Анжэлка тады са сваім мужам Вадзімам і маленькім сынам некуды на поўдзень паехала... Пакуль з ёю звязаліся Вадзімавы бацькі, Валодзьку ўжо тут пахавалі. На пахаванне Анжэлка прыехаць не паспела. Ну я ж табе казала, Анжэлка — твая маці. Яна цябе ў пятнаццаць гадоў нарадзіла. Выпадкова зацяжарыла і... ад некага выпадковага.

Маня спахмурнела і адвярнулася ад Таццяны Віктараўны, якая ўжо зразумела, што пра апошняе гаварыць не варта было.

— Думаю, што Валодзька табе пра гэта не расказваў, — уздыхнула Таццяна. — Ты дзіцёнкам была. Канечне, чуць непрыемна... нават балюча... Але ты павінна ведаць, каб спадзеву не было, што раптам... Калісьці... Аднойчы аб'явіцца твой бацька.

— А хто такая Ірэна Вацлаваўна? — запыталася праз паўзу Маня. Ёй захацелася перавесці размову на іншае.

— Ты нічога не ведаеш пра Ірэну Вацлаваўну? — здзівілася Таццяна. — Хаця, канечне, адкуль ты можаш пра яе ведаць? Ірэну Вацлаваўну кахаў твой дзед... Многа гадоў. І, відаць, моцна кахаў, але ў яе муж быў. І твая бабуля ўсё гэта цярпела. Тады ў дзевяностыя ў Маскве поўным ходам ужо бізнес раскручваўся... Валодзька і паехаў да Ірэны Вацлаваўны, каб бізнесам заняцца.

— І што?

— Хто ж яго ведае, што? — у голасе чуўся жаль, і ў позірку Таццяны Віктараўны Маня бачыла шкадаванне. — Навальніца тым вечарам у Маскве была моцная, сапраўдны ўраган... Вецер шалёны дрэвы з карэннем выварочваў. Так расказвала Ірэна Вацлаваўна. Валодзя быў у іх, потым пайшоў у нейкі рабочы інтэрнат, куды Ірэна Вацлаваўна яго ўладкавала, пакуль Анжэлка — твая маці, з поўдня вернецца... Ну і прыціснула яго паваленым дрэвам, проста на Валодзьку рухнула. — Падумала і дадала: — А можа, і не прыціснула... Можа, яго мёртвага пад паваленае дрэва падцягнуў хто.

Яна зрабіла паўзу. І ў думках вярнулася ў той вечар, калі пахавалі ўжо Валодзю. Тут, у гэтай кватэры за жалобным сталом, сядзелі яго мінскія сябры і цётка Люда з сям'ёю — з дачкой і з мужам. Цётка ўсё плакала і плакала... Ніяк не магла сцішыцца, а то і пачынала галасіць: «Галачка... Мая ты Галачка!.. Навошта ж ты свайго сыночка так хутка да сябе забрала?» Таццяна не вытрымлівала гэтага галашэння. Яе пачыналі душыць слёзы. Яна ўставала з-за стала, выходзіла на кухню... І вось стаіць, плача на кухні, а з ваннага пакоя даносяцца галасы — Ірэны Вацлаваўны і Васіля Канстанцінавіча. «Дык ты думаў, што з дзесяццю чырвонцамі я яго ў бізнес свой вазьму? А ты ведаеш, якія крэдыты мы бралі — і я, і мой Алфёраў пад гэты заводзік?» — чула Таццяна голас Ірэны Вацлаваўны. І потым праз паўзу больш прыглушаны Васіля Канстанцінавіча: «Ну калі ты ў яго не брала чырвонцаў, куды яны падзеліся?» «А я адкуль ведаю?! Я тыдзень яго па трупярнях шукала... Што? Не было каму забраць дзесяць залатых манет з кішэні?! — І зноў пасля паўзы яна запыталася больш спакойна. — Колькі ў цябе яшчэ іх засталося?» Васіль Канстанцінавіч маўчаў. Нарэшце пачуўся яго голас: «Мала... Анжэлка нешта ўзяла... А потым... Потым... І да цябе ж я не з пустымі рукамі прыязджаў!» І зноў маўчанне... І зноў голас Ірэны Вацлаваўны: «А наборчык той дзе: завушніцы, пярсцёнак, ланцужок?» «Знік... Яго нават Анжэлка не знайшла». Ірэна Вацлаваўна павысіла голас: «Значыцца, ты па пакоях шукай... Сам! Не магла ж яна ўпрыгажэнні з сабою на той свет забраць?!»

Паўза зацягвалася. Маня таксама задумалася... Але вось Таццяна Віктараўна адарвалася ад сваіх успамінаў, дакранулася да Манінага пляча:

— Штосьці ўспомніла?.. Я таксама згадала... Але што цяпер пра тое... Добрым хлопцам Валодзька быў. Ірэна Вацлаваўна тады Васілю Канстанцінавічу пазваніла, маўляў, можа, Валодзька ў Мінск вярнуўся? Ужо некалькі дзён да іх не заходзіць... Ну і, пачуўшы, што яго няма ў Мінску, пачала шукаць па трупярнях... Ты пасядзі, я ўсё-такі пайду гарбату зраблю...

І яна выйшла з пакоя. «А як усё ж магло здарыцца, што ў гэтай кватэры цяпер жывуць чужыя людзі?» — думала Маня, разглядваючы фотаздымак, які стаяў за шклом у кніжнай шафе, на якім была цяперашняя гаспадыня кватэры, побач з ёю прыгожы і яшчэ малады мужчына, а перад імі стаяла дзяўчынка гадоў шасці. Чаму менавіта на іх перапісаў дзед кватэру, а не на сваю дачку... На тую самую Анжэлку, якая нарадзіла яе, Маню? Дзе цяпер яна? Гэтыя пытанні міжволі трывожылі яе.

— Гарбата гатовая, — зазірнула Таццяна Віктараўна і, калі Маня прыйшла на кухню, сказала. — Мы шмат чаго з мэблі памянялі ў кватэры, а тут пакінулі ўсё, як было. Гэтую «Вязынку» Васіль Канстанцінавіч купіў адразу пасля смерці жонкі, ну, значыцца, пасля смерці тваёй бабулі. Думаю, спадзяваўся, што Ірэна Вацлаваўна да яго прыязджаць будзе. А яна толькі адзін раз і прыехала, калі Валодзьку прывезла, і то з сынам... Дарослы ён ужо ў яе быў.

— Шкада, што... што з Валодзем гэтак здарылася, — сказала Маня і села да стала, дзе стаялі два кубачкі з гарбатай. На талерачцы жаўцеў сыр. Тут жа была і каробка з пячэннем. — Яго я добра помню, а дзед... Вы кажаце «дзед», а я яго і ўявіць не магу, бо ніколі не бачыла. Які ён мне дзед? — і Маня адпіла гарбаты з кубачка.

— Табе яго, напэўна, і не шкада. Гэтак яно і бывае. — Таццяна абаперлася аб вушак і назірала за Маняй, быццам імкнулася адшукаць у ёй рысы сваёй сяброўкі. — Мы з Анжэлкаю сябравалі з пятага класа, у іхняй сям'і я была сваёю. Калі ў Васіля Канстанцінавіча здарыўся першы інсульт, Анжэлка прыехала, але быць у Мінску доўга не магла. У Маскве — муж і сын. Вось яна і папрасіла мяне з Арцёмам, я тады была ўжо замужам, пажыць у гэтай кватэры. Мы і Васіля Канстанцінавіча з бальніцы забіралі, і ён таксама быў не супраць, каб мы тут жылі. Бяры, жуй пячэнне.

— Дзякую, я бяру, — Маня разглядвала мэблю на кухні. «Вязынка» амаль новая, а халадзільнік, адразу бачна, стары, відаць, куплены яшчэ пры жыцці бабулі, якая некалі была тут гаспадыняй... І Маня згадвала пажоўклы чорнабелы фотаздымак, які ёй аднойчы паказала Ларыса Паўлаўна ў дзіцячым доме: «Ты ўжо, Маня, амаль дарослая... Зірні на гэты фотаздымак... Вось гэта — твая бабуля, у цябе бабуліны вочы».

— Дык ты слухаеш мяне, Маня? — Таццяна Віктараўна села на крэсла і падсунулася бліжэй да яе. — Васіль Канстанцінавіч ужо вельмі дзіўны тады быў, каб не сказаць больш... На вуліцы лета, спякота, а ён выходзіць і апранае плашч, капялюш... Пачынала ў яго пытацца, навошта гэтак апранаецца? А ён адказваў: «Мне холадна... Як толькі выходжу, адразу вецер пачынае дзьмуць». Проста манія нейкая... А вечарамі... Божа! Садзіўся за тэлефон і тэлефанаваў, тэлефанаваў Ірэне Вацлаваўне ў Маскву... А там, ці адказвалі, што яе няма дома, ці ўвогуле не бралі трубку... Яшчэ здаралася... Бывала, вяртаюся з працы, а ў кватэры — вэрхал! Усё перавернута, у пакоі, дзе памірала твая бабуля, нават паркет павыдзіраны... Гэта ён усё завушніцы і ланцужок, што цяпер на табе, шукаў. Відаць, думаў, што праз іх Ірэну Вацлаваўну верне. А ўжо, калі здарыўся другі інсульт, з бальніцы ляжачага забіралі. Вось тут і пачаліся мае пакуты... І год, і два... А потым красавік... Сонца цёплае, заззелянелася ўсё... Кажу: «Васіль Канстанцінавіч, давайце акно на балконе расчыню хоць на якую хвілінку, хай свежасцю ў вашым пакоі працягне»... Пагадзіўся, сказаў нешта неразборлівае, рукою махнуў. Я і расчыніла акно і ажно ўздрыгнула... «Скразняк!» — ускрыкнуў ён, ды так моцна, выразна. Вярнулася ў пакой, падышла да яго і зразумела, што ўжо не дыхае... Вось як усё было, Маня! Ну што ж ты маўчыш, сумная гісторыя, а-а?

— Цямнець пачынае, — паказала позіркам на акно Маня. — А я яшчэ з сяброўкай павінна сёння пабачыцца. Мы дамовіліся.

— Трэба святло ўключыць, — Таццяна паднялася і ўключыла святло. — Сёння за паркет ужо не вазьмуся. Развярэдзіла ўсё ў сабе...

— А што, акрамя вас, нікога больш не было, каб даглядаць дзеда? — і ў Маніным голасе чулася непрыхаванае хваляванне.

Таццяна Віктараўна зноў села, на нейкае імгненне задумалася.

— Ну чаму ж? — паглядзела на Маню. — Магла прыехаць цётка Люда, Людміла Міхайлаўна — родная сястра тваёй бабулі, яна жыве ў Баранавічах, але... З ёю Васіль Канстанцінавіч моцна пасварыўся і не хацеў яе бачыць. Яна сама таксама не прыязджала. Ну а Анжэлка, — апусціла позірк, быццам раздумвала, расказваць ці не. — Анжэлкі ўжо не было, калі другі інсульт з Васілём Канстанцінавічам здарыўся. Ні яе, ні Вадзіма, ні сына іхняга... — І яе голас раптам сарваўся, яна перайшла на крык, нервова сціскала і рассціскала свае далоні, прамаўляла хутка. — Ты толькі не бяры да сэрца... У цябе ўсё наперадзе... Я ніколі не разумела Анжэлку! Ніколі! Ну, якая яна табе маці? Якая! А ёй самой пашанцавала ў жыцці... Ёй вельмі шанцавала! У маскоўскі універсітэт паступіла, замуж удала выйшла! Вельмі ўдала! Свёкар яе нейкі буйны бізнесмен! Ды і ў Вадзіма, у мужа, некалькі магазінаў было. Яна ніколі пра цябе не згадвала! Ані слоўка! Ты павінна яе ненавідзець! Даруй мяне, Маня. Даруй, — голас стаў ціхім. — І цябе шкада, і яе шкада... У авіякатастрофе яны загінулі. Багаценькія, на Ямайку адпачываць ляцелі... А там Карыбскае мора, а там сама што сезон ураганаў... Самалёт знік з радараў — і ўсё! Які ж гэта год быў?! Дзевяноста восьмы... Тады яшчэ ў газетах пра той самалёт пісалі. — Яна зрабіла паўзу, цяжка ўздыхнула. — Свёкар Анжэлчын сюды прыязджаў. Васіль Канстанцінавіч якраз у бальніцы з інсультам ляжаў... Свёкар мне спадабаўся, нармальны чалавек... Нейкія рэчы Анжэлчыны прывёз, паперы, лісты, фотаздымкі... Я пасля смерці Васіля Канстанцінавіча ўсё гэта ў той пакой згрузіла, дзе ён паміраў. Дарэчы, там і Галіна Міхайлаўна памірала, а калі Анжэлка ў школу хадзіла, гэта быў яе пакой. Мы туды амаль не заходзім, нам і трох пакояў хапае... Мы ж тут толькі ўтраіх, — я, мой муж і дачка наша, Волечка. Яны цяпер на дачы. У мужа адпачынак. О-о, Маня! — Таццяна ўскочыла з крэсла. — Пойдзем, я завяду цябе ў той пакой. Экскурсію арганізую. Табе ж будзе цікава пабыць там! Можаш у тых паперах і фотаздымках Анжэлчыных пакорпацца... Нам гэта ўсё без патрэбы, а ты ж... Ты ж цяпер засталася адна з усяго іхняга роду. Тыя паперы... Яны — твае!

Маня адмоўна хітнула галавою. Яна сядзела прыгнечаная і ашаломленая гэтым доўгім патокам Таццяніных слоў. Чамусьці ўспомніла лужок недалёка ад будынка дзіцячага дома, куды найчасцей хадзілі з Клаўдзіяй Антонаўнай, якая была ў іх выхавацелькай і якую яны, дзяўчынкі-дзетдомаўкі, любілі, як любяць маці. Яны загадзя дамаўляліся паміж сабою, хто будзе ісці на лужок, узяўшыся за руку Клаўдзіі Антонаўны. На гэтую руку была цэлая чарга і, калі той момант наступаў для Мані, — гэта былі імгненні сапраўднага яе маленькага шчасця. Сонца, мяккая зялёная трава і цёплая далонь Клаўдзіі Антонаўны, якая вядзе, вядзе яе па лужку, і хочацца, каб гэты лужок ніколі не канчаўся.

— Баішся зайсці ў той пакой? — пыталася Таццяна Віктараўна. — Я таксама там доўга ніколі не затрымліваюся. Дзве смерці было ў ім! Як успомню, робіцца жудасна. Там ёсць нешта злавеснае. Але ж я чужая, а ты свая... У цябе могуць быць іншыя адчуванні. Пажуй сыру...

— Не, дзякую. Я...

— Хочаш ісці? Слухай, а ты ў Мінску даўно?

І адказ на сваё пытанне Таццяна Віктараўна пачула ад Мані ўжо ў прыхожым пакоі, дзе яна і сказала, што прыехала ў Мінск здаваць уступныя экзамены ў тэхналагічны універсітэт і, як ужо вядома, прайшла па конкурсе. Яе, Маню, ужо можна лічыць студэнткай. Ёй і інтэрнат даюць як дзетдомаўцы... Маня абула туфлі. Ёй хацелася як мага хутчэй пакінуць гэтую кватэру. Гняло пачутае ад Таццяны Віктараўны: «Ты ж... цяпер засталася адна з усяго іхняга роду». «А ці быў у мяне гэты род? — думала Маня. — Які ён мой род?»

— Ты цяпер куды, Маня?

— У інтэрнат, ён адсюль недалёка. Заўтра паеду назад у свой дзіцячы дом, каб сабраць рэчы і ўжо зноў вярнуцца сюды...

Таццяна Віктараўна дакранулася да Манінай завушніцы, пакруціла ў пальцах вісюлькі:

— Прыгожыя завушніцы, нічога не скажаш... Хоць нешта ў цябе, Маня, ад бабулі засталося. Хм-м, Маня, — пасміхнулася. — Ты мне не выпадковы чалавек, дачка сяброўкі... Памерлай сяброўкі. Заходзь калі, не знікай...

Маня выйшла з кватэры і адразу выклікала ліфт, націснуўшы на чорную кнопачку. Яна ўжо не хвалявалася, як перад уваходам у гэтую кватэру пад нумарам адзінаццаць. Не было ў яе душы і болю па людзях, якія яшчэ колькі гадоў таму назад жылі тут... Яна адкінула цяжкую пасму валасоў з ілба і нічога не магла зрабіць з вачамі, як ні старалася: слёзы нагортваліся і нагортваліся на іх...

З пад'езда яна ўжо выходзіла ў цёмны двор. Глыбокі вечар апусціўся на дрэвы, на асфальтаваную дарожку... У густым голлі ліпаў зашамацеў вецер і сваім халаднаватым подыхам абвеяў яе, — узнімаў пыл пад нагамі, лёгкія блішчастыя абгорткі з-пад цукерак...

«Вецер! Можа, заўтра надвор'е пераменіцца. Спадзе спякота», — падумала Маня. А вецер ужо адляцеў ад яе і варушыў лісце дрэў. Потым зноў рынуўся ўніз, растрапаў яе валасы, дыхнуў халадком у твар, гайдануў завушніцы-вісюлькі, і панёсся ўглыб двара, і дзесьці там затаіўся. Вецер думаў...

P. S. Верасень 2004-га. «Па паведамленні агенцтва Асошыэйтэд Прэс, лічба загінуўшых у выніку ліўняў, паводак і шквальнога ўраганнага ветру можа дасягнуць дзвюх тысяч чалавек... Па стане на дваццаць трэцяе верасня вядома ўжо амаль пра тысячу сто ахвяраў...» У Карыбскім моры бушаваў раз'юшаны ўраган Жанна.

Вецер з Чорнага яра таксама бязлітасны...

*2007 г.*







## Міхась БАШЛАКОЎ

### ТРЫ ЛІКІ ЛЮБОВІ

Тры лікі любові —
Тры лікі зямныя:
Матуля,
Жанчына,
Айчына мая...
І Божая маці —
Святая Марыя,
Прад лікам якое
Малюся штодня.

Матуля —
Пачатак жыццёвай дарогі.
Каханая —
Мроі і наша вясна.
Як кожнаму доля
Даецца ад Бога,
Радзіма таксама даецца адна.

Тры лікі любові,
Тры лікі спагады
У радасці хмельнай
І горкай бядзе.
І дзе б ні былі мы,
Да родных прысадаў,
Дарога дахаты
Заўсёды вядзе...

Тры лікі любові —
Тры светлыя лікі:
Жанчына,
Айчына,
Матуля мая...
Званоў перазвоны
І кнігаўкі крыкі —
Нібыта маленне
У водсветах дня...

Тры лікі любові,
Як родныя песні,
Што гэтак шчымліва
У змроку гучаць.
Тры лікі —
Тры зоркі
Ў начным паднябессі,
Якія так ярка
Над шляхам гараць...

---

*__Башлакоў Міхаіл Захаравіч__ нарадзіўся 27 красавіка 1951 года ў пасёлку Станцыя Церуха Гомельскага раёна. Скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага універсітэта (1973). Настаўнічаў на Гомельшчыне і Браншчыне (1973—1985). Працаваў у Бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў Беларусі (1985—1990). З 1991 года — у Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь, дзе займаўся падрыхтоўкай і выданнем гісторыка-дакументальных хронік «Памяць». Цяпер — у Мінскім гарадскім аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

*Аўтар кніг паэзіі «Начны паром», «Дні мае залатыя», «Як слёзы горкія Айчыны...», «Матчыны грыбы перабіраю», «Пяро зязюлі падніму», «Нетры», «Палын» і інш.*

* * *

Пашлі мне, Госпадзі, натхненне,
Каб словы выспела ляглі, —
Так слёзы шчырага малення
Зіхцяць на чорнае раллі.

Пашлі мне, Госпадзі, дарогу,
За даляглядам — далягляд.
Няхай, як дожджык над разлогам,
Звініць на шчасце зарапад.

Хай снег над шляхам летуценіць,
Як рэха стомленых гадоў.
Пашлі цудоўнае збавенне
Ад нашых бедаў і грахоў...

Пашлі мне, Госпадзі, надзею,
Каб тут, на гэтае зямлі,
Радкі і думкі, што пасею,
Высокай доляй прараслі.

## САЛАЎІНАЯ ПЕСНЯ

Салавей між чаромхі празрыстай
Так спявае, што хмельна ў душы,
З пераліўна-залівістым свістам
Рассыпае званочкі ў цішы.

Цёх-цёх-цёхкае гэтак дзівосна,
З пераборам — відаць, што мастак.
Па-майстэрску натхнёна, узнёсла
Выплятае карункі, дзівак.

Ці стараецца так для каханай?
Ці выводзіць рулады вясне?
П’янкавата-світальным дурманам,
Як нажом, незнарок паласне.

І падумаю — гэтак умела!
Пазайздрошчу — і мне б так спяваць!
Над завеяй чаромхава-белай
Несціханыя гімны гучаць...

І няважна, што часам маркотна,
Што складаны мне выдаўся лёс.
Лёгка, вольна і так бесклапотна
Спеў ляціць аж да самых нябёс...

* * *

Усхліпне дождж,
Пастукаецца ў шыбу —
Такі пяшчотны,
Цёплы і густы...
І праз дарогу
Маладая ліпа
Успыхне раптам
Цветам залатым...

І я згадаю
Сонечную песню,
Што медавела
На тваіх губах —
Лунала, нібы птах,
У паднябессі,
Зрывалася
Дажджынкаю на шлях...

Шапоча дождж зіхоткі...
А над кветам
Гудзе, звініць
Руплівая пчала...

Падумаю з прыемнасцю:
За лета,
Як гэта ліпа,
Ўся ты расцвіла...

Ах, мілая,
Чароўная дзяўчынка,
Спакусай хмельнай
Сэрца не трывож...
Мой лёс хрыпіць,
Як даўняя пласцінка,
І так самотна
Стукаецца дождж...

## ПЕРАД КАСАВІЦАЙ

*Міколу Шабовічу*

Дзяўчынай пераспелай
Лета млее.
А травы, травы
Вымахалі ўрост.
Яшчэ дзень-два —
І сенакос прыспее,
І луг аглухне
Ад стазвону кос.

Зашоргаюць,
Засвішчуць,
Заспяваюць —
І будуць травы
Класціся ў валкі.
Шарэнгаю
Ажно да небакраю
Разыдуцца па лузе
Мужыкі...

Мільганне кос.
І росаў зіхаценне.
І над абсягам
Песні жаўрука.
Пара касьбы —
І свята, і натхненне
Для кожнага ў акрузе
Мужыка.

Аўсяніца,
Вятроўнік,
Канюшына,
Крынічнік,
Цімафееўка,
Герань —

Шчэ травамі
Шапоча лугавіна
І палымнее
Дымная зара.

Чмялі і пчолы
Шчэ гудуць над пожняй,
А заўтра кветкі
Лягуць у стагі...
І вольны вецер —
Вечны падарожнік —
Аплача
Апусцелыя лугі...

## ЛІПЕНЬ

Залацее піжма ля дарог,
Медавее на выгарах скрыпень.
Крочыць па зямлі, нібыта бог,
Сонечны, спякотны месяц ліпень.

Скошаны зарэчныя лугі.
Дзе шумелі травы сакаўныя,
Мяккія, шаўковыя, густыя, —
Высяцца бахматыя стагі.

З соннаю усмешкай на губах,
З норавам — грымотнай навальніцай.
Не скупы: рассыпаў па лясах
Шчодрыя салодкія чарніцы.

Кветкамі прапах і збажыной...
Вечарам, прытомлены работай,
Кварту медавухі залатой
Пасля лазні вып'е ён з ахвотай.

Далеч васільковая цвіце.
Над абсягам цішыня разліта.
Душны дзень, як грузны чмель, гудзе —
На палях Айчыны спее жыта.

* * *

Дачакаюся вечара
Каля поля жытнёвага,
Дачакаюся вечнага,
Найгалоўнага слова...

Па-сапраўднаму спелага,
Як калоссе літое...

Вечар...
Сонца ўжо села..
Дзе ж яно, залатое?..

* * *

Гады, як борці, аглядаю —
Гудуць яны пчаліным роем...
А я нястомна ўсё шукаю,
Шукаю слова залатое.

Што ні скажу — усё не гэтак,
Што ні знайду — усё не тое...
Лятаю, як пчала між кветак,
Шукаю слова залатое...

Як мёд на сподку, залаціцца:
Я знаю, ёсць яно такое, —
Што ўсё шукаю і што сніцца
Гадамі, — слова залатое...

* * *

Стаялі хаты.
Жылі тут людзі.
Хай не багата.
Хто іх асудзіць?

Цяпер пустэча.
Цяпер нікога.
Пагост.
У Вечнасць
Вядзе дарога...

* * *

У лугах вячэрніх стомлена блукаю.
Серабрацца росы на траве.
А ў нябёсах поўня, поўня залатая
Песняю шчымліваю плыве.

І туман над поймай, як касцёр, дыміцца,
Што расклалі ў лузе рыбакі.
Цішыня такая — хочацца маліцца
Перад лікам светлае ракі.

І няма нічога болей дарагога,
Чым вось гэты міг маёй зямлі.
І бяжыць удалеч зорная дарога
Праз лугі і сонныя палі...

* * *

Палі задумныя, як песні,
Што маці пела мне калісьці
Вячэрняй ціхаю парою...
Зіхцелі зоркі ў паднябессі.
Шаптала восень жоўтым лісцем
Аб тым, што знікла за гарою.

Як я любіў бясконца слухаць
І песні сумныя, і вецер,
Што плакаў за акном асеннім!..
Няма і маці ўжо на свеце...
І з нейкім жалем-галашэннем
Спявае-плача завіруха

І снегам сцежкі замятае,
І восень, і вясну, і лета
Ў палях задумна-вечаровых...
А песні помняцца дагэтуль...
І я так часта паўтараю,
Шапчу-спяваю тыя словы...

* * *

Заінела трава.
Заінелі сады.
На жухлых паплавах
Заінелі сляды.

Адкуль яны бягуць?
Куды яны вядуць?
У шызай даліні
Знікаюць, быццам дні...

Там, дзесьці за гарой,
Дзе сцежкі замяло,
Птушынай чарадой
Махаюць мне крылом...

Ісці — і не дайсці,
Як рэха, не знайсці...
Заінелі сляды...
Заінелі гады...







Алесь ШАШКОЎ

# ЦІХАЯ ЛАНЬ

*Раман*

## V

У Лазоўскім гарнізоне ўдалося раздабыць троху прадуктаў і багата розных боепрыпасаў, нават для зброі савецкай, бо паліцаі і розныя іншыя здраднікі мелі рускія кулямёты, вінтоўкі і аўтаматы, нават мінамёты і лёгкія гарматы. Ды і нямецкі боезапас быў дарэчы, бо многія партызаны мелі трафейную зброю.

Трафеі падзялілі, усухамятку падсілкаваліся, і брыгада паціху пакінула вёску, на краі якой горача палыхаў нядаўна адноўлены і толькі што падпалены мост.

Адразу ж за лугам, дзе Ціхая Лань рабіла круты паварот, нібы хацела вярнуцца назад, да асірацелай вёскі, пачынаўся даволі чысты бор. Дзень яшчэ не настаў, неба засцілі калматыя, як шапкі ўзбекаў, вершаліны мачтавых сосен, і ў бары было ціха і цёмна. І ўсё ж Хмара адчуў, што Дубровіч кіруе не туды, дзе павінна быць яго сакрэтная база. Выдзеліўшы моцны ар'ергард — цэлую роту аўтаматчыкаў, — камбрыг сам узначаліў калону і паступова накіроўваў яе ўсё больш і больш на захад, якраз туды, дзе і была магістраль.

Гадзіны праз дзве лес абарваўся, адкрыўся яшчэ адзін прасторны, расквечаны луг, іскрысты ад халоднай майскай расы, і Дубровіч, заклапочана зірнуўшы на сонца, што ўжо нясмела высунулася з-за лесу, загадаў прыспешыць крок. Яшчэ паўгадзіны, і брыгада ўціснулася ў вузкі перашыек паміж двух даволі шырокіх азёр.

Хмара, які разам з Васільевым замыкаў калону, адшукаў камбрыга, уважліва паглядзеў яму ў вочы. Камбрыг скупа ўсміхнуўся:

— Вас нешта хвалюе?

— Я ўжо бачыў гэтыя азёры, — прамовіў Хмара. — І ведаю: недалёка за імі — магістраль.

— Ды ну? — прытворна здзівіўся Дубровіч. — Калі ж вы сюды трапілі?

— Калі «хадзіў» з вамі па карце. Там, у школе.

---

Заканчэнне. Пачатак у № 2, 2008.

— А-а-а... А я ў адным з гэтых азёр штанамі рыбу лавіў. Мінулай восенню... — да іх шпарка падышоў Васільеў, які ўзначальваў ар'ергард, трывожна паведаміў:

— За намі неадступна ідуць немцы.

— Ага, гоняць на перашыек. І многа іх?

— Не менш батальёна. І яшчэ каля батальёна РВА.

— Глядзі! І ўласаўцаў прыхапілі. Вучаць. І далёка гэта войска?

— Ды не. Выйшлі з лесу на луг, эсэсаўцы вогнішчы разводзяць, а вызваленцы капаюць акопы. Вось так, — Васільеў узмахам рукі перасек перашыек ад аднаго возера да другога.

— Зразумела. Нам дарогу назад адразаюць. З артылерыяй прыскочылі?

— Здаецца, без. Устанавілі некалькі кулямётаў на ўзлессі. Па ўсім бачна, часова.

— Ну, тады няхай спакойна снедаюць і капаюць. А ты, Павел Іванавіч, яшчэ раз пацікаўся наконт артылерыі.

— Слухаю. Нам акапацца?

— Не трэба. Пакладзі ўзвод аўтаматчыкаў пры ўваходзе на перашыек. Выварацняў ды ям тут і так хапае. Можна паставіць пару «максімаў». Дзеля маральнай падтрымкі. Ну а потым вяртайся сюды, правядзём, так сказаць, ваенны савет.

* * *

Роўна ў дванаццаць пад старой разгалістай ялінай, што звесіла свае цяжкія чорныя лапы аж да самай зямлі, утварыўшы змрочны прасторны шацёр, на тоўстых гарбатых карэннях, нібы ў рыжых сёдлах, уладкавалася чалавек пятнаццаць мужчын, амаль увесь камсастаў брыгады. Не хапала толькі Сіўцова, камандзіра брыгаднай разведкі, які па загадзе начштаба пайшоў у тыл карнікаў. Васільеў, ды і сам камбрыг, былі ўпэўнены, што штаб эсэсаўцаў не пакіне свой ударны батальён без артылерыі. Перакінуць сюды мінамёты, якія больш зручна пераправіць цераз раку і размясціць у лясным масіве. І паставяць іх хутчэй за ўсё за ярам у лагчыне, насупраць увахода ў перашыек. І такім чынам партызаны апынуцца ў вогненным «катле»: па баках — непраходныя забалочаныя азёры; наперадзе — магістраль з яе «жалезным» заслонам; ззаду — эсэсаўскі батальён. Так што свабодным для партызан застаецца толькі неба.

З'явіўся Павел Сіўцоў. Нырнуў пад навіслае голле яліны і адразу далажыў:

— Немцы ставяць цяжкія мінамёты за ярам, насупраць перашыйка. Я налічыў аж дванаццаць ствалоў.

— Ого! Не менш, як дзве батарэі, — прысвіснуў нехта з камандзіраў, відаць, былы мінамётчык.

— Будзем акопвацца? — зірнуў на камбрыга Васільеў.

Дубровіч трошку памаўчаў, раздумваючы над пачутым, потым павярнуўся да камандзіраў атрадаў і загадаў:

— Пашліце сувязных. Капаць індывідуальныя ўкрыцці. — Пачакаў, пакуль сувязныя разбягуцца кожны ў свой бок, і ціха аб'явіў: — Пачнём, таварышы.

Павесялеўшыя пасля прарыву з блакады камандзіры сціхлі, нібы да іх ног раптам лягла цяжкая міна, гатовая вось-вось разарвацца. Камбрыг няспешна развёў цяжкія яловыя лапы, выбраўся з-пад яліны, паклікаў:

— Ідзіце, хлопцы, сюды. І слухайце ўважліва. Бачыце вось гэта возера, што па правы бок перашыйка? Дык вось, як толькі пачуеце каманду «Рыба»! —

усе, як адзін, залазьце ў ваду. У мячэўнік, у рагоз, за карчы, і — ні гуку! Захоча хто чхнуць — галаву ў ваду і там чхай. Я з групай разведчыкаў пакуль застаёмся тут. На ўсякі выпадак. Пакуль вы не апынецеся на тым баку возера, у пушчы. — Далей вас павядзе палкоўнік Хмара, камандзір злучэння. Куды — ён ведае. Усё, таварышы. Ідзіце і адпачывайце. Думаю, сёння немец чапаць не стане. Ён так спяшаўся загнаць нас у гэты мех, што і сам прыцюпаўся. Будзе адпачываць. Ну ды вы ўсё ж вачэй з іх не спускайце. Эсэсавец ёсць эсэсавец, звяруга хітры...

Застаўшыся адзін на адзін з камандзірам злучэння, Дубровіч вінавата ўсміхнуўся і ціха спытаў:

— Не крыўдуйце, што я так, адным махам, «разжалаваў» вас да камбрыга.

Хмара хваравіта паморшчыўся:

— Кіньце глупства. Не да жартаў, — ён азірнуўся: ці не слухае хто яшчэ, нахіліўся бліжэй да камбрыга, з трывогай спытаў: — Мірон Ігнатавіч, вы хіба не ведаеце, што гэтыя балоты, якія чамусьці названыя азёрамі, непраходныя?

— Няўжо?! — ахнуў Дубровіч, і яго вочы ўпершыню за многа дзён весела заіскрыліся. Ён таксама нахіліўся да самага вуха палкоўніка і прашаптаў, нібы выдаваў найвялікшую тайну: — Такімі іх тапографы, мазілы картачныя, зрабілі. Убачылі карчы, трысняг і, мячэўнік, рагоз ды мох, вось і намалявалі: непраходныя. Маўляў, не верыш — правер. Здымай штаны і мерай. Што, дарэчы, мне і прыйшлося зрабіць, праўда, не па сваёй ахвоце, ды яшчэ позняй восенню... Ну ды аб гэтым хопіць, — абарваў ён самога сябе. — Давайце залезем у гэты калючы чум, для храбрасці глынём па каліве заморскага зелля ды забурымся спаць. Упэўнены, сёння немец нас не кране. Паставіў на нас крыж. Ну ды гэта мы яшчэ пабачым...

## VI

Карнікі і сапраўды не трывожылі брыгаду, аж пакуль яна сама, ужо ўпрыцемку, не кранулася з месца. Тады заварушыліся і яны, а як добра сцямнела, спыніліся зноў і прапусцілі наперад роту «вызваленцаў».

— За рускія спіны схаваліся, — злосна заўважыў Сіўцоў, а Хмара, які стаяў побач, сумна дадаў:

— Якія яны рускія? Апранулі рускія шынялі ды на шапкі царскія какарды начапілі.

— І ўсё ж... праклятая доля! За сорак тры гады жыцця другі раз мне прыходзіцца браць на мушку сваіх! — Дубровіч злосна вылаяўся, павярнуўся да Сіўцова і, стрымліваючыся, загаварыў: — Слухай, Павел Іванавіч: рэзка мяняем тактыку. Брыгаду — у возера на той бок, а далей — у пушчу. А мы з табой вядзём уласаўцаў за сабою аж да магістралі. Разумееш? Не? Зразумееш пасля... А вы, Леанід Пятровіч, — павярнуўся ён да палкоўніка, — ідзіце за мной.

Праз густыя зараснікі маладзенькіх ялін яны праціснуліся да вады. Бераг быў нізкі, парослы крамяным высокім аерам, але сухі. Дубровіч абняў левай рукой худыя плечы палкоўніка:

— Глядзіце за возера. Бачыце на тым беразе адзінокі дуб?

— Пачакайце, — вінавата ўсміхнўся Хмара. — Вазьму бінокль. Пасля кантузіі нешта вочы сталі падводзіць... Ага, бачу.

— На гэты дуб і кіруйцеся. На возеры асцерагайцеся. Чорт яго ведае, можа, дзе і сапраўды дрыгвяніста. І такіх азёр у гэтай пушчы хапае. Дык вы

роўненька, адсюль і туды. Зараз зусім стане цёмна, дык не марудзьце, дарога не лёгкая... Ага, ледзь не забыўся. Вось, вазьміце. Вада яшчэ дужа халодная, выйдзеце на бераг — пагрэецеся...

Дубровіч сунуў у кішэню палкоўніка недапітую бутэльку каньяку, на момант прыгарнуў яго да сябе, павярнуўся і знік за густымі ялінкамі.

* * *

Адшукаўшы Сіўцова, Дубровіч уладкаваўся на тоўстым паваленым дрэве сярод яшчэ зялёных духмяных калючых лап, ціха спытаў:

— Далёка яны?

— Немцы? Далекавата. Чамусьці не дужа спяшаюцца. Самі фрыцы даўно спыніліся, залеглі на перашыйку ад вады да вады, паставілі кулямёты. Цяпер ідуць толькі г э т ы я. Асцярожна ідуць. Наперадзе — разведка, чалавек адзінаццаць. Вядзе афіцэр. А потым ужо, мо за паўкіламетра, цягнуцца яшчэ чалавек сто, а можа, троху і больш, таксама т а к і х. Ракеты паляць. І немцы, і г э т ы я. Пад нагамі шышкі можна збіраць...

— А ты чаго лезеш пад самы іх нос? — папракнуў Дубровіч.

— Ды так, цікава, — сумеўся Павел. — Па-руску гавораць...

— Ціш-ш-ш, — паклаўшы руку на плячо разведчыку, насцеражыўся камбрыг. Не дужа далёка, за купчастымі ялінамі, пачуўся ціхі плёскат вады, нібы гульнула ладная рыбіна. Нехта прыглушана мацюкнуўся, і зноў стала ціха, нібы чорная вада, зарослая рагозам і цінай, імгненна праглынула ўсіх, хто наважыўся патрывожыць яе адвечны спакой.

— Нашы «купаюцца», — ціхенька засмяяўся Сіўцоў. — Ох і неахвотна ў ваду лезуць! Яна ж яшчэ халодная... Але малайцы, ціха зашыліся. Навучыліся балоты мераць.

Недалёка, метраў, можа, за дзвесце, раздаўся кароткі сухі стрэл, над вострымі вяршынямі старых ялін павісла, паволі разгараючыся, зялёная ракета. Дубровіч імгненна кульнуўся з дрэва на зямлю, лёг побач з Сіўцовым:

— Ты там каго-небудзь...

— Пакінуў, — перахапіў Сіўцоў. — Галіулін там і Бурцаў. Ды вунь яны, сюды паўзуць. — Сіўцоў хуценька стаў на калені, лодачкай склаў далоні, і ў цішыні прагучала пакрэктванне патрывожанай качкі. Тыя двое, што паўзлі сярод рослых папаратнікаў, на імгненне замерлі, потым папаўзлі да завалу больш весела.

Ракета раптам патухла, як быцца нехта там, у небе, намацаў кнопку выключальніка, і наўкол стала так цёмна, нібы ўся зямля праваліласа ў тартарары.

— Бурцаў, ты? — прыўзняўшыся на локці, ціха паклікаў Сіўцоў.

— Ды я, — азваўся Бурцаў. — Залез у нешта калючае, морду абдзёр... Ты адзін? Рыхтуйся, уласаўцы побач.

Уперадзе зноў суха трэснула, ужо значна бліжэй, узвілася, павісла ў чорным небе ракета, і на гладкай пляцоўцы, дзе-нідзе парослай жоўтымі, як бронзавыя калоны, мачтавымі соснамі, узніклі, нібы на экране, я н ы. Адзінаццаць. Шэрыя рускія шынялі, рускія, царскіх часоў, пагоны, рускія шэрыя шапкі з какардамі. І толькі зброя ў руках не даўняя — аўтаматы ППШ.

Яшчэ сухі трэск, яшчэ ракета, другая, яшчэ, яшчэ і яшчэ. І ўсё бліжэй і бліжэй шэрыя шынялі, какарды, суровыя, халодныя рускія твары. Вось яны ўжо і зусім блізка.

Дубровіч рыўком падняўся на ногі, акінуў вачыма сваю абарону. Таксама адзінаццаць. Рускія, беларусы, татарын, узбек. Фуфайкі, кажушкі, аблавуш-

кі... Божа, а што калі яны не стануць страляць, страляць у рускіх, у гэтыя шэрыя, з дзяцінства знаёмыя, шынялі?

Гэта страшная думка, нібы агнём, апякла сэрца камбрыга. Ён рыўком расшпіліў на грудзях скуранку, вырваў з кабуры наган і, ускочыўшы на тоўсты камель забуранай ветрам яліны, здушана выдыхнуў:

— Па здрадніках Радзімы!..

* * *

Яшчэ не дагарэла ў небе ракета, а бой ужо скончыўся...

У трох кроках ад яліны, на якой усё яшчэ стаяў былы матрос Мірон Дубровіч з дымным наганам у руцэ, ляжаў малады афіцэр. Уткнуўшыся тварам у некалі родную зямлю, нібы цалаваў яе, маліў даравацъ яго хаця б цяпер, пасля смерці...

Побач пажылы, з пасівелымі скронямі фельдфебель. Раўнадушна глядзіць пустымі вачыма ў знаёмае, але, відаць, ужо даўно чужое яму неба...

Русавалосы салдат, другі... трэці...

Ракета патухла. Дубровіч саскочыў на зямлю, і ў нос, нібы з пекла, хлынулі густыя пахі гарэлага пораху...

## VII

Было далёка за поўнач, калі Дубровіч вывеў сваю невялічкую групу партызан на другі — усходні — бераг Гнілога балота, як ужо хтосьці паспеў абазваць гэта, няхай сабе і не дужа прывабнае, лясное возера.

— Сіўцоў, пералічыце людзей, — ціха, стрымліваючы цяжкія дрыжыкі, прамовіў камбрыг. — Як бы хто не адстаў...

— Усе тут, Мірон Ігнатавіч, адразу ж азваўся Сіўцоў. — Сядзяць пад дубам.

— Параненыя ёсць?

— Ды не. Бурцаў сослепу ў куст ажыны залез, морду акрывавіў, нібы яго шалёны кот падрапаў. Астатнія цэлыя. Пойдзем?

— Пачакаем... Прыляж, адпачні. Хоць і малады, ды і ты, відаць, прытаміўся...

Дубровіч стомлена прыхіліўся спінай да нізкарослай гарбатай сасны, заціх. Нецярпліва глядзеў на возера, у той бок, дзе, ведаў, была магістраль і дзе ён нешта хацеў і ўсё ніяк не мог убачыць. Там, за возерам, было ціха, чорна і мокра. Роўна шумеў дождж, ён даўно перайшоў у лівень і як быццам патушыў ракеты, што ўвесь час вольна гулялі ў небе над змрочным перашыйкам. Цяпер і тут, як і над магістраллю, было ціха, чорна і мокра.

— Чаго гэта яны прыціхлі? — расчаравана спытаў у Сіўцова Дубровіч, нібы спадзяваўся, што ён, разведчык, мог гэта ведаць.

— А чорт іх ведае. Шумелі, гарлапані... — Сіўцоў не скончыў. На захадзе, дзе, ведаў ён, была магістраль, узвіваліся адна за другой тры чырвоныя ракеты. Адразу ж грымнуў дружны артылерыйскі залп, і праз якую мінуту ўвесь перашыек, ад краю да краю, запалаў ад разрываў мін і снарадаў. Снарады, заблытаўшыся ў магутных лапах ялін, часта рваліся, не даляцеўшы да зямлі, і тысячы гарачых асколкаў, нібы іскры ад электразваркі, рэзалі чорную мокрую тканіну начы, упіваліся ў ствалы дрэў, ляцелі аж на сярэдзіну возера.

Дубровіч імгненна ажыў, падхапіўся на ногі, нібы яго падштурхнула сама зямля. Прыгнуўшыся, усім целам падаўся ўперад, і Сіўцову чамусьці здавалася, што камбрыг вось-вось рынецца да возера, кінецца ў ваду, знікне ў віхуры разрываў.

— З кім гэта яны счапіліся? — з трывогай назіраючы за камбрыгам, здзівіўся Сіўцоў. — Там жа нашых нікога няма.

— Маўчы, Пашка, — адмахнуўся Дубровіч. — Няма нашых, ёсць другія!.. Во лупяць! Так-так-так!.. Бачыш, Пашка! А я, прызнацца, ужо баяўся. Ды вось, збылося! Плялі, гады, нам пятлю, ды самі ў ёй і засіліліся!.. Помні, Пашка, гэта мы, мы з табой накінулі іх пятлю на іх жа праклятую шыю! Мы! — Дубровіч па-маладому лёгка выпрастаўся ва ўвесь свой зайздросны рост, ужо больш спакойна загадаў: — Адвядзі, сынок, хлопцаў далей ад возера. Як бы здуру яны і сюды не саданулі.

## VIII

Обер-фюрэр Ганс Шылер, пацярпеўшы сакрушальнае і такое ганебнае для яго, праслаўленага афіцэра вялікай Германіі, паражэнне на берагах Ціхай Лані, вырашыў: раней, чым развітацца з жыццём, ён «грымне дзвярыма».

Неспадзявана атрымаўшы ад брыгадэнфюрэра Баха шыфроўку, што на дапамогу Лазоўскаму гарнізону спешна ідуць два ўзмоцненыя батальёны, Шылер імгненна падумаў, што гэта сам Бог рашыў дапамагчы яму адпомсціць праклятаму «трактарысту» за яго, Шылера, знявечаны лёс.

Уладкаваўшы на самым відным месцы стала развітальнае пісьмо Герману Гімлеру, ён паклікаў сувязных і з імі паслаў строгі загад камандзірам батальёнаў: першаму, Хольцу, — неадкладна асядлаць магістраль Масква—Мінск у раёне выхаду з перашыйка, што паміж двух забалочаных азёр; другому — перашыек партызан Дубровіча, замураваць іх там і знішчыць.

Гэту самую экспромт-дыспазіцыю обер-фюрэр Ганс Шылер старанна нанёс і на сваю аператыўную карту. Не без разліку. Тлела ў душы вопытнага эсэсаўца надзея, што, няхай сабе і пасля ягонай, Шылера, смерці, трапіць карта ў рукі гестапа, а там і ў рукі больш высокіх чыноў рэйхсканцыляры. І зразумее і Гімлер, а мо і сам Гітлер, што ён, обер-фюрэр Ганс Шылер, зрабіў усё, што мог зрабіць афіцэр вермахта, які па волі Усявышняга трапіў у безвыходнае становішча...

Так думаў, на гэта спадзяваўся Ганс Шылер. Атрымалася ж зусім інакш... Відаць, па волі ўсё таго ж Усявышняга карта трапіла зусім у іншыя рукі, у рукі камбрыга Дубровіча, таго самага «трактарыста», які так перахітрыў яго, шматвопытнага эсэсаўскага палкоўніка.

Дубровіч уважліва вывучыў план эсэсаўца Шылера, падзівіўся яго хітрасці і, атрымаўшы ад Сіўцова звестку, што зусім не хітры эсэсавец Лемпер загадаў у л а с а ў ц а м гнаць партызан на магістраль, паблажліва ўсміхнуўся ў сівую бараду і, ляніва адстрэльваючыся, сам хуценька павёў за сабою «вызваленцаў» туды, дзе бравы маёр Хольц чакаў зусім не гэтае шэрае войска...

## IX

Для Эрыха Хольца, былога мюнхенскага півавара, а зараз вядомага героя фатэрланда, каваныя боты якога таптаў вуліцы Парыжа і Вены, Варшавы і Прагі, а вочы бачылі піраміды Усходу і лагодныя хвалі Міжземнага мора,

заданне обер-фюрэра Шылера, «тылавога пацука», здалося бяздарна-дробязным, нават крыху абразлівым. Яно, як бы знарок кідала цень на яго славу, балюча кранала яго кволы гонар. «Ха! Ідуць партызаны! — раздражнёна размаўляў ён сам з сабою. — Ну і што? Супраць яго, Эрыха Хольца, ішоў пад Парыжам полк фанабэрыстых французаў. Ішоў. Шпага французскага палкоўніка — вось яна! Палюбуйся, фюрэр паліцаяў. Усыпана дарагімі камянямі. Украў? Ну што вы, обер-фюрэр! Маёр Эрых Хольц, кавалер Рыцарскага крыжа, крадзяжом не займаецца. Французскі граф сам паклаў сваю шпагу да яго ног. А вы — ідуць партызаны, прэ нейкае лапцюжнае войска. Пан Ганс Шылер (прозвішча падчапіў якое!)! Маёр Эрых Хольц са страху не стане дзіравіць свой лоб. Ён спакойна падпусціць гэтага вашага генерала Хэтэзэ фон Чэтэзэ (пацукі, а клічку прыдумалі злую!) да самай магістралі, завабіць на шырокую, пілой і сякерай аголеную прыдарожную паласу і накрые шквалам агню. Кожны метр гэтай плошчы прыстраляны, міма не ляжа ніводная міна, ніводзін снарад. Апошняе слова скажуць кулямёты і аўтаматы. Іх у яго, маёра Хольца, таксама хапае...»

Хольц выслаў у лес, на перашыек, разведку, пусціў па магістралі ў розныя бакі два танкі, пабываў на сваіх батарэях, зазірнуў у акопы і, добра павячэраўшы, улёгся на голым ложку ў чысценькай хаце, якая, відаць, належала дарожнаму майстру і таму ўцалела за час гэтай дзікай партызанскай вайны.

«Дзівакі! — паміж глыткамі шнапсу працягваў ён пацяшацца над «тылавымі пацукамі». — І чаму яны, гэтыя рознакаліберныя фюрэры, так баяцца нейкіх партызан? Вунь, гэты Шылер, кажуць, застрэліўся! Не вынесла, бачыце, тонкая фюрэрская душа абразы: пашкуматаў барадаты трактарыст. Дурань, хоць і фюрэр. Каго не шкуматае вайна? Вунь ён сам, маёр Хольц, кавалер Рыцарскага крыжа, са Сталінградскага катла выскачыў, бы той Д'Артаньян, з французскай шпагай у руках. Без свайго палка, нават ардынарца страціў...»

Хольц раптам паморшчыўся, злосна плюнуў, кінуў у печку недакураную цыгарэту. Чортаў Сталінград! Успомніўся зусім недарэчы. У Сталінградскім «катле» ён, праслаўлены герой фатэрланда, добра ашпарыў пяткі. Трыбунальцы дагналі яго ўжо на беразе Чорнага мора і пасадзілі на лаву падсудных. І сам нямецкі «гот» не змог бы дапамагчы свайму адважнаму сыну, калі б... калі б не фельдмаршал Паўлюс. Выручыў! Узяў і здаўся рускім. Разам са сваім штабам. Разам з камандзірамі дывізій, карпусоў, брыгад, разам з сотнямі тысяч іншай вайсковай драбязы.

Здаўся фельдмаршал. Здаліся генералы. А ён, маёр Хольц, не здаўся. Біўся да апошняга салдата. Нават ардынарца страціў. Ну а потым... што, паны суддзі, было рабіць яму потым? Вырваўся, каб зноў пайсці на Маскву. А то і далей, да Урала.

Гэтыя факты і довады здаліся суду слушнымі, і Хольца не расстралялі. Нават не разжалавалі, не пазбавілі ўзнагарод. Яго зноў кінулі ў акопы, цяпер пад Віцебск. Замест палка далі батальён і папярэдзілі: адпачні, герой, ачомайся і дуй на Маскву. А не...

З-пад Віцебска, які, як і той Сталінград, ужо быў акружаны рускімі, Хольц не ўцёк. Яго разам з батальёнам, цяпер ужо асобым, узмоцненым танкавай ротай, артылерыйскім дывізіёнам і дзвюма мінамётнымі батарэямі, перадалі нейкаму паліцай-генералу Баху (чорт вазьмі, адзін — Шылер, другі — Бах!). А гэты Бах кінуў апальнага маёра біць партызан.

«Ну, што ж, біць дык біць. Каго б там ні было, абы ў імя вялікай Германіі. Хольцу не прывыкаць. І тут ён пакажа гэтым ваякам слаўнага нямецкага тылу, хто ён, маёр Хольц, і як умее ваяваць сапраўдны нямецкі афіцэр».

Ад такой бадзёрай думкі на сэрцы ў маёра Хольца зноў стала хораша. Ён дастаў з-пад стала бутэльку, адшукаў на стале штопар. І тут яркая ўспышка маланкі асвяціла вокны хаты, бабахнуў пярун, ды так, што хата захісталася і на стале замітусіўся язычок полымя свечкі.

«Э-э-э, швах! Навальніца. Ды яшчэ ліне дождж, — занепакоіўся маёр. Прыслухаўся, махнуў рукой: — Напляваць. Снарады ды кулі дажджу не вельмі баяцца. Каго трэба — знойдуць».

— Пан маёр, партызаны!

Хольц няспешна вярнуў на стол бутэльку, азірнуўся на голас. На парозе ў мокрай стракатай плашч-палатцы стаяў маладзенькі лейтэнант, камандзір узвода разведкі.

— Дзе? — раўнадушна пацікавіўся маёр.

— Тут. Я сядзеў за шашой у кустах і добра чуў рускія галасы.

— Што гаварылі?

— Я... я не разумею па...

— Швах. Разведчык павінен разумець.

Накінуўшы на шырокія плечы плашч, маёр узяў аўтамат і следам за лейтэнантам выйшаў з хаты.

Ліў дождж, маланкі паласавалі чорнае неба. За шашой на імгненне ўзнікалі і тут жа зноў гінулі ў цемры вострыя верхавіны ялін.

Спыніўшыся пад разлогай старой яблыняй, буйная квецень якой свяцілася нават у цемры, Хольц каротка спытаў:

— Дзе?

— Тут, — высунуўшы галаву з-пад нізкай белай галіны, зашаптаў кулямётчык, які ўладкаваўся пад яблыняй. — Яны толькі што...

— ...Тваю маць! Ну дзе ж яны, дзе? Не скрозь зямлю ж яны праваліліся? Шпунт! Ты ж першы ішоў!

— Пад вываратнем застаўся твой Шпунт!

— Чуеце? — ціха шапнуў лейтэнант. — Яны, рускія...

Маёр холадна ўсміхнуўся, намацаў ракетніцу, і адна за другой тры чырвоныя ракеты прадзіравілі чорнае неба. І ў адну нейкую кароценькую хвіліну і блізкі лес, і шырокую прасеку перад ім, і гладкі шэры асфальт магістралі, густа заляпаны фіялетавымі маслянымі плямамі, заліло мора агню. У небе гарэлі дзесяткі ракет, вогненны вал ад шматлікіх разрываў мін і снарадаў то накатваўся на чорную сцяну лесу, то, нібы адштурхнуты ім, паволі сунуўся назад да магістралі. То на хвіліну прыпыняўся, цяжка тупаў на месцы, нібы вырашаючы, куды падацца далей, і з новай сілай кідаўся на лес, ламаў векавыя дрэвы, шпурляў у акрываўленае неба з карэннем вырваныя пні. Сарваўшы з плячэй плашч і кінуўшы яго на рукі ардынарцу, Хольц выбег на асветлены асфальт, адну за другой паслаў у бок лесу яшчэ дзве чырвоныя ракеты, і ўсё ў тым жа дзікім экстазе глядзеў, як мітусяцца ў крывавым моры агню ахопленыя жахам шэрыя здані. Яны то кідаюцца на зямлю, то запаўзаюць за пні, але паратунку няма нідзе. Нарэшце, інстынктыўна зразумеўшы, што збавенне ўперадзе, усе, хто яшчэ ўцалеў, кінуліся да магістралі. Хольц задаволена ашчэрыў зубы, узняў над галавой ракетніцу і пусціў у неба белую ракету. І адразу ж, нібы сотні фантастычных швейных машынак, застракаталі кулямёты і аўтаматы, і тысячы вогненных ніцей пераплячіся паміж сабою, сплялі свінцова-фосфарны саван усім, хто яшчэ варушыўся на гэтым разварочаным, знявечаным лапіку зямлі.

Роўна праз паўгадзіны, калі ні на асфальце, ні на прасецы, ні сярод дрэў недалёкага лесу ўжо ніхто не варушыўся, Хольц выпусціў у неба дзве зялёныя ракеты, і цяпер вогненны смерч паслухмяна і грозна рынуўся ў глыбіню вузкага перашыйка паміж двух азёр...

Маёр неахвотна схаваў ракетніцу, узяў з рук ардынарца свой плашч. Ён толькі цяпер заўважыў, што стаіць на асветленым ракетамі асфальце, на месцы, адкрытым для кожнае кулі, і, неахвотна павярнуўшыся спінай да лесу, няспешнай хадою пайшоў да адзінокага доміка. Усё. Тое, што не паспеў знішчыць ён, маёр Хольц, няхай дабіваюць яны, карнікі. Гэта іх прафесія. Ім, тылавым пацукам, таксама трэба трошачку славы. А ён, маёр Хольц, усё зрабіў. Рускія не прайшлі. Заўтра яго імя зноў загуляе на старонках франтавых газет, прагучыць у многіх высокіх штабах, дойдзе да Берліна, і стане маёр Эрых Хольц зноў Эрыхам Хольцам, героем вялікай Германіі.

«Зээр гут, маёр Хольц! — пахваліў сябя сам маёр і сеў за стол. — Памянем ляснога «генерала фон Чэтээ». Ды заадно і небараку Шылера».

* * *

...Святкуе маёр Хольц!..

А там, на перашыйку, паміж двух азёр, сярод агню і смярдзючага парахавога дыму, у дзікім шаленстве шчэрыць зубы другі маёр:

— Майн гот! Што робяць! Што, вар'яты, робяць! — шыпіць ён у бяссільнай лютасці. — С-сваіх, н-нішчыць с-сваіх! Яны зараз пераб'юць не толькі італьянцаў і гэтых паршывых «вызваліцеляў», а знішчаць і мой батальён!..

Маёр плюхнуўся на тоўсты камель паваленай віхурай яліны, дзе так нядаўна сядзеў Дубровіч, злосна вылаяўся:

— Які чорт занёс мяне ў гэта пекла? — скрыгатаў ён зубамі. — Навошта я кінуў сваю абарону і ўчапіўся за хвост гэтых рускіх «вызваленцаў»? Пабаяўся, што ўся слава за разгром партызан застанецца ім ды гэтаму прыблудзе Хольцу? Ну дык цяпер і давіся гэтай славай!

Чарговы снарад лёг дужа блізка, у твар дыхнула смерцю.

— Звар'яцелі! Так біць па сваіх! Ну пачакай жа, рыцар!..

Сцяўшы зубы, маёр Лемпер рыўком устае, кідаецца да сваіх мінамётаў. Ён, маёр Лемпер, таксама ў арміі фюрэра не на апошнім рахунку, і на яго ботах пыл многіх ваенных дарог. А калісьці, тады яшчэ сяржант, быў ён лепшым у палку мінамётчыкам: паспрачаўшыся, паклаў міну ў салдацкі кацялок, пастаўлены за кіламетр на белым абрусе. І таму не дзіва, што першая ж, цяпер пушчаная ім міна, адразу намацала цэль.

Ды толькі поспех яго там, за асфальтам, не выклікаў апладысментаў. Батарэя Хольца, якой ён, Лемпер, нанёс шкоду, ад злосці і сапраўды звар'яцела. Зрэзаныя снарадамі, валіліся долу векавыя дрэвы, нявечылі і душылі тых, каго яшчэ не скасілі асколкі. Ад прамога пападання перакуліўся мінамёт, за ім — другі. Усё навокал застагнала, завыла, нібы разам са знявечанымі людзьмі застагналі знявечаныя дрэвы, застагнала сама зямля.

Запоўзшы пад вываратань, у залітую вадою глыбокую яму, Лемпер сціснуў бруднымі рукамі скроні і завыў сам:

— Ратавацца!.. Трэба ратавацца!..

— Бяжым назад, пан маёр, на сваю пазіцыю, — усхліпнуў маладзенькі ардынарац, які ні на крок не адставаў ад свайго камандзіра, спадзеючыся ўратавацца за яго шырокай спінай.

— Маўчы. Бяжы знайдзі начальніка штаба, скажы, няхай бярэ камандаванне батальёнам на сябе.

— А... а вы?

— Бяжы! — гаркнуў маёр і, усхапіўшыся на ногі, кінуўся ў самую кіпень разрываў.

...Ён, мусіць, нарадзіўся ў кашулі, бо праз паўгадзіны ўжо быў у хаце дарожнага майстра, трымаючы за каўнер вартавога, які паспрабаваў яго сюды не пусціць.

— Ттты к-к-камандзір?! — сціскаючы ў правай руцэ пісталет, у левай каўнер адурэлага ад страху салдата, прахрыпеў маёр Лемпер, падступаючы да ложка, на якім раскінуўся маёр Хольц. — Пытаюся ў апошні раз: ты — камандзір?!

— Ну дапусцім, — пагладзіўшы аўтамат, суха адказаў Хольц. — Што далей? — Яго, франтавіка Хольца, балюча шкрабанула гэтае пагардлівае «ты», а яшчэ больш раздражняла нязвыклая, якаясьці кампраметуючая баявога афіцэра чорная форма з адзіным белым кручаным пагонам на плячы.

А ён, эсэсавец Лемпер, у гэту хвіліну ўсімі фібрамі душы ненавідзеў яго, «акопную вош», ненавідзеў яго Рыцарскі крыж, яго мышынага колеру замурзаны кіцель.

— Ггад! — ужо не маючы сілы хоць троху стрымлівацца, выдыхнуў Лемпер. — Ты ведаеш, каго ты расстрэльваеш?

— Рускіх. Рускіх партызан, — спакойна азваўся Хольц, з насмешкай і пагардай пазіраючы на раз'ятранага эсэсаўца. — Б'ю войска ляснога генерала фон Трактарыста, які, чуў, вось ужо тры гады калашмаціць вас.

— Ты знішчыў батальён нашых саюзнікаў-італьянцаў, паклаў роту эрвэа! А цяпер нішчыш салдат вермахта, мой батальён. Ды я... — Рука Лемпера, у якой ён трымаў пісталет, нервова заварушылася.

— Сядай, маёр, — раптам зразумеўшы, што і сапраўды здарылася нешта нядобрае, зусім іншым тонам прамовіў Хольц. — І гавары цішэй. Так да мяне лепш даходзіць.

Лемпер сеў. Магутнае цела яго ўсё яшчэ канвульсіўна ўздрыгвала. Убачыўшы на стале бутэльку, схапіў яе, напоўніў шклянку і залпам выпіў.

— Во, гэта па-нашаму, — пахваліў Хольц, і яго светла-шэрыя, як студзеньскі лёд, вочы крыху пацяплелі. Лемпер адвярнуўся, дрыжачай рукой запіхнуў у кабуру пісталет, глуха прамовіў:

— Прабач... — Крыху памаўчаўшы, спытаў: — Дзе партызаны?

— А вось гэта, маёр, трэба спытаць у цябе. Мне добра вядома, што табе загадалі гнаць партызан на шашу. А мне тут іх сустрэць і знішчыць, а хто ўцалее — адкінуць пад ваш агонь.

— А па кім жа тады ты страляў?

— Па рускіх. Я сам выдатна чуў рускую мову. Цяпер табе ўсё зразумела?

— Але ж салдаты вызваленчай арміі — таксама рускія!

— А пляваць я хацеў на вашу вызваленчую армію, — з пагардай кінуў Хольц. — Мне загадалі біць рускіх. І я іх біў. Ніводзін з рускіх шашы не перайшоў. Значыць, загад я выканаў.

Хольц паклаў на ложак аўтамат, прыхіліўся спінай да сцяны і дэманстратыўна выставіў напаказ багаты набор ордэнаў.

Лемпер апусціў вочы, доўга маўчаў, потым, ударыўшы ў адчаі кулаком па калене, ціха, выгукнуў:

— Якая трагедыя!.. Якая страшная, дзікая трагедыя!..

— Уся наша вайна — трагедыя, пан маёр. Уся.

— Што будзем рабіць?

— Ваяваць. Да пераможнага канца.

— Я не пра гэта... Зараз што нам рабіць?

— А вось гэта справа іншая. — Хольц зручней уладкаваўся на ложку, проста з бутэлькі глынуў каньяку, нахіліўся бліжэй да эсэсаўца, ціха загаварыў: — Калі хочаш маёй парады, слухай уважліва. Нам трэба зараз жа, чуеш,

зараз жа стварыць спецкаманду. З тваіх салдат. Чаму з тваіх? Чуў, што ў эсэсаўцаў языкі прывязаны лепш, чым у салдат-акопнікаў. Дык вось: зараз жа неабходна стварыць каманду і падабраць усіх забітых і параненых. Забітыя ўжо ніколі нікому нічога не скажуць. Параненыя... адкуль яны ведаюць, хто ў гэтым чорна-вогненным пекле іх параніў? Гналі ў цемры партызан. Наскочылі на іх засаду. Ты мяне разумееш? Тады слухай далей. Нашых параненых, немцаў і італьянцаў, зараз жа адправім у палявы санбат. Машыны ў мяне ёсць. Забітых — нашых забітых! — адвязём у горад і, як герояў, пахаваем. Забітых італьянцаў і гэтых... вызваленцаў закапаем тут. Распранём, вопратку абальём бензінам і спалім. Голыя трупы — у яму. Гэта і будуць знішчаныя партызаны. Голыя — усе аднолькавыя, глядзі, гадай, хто тут рускі, а хто — італьянец.

— Але ж вызваленцы загінулі не ўсе? — асцярожна напомніў Лемпер.

— Зробім мёртвымі. А там, дзе трэба, скажам, што рускія здрадзілі, далучыліся да партызан і зніклі, відаць, захлынуліся ў балотах разам з недабітымі лясньімі бандытамі. Кропка.

Маёр Лемпер доўга глядзеў на маёра Хольца, потым напоўніў яшчэ адну шклянку. Цяпер яму ўжо здавалася, што лепшага сябра на гэтай з'ехаўшай з глузду зямлі ў яго няма, не было і не будзе...

## *Раздзел трэці*

# СТАРАСТА І БУРГАМІСТР

### I

Рашэнне пакінуць Высокую выспу было прынята, усё, што магло спатрэбіцца ў дарозе, ляжала ў рэчмяшках, аднак Крамнёў чамусьці марудзіў.

Ужо каторую ноч, як толькі Соня клалася спаць, капітан паціху пакідаў бліндаж і шыбаваў на бераг возера пад знаёмы знявечаны дуб. Слухаў цішыню, напружана ўглядаўся ў цёмнае майскае неба. Ён быў ужо вопытны салдат і добра ведаў, што ў позні час шляхі вайны трэба шукаць... на небе. Вайна, гэты ненажэрны вогненны змей, выразна пакідае тут свой злавесны след — водсвет далёкіх і блізкіх пажараў, успышкі ад залпаў гармат, доўгія бела-зялёныя разрэзы ад трасіруючых куль і снарадаў, здзеклівa-вясёлае, святочнае разнаквецце ракет, якія немцы заўжды шчодра кідаюць у неба ад вечара і да світання. І якімі б пакручастымі, якімі б заблытанымі ні былі сцежкі вайны, іх заўсёды ўбачыш на бязмежна-шырокім экране начнога неба. Заўсёды...

Стаяла цёмная майская ноч, а на небе, як і ўчора, як і тры дні назад, апрача зорак, Крамнёў нічога не бачыў. Неба было густа-сіняе, чыстае і непарушна-спакойнае.

Ціха і спакойна было і на зямлі. І чым больш глыбокай была гэтая цішыня, тым больш трывожна рабілася на сэрцы разведчыка. Дзе яна, гэта праклятая вайна, куды падзявалася? Здаецца ж, яшчэ ўчора дыхала агнём і свінцом, і вось — анямела, затаілася.

А дзе яны, сябры-партызаны? Дзе карнікі? Разагналі «лясных бандытаў» і па сваіх гарнізонах святкуюць перамогу. О, не! Эсэсавец і наступае, і, калі сам уцалее, вяртаецца назад шумна, з натужным ровам матораў, ляскатам

гусеніц, з бязладнай стралянінай абы-куды і ў абы-каго, забівае ўсё, што яшчэ не паспеў забіць, нішчыць усё, што яшчэ не паспеў знішчыць. Шуміць! Шуміць, абы шумець, толькі б не было цішыні. Цішыні карнік баіцца, у цішыні тоіцца ягоная смерць.

У гэту ціхую, цёплую ноч, не дачакаўшыся раніцы, Крамнёў, безнадзейна махнуўшы рукою, пакінуў свой пост. Хопіць. Трэба ісці. Ісці хоць куды, але больш не сядзець на гэтай знявечанай выспе. Вялікае партызанскае войска — не іголка ў стозе сена, дзесьці, калі шукаць, знойдзеш...

## II

Яны ішлі ўжо трэція суткі, і трэція суткі нідзе не сустрэлі ні душы. Зямля нібы вымерла, нібыта пранёсся па ёй шалёны смерч, які знішчыў не толькі ўсё жывое, але нідзе не пакінуў і мёртвых.

Спачатку, баючыся наскочыць на засаду, Крамнёў выбіраў мясціны глухія, абмінаў кожны населены пункт, кожны хутар ці леснічоўку. Потым усё тая ж трывога пацягнула яго да чалавечага жытла. Дзе яны, людзі? Куды падзяваліся? Не скрозь зямлю ж усе праваліліся! І, адшукаўшы на карце-двухвёрстцы невялікую вёску, вырашыў пранікнуць туды.

Гэту вёску з дзіўнай назвай Бабцы капітан ужо троху ведаў. Аднойчы, яшчэ да вайны, занёс яго сюды чорт у пошуках рыбацкага шчасця. Сам бы ён, відаць, не трапіў сюды ніколі, калі б не стары рыбак Рыгор Вайцёнак, які ведаў кожнае азярцо і кожную рачулку на сто вёрст наўкол і які быў упэўнены: чым далей ад родных мясцін азярцо ці рачулка, тым большы шанц знайсці там самыя неверагодныя рыбацкія прыгоды.

Прыгод яны тады і сапраўды знайшлі тут нямала, ледзь выбраліся з лабірынта гнілабокіх рачулак, «старыкоў», крыніц і крынічак, што спляліся, пераблыталіся паміж сабою на зарослых лазою бяскрайніх мокрых лугах, і дзе нельга было разабраць, адкуль што выцякае, куды ўпадае.

Ну, а рыба... рыбу на юшку далі вясковыя хлапчукі, што сваімі штанамі лавілі печкуроў у нейкай праточнай канаве...

Трапіў ён сюды і яшчэ раз, але ўжо не з вудай, а з аўтаматам у руках. Трапіў з групай разведчыкаў, калі шукаў «шчыліну», праз якую можна было б праціснуцца цэлай брыгадзе, выйсці з фашысцкай блакады.

...Ці мала вёсак пабачыў Крамнёў-журналіст, Крамнёў-пісьменнік, нарэшце, Крамнёў-разведчык за 25 год свайго жыцця, а ці многія з іх засталіся ў памяці? А вось Бабцы...

Цікавая вёска Бабцы! Хаты — у адну шарэнгу, нібы салдаты на вячэрняй паверцы, усе — пад гонтай, усе — з таўшчэзных сасновых бярвенняў, усе — вокнамі на раку, глухой сцяной — на багатыя сады і агароды, на цёмна-сіні, амаль чорны стары бор, які стаяў тут жа, за садамі і агародамі.

Адгароджаныя ад усяго свету ракой і гэтым старым чысценькім борам, які, ведаў Крамнёў, неўзабаве зліваўся з глухой пушчай, Бабцы жылі сваім асобым і, калі верыць легендзе, незвычайным жыццём. Казалі, што калісьці даўно, адразу ж пасля Напалеона, у гэтым месцы пасяліліся ўдовы салдат, што загінулі ў бойцы з французамі. Надзяліў іх зямлёю і хатамі багаты мясцовы князь, кутузаўскі генерал. Вось з таго часу на беразе Ціхай Лані, у глухім куточку беларускай зямлі, і адрадзіўся... матрыярхат. Жанчыны, гаспадыні добрых хат і багатых надзелаў, самі выбіралі сабе мужыкоў, і ні адна дзяўчына не мела права выходзіць замуж у чужую вёску. А «лішнія» бабцоўскія хлопцы заставаліся «парабкамі» ці ішлі, куды вочы глядзяць. Трухлела ці гарэла чыя-

небудзь хата — тут жа ставілі новую, такую ж, як і была, і вёска адвеку мела нязменны, аднойчы дадзены выгляд.

Мо гэта і казка, толькі, як сцвярджаў стары Вайцёнак, у Бабцах заўсёды ўсім кіравалі бабы. І нават у калгасны час ніводзін мужчына ніколі не мог трапіць хоць на якую кіруючую пасаду. Прывезлі неяк з раёна кандыдата ў старшыні калгаса, дык за яго падтрымку на агульным сходзе не ўзнялася ні адна рука, нават мужчынская.

Успомніўшы цяпер усё гэта, Крамнёў скупа ўсміхнуўся: ад такіх крутых кабет даведаешся не многа. Ды мяняць адрас было позна, на выбраным шляху вёсак больш не было, і ён, зняўшы з плячэй цяжкі ранец, ад якога за вярсту патыхала вяленай рыбай, аб'явіў:

— Вось што, Соня, чакай мяне тут. А я пайду гляну, што там робіцца.

— А чаму адзін?

— Я хутка. Хутчэй за ўсё — вёска пустая. Чуеш, нават сабакі маўчаць.

Ён збочыў бліжэй да ракі, на гладкую, але ўжо ўтравелую дарогу. Трава была высокая, кволая, ацяжараная расой і нікім не кранутая. Людзі, відаць, даўно абміналі гэту дарогу, а можа, і не было ўжо каму яе кратаць.

Днела, але сонца ўсё яшчэ марудзіла, сядзела дзесьці ў бары, заблытаўшыся ў сасновых лапах. Над ракой, шырокай і гладкай, як стылы асфальт, ляжаў малочна-белы туман, і быў ён вельмі падобны на вялізныя ахапкі ваты. Часам, калі аднекуль з-за ракі, з неабсяжных лугоў, набягаў слабы ветрык, гэтыя цяжкія груды ваты пачыналі ляніва варушыцца, паціху навальваліся на бераг, і тады магутныя сосны імгненна па пояс пагружаліся ў густую зыбкую бель, а разам з імі па самую шыю пагружаўся туды ж і капітан Крамнёў. Ён нават трошку баяўся, што гэта прыкрая вільготная слота праглыне яго цалкам, і тады ўжо не будзе ведаць, куды ставіць нагу, каб не апынуцца ў рацэ.

Нечакана з туману проста перад яго носам вытыркнуўся высокі белы крыж з прыбітым да яго даматканым ручніком. Крыж як быццам ціха хістаўся, нібы яго нехта нёс на плячах, і Васіль міжволі саступіў з дарогі. Крыж таксама замёр на месцы, бездапаможна павіслі вышываныя ражкі ручніка, і Крамнёў чартыхнуўся. Колькі разоў на ваенных дарогах трапляліся яму вось такія ж крыжы, крыжы-абаронцы, наіўная надзея гаротных людзей на збавенне, на літасць праклятага ворага, на абарону Усявышняга.

З-за ракі зноў наляцеў густы халодны вецер, і касмыкаваты туман, нібы гурт пародзістых авечак, над якім нехта кінуў у неба чорную шапку, спалохана шугануў у глыбіню бору, і Васіль убачыў вёску.

Цалюткія стаялі Бабцы. Дваццать восем хат, адна ў адну, спакойна глядзеліся ў люстраную гладзь соннай ракі, буйна цвілі сады, і за садамі аж да самага бору густа зелянела рослая збажына, ні то жыта, ні то поле пшаніцы, — здалёк разглядзець было цяжка.

А вось людзей... людзей нідзе не было. Пуста было на вуліцы, пуста і ціха.

Пераходзячы ад сасны да сасны, Васіль асцярожна падкраўся да самае крайняе хаты. Хата не новая, але, як і ўсе іншыя, добрая, крэпкая. Жоўтае, нібы адлітае з бронзы, бярвенне абсыпана бурштынавымі кроплямі ўжо застарэлай смалы. Даволі вялікія — не «вясковыя» — вокны, глуха занавешаныя белымі вышыванымі фіранкамі. Пад вокнамі акуратна дагледжаныя кусты бэзу. Цяжкія, мокрыя ад расы, цёмна-фіялетавыя султаны велічна павіслі над нізенькай агароджай, над клумбай бялюткіх нарцысаў.

Стараючыся не псаваць кветкі, Крамнёў пераступіў агароджу, хаваючыся за кустамі, абышоў хату і непрыкметна апынуўся на заднім двары.

Ля расчыненых дзвярэй хлеўчука стаяла сухое карыта, у якім некалі кармілі свіней. Пад паветкай, на дашчатай сцяне, віселі граблі і розвіны, у якіх носяць з лугоў для цялят маладую канюшыну. Але ні свіней, ні цялят, ні хоць нейкай там іншай жыўнасці чуваць не было. Стаяў наросхрыст расчынены кароўнік, у якім на запыленай бэльцы сядзела пара натапыраных вераб'ёў ды варожа глядзела на чалавека, які невядома адкуль тут узяўся, адарваў іх ад важных клопатаў. І ў сені хаты дзверы былі расчынены, а на чыстым жоўтым ганку, скруціўшыся кілбасой, соладка драмаў сыты, тоўсты вуж.

Крамнёў нагой спіхнуў вужа долу, увайшоў у хату. На круглым — «фабрычным» — стале ляжаў прыгожы даматканы абрус. Справа, ля акна, стаяў «дзявочы» — таксама «фабрычны» — ложак, засланы багатай самаробнай посцілкай і з цэлай гарой пышных падушак. На фарбаванай падлозе, ад парога і да стала, ляжала цёмна-вішнёвая «дарожка», і гэта — «фабрычнай» работы. І толькі ў невялічкай бакоўцы, адгароджанай ад «чыстай» палавіны хаты дашчатай перагародкай, без акна і дзвярэй парадку не было. Вузкі жалезны ложак быў непрыбраны, каля яго, на падлозе, валялася заношаная жаночая бялізна, а ўвесь гэты змрочны закутак поўніўся густымі пахамі камфары і карболкі. Крамнёў ужо хацеў выйсці з бакоўкі, як раптам убачыў на памятай падушцы якуюсьці паперку. Відаць, пакінулі дзеля таго, каб кожны, хто зойдзе сюды, абавязкова яе ўбачыў.

Крамнёў вярнуўся да ложка. На аркушы, вырваным з вучнёўскага сшытка, вялікімі літарамі было выведзена адно слова: «ТЫФУС». Унізе пад гэтым злавесным чорным словам злавесна шчэрыў зубы нязграбна намаляваны чалавечы чэрап, перакрыжаваны касцямі. Чэрап, як і літары, быў чорны, а косці чамусьці — ярка-ружовыя.

Капітан здзіўлена пацепаў плячыма. Тады, мо болей за месяц, калі ён быў тут з разведгрупай, пра нейкі «тыфус» у вёсцы, як кажуць, не было ні слыху, ні духу. У тую вясёлую красавіцкую ноч бабцоўскія маладзіцы, радыя прыходу маладых статных «рэгулярнікаў», разагрэтыя чаркай наліўкі і патаемнымі надзеямі на нешта большае, гнулі мажнымі нагамі масніцы, па-заліхвацку ляскалі крутымі абцасамі туфель, што для такога выпадку дасталі з надзейных схованчаў.

І вось на табе! «Тыфус». Канчаткова збіты з толку, Крамнёў доўга круціў у руках чорны чэрап і ружовыя косці, нарэшце паклаў усё гэта на месца і выйшаў з хаты на вуліцу.

Туман знік зусім, вада ў рацэ стала пяшчотна-блакітнай, а сарока на старой вішні зусім ашалела. Нібы стараючыся яе ўтаймаваць, аднекуль зблізку далятаў раздражнёны голас:

— Кк-р-у-к! Кк-р-у-к! Кк-р-у-к!

«Ну і хрэн з табой, што ты — «крук», — усміхнуўся Крамнёў. — Ты бурчыш, а яна дражніцца». — Ён прыпыніўся, пашукаў вачыма змрочную птушку. Але ўбачыў толькі чубок старых бяроз на недалёкім пагорку, а сярод гэтых рэдкіх бяроз — некалькі новых белых крыжоў.

«Э-э-э, ды тут і сапраўды здарылася нешта нядобрае», — убачыўшы крыжы, захваляваўся Крамнёў. Ён яшчэ раз абвёў доўгім позіркам вёску, пустую вуліцу, квітнеючыя, быццам густа намыленыя, сады і, адшукаўшы веснічкі, праз чыйсці сад, наўпрост, цераз агароды і поле збажыны, пашыбаваў да старых бяроз і крыжоў на пагорку.

Тут, на гэтым адзінокім пагорку, быў вясковы могільнік, старанна дагледжаны, абнесены трывалай жалезнай агароджай. Вёска была невялікая, стаяла далёка ад іншых, і магіл тут было не многа. Таму новыя крыжы і бугаркі свежай зямлі адразу ж кінуліся ў вочы Крамнёву. Іх, гэтых свежых магіл, было

пятнаццаць. Як і хаты ў вёсцы, яны стаялі строга ў адну шарэнгу, убаку ад старых магіл, і — былі «голыя»: ні помнікаў, ні агародж, ні вянкоў, ні хаця б якога надпісу. Толькі на кожнай — смалісты крыж, а на бугарку свежай зямлі — ці галінка бэзу, ці завялы букецік лугавых кветак.

Крамнёў доўга глядзеў на гэты дзіўны «парад» сасновых крыжоў, такі нязвыклы для вясковых могільнікаў, і ў галаву лезла думка, якая зусім не стасавалася з тым, што ён бачыў перад сабою. Нейкімі несур'ёзнымі здаліся яму і крыжы, і магілы, і завялыя букецікі кветак. Асабліва гэты «парад» крыжоў.

«Такое — у час эпідэміі? — ламаў галаву капітан. — Ну, братцы...»

І, ужо не асцерагаючыся, па добрай палявой дарозе ён падаўся назад, у Бабцы. Пайшоў ад хаты да хаты, і ўсюды яго сустракаў той жа плакацік, відавочна, створаны адной і той жа рукой: «ТЫФУС». І тыя ж ашчэраныя чорныя зубы, і тыя ж ружовыя косці.

«Ну, братцы, ці вы, ці мо я... але нешта тут не тое!» — заклапочана ламаў галаву Крамнёў і, згубіўшы ўсялякую надзею разгадаць гэты рэбус, падняўся на высокі чысценькі ганак апошняе хаты.

Гэту хату Крамнёў запомніў добра. Тут, мо месяц назад, «балявала» іх разведгрупа, тут мучыла «хромку» прыгажуня Гэлька Шаблюк, калгасны старшыня, гаспадар гэтае хаты, «саломенная ўдава», ад якой, як шапталі кабеты на вуха разведчыкам, толькі што некуды збег чалавек, мужчына не Казанова, але майстар на ўсе рукі, і не толькі.

Дзверы хаты Шаблюкоў, азначаныя ўсё тым жа кляймом «ТЫФУС», былі не зачыненыя, і Крамнёў, пераступіўшы парог, прысеў на шырокую лаву, вырашаючы, куды падацца далей.

І тут, у «старшынёўскай» хаце, якая калісьці так сардэчна сустрэла «сваіх», «рэгулярнікаў», таксама панаваў адмысловы парадак. Нішто не кранула чужая рука. Нават прыбавілася нешта новае, чаго ён, капітан Крамнёў, не прыкмеціў той памятнай красавіцкай ноччу. У «чырвоным кутку», дзе быў тады партрэт Леніна, вісела... ікона. Гэта адкрыццё здзівіла яго больш, чым «парад» крыжоў на вясковым могільніку. Хуценька падышоў да стала, каб лепш разгледзець, якому богу зараз моліцца бязбожніца Гэлька Шаблюк. Доўгі, шырокі ручнік надзейна хаваў пад сабою ікону, і Васіль асцярожна тупым дулам аўтамата прыўзняў край ручніка.

З просценькай незашклёнай рамкі на яго з журбой і дакорам зірнуў... Дастаеўскі.

Васіль плюхнуўся на лаву і зарагатаў.

— Цырк! — захапляўся ён, задыхаючыся. — Цырк на дроце! Ад гэтай Шаблючыхі здохнуць можна!..

— Яно, братка, так, яно так.

Васіль крута павярнуўся на голас. У дзвярах бакоўкі, без штаноў, у доўгай жаноцкай сарочцы, якая закрывала яму ногі да пят, стаяў незайздроснага росту чалавек з рэдзенькай русай бародкай. Гэта быў камічны гібрыд двух знакамітых літаратурных герояў адразу: гогалеўскага Шпонькі і шолахаўскага дзеда Шчукара. Толькі вось гэты Шпонька-Шчукар, як шапталі суседкі, уладу сваёй прыгажуні жонкі, якую прызнавалі ўсе ў Бабцах, прызнаваць не хацеў і ваяваў з ёю, як толькі мог. Спачатку стараўся дагадзіць, потым пачаў ратавацца. Ашалеўшы ад незаслужаных папрокаў, што ўшчэнт нішчылі яго мужчынскую годнасць і якую ахвотна прызнавалі суседкі, хапаў вуду, бохан хлеба і скрозь ноч уцякаў на раку ці куды яшчэ, абы толькі далей ад Бабцоў, ад сваёй «старшыніхі». Не прыходзіў дамоў дзён гэтак пяць, пакуль не абрастаў «мохам». Тады непрыкметна вяртаўся, начы дзве-тры туліўся ў пуні, потым перабіраўся ў сені, дзе стаяў даўно выкінуты Гэлькай тапчан, а там

неўпрыкмет перабіраўся і ў хату, на Гэльчыну пуховую пярыну. І зноў ажываў. Яшчэ да сонца ляцеў на калгасны двор, рамантаваў калёсы, стругаў новыя аглоблі, шыў хамуты і сядзёлкі, вечарам браў касу і рэзгіны, прыносіў бычку і парсючку маладую канюшыну, а калі выпадала вольная гадзінка, маляваў плакаты і аб'явы для калгаснага клуба. Стараўся. А потым... Ну а потым пачыналася ўсё спачатку.

Грымнула вайна, і хоць нейкі, але ўсё ж звыклы лад жыцця разляцеўся ўшчэнт. На шчасце, ці не за дзесяць год няспынных сямейных баталій эмацыянальная парачка дзяцей прыдбаць не паспела, і лёгкі на нагу, не надта аццяжараны клопатамі Шаблюк, не сказаўшы ні слова сваёй грознай палавіне, знік, нават не прыхапіўшы і вуды. Дзе яго насіла месяц і болей, апрача яго, відаць, мала хто ведаў, ды вось...

— Няйначай сам дзядзька Шаблюк? — няўпэўнена спытаў Крамнёў. — Ці памыляюся?

— Ага, Шаблюк, — ахвотна згадзіўся чалавек на парозе бакоўкі, тут жа пацікавіўся: — А вы што, да старшыніхі?

— Ды не, зайшоў выпадкова. Даруйце.

— Ды што ты! Калі ласка, вуглоў не адкусіш. — Шаблюк сеў з Васілём побач, падміргнуў, паказаўшы ў кут: — Падабаецца? Бачыш, худзенькі, бародка рэдзенькая, як у Хрыста, і вочы — нібы ён пра людзей усяе зямлі гаруе.

— Кіньце! — усміхнуўся Крамнёў. — Ну які ж гэта Бог?

— А дзе я вазьму лепшага? Вы ж, камсамольцы, сапраўдных багоў вунь калі павыкідвалі. А сёння мне Бог вунь як патрэбны.

— Навошта?

— А для парадку. Для «новага парадку». Бачыў, немец свайго «гота» на пузе носіць. Ну а я свайго ў кут паставіў. Глядзі, фрыц, не ты адзін, а і я з Богам жыву. Ну а што гэта не зусім бог, дык хрэн твой фрыц усіх нашых багоў ведае.

— Добра, дзядзька Шаблюк, — засмяяўся Васіль і пацікавіўся: — А колькі, калі не сакрэт, вам гадоў?

— Мне? — прыжмурыўся Шаблюк і заклапочана пакратаў пальцамі сваю бародку. — Ды, мусіць, гадкі праз чатыры сорак будзе.

— Во! Дык вы ж і самі, відаць, багоў з хат выносілі? — весела прыжмурыўся Крамнёў.

— Выносіў, — гаротна ўздыхнуў Ігнат. — Але больш яна, Гэлька. Камсамолкай была. Ну і я... каб ёй дагадзіць.

— Але, — спахапіўся Васіль. — А сапраўды, дзе ваша жонка?

— А чорт яе ведае — дзе? Спачатку збег я, трэба было. Цяпер збегла яна. Ды каб хоць адна. Усё сваё бабскае кодла звяла.

— Куды?

— А хіба яна скажа? Можа, на той самы Палік, куды цяпер усе такія, як яна, бягуць. А можа, ужо і ў рай трапіла. З яе характарам гэта не доўга. Ой, і ўяўляю ж я, што цяпер у тым раі робіцца! Усе анёлы, відаць, таўкуцца каля сваіх ваенкаматаў, на фронт просяцца, каб хоць там уратавацца ад такой суседкі!

Ён гарэзліва пакруціў галавою, устаў з лаўкі, заклапочана паглядзеў на свае голыя ногі і цяжка ўздыхнуў:

— Чортава зелле! Кудысьці схавала ўсе мае шмоткі. Гэта, каб я зноў з хаты не збег. Піша, прызначаю цябе старастам. Не зберажэш Бабцоў — прыйду і самога на патэльні падсмажу, начаплю на твой перамёт, ці чым ты ванючых самоў тых ловіш, і ў вір кіну. Чуў такое?

— Дык вось яно што! — усклікнуў Крамнёў. — Цяпер мне ўсё зразумела. Значыць, і крыжы, і гэтыя косці ружовыя — ваша работа?

Шаблюк анямеў, нейкі момант варожа глядзеў на Крамнёва і раптам узарваўся:

— А што б ты сам мог прыдумаць, каб зберагчы гэтыя праклятыя Бабцы?! Ведаю, чытаў, што немец, больш, чым кулі, баіцца гэтага самага «тыфусу». Ну дык я і таго... Фарбу ў клубе знайшоў, карболку — на ферме, а камфара ў мяне свая была, ногі ёй націраў ды ў вуха клаў, калі там «страляць» пачынала.

— Ну і далей што?

— А што далей? Стаяць Бабцы. Неяк сунуўся сюды немец — і лататы назад як апараны. За нашым лесам, на гравейцы, што з раёна ў Бабцы вядзе, слуп паставіў і шыльду павесіў: «ТЫФУС»! Гэта, каб усе іншыя немцы ведалі. З таго часу іх тут і духу не было. Жыву, як Рабінзон. Вось толькі б сваю рыбацкую форму знайсці. Праўда, ёсць форма другая, ды яе пакуль што не напяліш.

— Пашукалі б штаны ў іншай якой хаце.

— І-і-і, маўчы, хлопец, — адмахнуўся Шаблюк. — Ігнат у чужых штанах? — Ён прыкра зморшчыўся, зноў махнуў рукою і знік у бакоўцы. Праз хвіліну вярнуўся з ахапкам нейкіх рызманоў.

— Во, бачыш? — прамовіў ужо зусім весела.

— Знайшоў?

— Не. Новыя штаны крою. З салдацкай коўдры. Ужо амаль гатовыя. Глянь. — Ён прыклаў да паніклага жывата нешта падобнае на спадніцу, толькі амаль да пояса распаласаваную на дзве палавіны, лоўка крутнуўся, паглядзеў на Крамнёва. Заўважыўшы смех у яго вачах, злосна плюнуў і кінуў сваё шытво назад у бакоўку:

— Есці хочаш? Мая сёе-тое пакінула. Каб з голаду не падох, а то Бабцы ратаваць не будзе каму.

Васіль на момант замоўк, уважліва паглядзеў на Ігната, вырашаючы, гаварыць ці не трэба, і прызнаўся:

— Я, дзядзька Ігнат, не адзін. Тут са мною жанчына.

— Божа, і ў яго жанчына! — прастагнаў Шаблюк. — Жонка?

— Ды не. Радыстка.

— Ну то іншы вінегрэт, — уздыхнуў Ігнат. — Не жаніся, браток. А калі ўжо... то бяры якую-небудзь ламачыну, старэйшую за сябе гадоў на сорак, каб толькі з чапялой каля печкі хадзіць магла. Чалавекам жыць будзеш.

— Талстога чыталі? — засмяяўся Васіль.

— Ды чытаў... І яму, відаць, бабы ў знак даліся. — Трошку памаўчаў і загадаў: — Добра, вядзі сваю... радыстку.

## III

Ігнат Шаблюк пра «рэгулярнікаў» і іх камандзіра многа чуў, але самога Крамнёва ні разу не бачыў і таму раскрываўся не вельмі. Што ёсць партызаны, канешне, чуў, а дзе яны, ведаць не ведае. Дзесьці ў лесе. Праўда, неяк раз і ў Бабцы заходзілі. Прасілі мёду, сала і самагонкі. Усё — для партызанскага шпіталя. Мёд, вяндліну, кілбасу і сала яны заўсёды просяць для шпіталя, ну а самагонку— для танкістаў. Пяршак. Гэта каб перці на фашыстаў на танках. Бензіну ці саляркі — няма, а пяршак, калі ён адмысловы, гадзіцца. Праўда, сам Ігнат, кіруючыся ўласным вопытам, верыў гэтаму не вельмі. Ён, прастак, думаў, што пасля першаку і пехатой хадзіць цяжкавата. Але пяршак для «танкістаў» усё ж прыпасаў.

Пасля трэцяй ці чацвёртай чаркі смачнай наліўкі Ігнат крышку памякчэў і па сакрэце прызнаўся, што не так даўно завітаў да яго даўні сябра, зарачанскі рыбак Рыгор Вайцёнак, у якога і ён, Ігнат, збегшы з дому, не раз знаходзіў прытулак. Дык вось гэты Рыгор і сказаў яму, што пачалася вялікая карная экспедыцыя, і ўсе тутэйшыя партызаны шуганулі на Палік ды на нейкія Домжарыцкія балоты, што ні то на Бягомльшчыне, ні то на Лепельшчыне. Туды ж, здаецца, падалася са сваім бабскім атрадам і Гэлька — заядуць яе камары! І яшчэ, сказаў усё той жа Рыгор, што ўсе навакольныя вёскі ў раёне немцы спалілі, многія — разам з людзьмі. Толькі, здаецца, і засталіся цэлымі Бабцы ды Ціхі Бор. Бабцы ўратаваў «тыфус», а Ціхі Бор — бярэзінскі бургамістр, бацька якога ў Ціхім Бары — стараста, ды не такі, як ён, Ігнат, а сапраўдны, прызначаны немцамі.

Вось гэта, апошняе паведамленне Шаблюка, уразіла і зацікавіла капітана Крамнёва.

Пра бярэзінскага бургамістра ён ужо чуў ад камбрыга Дубровіча. Той неяк сказаў, што немцы, невядома чаму, знялі свайго бургамістра, вядомага беларускага нацыяналіста Станкевіча, а на яго месца паставілі нейкага Пятра Кантаровіча, чалавека маладога, з выгляду звераватага, але людзі ў Бярэзінску ў адзін голас сцвярджаюць, што з прыходам новага бургамістра дыхаць у горадзе стала лягчэй. Асабліва пасля таго, як у час налёту паліцаяў на адну партызанскую вёску пры загадкавых абставінах загінуў начальнік Бярэзінскай паліцыі Кабачкоў, кат усяе акругі.

Крамнёў ведаў: у Бярэзінскім раёне, у Ціхаборскай сярэдняй школе, працаваў настаўнік Пётр Фаміч Кантаровіч, выкладаў нямецкую мову. А ў Бярэзінску дырэктарам педтэхнікума быў яго бацька, Фама Савельевіч Кантаровіч, ужо немалады чалавек, доктар філалагічных навук і даволі вядомы літаратурны крытык. Менавіта ён, Фама Савельевіч, некалі і «разбіў» яго, Васілёву, аповесць «Застава».

З настаўнікам Пятром Фамічом Крамнёў пазнаёміўся зімой саракавога года ў школе, дзе праводзілася канферэнцыя чытачоў па гэтай самай злашчаснай «Заставе».

Да здзіўлення Крамнёва, канферэнцыя прайшла хораша, яе запісалі на Мінскае радыё, і Пётр Фаміч, якому аповесць таксама спадабалася, прапанаваў Васілю ехаць у Бярэзінск, да «старога крытыкана», якому, як жартаваў Пётр Фаміч, апрача «Вайны і міру», ды яшчэ хіба «Ціхага Дона», больш ніколі і нічога не падабалася.

Ехаць да Фамы Кантаровіча Васіль не адважыўся, паабяцаў, што зробіць гэта пасля, як толькі выйдзе ў свет яго новая кніга, ды толькі ні новай кнігі, ні другога разу ўжо не надарылася. Калі ён ранняй вясной сорак першага завітаў у Ціхаборскую школу, Пятра Фаміча там ужо не было. Новы дырэктар кінуў на Крамнёва насцярожаны позірк і суха буркнуў:

— Арыштаваны.

Васіль кінуўся ў Бярэзінск, у тэхнікум, але і «старога крытыкана» ўбачыць не змог:

— Зволілі. Дзе ён цяпер — не ведаем...

— Здаецца, у Віцебск падаўся, — падказаў нехта з настаўнікаў. — Ён жа адтуль...

Гэта ўсё, што даведаўся ён пра людзей, аднаго з якіх ведаў асабіста, а з другім сустракаўся толькі на старонках газет і часопісаў.

І вось, аказваецца, знаёмае прозвішча загуляла ў Бярэзінску, але ўжо з чужой, варожай прыстаўкай: бургамістр.

«Як жа так? — гнаў прэч ад сябе нядобрыя думкі Васіль. — Не можа такога быць. Тут нейкая недарэчная памылка».

— Слухайце, дзядзька Ігнат, — нарэшце наважыўся Крамнёў. — А як завуць таго старасту, што ў Ціхім Бары?

— Дык я ж, здаецца, ужо казаў табе: Фама Савельевіч Кантаровіч, бацька бярэзінскага бургамістра. Казалі, нейкі вучоны, дырэктарам тэхнікума ў Бярэзінску быў. А як арыштавалі сына-шпіёна, які ў Ціхім Бары дзяцей нямецкай мове вучыў, у Віцебск уцёк. Ды і адтуль папёрлі. Тады і прыбіўся ў Ціхі Бор. Брат там жыў, а ў брата сын Фамы, настаўнік, кватараваў. Брат, стары халасцяк, памёр, сына-настаўніка арыштавалі, вось хата і засталася пустой. Цяпер Фама Савельевіч у ёй і жыве.

«Ён!» — Васіль цяжка падняўся, падзякаваў за пачастунак і, каб не разбудзіць Соню, якая паспела заснуць на мяккай Гэльчынай пярыне, выйшаў на вуліцу.

Крамнёў раптам вырашыў, што яму абавязкова трэба ісці ў Ціхі Бор да Фамы Кантаровіча. Чаго? Ён гэтага яшчэ добра не ведаў, і ўсё ж... усё ж ён павінен пабываць у Ціхім Бары, сустрэць Фаму Кантаровіча, чалавека, які калісьці так жорстка ўварваўся ў яго літаратурны лёс, так многа сказаў яму непрыемных, горкіх, але... але і нямала праўдзівых слоў.

Вярнуўшыся ў хату, Васіль разгарнуў на стале карту, задумаўся. Адсюль, з Бабцоў, простай дарогі ў Ціхі Бор не было. Каб трапіць у гэтую вёску, трэба выбрацца на бальшак, што праз Бягомль і Лепель вядзе на Віцебск, прайсці па ім кіламетры тры ці чатыры, потым збочыць управа, на палявую дарогу, і, калі да Мінска—Маскоўскай магістралі застанецца кіламетраў пяць, будзе Ціхі Бор.

Ёсць і шлях карацейшы: за раку, цераз заліўныя, забалочаныя лугі і па сцежках, якія вядомыя хіба толькі мясцовым рыбакам і паляўнічым, — на ўсход. Чатыры-пяць кіламетраў, і ты ў Ціхім Бары.

Чатыры-пяць кіламетраў... Але якіх! Калі ў час апошняй спробы адшукаць патаемны выхад з блакады ён сунуўся на гэтыя «лугі», назад ледзьве выбраўся, амаль трое сутак блудзіў па самых сапраўдных джунглях, сярод непралазных старых лазнякоў, пакручастых гнілых рачулак, ручаін, ледзяных крыніц. Дык што, лезці сюды зноў?

— Што ты, хлопец, маракуеш над гэтай паперынай? — падсеўшы да Васіля, пацікавіўся крыху захмялелы Шаблюк.

— Ды так, цікаўлюся, куды мяне занесла і як адсюль выбрацца.

— Ну і як?

— А ніяк. — Крамнёў схаваў у сумку карту, насмешліва паглядзеў на Ігната і раптам заявіў: — А і які ж з цябе, дзядзька Ігнат, канспіратар. Людзей пахаваў вунь колькі, а дзе ты ім труны ды крыжы рабіў? Двары ва ўсёй вёсцы — нібы перад святам прыбраныя. Нідзе ні трэсачкі, ні стружачкі, ні кавалачка дошкі. Ты што, сваіх «тыфусаў» у мяшках закапаў?

Шаблюк, нібы яму далі аплявуху, спалохана заміргаў вачыма, нейкі момант адурэла глядзеў на Крамнёва, затым усхапіўся з лаўкі і, сяк-так прыляпіўшы на худыя сцёгны спадніцу-штаны, вылецеў з хаты.

Вярнуўся ўжо адвячоркам, мокры ад поту, але дужа вясёлы.

— Усё, — радасна аб'явіў прама з парога. — Зрабіў труны! Трэскі і стружкі ў кожным двары. Я ж сталярыў у пуні, ад чужога вока хаваўся, дык трэсак і стружак там было...

Крамнёў засмяяўся, падняўся з канапы, на якой паспеў добра выспацца, абняў Ігната за худыя плечы:

— То-та, пан «стараста», спачатку думаць трэба было.

— Ох, і трэба! — ахвотна згадзіўся Ігнат і пакруціў галавою. — Што было б, калі б і той немец быў такі вірлавокі, як ты!

— Шаснаццатая магіла была б, вось што, — кіўнуў Крамнёў і, не здымаючы рукі з пляча Шаблюка, пасадзіў яго на лаву каля стала, сеў побач і загадаў: — Ну а цяпер дакладвай: дзе партызаны? І не віляй. Вайцёнак абы з кім дзяліцца сакрэтамі не стане. Рыгора я таксама ведаю добра.

Ігнат коса зірнуў на Крамнёва, нейкі час моўчкі кратаў пальцамі сваю «казлінуюю» бародку і, нібы намацаўшы ў ёй тое, што трэба, спытаў:

— Дзеўка — дзе?

— Спіць.

— Ну тады слухай. Бачу, ты навастрыўся ў Ціхі Бор? Пойдзем разам. Соню тваю забяром з сабою, адна яна тут будзе баяцца, ды і наогул, як я разумею, ёй тут няма чаго рабіць. А ў маёй лодцы месца і для траіх хопіць.

## IV

Прыгожая, лёгкая, пафарбаваная ў зялёны колер лодка Ігната Шаблюка аказалася ў той самай пуні, дзе ён стругаў крыжы, нібы абрадаваўшыся, яна ахвотна выслізнула з пуні на волю, пачуўся вясёлы плёскат вады, і тут жа даляцеў задаволены голас Ігната:

— Як тут і была, лябёдушка... Эй, ты дзе там? Кліч сваю дзеўку, бярыце шмоткі і ў лодку. А я зараз!..

Шаблюк нырнуў у вялізны, як капа свежага сена, лазовы куст, што вісеў над самай вадой, і сядзеў там даволі доўга, а калі зноў апынуўся каля лодкі, Васіль адразу і не пазнаў яго. То быў ужо не Шпонька-Шчукар, а кадравы старшы сяржант, у ладна скроенай ваеннай форме, з медалём «За адвагу» на грудзях. І нават скупая бародка нібы падрасла, стала больш пышнай і зусім не «казлінай». Абапёршыся на доўгі, гладка выструганы шост, на таўсцейшым канцы якога быў круглы, з ладны кулак, набалдашнік, Ігнат стаяў і задзірыста глядзеў на Крамнёва, нібы казаў: ну, што, «рэгулярнік», аказваецца, не такі я ўжо г...- канспіратар, як здалося табе!

— Слухай, адкуль ты такі? — здзівіўся Васіль.

— Ды ўжо які ёсць, — раўнадушна азваўся Ігнат і загадаў: — Сядайце. Пара. Днець пачынае.

## V

...Калі б праз нейкі час Крамнёву сказалі: адзнач на карце шлях, якім ты прабіраўся ў Ціхі Бор, ён такога зрабіць бы не змог. Помніць, што спачатку шпарка плылі ўніз па рацэ, у той самы бок, адкуль ён разам з Соняй прыйшоў у Бабцы. Той жа туман, як і ўчора на золку, нерухома вісеў над вадою, над бяскрайнімі зялёнымі лугамі, што бясконца цягнуліся па левым беразе ракі, а на беразе правым соладка драмаў усё той жа стары сасновы бор. Магутныя сосны, цяжкія, з таўшчэзнымі, не абняць чалавеку, камлямі застылі па самым краі абрыву, і Васіль толькі дзіву даваўся, як не змые іх па вясне глыбокая плынь Ціхай Лані.

Свавольная плынь лёгка і весела несла лодку, зрэдку гулліва кідала яе да стромкага берага, і тады Шаблюк энергічна ўздымаў свой шост, і лодка, як спрытны акрабат, абмінала які-небудзь куст лазы, што, абцяжараны расою, зняможана лёг на ваду.

Нечакана, нібы на нешта наскочыўшы, Лань крута вільнула ўбок, і Шаблюк страпянуўся. Рэзкім штуршком шаста кінуў лодку на плёс, налёг на шост,

які пагрузіўся ў ваду аж да самых ягоных рук. Хвіліна, і лодка з разгону мякка ўшылася паміж двух вялізных, як стагі сена, кустоў лазы.

— Ну вось, цяпер мы на сваёй дарозе, — з палёгкай уздыхнуў Ігнат, шырока размахнуўся і, нібы кап'ё, шпурнуў свой даўгі, за гады адпаліраваны далонямі шост у густы лазовы куст.

Уздыхнуў, ухапіўся рукамі за тоўстую лазіну, падналёг, і лёгкая лодка, нібы тарпеда, вылецела на прастор, урэзалася носам у мяккі нізенькі бераг. Тут, адразу ж за беражком, акружаная ўсё такімі ж пышнымі кустамі лазы, ляжала невялічкая, нібы танцпляцоўка ў парку багатага калгаса, палянка, усыпаная мільёнам рознакаляровых лугавых кветак. І ў самым цэнтры паляны, нібы знакамітая балерына, што святкавала свой юбілей, стаяла рослая, ужо не маладая, але непаўторна-прыгожая бяроза. Пад бярозай сціпла прытуліўся самаробны стол, а паабапал яго — дзве нізкія лавы. Пад бярозай, пад сталом і пад лавамі нясмела зелянела не густая высокая трава, — людская нага даўно яе не кранала.

— Вось тут мы і пераднюем, — аб'явіў Ігнат, скочыўшы з лодкі на бераг.

## VI

Ён катэгарычна загадаў: да вечара — ні з месца. Да Ціхага Бору — гадзіны дзве ходу, а да начы з'яўляцца там нельга, там — гарнізон, хоць і «дохлы», два старыя нямецкія унтэры ды чалавек дзесяць паліцаяў, амаль усе мужыкі мясцовыя, якія прыляпіліся да «гарнізона», відаць, толькі дзеля таго, каб не трапіць ні ў Германію, ні ў партызаны. Шчарбатыя унтэры ім давяраюць не вельмі, і яны па чарзе ноччу вартуюць на гравейцы дзіравы мост ці ходзяць па чыгунцы ад пераезда да раз'езда, і на гэтым перагоне — ціха. Нямецкія эшалоны ляцяць пад адхон троху далей, за раз'ездам, ужо ў лясной глухамані, і таму ціхаборскі гарнізон у немцаў лічыцца надзейным. Амаль за тры гады бездакорнай службы бравыя унтэры і два ці тры паліцаі абзавяліся баявымі медалямі.

Паведаміўшы Крамнёву ўсё гэта, Шаблюк заваліўся пад бярозай. Спаў ён аж да часу, пакуль не схавалася сонца за Бабцоўскім лесам, а як толькі пачарнелі вяршыні далёкіх ялін і трошку паярчэла неба на ўсходзе, бадзёра падхапіўся, весела заспяшаўся:

— Во, цяпер можна і ехаць...

Як толькі мінулі азярцо, дзе лавілі раніцай рыбу, лодка зноў заблыталася сярод магутнага дзікага кустоўя. Старыя лазнякі, скрозь сухая чорная крушына, чорны альхоўнік, аблытаны дзікім учэпістым хмелем, праз які не пралезці і зайцу, хмура павіслі над вузкай пакручастай стужкай цёмнай вады, якая аказалася зусім не рачным «рукавом», а маленькай самастойнай рачулкай — адным са шматлікіх безыменных прытокаў Ціхай Лані.

Спакойная, слабасільная, сціснутая дзікімі нетрамі рачулка, спалохаўшыся, што ёй ніколі адсюль не выбрацца, то кідалася з боку ў бок, то раптам крута вярталася назад, і тады Васіль пазнаваў мясціны, якія ўжо бачыў дзесяць, дваццаць мінут назад. І лезлі ў галаву капітана няпрошаныя трывожныя думкі. Куды плывём? Ці ведае хоць сам гэты бабцоўскі Сусанін?

Прыціхла і Соня. За свае дваццаць чатыры гады жыцця ў вялікім сталічным горадзе, потым, нядоўга, праўда, у прыгожай падмаскоўнай вёсцы, і нават тут, у партызанах, ёй ніколі не думалася і не снілася, што дзесьці тут, на роднай беларускай зямлі, ёсць вось такія мясціны! І паступова ў галаву

дзяўчыны закралася думка, што зямля, па якой яна так лёгка хадзіла, па якой так упэўнена ступала яшчэ некалькі гадзін назад, знікла, і што ёй ужо ніколі не выбрацца з гэтых гіблых мясцін, дзе не ступіць нагою, дзе, здаецца, даўным-даўно згінула, вымерла ўсё жывое. Ды і ці было яно тут?

І толькі сам Шаблюк адчуваў сябе выдатна. Шчуплы, рухавы, як ртуць, апрануты ў новую вайсковую форму, з медалём на грудзях, ён быў падобны на зухаватага маладога ваяку, які вызначыўся ў першым жа баі, за што і адзначаны. Трывала ўпёршыся натрэніраванымі нагамі ў хісткае дно лодкі, ён лоўка арудаваў то вяслом, то шастом, і даволі вялікая ды лёгкая пасудзіна паслухмяна віляла сярод навіслых над вадою кустоў, лоўка абмінала затопленыя, даўно паваленыя віхурамі дрэвы.

Ціхмяная рачулка яшчэ выкінула некалькі мудрагелістых каленцаў, вузлом завязалася вакол карабатай алешыны з вялікім чорным гняздом на сухой вяршыні, яшчэ з паўгадзіны паблудзіла сярод бухматых кустоў лазы і, нібы канчаткова выбіўшыся з сіл, пачала неахвотна выпрамляцца. Нерухомыя, амаль чорныя кусты, што змрочнай сцяной стаялі паабапал рачулкі, пасвятлелі, лянiва, адзін за другім, разбрыліся ў розныя бакі, нібы статак якіхсьці няўклюдных дагістарычных істот, і лодка зусім нечакана апынулася на шырокай зялёнай раўніне сярод высокіх густых трыснягоў. Вада ў рачулцы ажыла, пасвятлела, каля берагоў заварушыўся рэдзенькі сітнік, і Шаблюк памяняў «боўтку» на весла. Слабая плынь мала шкодзіла лодцы, і яна адразу ж наддала хады.

Ажывіўся і сам Шаблюк. Зноў прыняў ваяўнічую позу, а Васілю загадаў:

— Іваныч, не лаві варон. Як убачыш на левым беразе белы слупок, кажы!

Шаблюк, велічна разгарнуўшы свае не дужа шырокія плечы, налёг на весла. За бартамі весела загаманіла вада. Слабы, лагодны ветрык гладзіў высокія трыснягі, і яны грацыёзна кланяліся Шаблюку, далікатна кранаeі яго худы, цёмны ад сонца і ветру твар, нібы радаваліся, што зноў убачылі яго ў гэтых бязлюдных мясцінах.

Рачулка разам са сваімі лагоднымі трыснягамі неахвотна збочыла ўлева, на цёмна-карычневае імшарышча, прэч ад лесу, што раптам чорнай сцяной заступіў ёй дарогу, і лодка мякка ўшылася ў высокую траву на правым беразе.

— Кропка, прыехалі! — аб'явіў Шаблюк. — Іваныч! Бярыся за ланцуг і мацуй лодку да слупка.

— Не бачу я ніякага слупка, — буркнуў Васіль, асцярожна перамінаючыся з нагі на нагу на беразе, які хадзіў хадуном пры кожным яго неасцярожным руху.

— Тут ён. Ну, ды ладна, я сам.

Ігнат смела скочыў з лодкі на хліпкі бераг, узяў з рук капітана ланцуг, нагой расхінуў купку травы. «Слупок» — аслізлы абломак жалезабетону — быў тут, каля самых ног Крамнёва. Ігнат насмешліва цераз плячо зірнуў на Васіля, абвіў ланцугом «слупок», намацаў на ім вялікі замок, дастаў з кішэні ключ, якім можна аглушыць чалавека.

Хвіліну Васіль назіраў, як гнуцца пад нагамі Ігната плывуны, прашытыя, нібы дратвай, старым журавіннікам, потым забраў з лодкі «боўтку», узяў за руку Соню і асцярожна пайшоў за ім следам.

— А палка навошта? — ціха спытала Соня.

— Па гарбе дурню ляпну, калі што не так, — змрочна паабяцаў Васіль. Памаўчаўшы, ужо мірна дадаў: — Правалімся — лягчэй будзе з твані выбрацца...

Зыбуны хутка скончыліся, але мох усё яшчэ рос высока, і ногі правальваліся ў ім да калена. І ўсё ж ісці стала лепш. Адчувалася, што небяспечнае балота канчаецца, што яшчэ троху і ногі ступяць на сухое. А вось лес, які здаваўся такім блізкім, як быццам трошку падаўся назад, высунуўшы наперад адзінокую ялінку, знявечанаую ці то перуном, ці віхурай.

Стаяла яліна на маленькай невысокай выспе, круглай, падобнай на бохан сялянскага хлеба. Высокі таўшчэзны абломак-камель шырока раскінуў уцалелыя магутныя лапы, падабраў пад сябе амаль увесь адзінокі бугор.

Другая, меншая палавіна яліны, ужо сухая і аднесеная ад камля троху ўбок, уткнулася вострай вяршыняй у дол і ўтварыла нешта накшталт нанайскага чума.

— Ну вось мы і дома, — паставіўшы пад яліну мех з рыбай, з палёгкай уздыхнуў Ігнат. — Хвілінку пачакайце, а я...

Ігнат раптам замоўк, насцеражыўся. Васіль і Соня здзіўлена пераглянуліся, не разумеючы, што здарылася.

— Ці-ш-ш-ш, — прашыпеў Ігнат і зноў замоўк. Хвіліну стаяў нерухома, да нечага прыслухоўваўся, нарэшце заклапочана прамармытаў: — Няўжо здалося?

— Што здарылася? — занепакоіўся Васіль, які, як ні стараўся, нічога не чуў і не бачыў. Вакол было ціха, і толькі дзесьці ззаду, на паплавах, відаць, у чароце на рачулцы, нясмела падавала голас адзінокая качка.

— Здарылася... Стойце тут, я зараз.

— На, вазьмі аўтамат.

— А на чорта ён мне, — адмахнуўся Ігнат. — Тут, брат, і гармата не дапаможа... — І нячутна, нібы асцярожны звярок, знік пад цяжкімі чорнымі лапамі знявечанага старога дрэва.

— Што гэта з ім? — здзіўлена зірнуўшы на Васіля, прашаптала Соня.

— А ліха яго ведае, — перасмыкнуў плячыма Васіль. — Пастой тут, пайду...

Ігнат апярэдзіў яго. Чортам вылецеў з-пад калючых лап, безнадзейна прамовіў:

— Бачылі? Во камедыя з трагедыяй. Тут! Які ж віхор яе сюды занёс? На Палік жа вяла сваё бабскае войска!..

— Каго занёс? Куды занёс? — пачаў злавацца Крамнёў.

— А зараз сам убачыш, — грозна паабяцаў Шаблюк, схапіў мех і ўжо без аніякай асцярогі зноў палез пад яліну.

Канчаткова збіты з панталыку, Крамнёў крыху памарудзіў, зняў з пляча аўтамат і сам палез пад калючыя лапы.

Шаблюка там не было. Стаяў каля карослівага камля мех з рыбай, а сам Шаблюк — знік.

На спіне Крамнёва заварушыліся мурашкі. Глыбей зашыўся ў калючае голле, заціх. І раптам аднекуль з-пад зямлі даляцеў хоць і прыглушаны, але як быццам ужо некалі чуты жаночы голас:

— Ну, дзе яны, твае рэгулярнікі? Прымроіліся на п'яныя вочы?

— А зараз! — з пагрозай адазваўся другі голас, мужчынскі. — Зараз!..

— Ігнат? — ёкнула сэрца ў Васіля. — Вось гэта фокус!..

Пад таўшчэзным коранем яліны, што выпер з зямлі і, нібы ўдаў, расцягнуўся на прэлай іглiцы, нясмела заццплілася жоўтае святло, і Васіль убачыў нару. І нават не нару, а нешырокі, як пралезці чалавеку, квадратны люк. Побач валялася такое ж квадратнае вечка, збітае з тоўстых неакораных гарбылёў.

Васіль асцярожна стаў на калені, схіліўся над люкам. Глыбока ўнізе з капцілкай у руках стаяла... «старшыніха». Непадалёк ад яе, у кепска асветленым

кутку, завіхаўся Ігнат. Раскідваючы нейкія рызманы, нешта моўчкі шукаў. Нарэшце, відаць, знайшоўшы тое, што трэба, выйшаў на асветлены круг. У руках яго быў... кулямёт!

— А гэта яшчэ што? — ахнула Галіна Пятроўна.

— Гэта? — наіўна перапытаў Ігнат. — Кулямёт. Ручны. Дзегцяроў. Сорак пяць патронаў. — Задзёршы галаву, крыкнуў у адчынены лаз: — Іваныч, ну дзе ты там? Кідай сюды мех ды хутчэй лезь сам. Тут у мяне, братка, цэлы гарэм аказаўся. Адзін не ўпраўлюся.

Крамнёў нагой спіхнуў у люк мех, учапіўся рукамі за таўшчэзны корань яліны, ды няўдала: паляцеў следам за мехам проста пад ногі Шаблючысе.

— А вой! — спалохана адскочыўшы ўбок, войкнула «старшыніха» і хапатліва сцяла на зайздросных грудзях цеснаватую ватоўку. — Бабы, глядзіце, мой шалёны сапраўды рэгулярнікаў прывалок!

— А ну выключай рупар! — неспадзявана грозна загадаў Ігнат. — Не на калгасным сходзе. І наогул дакладвай: як ты апынулася на маёй сакрэтнай базе?

— Ах ты, ржавая рагулька! — абурылася Пятроўна. — А ці не сам ты сюды мяне завалок? Вясной. Калі мы леташнія журавіны шукалі. Табе на кісель пасля п'янкі.

Нехта з жанчын ціха хіхікнуў, а Шаблюк на імгненне сумеўся. Але толькі на імгненне. Ваяўніча грукнуўшы прыкладам ў гарбатую падлогу, рашуча разгарнуў вузкаватыя плечы, выставіў проста ў вочы жонцы сліпуча-белы медаль з грозным танкам на срэбраным полі і шматзначна заціх, нават трошку падаўся ўперад. Маўклівая контратака ўдалася. Коса зірнуўшы на кулямёт, на медаль, Пятроўна паставіла на паліцу цяжкі дапатопны ліхтар, села на нары, паклала на калені маленькія белыя пухлыя ручкі: усё, мір. З таго самага дня, як вярнуўся яе «лядашчы Ігнашка» з «фінскай» з медалём «За адвагу», яна дакладна вызначыла, да якой рысы дзейнічае цяпер яе ўлада над ім і старалася не пераступаць яе, асабліва калі быў яе Ігнат у «асобым настроі». А ён, здаецца, якраз і быў цяпер у гэтым самым «настроі».

— На ліха здалася мне твая база! — прамовіла Пятроўна і так цяжка ўздыхнула, што верхні гузік на ватоўцы з трэскам адляцеў і пакаціўся пад ногі Ігната. — Гора прымусіла тут схавацца...

— Праўда, дзядзечка, праўда, — вынырнуўшы з цёмнага кута падзямелля, паспяшалася на падмогу Пятроўне маладзенькая кабета з дзіцем на руках. — Усіх, хто быў без дзяцей, «лявонаўцы» забралі з сабой на Палік. А нам, хто з малымі, загадалі вяртацца дамоў. Нельга з дзецьмі быць у блакадзе. Заплача, закрычыць якое і загубіць і сябе, і ўсіх. Вось Пятроўна і прывяла нас сюды. А куды было кінуцца? Немцы ў вярсце былі ад Ціхага Бору! А цераз наша балота хіба пройдзеш? У гразі захлынешся!..

— І колькі ж вас тут? — ціха спытаў Крамнёў, асцярожна крануўшы руку маладзіцы.

— Нас з дзецьмі, — чацвёра. Ды Пятроўна...

— А чым жа вы корміцеся?

— Ды тут ёсць сёе-тое, — за маладзіцу адказала Пятроўна і коса зірнула на Ігната, які на каленях дарэмна шукаў на дзіравай падлозе жончын гузік.

— Чуў, капітан?! — узарваўся Ігнат. — Захапіла чужую базу, і — сёе-тое!

— Чужую?! — натапырылася і Пятроўна. — Апрача вось гэтых жалезак, — выхапіла з кішэні ватоўкі «лімонку», — тут твайго і ёсць, што мех ванючых карасёў. А ўсё астатняе — з калгаснай кладоўкі. З пасекі ды яшчэ з маёй клеці. Вось толькі не магу зразумець, калі ты ўсё гэта сюды прывалок? Паўмесяца цябе дзесьці чэрці насілі!

— А што, няхай бы ўсё і засталося ў тваёй калгаснай кладоўцы? — здзекліва прашыпеў Ігнат. — Калі ласка, пан Герман, прыходзь, Фрыц Гансавіч, частуйся! Так? А гэтага ён не хоча? — Ігнат лоўка скруціў вузлаватыя пальцы і паказаў іх Пятроўне.

— Шалёны! — ляпнула яго па пальцах Пятроўна. — Хіба я пра гэта кажу? Я проста сказала, што сваё ядзім. І, канешне, табе дзякуй за гэта.

— То-та, — памякчэў і Ігнат. — Я многа чаго збярог. — Ён памкнуўся сесці на нары, ды раптам рэзка сагнуўся, нешта падняў з падлогі і весела перадаў жонцы: — Во, ёсць! На, прышый ды больш туга не зашпіляйся. Зноў адляціць.

— Задурыў ты мне галаву! — злёгку паружавела Пятроўна і, схаваўшы гузік у кішэню, дзе ўжо зноў ляжала граната, загадала: — Кажы, што ў Бабцах?

— Ціха.

— Немцы былі?

— Былі, ды сплылі. Цэлыя твае Бабцы. А ты вось мне скажы: куды падзявала маю рыбацкую форму? Тую, што перад вайною мне начальства падарыла? Нічога ж другога і няма ў мяне. А ў гэтай форме, — тыцнуў ён пальцам у медаль, — цяпер хіба доўга паходзіш?

— Адкуль жа я ведаю, дзе твая «форма»? — здзівілася жонка. — У тую ноч, калі толькі ты гэта помніш, недалёка ад нас страляніна была. Дык ты чагосьці ў клець кінуўся. А вярнуўся адтуль ужо на золку, у адной споднян кашулі, ружовенькі, вясёленькі, з запацелым глячком у руках. Забурыўся ў сенцах на канапу. Раніцай у вёску прыйшлі партызаны, і рашылі мы адступаць разам з імі. Узялася будзіць цябе, ды дзе там! Вось і пакінула загад на стале: сцеражы Бабцы. Не беражэш...

Ігнат ужо больш не слухаў. «Клець — глячок... Глячок — клець» — нібы камяні жорнаў, круціліся ў галаве гэтыя два словы. Дык вось дзе яго багатая рыбацкая «форма»! У клеці. У вялізнай асінавай бочцы, поўнай канаплянай мякіны. Патаемнае месца, дзе хаваў ён ад жонкі свае сакрэтныя прыпасы. І за час ад «фінскай» да вайны «сусветнай» грозная «старшыніха» так і не змагла яго выявіць. Забраў запаветны пяцілітровы глячок, на яго месца паклаў ладныя парусінавыя штаны і куртку, гумавыя — «балотныя» — боты, туды ж запіхнуў яшчэ зусім новы кажушок. Канешне, там усё ляжыць. Калі ўжо сама Гэлька...

— Ладна, бабы, жывіце! Месца і яды ўсім хопіць, — дабрадушна аб'явіў Ігнат. Падсеў да жонкі, памкнуўся абняць за плечы, ды спахапіўся, сунуўся ў кішэню салдацкіх штаноў за тытунём. І зноў перадумаў, нібы між іншым спытаў: — Ну а вы тут як? Фрыцы не турбуюць? Гарнізон жа іх тут.

— «Гарнізон»! Дзесяць бобікаў ды бяззубы немец. Ды і бобікаў, хто маладзейшы, карнікі з сабой забралі, знішчаць на Паліку партызан.

— А вы што, у вёсцы былі? Даўно? — пацікавіўся Крамнёў.

— Ды ўчора ноччу. Сяброўка ў мяне тут. Некалі разам у сельгастэхнікуме вучыліся. Малако дзецям дае. А мужык яе, былы тутэшні старшыня, на Паліку. Нашы, бабцоўскія, таксама там. Хто ў брыгадзе дзядзі Колі, хто ў Ляwонава, хто ў Дубровіча. На Паліку, відаць, і Райкін хлопец, — вачыма паказала Пятроўна на маладзенькую маці. — Многія цяпер там. Вось і хаджу. Можа, пра сваіх што даведаюся. У Танькі сувязь з Палікам ёсць...

— Даруйце, — павярнуўся Васіль да Раісы, — ваш муж у якой брыгадзе?

— У Дубровіча. Разведчык ён. Раней хоць зрэдку дамоў прыходзіў. А вось сёлета... — Жанчына ўсхліпнула.

— Не скажаце, як яго прозвішча? — ціха-ціха спытаў у Галіны Пятроўны Васіль.

— Сіўцоў, — так жа ціха адказала Пятроўна.

— Сіўцоў? — чамусьці здзівіўся Крамнёў. — Пачакайце... Знаёмае прозвішча... Павел Іванавіч?

Пятроўна сцвярджальна кіўнула галавой.

— Дык я ж яго ведаю! — чамусьці радасна прашаптаў Крамнёў. — Камандзір брыгаднай разведкі. Точна! І я яго зусім нядаўна бачыў.

— Жывы?! — ускілікнула Рая. — Божа, чаму ж тады ён...

— Супакойцеся, — зноў хуценька падышоў да Раісы Васіль. — Не мог ён прыйсці. Брыгада ў блакадзе была. Вырвалася. А вось дзе яна зараз, — Васіль развёў рукі. — Можа, ужо і на Паліку. Не ведаю. — Сустрэўшы вочы юнай маці, поўныя невыказнай трывогі і надзеі, Крамнёў зноў асцярожна крануўся яе рукі, цвёрда прамовіў: — Не хвалюйцеся. Усё будзе добра. Скора я вярнуся ў брыгаду Дубровіча, сустрэну вашага Паўла Іванавіча...

— І скажыце, што сын у яго, — густа пачырванеўшы і не выціраючы слёз, хапатліва прашаптала Рая. — Вова. Вялікі ўжо, трэці месяц...

— Абавязкова скажу, — усміхнуўся Крамнёў і вярнуўся да нараў, дзе сядзеў прыціхлы Шаблюк: — Ну што, Сусанін, пойдзем?

— Ага. Пара, — Ігнат, узяў свой «дзягцяр».

— А ты гэта куды? — здзівілася Галіна Пятроўна.

— На баявое заданне. Гарнізон граміць будзем. Так што сядзіце ціха!

— Глядзі, у баі з бяззубым фрыцам медаль не згубі, — насмешліва параіла «старшыніха», але Ігната ў зямлянцы ўжо не было.

## VII

Ігнат Шаблюк не ведаў, што цікавіць «рэгулярніка» Крамнёва ў Ціхім Бары ці каго ён хоча там пабачыць. І цяпер, калі вёска ўжо была побач і Крамнёў, спыніўшыся пад старой ліпай, папрасіў паказаць яму хату Фамы Кантаровіча, спатыкнуўся і замёр на месцы, нібы наскочыў на нешта непераадольнае. Стаяў, разгублена глядзеў на разведчыка, потым ціха-ціха прашаптаў:

— А ты... ты ведаеш, хто ён, Кантаровіч?

— Ведаю. Стараста.

— А тое, што сын яго... бургамістр у Бярэзінску, таксама ведаеш?

— І гэта ведаю, — усміхнуўся Васіль.

— Ну тады я нічога не ведаю! — выдыхнуў Ігнат і сеў на кінуты пчаліны домік.

— А хіба можна ўсё ведаць? — насмешліва запытаў капітан.

Шаблюк доўга і ўважліва глядзеў на Крамнёва, у засені дрэнна бачыў яго вочы і твар, потым павольна ўзняў правую руку, выставіў указальны палец і тут жа рэзка сагнуў яго ў суставе:

— Гэта?

— Ну што ты! — зразумеўшы, што хацеў сказаць гэтым злавесным рухам Ігнат, прыкра паморшчыўся Крамнёў. — Мне проста трэба яго бачыць. І толькі.

— То добра, — з палёгкаў уздыхнуў Ігнат. — Людзі хваляць гэтага чалавека. Ды і сам падумай: нікога тут, у Бары, не спалілі, не забілі, ніхто ў Нямеччыну не трапіў. Коні і каровы ў кожным двары. Ці кожнаму старасту такое ўдаецца?

— Дык жа сын у яго — хто? — з падвохам прамовіў Васіль.

— Што сын? Сын таксама пад немцам. Ды і пакрыўджаны чалавек, у турму кінулі. А калі ні за што? — Ігнат коса зірнуў на Крамнёва, цяжка пад-

няўся, перадаў Васілю кулямёт: — Чакай мяне тут. Гляну, ці дома. Ды і ўсё ж гарнізон тут, хай сабе і дохлы...

І знік. Знік ціха, нібы скрозь зямлю праваліўся. Хвіліну ці дзве Васіль цяўся калі не ўгледзець, дык хоць пачуць крокі гэтага, не зусім зразумелага яму, чалавека, вызначыць, у які бок ён падаўся, але дарэмна. Ні гуку, ні шолаху.

«Але! Відаць, не першы раз ступаюць тут яго ногі!» — з лёгкай трывогай падумаў разведчык і, падхапіўшы «дзягцар», адступіў у глыбіню саду.

Дрэў у садах было мала, але ўсе маладыя, дбайна дагледжаныя, і ўсе буйна цвілі. Толькі што набраўшыя сілу яблыні стаялі ціха і велічна, нібы шчаслівыя нявесты ў багатым шлюбным убранні, што чакалі сваіх нарачоных, якіх вось-вось вынесуць з духмянай майскай начы ліхія тройкі.

Дзіўна, але за тры апошнія вясны, адолеўшы столькі ваенных дарог, Крамнёў, здаецца, ні разу не бачыў квітнеючага саду. Запомніліся сады чорныя, апаленыя, знявечаныя бомбамі і злымі артналётамі; бачыў сады, знішчаныя пілой і сякерай ворага, што ля чыгунных «буржуек» мусіў ратавацца ад няшчадных беларуска-рускіх маразоў. А вось такіх...

Зачараваны хараством дзіўнай майскай ночы, Крамнёў прымасціўся пад нізкарослай разгалістай яблыняй, заціх. І неспадзявана, зусім недарэчы квітнеючыя дрэвы-нявесты абудзілі ў памяці яго нявест іншых, яго, Крамнёва, нявест.

...Закінутая пуня... Натапыраны верабей на белай ад пылу бэльцы. Вялікія дзявочыя вочы, поўныя страху і слёз, худзенькія рукі, і ў іх — акрываўлены бінт...

Валя Альхоўская.

...Разварочаны бомбай бліндаж... Кроплі жывіцы-смалы, нібы слёзы на пасечаным асколкамі бярвенні... Золата раскошных валасоў на бруднай падлозе... Безжыццёвае дзявочае цела на яго, Васілёвых, руках...

Соня Кавалёва.

Валя Альхоўская у Маскве, у шпіталі. Ці адолелі эскулапы яе цяжкую, амаль смяротную рану? А калі адолелі, то дзе яна зараз? Куды зноў занеслі яе віхуры вайны?

А Соня — побач. Зараз сядзіць у глухім падзямеллі сярод чужых, незнаёмых, такіх жа абдзеленых лёсам жанчын. Аб чым думаеш ты, Соня-Сонейка, вось у гэту мінуту? А калі спіш на нарах халодных, то што табе сніцца? Родны Мінск? Ці падмаскоўная школа, куст бэзу, дзе, як бясссцэнная крыштальная ваза, разбілася, ушчэнт разляцелася іх святое каханне?

«Дзяўчынкі мае! Ці апранеце вы хоць калі запаветнае шлюбнае, белабелае і такое ж духмянае, як вось на гэтых квітнеючых яблынях?»

Васіль уздыхнуў і страпянуўся. Блізка, так блізка, што яго можна было схапіць за каўнер, стаяў Шаблюк. Месяц, які ўсё ж-такі вырваўся на волю, выплеснуў на сад увесь нерастрачаны запас блакітна-белага святла, і мокрыя ад расы дрэвы зіхацелі мільёнамі іскрыстых бясцэнных алмазаў.

Бясконца швэндаючыся па роднай зямлі то са стрэльбай, то з вудай, Шаблюк бачыў такое мо тысячу раз і ўсё ж анямеў ад непаўторнага хараства, што зноў раптоўна раскрылі перад ім ціхая майская ноч і гэты вірлавокі месяц, такі ж, як і сам, Ігнат валацуга.

«Во, д’ябал! — моўчкі вылаяўся Крамнёў. — Снуе, нібы здань... А я... харош, ваяка! — злаваўся на самога сябе капітан. — Летуценнік-юнец — шусь з галавой у сантыменты. Глядзі, так і да бяды недалёка, незнарок трапіш у фрыцавы лапы...»

Ён паспрабаваў ціха падняцца, ды зачапіўся нагой за кулямёт, што стаяў пад яблыняй, той з ляскатам бразнуўся аб зямлю, напалохаў Ігната.

— Во дзе ты! — адскочыўшы ўбок, усклікнуў ваяўнічы рыбак. — А я ўжо чорт што падумаў. Шусь пад ліпу — няма. Прабегся па садзе — пуста... Ну ды ладна, вылазь. Дома твой Кантаровіч. Сядзіць за сталом, кніжку чытае. Лямпу запаліў, а вокны голыя, — нібы для яго і вайны няма! Відаць, не дужа баіцца.

— І ты, бачу, тут мала каго баішся. Вылез на адкрытае месца і гукаеш на ўсю Іванаўскую, — прабурчаў Крамнёў. Ногі ў яго здранцвелі, у пяткі ўпілося мо тысячу іголак — не ступіць.

— Ладна, — адмахнуўся Ігнат. — Давай кулямёт, а сам паціху ступай ды пад ногі глядзі, у цябе яны нешта як гумавыя.

Невялічкі хлявок-развалюха, куды следам за Шаблюком трапіў Крамнёў, прыляпіўся, нібы з'едзены чарвямі, грыб, пад старажытнай бярозай, якая ў свае маладыя гады, відаць, бачыла картэж Кацярыны II. Дах на хлеўчуку даўным-даўно спарахнеў, праваліўся, і вымытыя дажджамі і снегам яловыя латы свяціліся пад поўняй, нібы рэбры нейкай дагістарычнай істоты.

Апрача гэтага хлеўчука, ніякіх пабудоў блізка не было. Валяліся ў траве абломкі гнілых бярвенняў, ды з высокай крапівы глядзелі, нібы брудна-шэрыя вепрукі, чатыры валуны, на якіх калісьці стаяла і дажыла свой век чыясьці хата..

— Чакаю цябе тут, — цяпер ужо ціха аб'явіў Шаблюк, прыхіліўшы да сцяны кулямёт. — А ты... бачыш за гэтым садам высачэзны дуб? Вось пад гэтым дубам і стаіць хата, у якой жыве Кантаровіч. — Перакулішся цераз вуліцу, а там яшчэ крокаў дзесяць...

— Ты казаў, што ў хаце гарыць святло? — перапыніў Ігната Крамнёў.

— Ага. Толькі адсюль яго не відаць. Хата стаіць задам да вуліцы. Былы гаспадар, мусіць, не дужа любіў сваю вёску.

— Зразумела.

— Не зусім. Падыдзеш — грукні ў шыбу пальцам р-раз, потым яшчэ два разы.

— Цяпер канчаткова зразумела, — насмешліва прамовіў Васіль, паціху пералез праз высокі трывалы плот, прашмыгнуў цераз шырокую пустую вуліцу і знік пад разлогім дубам, што хаваў пад сваім магутным голлем зусім не бедную хату.

## VIII

Фама Савельевіч Кантаровіч, прафесар-літаратуразнаўца і былы дырэктар вядомага ў рэспубліцы педтэхнікума, відаць, адчуваў сябе на новай пасадзе не блага, нікога і нічога тут, у Ціхім Бары, не баяўся. Прынамсі, калі Васіль Крамнёў, каб не рабіць лішняга шуму, асцярожна дакрануўся да шыбы, ён, не адрываючы вачэй ад кнігі, спакойна гукнуў:

— Заходзьце, калі ласка! Там не зачынена.

Пераклаўшы пісталет з кабуры у кішэню ватоўкі, Васіль зайшоў. І першае, што кінулася ў вочы яму, — нямецкі аўтамат. Вісеў на сцяне, на просценькім габелене, па якім плавалі ганарыстыя лебедзі, над шырокім «фабрычным» ложкам пад партрэтам маладой жанчыны.

Адчуўшы, што гаспадар сочыць за кожным яго рухам, Васіль перавёў позірк на партрэт. Ён быў дрэнны знаўца жывапісу, і ўсё ж карціна — а гэта менавіта была карціна — уразіла. І не безумоўным талентам мастака, і не толькі выключнай прыгажосцю жанчыны. Уразіла кампазіцыя. Карціна, як здалося Крамнёву, распадалася на дзве, мала звязаныя між сабою, часткі.

...Раскошная квітнеючая яблыня, зялёная паляна, тэнісная сетка і заліты сонцам хлопец-падлетак з мячом у руках. Хлопец смяецца, а на яго незадаволена, з-пад ілба, глядзіць такая ж, як і ён, дзяўчынка.

...Пад яблыняй, у крэсле-качалцы, — маладая жанчына. Залатая карона кос на задуменна схіленай галаве; высокі халодны лоб, нібы вытачаны геніяльным разцом з бледна-ружовага мармуру; блакітныя вочы; пухлыя вусны пакрыўджанага дзіцяці, гатовага вось-вось горка заплакаць.

Радасць вясны. Радасць жыцця.

І глыбока схаваны сум, нават — журба.

— Што вас так зацікавіла: аўтамат ці партрэт? — нечакана спытаў Кантаровіч.

Крамнёў азірнуўся. Кантаровіч усё яшчэ сядзеў у сваім старэнькім крэсле і скрозь тоўстае шкло акуляраў уважліва глядзеў на начнога госця. Што казалі гэтыя вочы, што ў іх хавалася, Васіль разгледзець не мог, але бачыў на вуснах старога прафесара ўсмешку, якуюсьці ненатуральную, вымучаную, горкую.

— І тое, і другое, — таксама стараючыся ўсміхнуцца, адказаў Крамнёў. — Але партрэт — больш. Ён напомніў мне...

— Каго? — ажывіўся прафесар і нават ледзь-ледзь прыўзняўся.

— Вашага сына, Пятра Фаміча Кантаровіча. Вось толькі...

Не даслухаўшы, Кантаровіч рэзка адвярнуўся, і яго чыста паголены, без адзінай маршчынкі твар імгненна акамянеў.

Васіль не мог зразумець раптоўнай перамены, што адбілася на твары старога прафесара, і таму моўчкі стаяў сярод пакоя і чакаў, што будзе далей. Нарэшце Фама Савельевіч паварушыўся, цяжка прыўзняў кранутую сівізною галаву і павольна, выразна вымаўляючы кожнае слова, прамовіў:

— Яна падобна на сябе. І толькі. А на яе больш ніхто не падобны. Ні-і-хто! — Кантаровіч рэзка падняўся, выйшаў з-за стала, працягнуў Крамнёву маленькую пухлую руку: — Добры вечар, Васіль Іванавіч Крамнёў. Рады бачыць вас на маім парозе жывым і здаровым. Прызнацца, чакаў вас. А потым пачуў, што вы са сваёй спецгрупай вярнуліся ў Маскву.

Васіль анямеў. Без дазволу сеў на канапу, сціснуў у кішэні пісталет. Тое, што ён пачуў, аглушыла яго. Які правал! Разведчыкі! Чэкісты! Як ліса хвастом, замятаем кожны свой след, а яны... нават вясковыя старасты ведаюць нас у твар, ведаюць кожны наш след!

«Калі ён зробіць крок да мяне, выстралю, — ловячы кожны рух старасты, думаў Крамнёў. — У вёсцы ціха, а лес — побач...»

— Крамнёў, вы яшчэ зусім не навучыліся хаваць сваіх думак і пачуццяў, — нечакана ціха, з лёгкай насмешкай прамовіў Кантаровіч.

— Я не дыпламат, — суха адазваўся Крамнёў.

— Разведчык мудрэй за дыпламата. Прынамсі, такім павінен быць, — уздыхнуў прафесар і адкінуўся на высокую спінку крэсла, скрыжаваў на грудзях рукі. Маўчаў ён доўга, так доўга, што Васілю нават здалося, што гаспадар забыўся, што ў хаце ён не адзін. Але памыліўся. Не мяняючы позы, Фама Савельевіч раптам ціха, з дрэнна схаваным сумам, загаварыў:

— Дастаньце руку з кішэні... не трэба... Усё не так, як вы думаеце... Помніце канферэнцыю чытачоў па вашай аповесці ў раённым Палацы піянераў? Вось там я вас упершыню і ўбачыў. Што прывяло мяне туды? Ды не, я не хацеў зверыць свае думкі, выказаныя мною ў рэцэнзіі на вашу кнігу, з думкамі юных чытачоў. Я — стары настаўнік, з дзецьмі кожны дзень... быў, канешне... і таму добра іх ведаю. Для вучня-падлетка ды і для юнака-студэнта ўсе кнігі дзеляцца толькі на дзве катэгорыі: цікавая і нецікавая. Усё, кропка. Ніякіх іншых крытэрыяў у ацэнцы твора для іх не існуе...

«Для чаго ён усё гэта пляце?» — думаў Крамнёў, але руку з кішэні выняў, паклаў на калена. У светла-сініх вачах Кантаровіча, вызваленых ад цяжкіх акуляраў, прамільгнула смяшынка, але голас застаўся тым жа, задуменна-сур'ёзным і крыху сумным:

— Вас, мусіць, цікавіць: дык чаго ж ты, стары букваед, прыйшоў у гэты Палац, калі і так усё ведаеш? А проста мне вельмі захацелася паглядзець, як выглядае сучасны малады пісьменнік, калі яго хваляць, — усміхнуўся прафесар. — А што вас будуць хваліць, я быў упэўнены, бо ўсе мае студэнты адразу ж аднеслі вашу аповесць у разрад цікавых.

— Ну і як я... выглядаў? — скупа ўсміхнуўся Васіль.

— Як і кожны аўтар першай кнігі, калі яго хваляць. Пасля вайны, калі будуць канферэнцыі па вашых новых кнігах, будзеце выглядаць лепш. Упэўнены. Кропка. Есці хочаце? Будзем вячэраць. У таго дзівака, які вас прывёў да мяне, мусіць, дома з харчамі не густа?

— Пачакайце, — зноў сумеўся Васіль. — Вы пра каго?

— Ды пра яго, Шаблюка, — махнуў рукой Кантаровіч. — Апрача яго, хто яшчэ ў акрузе пралезе цераз нашы балоты? А па дарогах цяпер сюды не пройдзеш... Дарэчы, дзе ён зараз? У засадзе з кулямётам?

Васіль напружана і з нейкім унутраным страхам глядзеў на Кантаровіча. Хто ён? І чаму яму вядома выключна ўсё?

— Не хвалюйцеся, — зноў махнуў рукой Кантаровіч і пайшоў да вялізнага серванта, зробленага з чорнага дубу рукамі не сучаснага майстра. — Шаблюк — чалавек надзейны. Трошку — шалапут. Трошку — фантазёр. А так — сваё...

Вярнуўшыся да стала з боханам хлеба і талеркай, поўнай вяндліны і сялянскай кілбасы, працягваў:

— Яно і яму не ўсё трэба давяраць. Рухавы дужа і часам чарку лішнюю прыняць можа. Ды і ці трэба хоць каму ўсё давяраць? Помніце ў Горкага: чалавек павінен гаварыць праўду, але не абавязкова ўсю праўду. Так, здаецца?

«Вось ты яе і не гаворыш, — адзначыў Васіль. — І куды гнеш...»

— Ладна, усё гэта дробязі, — перапыніў сам сябе Кантаровіч. — Не за гэтым жа ты ішоў да мяне. Сядай за стол і расказвай. Часу ў нас не многа. Раніцай я павінен быць у Бярэзінску.

— Мяне, Фама Савельевіч, цікавіць толькі адно пытанне: у Бярэзінску сапраўды ваш сын — бургамістрам?

— Мой.

— Але ж перад вайной, калі я не памыляюся, яго арыштавалі.

— Яе ў трыццаць сёмым таксама арыштавалі, — Кантаровіч вачыма паказаў на партрэт. — І расстралялі. Яе, жанчыну, кандыдата гістарычных навук. А ён, той, пра каго вы пытаеце, тут, у Бярэзінску, пан бургамістр. Калі б здарыўся цуд, і яна ўваскрэсла, я насіў бы яе на вось гэтых старых руках. А вось калі ён ступіць на мой парог, я... — ён паказаў на аўтамат. — Дзеля гэтага і трымаю. А калі ён здагадаецца і не прыйдзе сюды, я дастану яго і там.

Васіль глядзеў у вочы Кантаровічу, і ледзяны холад працінаў усё яго цела. Такой злосці, такой лютай нянавісці ён ні разу не бачыў у чалавечых вачах, тым больш — у вачах бацькі.

— Усё. Кропка, — абарваў Кантаровіч і зноў падышоў да серванта. Дастаў бутэльку, два кілішкі, паставіў на стол: — Вып'ем. Гэта не наш і не іхні. Французскі каньяк. Укралі, гады, і прывезлі сюды. Я сам быў у Парыжы разам з ёю, — зноў паказаў на партрэт. — Вось даваў і вып'ем за яе. А за Парыж пакуль піць не будзем. Парыж таксама здрадзіў. Сам сабе.

Кантаровіч разліў каньяк, выпіў, узяў кавалачак яблыка, памаўчаў, а потым неспадзявана спытаў, ужо звяртаючыся да госця на «ты»:

— Ты не ведаеш, што з брыгадай Дубровіча? Што яна прарвала блакаду, я чуў. А вось дзе яна зараз? На Палік яна не прыйшла.

Крамнёў зноў са здзіўленнем паглядзеў на Кантаровіча: і гэта ведае!

— Гэта цікавіць не толькі мяне, — супакоіў яго Кантаровіч. — Хвалююцца і ў Цэнтры, і на Паліку. Там жа, здаецца, і твае дзве брыгады?

Васіль прамаўчаў. А Кантаровіч працягваў:

— Нядаўна прыходзіў да мяне Рыгор Вайцёнак — ты яго ведаеш, — дык і ён пра брыгаду Дубровіча нічога не ведае.

— Я — таксама, — памаўчаўшы, азваўся Крамнёў. — Я не змог сесці ў самалёт. А калі вярнуўся на Высокую выспу, у наш лагер, брыгады там ужо не было. Вось і блукаю адзін. Праўда, не зусім адзін. Са мной наша радыстка, але без радыёстанцыі.

— Радыстка? — здзівіўся Кантаровіч. — Дык яна ж загінула! Аб гэтым паведаміў у цэнтральны партызанскі штаб адзін з тваіх афіцэраў, здаецца, Міхась Шапавалаў. Масква абяцала прыслаць другую радыстку, як толькі стане вядома, дзе атабарылася брыгада Дубровіча.

— Адкуль і гэта вам вядома? — не стрываў Крамнёў.

— Зямля чуткамі поўніцца, — усміхнуўся Фама Савельевіч. — Не адзін Гаўрыла, што ў Полацку, і не адзін разведчык, што Васіль Крамнёў. Не крыўдуй... — На момант Кантаровіч замоўк, відаць, нешта вырашаючы, потым спытаў: — Можна мне сказаць Вайцёнку, што я цябе бачыў?

— А ён што...

— Праз два дні будзе тут.

— Я хацеў бы з ім сустрэцца.

— Тады будзь на базе Шаблюка роўна праз два дні, ноччу, у дваццаць чатыры нуль-нуль. За тваё здароўе.

## IX

Развітваючыся з Крамнёвым, Кантаровіч яшчэ раз напомніў месца і час сустрэчы з Вайцёнкам, але не сказаў, ці будзе сам прысутнічаць пры гэтай сустрэчы. Ды і наогул прамаўчаў, ведае ён, Кантаровіч, гэтую «базу» ці толькі чуў пра яе ад Вайцёнка. У практыцы работы падпольшчыкаў такое — звычайная з'ява, і таму ад лішніх пытанняў Васіль устрымаўся. І цяпер, падыходзячы да разбуранага хлеўчука, ламаў галаву, што яму сказаць Ігнату і што рабіць з «бабскім гарнізонам». Выселіць такую кабету, як «старшыніха», відаць, будзе цяжэй, чым выбіць паўсотню эсэсаўцаў з жалезабетоннага дота.

Шаблюк таксама не спяшаўся пытаць у Васіля пра вынікі яго сустрэчы са старастам, бо і ён даўно ўжо ведаў, што справа гэта дохлая: нават партызанскія разведчыкі, многіх з якіх ён помніў яшчэ падшыванцамі і не раз частаваў крапівой, а то і лазінай, злавіўшы ў сваім багатым садзе, не дужа ахвотна дзяліліся з ім навінамі, хіба толькі за сталом, у кампаніі з потным глячком. Ну а гэты — рэ-гу-ляр-нік, хрэн з такога што выцягнеш!

Ды, калі ўжо казаць праўду, у гэту мінуту ніякія навіны і не дужа яго цікавілі. Куды больш хваляваў незразумелы дух, што веяў ад «рэгулярніка», надакучліва казытаў яго чуйны нос, асабліва калі Крамнёў аказваўся побач ці злосна лаяўся, наскочыўшы на корч або непрыкметную купіну. «Чым жа гэта Савельіч так нафарбаваў «рэгулярніка»? — пакутаваў стары рыбак.

Нарэшце цярпенне ў яго лопнула, ён тузануў Васіля за рукаў і таямніча прашаптаў:

— Скажы, саколе, у якую святую вадзіцу ты абмакнуў свае вусны? Усё магу распазнаць: і пяршак, і «маскоўскую», і «польскую», нават шнапс фрыцаўскі, а вось гэты боскі пах!.. Дыхнеш, а мая галава — шусь, і паплыла, ніба гэта нясе мяне мая Гэлька, п'яненькага, купаць у рацэ.

Думаючы пра свае няпростыя справы, Крамнёў не адразу зразумеў, пра што чаўпе гэты баламут з кулямётам. Але, сустрэўшыся з яго блакітнымі вачыма і ўбачыўшы там сляды найглыбейшых душэўных пакут, заўважыўшы, з якім замілаваннем ловіць ён сваім вострым носам паветра, Васіль спыніўся і так зычна засмяяўся, што нават сам Шаблюк не на жарт спалохаўся.

— Ды ты што? — замахаў ён рукамі. — Гарнізон разбудзіць захацеў?

— Ладна, ідзём. Пасля ўсё раскажу, — паабяцаў Крамнёў, махнуўшы рукавом па вачах, дзе свяціліся дзве вясёлыя слязінкі. — Ды вось што скажы мне: як нам вызваліць ад жанчын тваю базу?

— А... а гэта навошта? — не зразумеў Ігнат.

— Трэба. — Крамнёў на момант замоўк, але тут жа, успомніўшы, што Вайцёнак хутчэй за ўсё ўжо не раз быў у гэтай зямлянцы, паведаміў, як нешта зусім малаважнае: — Праз два дні дзед Рыгор тут будзе.

— Ды ну?! — аж падскочыў Ігнат.

— Точна. Не будзем жа мы пры чужых людзях?

— Э-э, Васіль Іванавіч, — загарэўся Ігнат, — ды зараз гэта Гэльчына войска шугане з маёй базы, як вераб'і з канапель, што ката ўгледзелі. Ану, ступай весялей! Да раніцы ўсё трэба зрабіць, адкладваць нельга ні на мінуту.

— А можа, усё ж няхай яшчэ суткі пабудуць?

— Суткі?! Ну, калі маю Гэльку тут пакінуць яшчэ на суткі, то пасля сам адсюль уцячэш, — паабяцаў Шаблюк. — Яна хітрэй за ўсю тваю спецгрупу, хутка ва ўсім разбярэцца. Так што шыбуй за мной, будзем браць на абардаж.

Ігнат пёр цераз худасочны арэшнік напралом, нібы спалоханы дзікі казёл. І чым бліжэй было да яліны, пад якой хавалася «база», тым больш рабіў шуму і трэску. І цяжка было паверыць, што ўсе гэтыя суткі ён правёў на нагах, па пакручастай рачулцы цэлы дзень гнаў сваю пласкадонку, цягаў мех рыбы, а цяпер валачэ гэты нялёгкі «дзягцяр».

Забраўшыся пад знявечанае дрэва, Ігнат павесіў на абламаны сучок кулямёт і ціха шапнуў Васілю:

— Паглядзі, ці на месцы лодка. А я... — Ён схіліўся над «люкам» і голасна крыкнуў: — Гэлька, спіш?!

— Што, што здарылася? — вынырнула з падзямелля кучаравая галава Галіны Пятроўны. — Чаго гарлапаніш?

— Збаў громкасць. Немцы. Уваходзяць у вёску. Цэлы батальён. А можа, і два. Чорт іх лічыў. Відаць, пачнецца аблава.

— А божухна! — пляснула ў далоні Пятроўна, і яе і без таго вялікія карыя вочы сталі па яблыку. — Што ж рабіць?

— Слухаць маю каманду. Ясна? — адрэзаў Ігнат голасам, на грозную сілу якога і сам не разлічваў. — Спускайся ўніз і дапамажы сваім бабам сабраць дзяцей. Ды рызманоў сваіх бабскіх не пакідаць!

Вохкаючы і ўсхліпваючы, кабеты мітусіліся па зямлянцы. Радыстка, якая чамусьці не паверыла ўзнятай Ігнатам трывозе, ціха ляжала на нарах, з галавой накрыўшыся нейкім рызманом. Прывучаныя да ўсяго дзеці спалі, а завадатар усяго гэтага гармідару зручна ўсеўся пад ялінай і нецярпліва чакаў, калі вернецца з балота Крамнёў.

## X

Сустрэча з Фамой Кантаровічам многа дала Васілю Крамнёву, але не вырашала ўсіх яго спадзяванняў. І першае, самае важнае з іх: хто такі сёння Пётр Фаміч Кантаровіч? Як апынуўся ён у Бярэзінску, ды яшчэ на такой высокай пасадзе? За якія асобыя заслугі такі шчодры дар?

Тое, што ён пачуў ад бацькі Пятра, не развеяла сумненняў разведчыка. Бургамістр? Ну і што? Фашысты ахвотна бяруць у свае ўстановы людзей адукаваных, ды пакрыўджаных савецкай уладай. Узялі і Пятра Фаміча, ды і самога прафесара, Фаму Савельевіча Кантаровіча. Але куды больш ахвотна падбіраюць фашысты адпетых мярзотнікаў: забойцаў, зладзеяў, здраднікаў, дэзерціраў, якім вайна і раптоўная акупацыя расчынілі турэмныя дзверы. Паліцэйскія гарнізоны ў гарадах і вёсках, захопленых ворагам, кішма кішэлі гэтымі падонкамі. Але да катэгорыі нелюдзей, на думку Крамнёва, ні Пятро, ні Фама Савельевіч не належалі. Так, і аднаго, і другога глыбока пакрыўдзілі. Але хіба гэта падстава, каб аднесці іх да здраднікаў? Хіба мала людзей, нават і з ліку пакрыўджаных, закінула вайна ў гэтыя ж варожыя ўстановы зусім з іншымі мэтамі? Не, не трэба рабіць скараспелыя вывады!

«Пачакаю Вайцёнка. Рыгор — падпольшчык другога калібру, і можа ведаць нешта больш канкрэтнае. І пра Пятра Кантаровіча, і пра брыгаду Дубровіча», — нарэшце заключыў Крамнёў і супакоіўся.

Соня ўсё яшчэ спала, і гэта суцешыла капітана: значыць, ёй стала лепш. Хоць бы хутчэй прыйшоў Вайцёнак! У яго — вялікія сувязі. Можа, удасца звязацца з Масквой, папрасіць самалёт, адправіць Соню на Вялікую зямлю ў шпіталь. Ёй так трэба лячыцца!..

Трывога за Соню ні на дзень не пакідала яго. Трывожыўся ён і за свой лёс.

Што Соня загінула ў блакадзе, на Высокай выспе, ужо ведалі і ў Маскве, і ў Цэнтры. А вось пра яго... Хто і што ведаў пра яго, капітана Васіля Крамнёва? Адстаў ад самалёта? Адставаць можна па-рознаму. І пра гэта ў Цэнтры маглі падумаць, бо ніякіх іншых звестак пра далейшы лёс камандзіра спецгрупы, начальніка штаба партызанскога злучэння, ніхто не меў.

Не ўсё было ясна Крамнёву і ў справе Пятра Кантаровіча, на якога ён тайна ўскладваў сякія-такія надзеі. Чаму Кантаровіч-стараста з такой нянавісцю гаворыць пра Кантаровіча-бургамістра.

Так, Васіль ужо зразумеў, што Кантаровіч-стараста трымае сувязь з партызанамі, а магчыма, і з нашай аператыўнай разведкай. Прыклад таму — рэгулярныя сустрэчы з Вайцёнкам. Але такое магло стацца і не па закліку ўласнага сэрца. Такое маглі прадыктаваць безвыходныя абставіны: ці дапамагай і жыві, ці...

На нарах павярушылася Соня, выглянула з-пад коўдры:

— А гэты... шатландскі стралок... яшчэ не вярнуўся?

— Хто-о? — Васіль здзіўлена паглядзеў на радыстку і, зразумеўшы, пра каго яна пытае, бухнуўся на нары і заліўся вясёлым смехам. Вельмі ж ужо трапным было параўнанне! На момант Крамнёву ўявілася карыкатурная пастава Шаблюка, з рэдзенькай «казлінай» бародкай, у спадніцы-штанах, скроеных з шэрай салдацкай коўдры. Але, убачыўшы Сонін твар, бледны, змучаны, яе вочы, поўныя трывогі і болю, змоўк. Ён не разумеў, чым пакрыўдзіў радыстку, але адразу ж заўважыў, што яго весялосць ёй не спадабалася.

Нейкі момант яны маўчалі, потым Соня асцярожна села, ціха папрасіла:

— Дай, калі ласка, вады... — Вярнуўшы кварту, доўга і са страхам аглядала змрочнае падзямелле, потым зноў нырнула пад коўдру.

— Соня, табе нездаровіцца? — прысеўшы побач, асцярожна спытаў Крамнёў.

— Так... нічога, — плечы яе нервова ўздрыгнулі. Нейкі момант ляжала нерухома, потым рыўком скінула з сябе коўдру і, схапіўшы руку Крамнёва, задыхаючыся зашаптала: — Вася, калі ж усё гэта скончыцца? Як толькі заплюшчу вочы, жоўтае бервяно... Божа, калі яно знікне з маіх вачэй? Няўжо так і будзе вісець нада мною ўсё жыццё?

— Пройдзе, Сонейка, пройдзе, — абняўшы дзяўчыну за плечы, прашаптаў і Васіль, стараючыся надаць свайму голасу ўпэўненасць, хоць і сам не верыў у тое, што кажа, хоць і разумеў, што і яна не верыць у праўдзівасць яго суцяшэнняў, не верыць і ўсё ж ўдзячная яму за спагаду, за шчырую цеплыню гэтых слоў, за той боль, яго, Васіля, боль, які ў ім хаваецца. Соня прыціснула руку капітана да сваёй бледнай гарачай шчакі, заплюшчыла вочы.

Скамянеўшы, баючыся паварушыцца, Васіль сядзеў каля Соні аж пакуль не пачуў яе спакойнае роўнае дыханне. Потым асцярожна вызваліў руку і ціха выйшаў з зямлянкі.

«У Маскву, на Вялікую зямлю, у шпіталь, — працягваючы думаць пра Соню, паўтараў Васіль, сам па плечы завязшы ў халоднай макрэчы. — Толькі б хутчэй прыйшоў Вайцёнак. Толькі б даць у Цэнтр радыёграму!»...

## XI

Яны з’явіліся на выспе роўна ў поўнач. Ішлі няспешна, адзін за адным, след у след. Першым — Рыгор Вайцёнак, за ім — Фама Кантаровіч. Апошнім дыбаў Ігнат Шаблюк. Усе трое былі без аніякай зброі, калі не лічыць сукаваты ядлоўцавы кій у руках старасты.

Па тым, як упэўнена спусціліся ў падзямелле Рыгор і Фама, Крамнёў зразумеў, што яны тут — не навічкі.

Падкруціўшы кнот у ліхтары, Фама Савельевіч адразу ж усеўся за сталом, а Рыгор яшчэ нейкі момант стаяў ля дзвярэй, моўчкі глядзеў на Васіля, нібы не верыў, што гэта сапраўды ён, Васька, Васіль Іванавіч, капітан, потым рыўком абхапіў яго за плечы і заплакаў.

— Ну вось... Ну што вы? — сумеўся Васіль, стараючыся праглынуць горка-салёны ком, які раптам здушыў яго горла.

— Я так... я так... — Вайцёнак адхіліў ад сябе Васіля, паглядзеў яму ў вочы, вінавата ўсміхнуўся: — Стары стаў... Нервы... зусім развінціліся... — Рукой выцер вочы, заклапочана агледзеў «хату»: — А... а дзе ж...

— Тут я, дзядуля, тут! — саскочыла з нараў Соня, прытулілася да старога разведчыка.

— Яна!.. Белачка! — Рыгор лёгка, нібы дзіця, падняў на руках дзяўчыну, асцярожна пасадзіў на нары, прашаптаў:

— Не веру, не веру...

— Вось бачыце, жывая...

— Жывая! А каму ж яшчэ жыць?

— Ну што, пачнём, — азваўся Фама Кантаровіч. — Часу ў нас не так і багата, цяпер днее рана.

— Ага, пачнём, — схамянуўся Рыгор, пагладзіў залатыя валасы радысткі, на вуха шапнуў:

— Я гасцінчык прынёс табе. Ну ды потым...

— Што, дзядуля, што? — загарэлася Соня.

— Потым, потым, — загадкава паўтарыў Рыгор і паспяшаўся да стала, дзе яго ўжо чакалі Васіль і Фама Кантаровіч.

## XII

Стол, адным бокам «навечна» прыкаваны да сцяны, яўна не быў прыстасаваны ні для прыёму гасцей, ні для шырокіх нарад. Таму Фама Кантаровіч заняў лаву справа, Ігнат — злева, а Крамнёву і Вайцёнку засталося месца ў цэнтры.

Соня, хоць і яе запрасілі, засталася на нарах, а потым, зняўшы са сцяны свой аўтамат, і зусім выйшла з зямлянкі.

Кантаровіч, не спяшаючыся, развязаў папку, акуратна расклаў на стале паперы, зірнуў на Вайцёнка:

— Пачнём?

Рыгор кіўнуў. Кантаровіч разгладзіў нямецкую карту-двухвёрстку, перадаў яе Крамнёву:

— Вам як начальніку штаба партызанского злучэння. Гэта — план дыслакацыі немцаў, якія акружылі Палік і Домжарыцкія балоты. Па стане на дзесятае мая. Я ўсіх вашых хітрых знакаў не разумею, усё зроблена рукою былога штабнога работніка, кадравага афіцэра, так што вы, спадзяюся, адзін аднаго зразумееце.

— Дзякую, Фама Савельевіч, — прамовіў Крамнёў і запытальна паглядзеў на Вайцёнка.

— Бяры, у мяне ёсць копія, — ціха адказаў Вайцёнак.

— Яшчэ раз — дзякую, — хаваючы карту ў планшэт, паўтарыў капітан. — Думаю, што яна мне спатрэбіцца ў самым хуткім часе.

— Дай Бог, але гэта не ўсё. Вось тут, — Кантаровіч паказаў запячатаны канверт, — спіс дыверсантаў, якіх немцы закінулі ў наш тыл — іх сто восемдзесят два, і спіс тых, хто будзе неўзабаве туды закінуты. Іх — сто пяцьдзесят. Яны заканчваюць разведвальна-дыверсійную дэсантную школу. Усе — уласаўцы. Вучацца тут, у нашым раёне.

Крамнёў зноў паглядзеў на Вайцёнка.

— І гэта бяры. Ёсць копія, і не адна. Сёння спіскі будуць у Маскве.

— С-с-сёння?!

— Ага, сёння. Слухай далей.

— А гэта ўжо слухай ты, Рыгор. Загадана перадаць вусна. У пачатку чэрвеня супроць брыгады «дзядзі Колі» выступіць васьмітысячныя дывізія карнікаў, якая мае дзесяць танкаў, мінамётны полк, чатыры артбатарэі сярэдняга і буйнага калібру. З паветра дывізію будзе падтрымліваць эскадрылля бамбардзіроўшчыкаў. Мінск рэкамендуе неадкладна перавесці брыгаду на левы бераг Бярэзіны. Туды ж павінны перайсці і ўсе іншыя брыгады, што на Паліку. Сваімі сіламі яны ні ў якім разе не стрымаюць наступлення фашыстаў. Гэта, падкрэсліваю, не мая думка.

— Зразумела, Фама Савельевіч! Я заўтра ж буду на Паліку.

Кантаровіч згодна кіўнуў галавой, кінуў у печку папку, вярнуўся да стала:

— Ну а ты, камендант, чаго прыціх?

— Чакаю, — сціпла адазваўся Шаблюк.

— Ну, калі чакаеш, то слухай. Тыя людзі, пра якіх я табе казаў, павінны прыбыць сюды ў канцы гэтага тыдня. Шаснаццаць чалавек. Зброя ў іх —

свая. Могуць прыйсці не адразу ўсе — як складуцца абставіны. Пароль — «чорны бэз».

Чорны бэз... Чорны бэз, — паўтарыў Ігнат, утаропіўшы свае хітрыя вочы ў столь. — Чорны бэз... Слухайце, Фама Савельіч, а чаму бэз — чорны?

— А таму, каб не кожны дурань мог так падумаць, — кінуў у адказ Кантаровіч, якога хітрая наіўнасць Шаблюка часам смяшыла, а часам і злавала.

— Ну так ужо і кожны дурань, — пакрыўдзіўся Ігнат, і гарэзлівыя чорцікі, якія толькі што весела скакалі ў яго вачах, зніклі.

Ён зняў з крука ліхтар і ўжо сур'ёзна спытаў: — Павячэраем? — І, не чакаючы агульнае згоды, пайшоў паміж нараў да супрацьлеглай сцяны. Ля сцяны стаў на калені, нешта пашукаў пад нарамі то з аднаго, то з другога боку і, відаць, не знайшоўшы тое, што трэба, абапёрся рукой аб сцяну, зноў стаў на ногі. І... здарылася нешта неверагоднае. Глухая, маналітная сцяна пад рукой Шаблюка раптам уздрыгнула, і яе левы бок ціха-ціха папоўз, знік за нарамі. У сцяне ўтварыўся цёмны праём — звычайныя, як прайсці чалавеку, дзверы. Задаволена глянуўшы на Васіля, які са здзіўленнем сачыў за кожным яго рухам, Ігнат падняў над галавой ліхтар і знік за гэтымі дзвярыма.

* * *

Сядзелі за сталом, на сваіх ранейшых месцах, і толькі стол цяпер меў зусім іншы выгляд. Дзелавыя паперы зніклі. У цэнтры стала стаяў запацелы глячок, вялізная талерка з вяндлінай, ляжалі кольцы кілбасы, некалькі салёных гуркоў, цыбуліна, непачаты бохан хлеба, некалькі антонаўскіх яблыкаў, сонечна-жоўтых і такіх празрыстых, што праз іх залацістую мякаць, нават пры цьмяным святле ліхтара, глядзелася кожнае зярнятка.

— Гэта — для Соні! — аб'явіў Вайцёнак і накрыў яблыкі бялюткім ручніком. — А гэта — нам, — паклаў ён на запацелы глячок. — Будзем баляваць. Адзначым і тваё, Іванавіч, і Соніна ўваскрэсенне. Мы, каюся, пахавалі вас...

— А мяне чаму? — засмяяўся Васіль. — Ладна радыстку...

— А таму, Вася, — перапыніў яго Вайцёнак, — што і Валя мая, і твой Міхась Шапавалаў паведамілі, што ты ў Маскву не вярнуўся. Прыкрыў сабою і самалёт, і сяброў-рэгулярнікаў, калі немцы на аэрадром уварваліся...

— Ну так ужо і прыкрыў... — сумеўся Крамнёў, а Рыгор адмахнуўся:

— Маўчы, хлопец. Я ж цябе добра знаю. Кліч радыстку.

## XIII

«Балявалі» не доўга. Раз-другі дзынкнулі шклянкамі, і Фама Кантаровіч заспяшаўся:

— Я, браткі, пакідаю вас. Служба! — Ён сумна ўсміхнуўся і, больш нічога не сказаўшы, пакінуў зямлянку.

— Ну а мы яшчэ пасядзім, — крыху памаўчаўшы, прамовіў Рыгор. — У мяне ёсць гадзінка ў запасе.

— Дзядуля, а дзе падарунак? — усміхнулася Соня.

— А-а, падарунак! Ёсць, дачушка, ёсць... Ігнат, прынясі маю скрыначку.

Шаблюк нырнуў пад нары і ўрачыста паставіў на стол цяжкую квадратную скрынку.

— Рыгор Іванавіч, што гэта? — сумелася Соня.

— Радыёстанцыя.

— Што-о-о? — Соня павольна паднялася з лавы. — Р-радыёстанцыя?

— Ага, радыёстанцыя, — спакойна паўтарыў Вайцёнак. — І сёння мы з табой яе апробуем. А пакуль ідзі, правер, ці ўсё ў ёй ладна. Ігнат табе дапаможа. Ён таксама ў гэтай справе нешта кумекае.

Застаўшыся з Крамнёвым адзін на адзін, Рыгор пасадзіў яго побач з сабою, абняў за плечы і ціха загаварыў:

— Параіцца, Вася, хачу з табою... Думаў я, думаў і рашыў: не пойдзе наш Дубровіч сюды, на Палік.

— Не пойдзе? Але ж...

— То і бяда, што на вайне шмат гэтых «але»... Так, планавалі. Ды план на вайне — што пухір на вадзе: кранеш пальцам, а ён і лопнуў. А наш «пухір» не палец крануў, — блакада і голад. Голад і доўгая блакада знясілілі людзей, і не могуць яны прыйсці да нас. Ні фізічных сіл, ні зброі не хопіць. Пустыя і жываты, і вінтоўкі. Ні хлеба, ні патронаў...

— Пачакайце, — сумеўся Васіль. — Куды ж, па-вашаму, ён можа падацца... галодны і з пустымі вінтоўкамі?

— Ёсць куды. І я думаю, што ён туды зараз і кіруе.

— І далёка гэтае «куды»? — памаўчаўшы, спытаў Крамнёў.

— Далекавата. Але, — сумна ўсміхнуўся Рыгор, — думаю, што ў нас з табой сіл хопіць, каб дайсці «туды»...

## *Раздзел чацвёрты*

# УДАР МАЛАНКІ

## I

Барсучыныя горы — дзіўнае стварэнне фантазёркі-прыроды. Рэдкая для тутэйшых мясцін гара, нібы даўно анямелы вулкан, узнялася над пушчай метраў на трыста, на амаль пляскай вяршыні якой, нібы слуп чорнай стылай лавы, стаіць чубок састарэлых ялін, што ў нейкім дзікім экстазе спляліся між сабою магутнымі калючымі лапамі.

Гару тугой халоднай пятлёй абвіла вузкая, нібы штучны глыбокі канал, рачулка — безыменны прыток Ціхай Лані, які за стагоддзі падтачыў крутыя берагі, і цяжкія цёмна-шэрыя глыбы акамянелага вапняку грозна вісяць над амаль нерухомай цёмнай вадой. Падступіцца, трапіць на вяршыню гары можна толькі з заходняга боку, дзе рачулка, нібы знарок, пакінула людзям вузенькі, як праехаць вясковым калёсам, праход. Ды на амаль голай вяршыні гары чалавеку няма чым пажывіцца, то і гэта мізэрная палоска зямлі даўным-даўно зарасла калючымі кустамі ажынаў ды дзікім малiннікам.

Узнесла прырода нешта велічна-халоднае, амаль непрыступнае, ды, расчараваўшыся непатрэбствам свайго стварэння, кінула яго на здзек асеннім дажджам, зімовым завірухам ды марозным вятрам.

Ёсць на беразе безымяннай рачулкі, у змрочнай глыбіні дзікай пушчы забытая богам горачка, а на ёй — партызанская база яшчэ тых, даўніх часоў, калі па шматпакутнай беларускай зямлі гулялі польскія «жалнежы», і па-новаму абжытая зараз, у крывавыя дні вайны з нямецкімі фашыстамі.

Камбрыг Мірон Дубровіч, стараючыся нікога не патрывожыць, яшчэ да сонца пакінуў штабную зямлянку, у якой жыў у сорак першым і ў якую вярнуўся цяпер, майскім днём сорак чацвёртага. Карцела агледзець былыя

уладанні, а кажучы праўду, адшукаць і праверыць свае даўнія сховы, ад якіх сёння цалкам залежаў лёс яго знясіленай голадам і цяжкімі баямі брыгады.

Ён выбраўся з чэпкіх зараснікаў і спыніўся на голым месцы, на краі абрыва, што вісеў над ракою. І нечакана пачуў знаёмую песню:

И-идет война народная,
С-священная в-в-война!..

Дубровіч азірнуўся на голас і ўбачыў Антона Сімука, свайго былога эмтээсаўскага механіка, а цяпер брыгаднага разведчыка і адначасова «начбоя». Антон сядзеў на круталобым камені, цягнуў дурным голасам песню і з дубовага круглячка стругаў сабе лыжку. Яго ранейшая лыжка, адлітая з крыла самалёта, збітага партызанамі яшчэ ў сорак другім, засталася дзесьці ў возеры ці на тым злашчасным перашыйку.

П-пусть ярость благородная
В-вскипает...

— Ах, маць тваю! — Антон злосна плюнуў, шпурнуў у кусты цяжкі, як кавалак рэйкі, дубовы круглячок, якому не мог даць рады, сунуў у рот парэзаны палец і пачаў шукаць у кішэнях бінт, якога там даўно не было. Знайшоў нейкую анучу, якая, відаць, выконвала ролю насоўкі, пачаў бінтаваць палец, а Дубровіч, не жадаючы бянтэжыць добрага чалавека, зноў нырнуў у кусты. І зноў нічога там не знайшоў. Затое знайшоў Антона, які поўзаў па траве на каленях ды шукаў свой злашчасны непакорны круглячок.

— Ты што тут шукаеш? — нібыта здзівіўся камбрыг.

— Я? Ды так... табакерку згубіў, — сумеўся Антон і схаваў у кішэню парэзаную руку. — А вы як сюды трапілі ў такую рань?

— Таксама шукаю. Склады нашы згубіў. Вось і поўзаю па ламаччы. Помніш ямы, якія мы тут капалі ў сорак першым?

— Уга! — ажывіўся Антон і падхапіўся на ногі. — Ды вы зусім не там шукаеце. Хадземце, пакажу. Мы з дзедам Рыгорам іх яшчэ ўчора праверылі.

— Праверылі? — насцеражыўся камбрыг.

— Ды не, іх мы не чапалі. Знайшлі, паглядзелі. Як быццам цэлыя, не кранутыя.

— А-а, — з палёгкай уздыхнуў камбрыг. — Цэлыя. Ну дык вось, Антон Пятровіч. Бяры ногі ў рукі і айда ў маю зямлянку. Няхай Вайцёнак знойдзе Сіўцова. Бярыце самых моцных хлапцоў, рыдлёўкі — яны ёсць у «штабной» зямлянцы, — і газуйце да мяне. Будзем рабіць інвентарызацыю базы.

— О! Гэта я мігам! — Антон зноў кінуў у кусты свой злашчасны круглячок, імгненна знік сярод мізэрных каржакаватых дубкоў-ліліпутаў.

## II

«Інвентарызацыю» базы, усіх яе шасці патаемных падземных сховішчаў, закончылі, калі стомленае майскае сонца ціха знікла за лесам.

Усё збераглі Барсучыныя горы! Ад бляшанкі тушонкі да аўтаматна-вінтовачнага патрона. Нават выдатны зялёны брызент, некалі зняты з армейскіх павозак, якім былі старанна ўхутаны ямы з дабром ці проста пакінуты ў гэтых жа ямах пра запас, застаўся цалюткім: бяры і ўкрывайся ім ад непагоды.

Калі ашчадна траціць запас, што зберагла сакрэтная база, прадуктаў хопіць не менш як на месяц. А там... Вунь зусім недалёка, здаецца, пад

Оршай, а мо і бліжэй, грыміць дзень і ноч артылерыйская кананада, а па начах над неабсяжнымі балотамі кружаць увішныя «Мігі» і цяжка нагружаныя транспартныя самалёты.

І ўсё ж трэба спяшацца. Дзесяткі партызанскіх брыгад і атрадаў, тысячы і тысячы тых, хто разам з партызанамі адышоў у непрыступныя для ворага балоты, цяпер, акружаныя фашыстамі двайным і трайным кальцом, ядуць траву і кару дрэў, штодзень сотнямі гінуць ад голаду і хвароб, ад асколкаў снарадаў і мін, параненыя захлёбваюцца ў балотнай твані. Трэба ратаваць людзей! Неадкладна выводзіць іх з праклятых, непрыступных для ворага мясцін. Неадкладна! Брыгада па волі лёсу ці яе камандзіра аказалася ў тыле фашыстаў, якія зусім пра тое не ведаюць. Трэба зараз жа скарыстаць гэтую акалічнасць.

Штаб працаваў. На няўклюдным стале, збітым з тоўстых, даўно пачарнелых гарбылёў, гарэла свечка, яшчэ ў сорак першым прывезеная сюды з эмтээсаўскай крамы Рыгорам Вайцёнкам, ляжала, разгорнутая ва ўсю шырыню шылераўская аператыўная карта, а вакол стала, звесіўшы над картай галовы, моўчкі стаялі Хмара, Крамнёў, начштаба брыгады Васільеў і троху воддаль ад іх дзед Рыгор, на якога зрэдку заклапочана пазіраў палкоўнік Хмара.

— Ну, дык чаго ты маўчыш, Рыгор Іванавіч? — нарэшце ўзняў галаву палкоўнік і ва ўпор незадаволена пагледзеў таму ў вочы. — Дзе? Ты можаш паказаць гэта на карце? Ты ж быў там не раз! І цяпер толькі што адтуль.

— Слухай, герой, — не выпускаючы з рук барады, спакойна, з усмешкай азваўся дзед. — У дзесяты раз кажу табе: я нічога ў гэтых малюнках, што на тваёй паперыне, не разумею. Хочаш ведаць, дзе зараз твае брыгады, ідзем, пакажу. А гэта, — кіўнуў ён на карту, — гэта, браток, для мяне фількіна грамата.

— Добра, — уздыхнуў Хмара. — Я падумаю.

Ён згарнуў карту, узяў з нараў шынель.

— Ты гэта куды на ноч гледзячы? — затрымаў яго каля дзвярэй Дубровіч.

— Прайдуся. Спаць не хочацца. А ты кладзіся. Пасты я сам праверу. Ага, пароль на сёння?

— Волга.

— Ну, спі спакойна. Бачу, ледзь на нагах трымаешся.

— Ды троху ёсць, — стомлена ўсміхнуўся камбрыг і, не распранаючыся, забурыўся на нары.

## III

Нечаканая, неспадзяваная навіна, што прынёс з Паліка Рыгор Вайцёнак, з новай сілай абудзіла ў сэрцы палкоўніка цяжкі боль, які ледзь-ледзь прытупілі час і штодзённыя беды вайны.

— У вас была жонка? — у першы ж вечар, як толькі знясіленая шматдзённым блуканнем па пушчы брыгада размясцілася на вышыні і Хмара застаўся з Рыгорам адзін на адзін у «штабной» зямлянцы, асцярожна спытаў сувязны.

Хмара ўздрыгнуў. Такога пытання ад малазнаёмага чалавека ён не чакаў.

— Даруйце, — сумеўся Рыгор, — але... Бачыце, я зусім нядаўна быў у адной вашай брыгадзе там, на Паліку. І сустрэў жанчыну. Нехта сказаў мне, што гэта іх доктар, хірург, і што прозвішча ў яе... рэдкае прозвішча: Хмара. Тут я і ўспомніў вас.

— А звацц... як завуць яе? — падаўся да Рыгора палкоўнік.

— Не ведаю. Маладая, год мо трыццаці. Светленькая, худзенькая... Ну, ды там, у балотах, усе худзенькія, — уздыхнуўшы, дадаў Рыгор і заціх.

Хмара доўга сядзеў на нарах нерухома. «Беленькая... хірург... Божа, няўжо? Тут, у балотах!.. За сотні вёрст!»

І, нібы падхопленае віхурай асенняе лісце, пранеслася ў памяці яго не такое ўжо і далёкае мінулае...

* * *

...Калі ён ноччу 23 чэрвеня 1941 года забег у сваю кватэру ў Брэсце, то знайшоў яе пустой. На падлозе валяліся сшыткі сына-пяцікласніка, на тахце ляжалі яго ж падручнікі і проста кнігі, а дзверы адзінай шафы, дзе захаваўся ўвесь шматгадовы камсастаўскі набытак, былі расчынены, хоць у шафе ўсё было некранутым: віселі святочныя жончыны сукенкі, яго летні цывільны касцюм. Стаялі ўнізе яго і жончыны модныя туфлі. Трошку асобна вісела парадная афіцэрская форма з двума «шпаламі» на зялёных пятліцах гімнасцёркі.

Дзіцячага адзення ў шафе не было.

Леанід Пятровіч рынуўся ў другі пакойчык, дзе звычайна спаў дванаццацігадовы Сярожка і дзе быў яго столік, за якім ён рыхтаваў урокі. Пакойчык таксама быў пусты. На століку стаяла чарніліца, ляжалі ўроскід рознакаляровыя алоўкі, а каля століка на падлозе валяўся разбіты сандалік. Леанід Пятровіч для чагосьці падняў яго, доўга разглядваў, нібы вырашаў, варта ці не яго рамантаваць, кінуў пад стол і выйшаў у калідор.

На шырокай змрочнай пляцоўцы сутыкнуўся з суседам Стаўровым, работнікам абкома партыі, яшчэ маладым чалавекам, які нядаўна вярнуўся з фінскай вайны на пратэзе, пранізлівае рыпенне якога чуў за сцяною кожную раніцу.

Стаўроў, відаць, даўно заўважыў яго, а можа, і проста пачуў, што нехта зайшоў у кватэру суседа, і ціха стаяў, абапёршыся на чорную кульбу, чакаў, што будзе далей.

— Сцяпан Пятровіч, — памкнуўся да яго Хмара, — дзе...

— Ведаю, — перахапіў Стаўроў. — Сам кіраваў эвакуацыяй. Раніцай эшалон з сем'ямі адказных работнікаў адправілі на Мінск. З-пад агню выхапілі. Сяргей ваш сказаў мне, што ў яго ў Маскве...

— Сярожка? Паехаў адзін? А Зоя... Зоя дзе?

— Зоя Савельеўна ў крэпасці. Усіх медыкаў мабілізавалі і адправілі ў крэпасць. Першымі — хірургаў...

Хмара прыхіліўся да сцяны. Стаўроў асцярожна дакрануўся да яго пляча, уздыхнуў і, стараючыся не вельмі грукаць пратэзам і кульбай, знік у сваёй маленькай кватэрцы, дзе, ведаў Хмара, жыў адзін: прыгажуня-жонка, афіцыянтка рэстарана, з кімсьці збегла, як толькі ён вярнуўся са шпіталя на мыліцах...

Стаяў Хмара не доўга. Нізка над горадам пранесліся самалёты, і праз якую мінуту зямля нервова затузалася, нібы ад балючае раны.

«Па крэпасці? Ці па маёй абароне?» — Ён хуценька вярнуўся ў кватэру, адшукаў пад ложкам «аварыйны» чамадан, запіхнуў у яго сваю парадную форму, накінуў на плечы шынель і, зачыніўшы дзверы на ключ, выйшаў на вуліцу, дзе чакала машына.

Над крэпасцю павольна разгаралася злавеснае зарыва...

«Туды? Не, позна. Не праскочым», — Хмара кінуў на задняе сядзенне чамадан, ціха сказаў шафёру:

— На заставу.

Ды заставы ўжо не было. Вогненны смерч гуляў над граніцай, над пагранічнымі ўмацаваннямі. Зямля, неба, зоркі — усё перамяшалася ў чорна-вогненны вал, які з дзікім рыкам, свістам і завываннем злавесна каціўся на ўсход, знішчаючы ўсё на сваім шляху.

З размаху кінуў і яго ў цесны акопчык, засыпаў зямлёю. Колькі часу праляжаў ён, аглушаны разрывам авіябомбы? Колькі часу потым, крыху ачуняўшы, ішоў следам за вогненным валам, — на ўсход, да сваіх? Дайшоў. Магілёў... Смаленск... Ельня... Нарафамінская шаша... Маскоўскі шпіталь... Адна рука... І — Зорка Героя.

А фронт? Навошта ён фронту, абломак вайны з адной рукою! Спатрэбіўся! Генеральны штаб, разведупраўленне, «Цэнтр». Палкоўнік разведкі. І вось цяпер, чаго і ў сне не мог уявіць, — камандзір партызанскога злучэння!

Будучы ў Маскве, шукаў сына. Не знайшоў. Сказалі, што разам з цёткай, старэйшай Зоінай сястрой, эвакуіраваўся. Ні то кудысьці ў Сібір, ні то ў Сярэднюю Азію. А Зоя... няўжо яна выжыла ў агні Брэсцкай крэпасці? І калі выжыла, то як магла трапіць сюды, на Палік, ды яшчэ ў адну з яго брыгад? А дзе сёння тая брыгада, якую ён яшчэ і не бачыў? Бачыў аднойчы яе камандзіра там, на Высокай выспе, у бліндажы Дубровіча, дзе і фарміравалася злучэнне з трох асобных брыгад. Грандыёзная карная экспедыцыя фашыстаў раскідала злучэнне: каго — у балоты, каго — вось на гэтую гару. І дзе яны зараз, тыя дзве яго брыгады? Рыгор Вайцёнак ведае. А вось паказаць на карце не змог. Для яго карта — «фількіна грамата». Для яго, самародка-разведчыка, карта — яго ўласныя вочы, яго дзівосная памяць. Ён ведае на сто, дзвесце, трыста вёрст наўкол кожную сцежку, на якую хоць раз ступала яго нага, помніць кожную рачулку ці азярцо, куды хоць раз закінуў сваю самаробную вуду. А вось вайсковая карта... А якая карта можа быць для чалавека, які за ўсе свае 65 год жыцця ні разу не пераступіў школьнага парога? Усё жыццё яго, ад маленства да старасці, — конь, плуг, барана ды каса, а ў ліхую гадзіну — акоп і вінтоўка ды яшчэ святая нянавісць да ворага, які пасягнуў на яго поле і яго хату. А калі патрэбна ад яго нешта больш важнае, ідзі за мной, пакажу, што цікавіць — раскажу.

«Ну што ж, і пайду, — пакінуўшы штабную зямлянку і дзіўнага дзеда, думаў Хмара. — Там, у балотах, гінуць людзі. Не па сваёй волі я іх туды кінуў. Ды што гэта мяняе? Людзі гінуць. І сярод іх... худзенькая, беленькая... Можа, гэта і не яна? Як магла яна трапіць сюды? Ды адкуль, з такога пекла!..»

Так, размаўляючы ў думках сам з сабою, блукаў па незнаёмай горачцы «абломак другой сусветнай вайны», як ахрысціў самога сябе палкоўнік Леанід Пятровіч Хмара, камандзір партызанскага злучэння. Ніякія пасты ён не правяраў, бо сам іх не ставіў і ведаць не ведаў, дзе яны ёсць. Проста хацелася пабыць аднаму са сваімі надзеямі і трывогай, а таму спалохана ўздрыгнуў, калі раптам пачуў грознае:

— Стой! Ні з месца!

— Волга, — хапатліва адазваўся ён і спыніўся, спрабуючы пры цьмяным святле шчарбатага месяца ўбачыць таго, хто так сурова і неспадзяванна абарваў яго думкі.

Людзі, што абступілі Хмару, былі незнаёмыя, але яны яго ўжо ведалі і яўна былі задаволеныя, што іх правярае сам камандзір злучэння, Герой, і што яны, хоць зусім і не героі, мурзатыя і абарваныя, не ўдарылі тварам у гразь перад высокім начальствам.

— Стой! Ні з месца!

— Волга. Я — Волга. Ну што тут у вас, ціха?

— Якое там ціха, таварыш палкоўнік. Салаўі! Смальнуць бы па іх. Усю душу перавярнулі!.. Не скажаце, які зараз час?

— Палова на другую... Слухайце, хлопцы, слухайце салаўёў. А больш — цішыню слухайце. Салаўі салаўямі, а як бы незнарок не заспявалі фашысцкія кулі.

— Ды які чорт занясе сюды фрыца?

— Чорт не занясе, а сам прыйсці можа.

— Няхай толькі сунецца! Будзе ляцець з гэтага бугра, што тая баба з прыпечка.

«Вось яны, партызаны...» — Хмара скупа ўсміхнуўся, асцярожна прабраўся скрозь рагаты дубняк на бераг ракі, спыніўся на краі крутога абрыву, які здаўся яму каньёнам, што некалі бачыў у Нарвегіі. Зірнуў уніз, як будзе ляцець з гэтага «прыпечка» фрыц, калі сюды сунецца. Па спіне прапаўзла халодная мурашка: добра будзе ляцець!

Хмара паправіў на грудзях аўтамат і праз усё той жа рагаты дубняк пайшоў да штабной зямлянкі.

## IV

Была палова чацвёртай, а ў зямлянцы чамусьці ўжо ніхто не спаў. Сядзелі на лаве, каля самых дзвярэй, Віктар Дрозд і Антон Сімук. Абапёршыся рукамі на чаранок новенькай сапёрнай рыдлёўкі, Сімук, здаецца, драмаў, а Дрозд, паклаўшы такую ж рыдлёўку на калені, нешта шаптаў на вуха Ваську Груку, які «па-турэцку» прымасціўся проста на зямлі.

Хмара ціхенька, на дыбачках, стараючыся нікога не патрывожыць, прабраўся да нараў, кінуў на іх аўтамат і шынель, прыляпіўся побач з камбрыгам. Дубровіч коса, цераз плячо, зірнуў на яго, нібы палкоўнік зусім недарэчы абарваў яго, Міронавы довады, але тут жа спахапіўся, прыветліва кіўнуў галавою і, нейкую секунду памаўчаўшы, усё так жа ціха, але горача загаварыў:

— ...Разумееце? Адначасова, мінута ў мінуту. Мая брыгада б'е адсюль, з тылу. Усімі сіламі, усімі сродкамі. А брыгады «Разгром» і «Лявона» — у лоб. Нечакана і ў лоб! «Удар маланкі» — так назваў бы я гэту нашу, цяпер ужо, відаць, апошнюю аперацыю.

— І калі?

Усе зірнулі на палкоўніка. Той быў узрушаны, нават бледныя шчокі яго паружавелі.

— Я ўсё зразумеў, Мірон Ігнатавіч, — ён паклаў руку на плячо камбрыгу. — І вельмі рады. Вы нібыта прачыталі мае думкі. Рад. Ну, пра дэталі — днём. А зараз... — Ён перасеў на нары, скінуў з ног разбітыя боты.

Праз хвіліну спаў, з галавой укрыўшыся зялёным брызентам.

У зямлянцы доўга панавала цішыня, толькі ціха патрэсквала свечка, што стаяла на гарбатым стале. Дубровіч падняў з падлогі боты палкоўніка, падаў знак ардынарцу рукою.

— Слухаю, Мірон Ігнатавіч! — падляцеў Грук.

— Не крычы. На, падбяры пару па гэтым памеры. У яме нумар чатыры ёсць скрынка з абуткам для камсаставу. Боты паставіш каля нараў.

— Толькі боты?

— Бяжы, — адмахнуўся камбрыг і павярнуўся да Крамнёва. — Васіль Іванавіч, план абароны карнікаў вакол гэтых балот, што прынёс нам Фама Кантаровіч, у вас? Дайце на хвілінку.

Ён разгарнуў на стале паверх сваёй пашматанай двухвёрсткі новенькую карту-план, зробленую вопытнай і ўмелай рукою, паглядзеў на камандзіра брыгаднай разведкі:

— Разумееш? Гэта, Сіўцоў, ужо заданне табе. Даставай сваю карту, слухай і адзначай. Вось ад гэтае вёскі, — тыцнуў ён пруцікам у карту-план, — да вось гэтай, — пруцік гульнуў далёка ўбок, — абмацай кожны метр нямецкай абароны. Правер, ці ўсё на месцы. Калі што — адзнач любую змену. Асобна зафіксуй больш-менш слабыя месцы ў абароне немцаў. Як лепш да іх падсту-

піцца. Удакладні, якія змены адбыліся ў бліжэйшых гарнізонах. Ці на месцы артылерыйскія і мінамётныя батарэі.

— Зразумела, Мірон Ігнатавіч, — згарнуў сваю карту Сіўцоў. — Колькі ў мяне часу на гэта?

— Тыдзень. Сёння... чорт вазьмі, лета! Першае чэрвеня. Даложыш сёмага раніцай, і ні днём пазней. Ясна?

— Ясна, — усміхнуўся былы настаўнік.

— Ну то і добра. Ідзі, ды асцярожным будзь. А мы тут, — камбрыг паклікаў Антона Сімука: — Людзі гатовы? Усе — на «круг». Паглядзім твае «танкі» ды праверым сваю артылерыю. Ці не завяліся краты ў ствалах нашых «саракапятак».

— Мірон Ігнатавіч, хвілiначку!

Дубровіч спыніўся. Да яго з паперкай у руцэ спяшалася радыстка Соня Кавалёва.

— Што, Соня? — занепакоіўся камбрыг.

— Вось. З Масквы. З нашага штаба.

Камбрыг асцярожна ўзяў з рук дзяўчыны паперку:

«Віншуем Героем і званнем генерал-маёр. ЦШПР».

Дубровіч здзіўлена паглядзеў на радыстку, разгублена абвёў вачыма групу разведчыкаў, што з рыдлёўкамі ў руках насцярожана сачылі за ім, і неяк нясмела ні то спытаў, ні то загадаў:

— Што, хлопцы, пойдзем? Світае ўжо.

## V

«Склады» зброі і боезапасу, як і падземныя сховішчы на Барсучыных гарах, знайшлі не адразу. «Круг», некалі здратаваны коламі брычак і аўтамашын, ботамі лесарубаў, што два гады цягалі сюды нарыхтаваны для шахтаў Данбаса крапежнік, зарос высачэзнай, па пояс, травою і папаратнікам, маладым арэшнікам, бярозкамі ды яшчэ чорт ведае чым, густым і калючым. Адзіная лясная дарога, што некалі вяла ад «круга» да льнозавода, а там — да невялічкай чыгуначнай станцыі, таксама зарасла непралазнымі кустамі арэшніку, што, відаць, і зберагло партызанскія сховы. А можа, і не гэта. Два трактары «чэтэзэ» з прычэпамі і бочкамі, некалі кінутыя ў зарасніках ядлоўцу, таксама ніхто не крануў. Ды і кратаць не было каму. Вёсак паблізу не было, а калі дзе і засталося некалькі хат, то ў іх жылі дзеці ды бабы, якіх у гэтыя страшныя дні ў лес абаранкам не завабіш.

Нарэшце знайшлі і адкапалі батарэю «саракапятак», прыкацілі на «круг», траву на якім сяк-так прымялі нагамі. Агледзелі. Дубровіч паківаў галавою: новенькія!

— А чорт іх тут узяў! — раўнадушна заўважыў Сімук, выціраючы травой перапэцканыя рукі. — Во, зірніце: на іх салідолу — на палец. — Крыху памаўчаўшы, нібы нешта прыпамінаючы, ажывіўся: — Мірон Ігнатавіч, — помніце, вы ў зямлянцы сказалі: «Паглядзім твае танкі». А што, калі і сапраўды гэтыя дзве ламачыны зрабіць танкамі?

— Ты, Антон, выпадкова не выпіў? — усміхнуўся камбрыг.

— Ды не, не даў Вайцёнак. А пра танкі я сур'ёзна. Бачыце, якія яны малыя ды зграбныя, — паказаў ён на «саракапяткі». — Стаў у прычэп і палі. А трактар... ноччу сам чорт не ўцяміць, паўзе гэта трактар ці танк. Раве матор, ляскаюць гусеніцы. І гармата пуляе. Кулямёты яшчэ можна паставіць, ручныя.

Камбрыг уважліва паглядзеў на свайго былога механіка, а Віктар Дрозд, які ў тэхніцы таксама «з'еў сабаку», нейкі момант стаяў і глядзеў на сябра разявіўшы рот. Потым ціха прашаптаў:

— Кулібін! Антошка, Сталінскую прэмію не гарантую, а вось фрыцаўскую балванку першай ступені атрымаеш абавязкова.

— Сам ты балванка, — без аніякай злосці буркнуў Сімук.

— Дрозд, кліч сюды хлопцаў, — абарваў драздоўскі гумар Дубровіч. — Хапайце гэтага аднарогага казла, паглядзім, як ён памесціцца ў прычэпе.

## VI

«Рэканструкцыя» трактароў закончылася вечарам чацвёртага чэрвеня. Цяпер паўстала новае пытанне: дзе прытуліць «бронетэхніку» да часу, калі настане патрэба кінуць яе ў бой.

— Загонім на наш бугор, — як нешта даўно вырашанае аб'явіў Сімук. — Усё роўна раку давядзецца фарсіраваць, немцы ж на тым баку.

— А пройдуць праз гэтыя джунглі твае «браневікі»? — усумніўся нехта з былых трактарыстаў.

— А куды яны дзенуцца?

Сякая-такая дарога на «бугор» усё ж была, — гэта прасека, якую зрабілі ў сорак першым «акружэнцы», калі на перадках ад брычак цягалі ў лагер кінутае разявамі-інтэндантамі дабро.

...Раніцай пятага чэрвеня 1944 года «танкі» Антона Сімука і Віктара Дразда, пасля надзвычай цяжкага шасцікіламетровага пераходу, выйшлі на зыходную пазіцыю.

## VII

Вечарам гэтага ж дня палкоўнік Леанід Пятровіч Хмара і сувязны Рыгор Вайцёнак пакінулі Барсучыныя горы.

Перад тым як развітацца, камбрыг Дубровіч і камандзір злучэння правялі нараду сам-насам.

— У цябе, Мірон Ігнатавіч, цяпер ёсць радыёстанцыя і радыстка, якая ведае ўсе патрэбныя пазыўныя, — ціха гаварыў палкоўнік. — У мяне будзе таксама. У брыгаду «Лявона», калі помніш, мы паслалі радыста Крамнёва, такога рыжага старшага сяржанта. Спадзяюся, што ні з ім, ні з яго радыёстанцыяй нічога не здарылася. І як толькі я адшукаю Лявонава, адразу ж звяжуся з «Цэнтрам». У мяне там ёсць надзейныя людзі. Папрашу, каб у той час, калі мы рашым пайсці на прарыў, наша авіяцыя нанесла ўдар па ўчастку абароны немцаў, які мы ім пакажам. Ну а калі так не атрымаецца, ударым сваімі сіламі.

— Людзі твае там... траву ядуць... Ці падымуцца?

— Папрашу, каб неадкладна падкінулі прадукты. Толькі знайду, куды іх кінуць.

— То-та. Кругом на дзесяткі вёрст — балота...

— Вайцёнак казаў, што ў Лявонава ёсць энзэ. Дзесятак кароў і коней.

— Вось гэта ўжо нешта рэальнае. А я тут, у лагеры, шпіталь падрыхтую. Крамнёў таксама звяжацца з «Цэнтрам» ды са штабам Баграмяна. Папросім медыкаменты, добры хірург у мяне свой ёсць. Ну а прадуктаў і патронаў цяпер у мяне на адзін добры бой хопіць. А там...

— А там, думаю, ад немцаў і духу не застанецца. Фронт, відаць, ужо каля Оршы.

— Леанід Пятровіч! На вайне і вярста — дарога доўгая.

— Сёння не сорак другі. І не сорак трэці...

## VIII

А ў гэты час Рыгор Вайцёнак, Антон Сімук і Віктар Дрозд на Рыгоравай лодцы гойсалі па рачулцы, што надзейна ахоўвала Барсучыныя горы.

Дзед Рыгор сцвярджаў, што на рачулцы, дужа глыбокай, ёсць перакат, даволі вузкае месца з нізкімі, але трывалымі берагамі, і што цераз гэты перакат партызаны дваццатых гадоў вазілі з зарэчных лугоў сена ў свой лагер, на гару.

Як і заўсёды, памяць не падвяла старога разведчыка. Перакат — вады паўаршына, дно — жвір, хоць цяпер залівай гудронам, — знаходзіўся трошку бліжэй, чым яго шукалі. Вось толькі правы, патрэбны партызанам бераг, аказаўся не такі ўжо і нізкі, бо ціхоня-рака за доўгія гады падтачыла і яго.

Ды бяда не дужа вялікая. Дзесятак добрых хлопцаў, дзесятак рыдлёвак, гадзіну-другую працы, і каці, хоць на легкавушцы!

...Вечарам, за гадзіну да адплыцця Вайцёнка і Хмары, «танкі» Сімука і Дразда памянялі пазіцыю, сталі ў кустах маладога арэшніку насупраць перакату...

## IX

Прадчуванне не падманула Леаніда Пятровіча: «худзенькая, беленькая» і сапраўды аказалася яго жонкай, Зояй Савельеўнай Хмара.

З дапамогай старога Вайцёнка ён адшукаў яе на малюсенькай выспе сярод гразкіх балот. Тут рос дзесятак-другі старых ялін, на карослівых шэрых ствалах якіх, нібы струпы ад застарэлых язваў, віселі камякі даўно засохлай смалы. Пад гэтымі ялінамі, пад іх цяжкімі, амаль чорнымі лапамі і размясціўся шпіталь брыгады «Лявона», — некалькі буданоў, складзеных з такіх жа яловых лапак.

Зоя Савельеўна Хмара, адзіны хірург шпіталя, рабіла аперацыю. Малады партызан, распрануты да пояса, ляжаў на «стале», складзеным з жардзін і засланым асакой і нямецкай стракатай плашч-палаткай. Мажнога складу мужчына, відаць, асістэнт хірурга, у некалі белым халаце, стаяў ля «стала» і звычайнай сталярнай нажоўкай адпілоўваў партызану левую пасінелую руку. Прыгожы твар партызана быў белы, засыпаны буйнымі кроплямі поту, рот і вочы шырока раскрыты. Здавалася, зараз ён закрычыць і скочыць на дол, усланы рыжай ігліцай. Але хлопец — маўчаў. Глядзеў у неба і маўчаў.

Каля мужчыны з нажоўкай са шпрыцам у руках стаяла яна, Зоя Савельеўна Хмара. Твар яе таксама быў белы, і яна таксама маўчала.

Маладзенькая дзяўчына ў светлай паркалёвай сукенцы стаяла ля галавы хлапца, трымала яго правую, здаровую, руку і раз-пораз падносіла да яго кірпатага носа бутэлечку, — відаць, гэта быў нашатырны спірт. Дзяўчына таксама маўчала, а па яе амаль дзіцячым твары каціліся празрыстыя слёзы.

Нарэшце чалавек у калісьці белым халаце разагнуў спіну, кінуў у вядро ампутаваную руку, на белы ручнік паклаў пілку і пайшоў прэч ад «стала». Зоя Савельеўна зрабіла ўкол параненаму, павярнулася, каб узяць з рук дзяўчыны бінт і, ціха ўскрыкнуўшы, павольна асела на зямлю.

...За яе спінай, сціснуўшы сабе горла адзінай рукой, стаяў Леанід Пятровіч Хмара, якога яна пахавала ў вогненную чэрвеньскую ноч 1941-га, калі ёй сказалі, што пагранічнікі, якімі камандаваў муж, загінулі. Усе як адзін...

## X

Чалавеку не дадзена ведаць, адкуль прыйдзе дапамога ў самы крытычны момант у жыцці...

...Антося Вакуловіча ў Брэсце бачылі многія, ды мала хто ведаў. Маўклівы, ваўкаваты, ён не меў ні сяброў, ні добрых знаёмых. Ніхто толкам не ведаў, дзе ён нарадзіўся, дзе жыў усе свае трыццаць год. Казалі, што вырас на Гродзеншчыне, нават меў уласны хутар, ды жыў бабылём. У трыццаць восьмым яго ўзялі ў Войска польскае, у трыццаць дзевятым трапіў у нямецкі палон. Уцёк. Басцяўся па свеце, бо нехта спаліў яго хутар — струхлелую халупу. І вось з'явіўся ў Брэсце. Уладкаваўся на станцыі. Моўчкі хадзіў уздоўж саставаў, грукаў па колах вагонаў малаточкам. Састаў адыходзіў. Пакідаў перон і Вакуловіч.

Пачалася вайна. Прыйшлі фашысты. А Антось Вакуловіч так і застаўся на станцыі. Цяпер хадзіў са сваім малаточкам уздоўж эшалонаў тых самых гансаў і фрыцаў, што некалі паланілі яго. А на захад, у Германію, везлі новых палонных, жанчын, дзяцей, нарабаванае дабро.

Вось гэты Антось і выхапіў тады з бяды жонку падпалкоўніка Хмары, хірурга Зою Савельеўну, якую ведаць не ведаў і бачыць не бачыў.

...Як і ўвесь медсастаў крэпасці, 20 ліпеня немцы адправілі Зою на станцыю і, відаць, пакуль не ведалі, што рабіць з урачамі і медсёстрамі.

Ахоўваў медыкаў салдат з перавязанай левай рукой. Быў ужо прыцемак, на пероне святла не было. Стаяў пад параю доўгі вайсковы састаў, на платформах якога былі накрытыя карычневым брызентам аўташыны і нешта яшчэ ў вялізных скрынках. У самым канцы эшалона свяцілася акенцам цяплушка.

У салдата, відаць, вельмі балела рука. Паклаўшы на калені вінтоўку, ён люляў яе, моршчыўся, хваравіта заплюшчваў вочы.

Карыстаючыся паўзмрокам і няўвагай вартавога, урачы-мужчыны крадком зНікалі пад платформамі эшалона, які, дарэчы, нікім і не ахоўваўся: крэпасць пала, фронт імкліва пакаціўся далей, на ўсход, а паралізаваны неспадзяванай бядой горад анямела маўчаў.

Тут, пад адной з платформаў, яе і ўбачыў Антось Вакуловіч. Ужо без халата, які валяўся між рэек, Зоя Савельеўна стаяла на шпалах на каленях, відаць, пачуўшы блізкія крокі, баялася варухнуцца.

Убачыўшы жанчыну, Антось сагнуўся, на нейкі момант сам здранцвеў, потым, хапатліва азірнуўшыся па баках, сарваў са сваіх плеч форменную куртку, кінуў на плечы жанчыне, выхапіў яе з-пад калёс на перон, прашаптаў:

— Маўчы!

Сілком правёў яе аж у цэнтр эшалона, падхапіў на рукі і беражліва апусціў на платформу пад колы вялізнага крытага грузавіка.

У гэты ж момант састаў ціха крануўся і праз якую хвіліну знік у густым шэрым паўзмроку.

— Так я і вырвалася з палону, — не раскрываючы вачэй, горка ўздыхнула Зоя Савельеўна. — Здаецца, праз тры дні, ноччу, эшалон спыніўся ў Барысаве. Успомніла, што ў Барысаве на Камсамольскай жыве мая знаёмая па медінстытуце, працуе ў бальніцы. Да яе і пайшла. Прыняла. Паўгода жыла ў яе, уладкавалася ў тую ж бальніцу, дзе працавала і Люся. А праз паўгода была ўжо тут, у лесе, у партызанскім атрадзе. Таксама Люся дапамагла... Яна падпольшчыцай аказалася...

Зоя ляжала на ахапку сухой асакі, паклаўшы галаву на калені мужа. Здаецца, ужо зусім супакоілася, як кажуць, прыйшла ў сябе. Стары Вайцёнак, які на ноч застаўся тут, на выспе, пачаставаў яе багатай вячэрай, і таму хіліла на сон.

— Параненых многа? — памаўчаўшы, спытаў Леанід Пятровіч.

— Хворых многа... Дызентэрыя, малярыя... Ядзім жа што папала... Нейкі час карміла раненых і хворых мясам... Рэзалі кароў і коней. Ды...

— Што — ды?

— Няма кароў... Заставаліся дзве, самыя лепшыя. Толькі дзецям на малако... Дзяцей у нас многа... Смерчаўцы з'елі...

— Як — з'елі? — уздрыгнуў палкоўнік.

— Так... Зарэзалі і з'елі... Яшчэ і цяпер ядуць... Іх тут чалавек пяць. Жонкамі абзавяліся...

— Далёка яны? — пасля доўгага маўчання ціха спытаў Хмара.

— Ды не. Метраў трыста адсюль...

— Добра, Зоя, спі. Другая гадзіна.

Леанід Пятровіч прыхіліўся спінай да яліны, да болю сцяў зубы.

А Зоя Савельеўна і сапраўды імгненна заснула. У сне раз-пораз шукала яго руку, прыціскала да гарачай шчакі...

## XI

Ранішнюю пабудку зрабіла «рама». Яна з'явілася высока над выспай, зрабіла шырокі круг і, відаць, нічога не выявіўшы, пайшла ў бок Паліка.

Асцярожна накрыўшы жонку шынялём, Хмара выйшаў з будана.

Пад ялінамі ў буданах-палатах зрэдку падавалі голас хворыя і параненыя. Стагналі яны асцярожна, здушана, відаць, баяліся, што пачуюць іх не толькі свае, але і тыя, што прытаіліся там, за балотам, у акопах і бліндажах, адкуль, хоць і зрэдку, прылятаюць снарады і міны і сюды, на выспу, ды шлях да буданоў ім заступаюць яліны: хапаюць сваімі магутнымі лапамі, у якіх яны і лопаюцца ад злосці, засыпаючы рыжай ігліцай парослую мохам зямлю.

Хворыя галодныя дзеці, наадварот, плакалі зычна, клікалі мам, прасілі есці.

Між панурых ялін, спатыкаючыся на карэннях, хадзіў вартавы. А каля «аперацыйнага» стала, засланага асакой і акрываўленай плашч-палаткай, сядзеў на перакуленым уверх дном вядры чалавек у чорнай скуранцы, з аўтаматам на каленях.

«Лявонаў? Ён. Вось дарэчы!»

Камбрыг Лявонаў, нібы пачуўшы несказаныя словы камандзіра, падхапіўся на ногі.

— Таварыш палкоўнік! Камандзір...

— Ціш-ш-ш, — прыклаў палец да губ Хмара. — Разбудзім...

— Рад за вас, таварыш палкоўнік, — ужо ціха прамовіў камбрыг. — Учора вечарам быў у мяне Вайцёнак, усё расказаў. Якое шчасце!

Яны адышлі ад шпітальных буданоў, уладкаваліся пад пасечанай асколкамі ялінай на пакрытай мохам калодзе. Леанід Пятровіч ад камбрыга Дубровіча ведаў пра цяжкае гора камбрыга Лявонава. У сорак першым, у час першай жа бамбардзіроўкі Мінска, загінула ўся яго сям'я: старэнькая маці, жонка, дзесяцігадовы сын і двухгадовая дачушка. Сам ён, работнік абкома, быў у камандзіроўцы і, калі вярнуўся ў Мінск, замест дома знайшоў груду яшчэ гарачае цэглы...

Парушыў маўчанне камбрыг.

— Добра, што Дубровіч вырваўся з блакады. Цяпер ёсць надзея...

— І рэальная, — падхапіў Хмара, рады, што цяжкія ўспаміны парушаны. — Надзея ёсць, і цвёрдая. Аб гэтым і пагаворым. Камбрыг «Разгрому» далёка?

— Ды не. Мы стараемся трымацца разам. Ужо тое-сёе плануем.

— Страты ў брыгадах — вялікія?

— Не вельмі. Каб не голад...

— Але, — спахапіўся Хмара. — Вы ведаеце гэтых... смершаўцаў?

Лявонаў апусціў галаву.

— Як жа так, а? Як вы дапусцілі?

— А што з імі зробіш? Улада! І якая!..

— Я расстраляю іх, — рэзка аб'явіў палкоўнік. — Усіх пяцёх. Як марадзёраў.

Лявонаў уважліва паглядзеў у вочы камандзіра злучэння, ціха прамовіў:

— Леанід Пятровіч, ды вы што? Вас жа потым...

— У брыгадзе ёсць юрысты?

— Не раю. Падумайце.

— У брыгадзе ёсць юрысты? — холадна паўтарыў палкоўнік.

— Ёсць.

— Падбяры траіх. Самых аўтарытэтных. За пракурора буду я сам.

...Праз тры дні на маленькай выспе, што згубілася сярод бяскрайніх Палікоўскіх балот, партызанскі суд прыгаварыў пецярых «асабістаў» да расстрэлу.

Ды расстралялі толькі аднаго, капітана, які падаў ідэю рэзаць шпітальных кароў. Чацвёра старшых лейтэнантаў збеглі яшчэ да суда, ноччу звязаўшы знясіленых голадам вартавых, што ахоўвалі іх зямлянку...

## XII

Некалькі дзён у штабе брыгады «Лявона» чакалі бяды. Ды Масква, відаць, пра суд над «асабістамі» яшчэ нічога не ведала. Маўчаў «Цэнтр». Маўчаў і штаб партызанскага руху. Кожную ноч прылятаці цяжка нагружаныя транспартныя самалёты, кідалі ў вызначаны раён груз, — усё, што прасіў палкоўнік Леанід Пятровіч Хмара.

А прасіў ён нямала. І ляцелі з начнога неба на выспу непадалёк ад шпіталя: прадукты, скрынкі з патронамі і ручнымі гранатамі, і, што асабліва радавала партызан, — новенькія аўтаматы. Такой шчодрасці ні Хмара, ні Лявонаў і не чакалі.

Ажыў Палік! Былі створаны дзве роты аўтаматчыкаў, уключылі ў іх правераных у баях партызан-ардэнаносцаў. Роты так і назвалі: ардэнаносныя.

Да брыгад «Лявона» і «Разгром» далучылася яшчэ некалькі. Многія сотні людзей размясціліся на лапіку сухой зямлі пад векавымі ялінамі. Дзялілі патроны і ручныя гранаты, небагаты запас прадуктаў. І чакалі патрэбны сігнал.

Ды замест сігналу глухой душнай ноччу прыйшла ў штаб брыгады вестка чорная, нечаканая: у Бярэзінску фашысты павесілі Пятра Фаміча Кантаровіча. А адбылося ўсё так. У Бэрэзінск да бургамістра паслалі двух партызан, мясцовых хлопцаў, забраць падрыхтаваныя дакументы. Кантаровіч дакументы ім перадаў. Хлопцы схавалі іх у кішэні і падаліся назад. Ды тут, ужо за горадам, наскочылі на нямецкі патруль. Кінуліся да блізкага лесу, але бегчы заміналі доўгія, не для іх шытыя паліто, апранутыя імі для маскіроўкі. Скінулі. Уцяклі. Эсэсаўцы падабралі кінутую вопратку, а там, у кішэнях... сакрэтныя дакументы, падпісаныя бургамістрам Пятром Фамічом Кантаровічам...

## XIII

У гэтую ж ноч, праз якую гадзіну ці дзве пасля весткі аб гібелі Пятра Фаміча, прыйшлі адразу дзве добрыя навіны: штаб генерала Баграмяна паведамляў, што авіяцыя фронтау гатова нанесці ўдар па абароне карнікаў там і тады, калі гэта будзе патрэбна партызанам.

На досвітку ў штабной зямлянцы камбрыга Лявонава з'явіўся прамоклы да апошняй ніткі Павел Сіўцоў, намеснік камбрыга Дубровіча па разведцы. Без лішніх слоў усеўся за стол, разгарнуў мокрую карту-двухвёрстку і, як нядаўна сам Дубровіч, тыцнуў арэхавым пруцікам:

— Прарывацца будзем тут.

Лявонаў зазірнуў у карту, на месца, дзе застыў пруцік:

— А ты добра ведаеш, што — «тут»?

— Ведаю. Толькі што адтуль выбраўся.

— Я таксама два дні назад ледзь адтуль выбраўся. — Лявонаў сеў за стол побач з Сіўцовым, адсунуў убок яго карту, ціха загаварыў:

— Так, адзін чалавек можа і выберацца. А сотні, тысячы? Не ведаю. Чэсна кажу, не ведаю, і не магу ўявіць, каму ўзбрыдзе ў галаву ідэя сунуцца сюды, з гэтага ці з таго боку.

Сіўцоў скупа ўсміхнуўся:

— Немцы, відаць, таксама так думаюць. Іграюць на губным гармоніку, п'юць шнапс. Спакойна жывуць. А дарэмна. Такое «непрыступнае» месца я ўжо бачыў. Там, на перашыйку, паміж двух «непраходных» азёр, дзе фашысты збіраліся нас пахаваць. А мы вырваліся, прайшлі, і брыгада вось тут, — Сіўцоў тыцнуў у карту арэхавым пруцікам, паглядзеў на камбрыга, відаць, чакаў, што ён скажа. Лявонаў маўчаў. Тады Сіўцоў рашуча аб'явіў, нібы ён сам тут усімі камандаваў: — Пройдзем і тут! Балота і сапраўды страшнае, на гэтым шырачэзным «акне» і трава не расце, ды мы, — паказаў ён на чатырох разведчыкаў, што прыйшлі разам з ім і ціха сядзелі на падлозе, — прайшлі цераз гэта «акно» тройчы ад краю да краю і па ўсёй шырыні. Знайшлі праходы, расставілі малапрыкметныя вешкі. Вады па пояс, а дзе і рукі з аўтаматамі трэба ўздымаць над вадою. Дно слізкае, абымшэлае, ды трымае. Ну а што нам трэба? Пройдзем!

— Я яшчэ раз праверу сам, — памаўчаўшы, падняўся Лявонаў.

— Правільна. Толькі ціха. Як бы раней часу не патрывожыць фашыстаў.

— Ціха хадзіць па лясах і балотах за тры гады мы навучыліся, — цяпер ужо стрымана ўсміхнуўся і камбрыг. — Сам мяне павядзеш?

— Ноччу?

— Ну а чаго марудзіць? Пакуль мокры па вушы і ў ваду зноў лезці не так страшна. Адпачывай. Апоўначы разбуджу.

* * *

Вясёлае чэрвеньскае сонца ўжо выкарабкалася з балотнай твані, калі Сіўцоў і Лявонаў, перапэцканыя гразёю, з'явіліся на выспе, непадалёку ад шпіталя.

— Можаш вяртацца на сваю гару, — стомлена прамовіў камбрыг, сцягваючы з ног размоклыя боты. — Цяпер мы ўжо самі. Скажаш Мірону Ігнатавічу, што самалёты...

— Ён ведае. Учора і мы атрымалі шыфроўку. І пра сігналы самалётам дамоўлена. Пададзім іх мы. А вы трымайце аўтаматчыкаў па гэты бок «акна», аж пакуль самалёты не адбамбяцца. Шырыня «акна» — метраў шэсцьсот, не трапіць бы пад свае ж асколкі. Як і дамоўлена, на прарыў пойдзем адначасова. Сігнал — чырвоная, тры зялёных, зноў ракета чырвоная. Секунды праз дзве-тры...

— Ведаю. Ад Дубровіча вярнуўся мой чалавек. Ідзі, абсушыся. Сустрэнемся на вашай гары.

## XIV

На фінішную прамую выходзіла аперацыя «Удар маланкі».

Роты аўтаматчыкаў падрыхтавалі сваіх праваднікоў. Імі сталі камандзіры аддзяленняў. Не раз і не два прайшлі яны па вызначаных разведчыкамі Сіўцова праходах, дзе-нідзе паставілі свае вешкі.

У брыгадных шпіталях рабілі з мячэўніку, трысця і сухога ламачча лёгкія плыты — «плывучыя насілкі» для параненых, хворых і дзяцей. Стварылі «Брыгаду жанчын», якая павінна пакінуць выспу ўжо тады, калі за балотам заціхне бой.

І вось трывожная цішыня зноў праглынула шматпакутны Палік.

Яшчэ да захаду сонца неба над балотамі апусцілася ніжэй, папаўзлі шэрыя хмары, неахвотна зацерушыў рэдзенькі дождж. Ён то спыняўся, то з той жа лянотай пачынаўся зноў. І людзі на выспе з трывогай пазіралі ў неба: «Прыляцяць ці не?»

Брыгадныя радыёстанцыі маўчалі. Маўчалі і фашысты. Патухлі і не з'яўляліся зноў ракеты над акопамі карнікаў, якія звычайна ўсю ноч паласавалі неба.

Апоўначы зусім нечакана ў зямлянку камбрыга Лявонава ўваліліся начальнік штаба партызанскага злучэння капітан Крамнёў і сувязны Рыгор Вайцёнак.

— Ну што тут у вас? Нешта ўжо дужа ціха, — кінуўшы на нары аўтамат, спытаў Крамнёў. — Зноў нешта здарылася?

— Ды не, чакаем.

— Ужо дачакаліся! Людзі гатовы? Выводзім на зыходную пазіцыю аўтаматчыкаў. На прарыў іх павяду я сам. А вы, усе камандзіры брыгад, застаяцеся тут. А як толькі мы і брыгада Дубровіча праб'ём абарону немцаў, уводзьце ў бой усе свае сілы і кідайце іх на правы фланг фашыстаў, у напрамку на Лепель. «Разгром» б'е па левым флангу ў напрамку на Бягомль. Усе астатнія сілы, што тут ёсць, уваходзяць у прабітую брэш ужо, калі мы адкінем карнікаў на тры-чатыры кіламетры. Усё. У добры час.

Крамнёў узяў свой аўтамат, на хвілінку прысеў на нары побач з камбрыгам Лявонавым.

За балотам нарастаў гул самалётаў.

* * *

...У многіх месцах партызаны спрабавалі прарваць кальцо акружэння, а вось у гэтым ціхім гіблым месцы такога ўдару з неба, тылу і проста «ў лоб» фашысты не чакалі. Ад іх батальёна, што сумаваў тут многа дзён, ад удару магутных «Ілаў» амаль нічога не засталося. Аўтаматы «Лявона» і «Разгрому», «танкі» Сімука і Дразда завяршылі справу.

Ліхаманкавая спроба фашыстаў замураваць прабоіну правалілася. Падаспелі савецкія танкі, што прарвалі фронт фашыстаў пад Оршай і цяпер крушылі іх тылы.

* * *

...Апоўдні бой ішоў ужо далёка ад Палікоўскіх балот.

А на Барсучыных гарах, на абрыве, што грозна вісеў над безыменнай рачулкай, стаялі генерал Дубровіч, палкоўнік Хмара, капітан Крамнёў і дзед Рыгор, — стаялі і глядзелі, як пакідаюць сваю немінучую магілу змардаваныя голадам людзі.

Нізка над зямлёй эскадрылля за эскадрылляй праносіліся самалёты.

На захад.

На Мінск.





**Ніна МАЕЎСКАЯ**

# «УСМІХАЮСЯ РАНКУ ЯК ЦУДУ...»

* * *

Паэзія, дзіўная птушка нябесная,
Ты дзесь лунаеш адчайна-высока!
Цябе я зямною нязмушанай песняю
Выманіць прагну з-за белых аблокаў.

Ляці!.. Ці сінеча не пусткаю сталася?
Вестку падай хоць умоўнымі знакамі.
Хачу, каб хутчэй на зямлю ты вярталася,
Дзе журавы перад выраем плакалі.

Ляці з імі разам дарогамі веснімі.
Хопіць натхнення табе тут і волі.
Ляці, каб уславіць зямлю маю песнямі,
Зычыць ёй росквіту й шчаснае долі!

* * *

Хрыстос нарадзіўся!
Хрыстос нарадзіўся!
Дзіўнаю весткаю
Свет абудзіўся.
Радуйся, усё жывое,
Радуйся!

---

*__Маеўская Ніна Васільеўна__ нарадзілася 4 снежня 1938 года ў горадзе Любань Мінскай вобласці. Скончыла факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (1963), Мінскую вышэйшую партыйную школу (1980). Працавала ў газетах і часопісах, у выдавецтве «Юнацтва».*

*Аўтар паэтычных кніг «Падаюць даспелыя ранеты», «Мая ўлюбёная краіна», а таксама зборнікаў аповесцей і апавяданняў «Агата», «Надзеевіч», «Такая позняя вясна», «Холад доннай вады», «Трывожна шумяць ясакары», «Арніка» і інш.*

Часіна прароча шчасная:
Наша жыццё не дачаснае.
Радуйся, усё на свеце,
Радуйся!

Дарогамі йдзём незваротнымі —
Застацца павек несмяротнымі.
Радуйся, люд Божы,
Радуйся!

Несмяротныя нашыя дзеі,
Ёсць сэнс у жыцці і надзея!
Радуйся, свет Божы,
Радуйся!

* * *

Азірніся! Свет прыгожы!
Ён такі, што проста дзіва!
Усхвалюе, растрывожыць...
Трэба ўмець тут быць шчаслівай.
Жыць табе ужо даволі
Залацістай краснапёркай.
Адпусці сябе на волю
У свет шырокі, часам жорсткі.

Будзеш плаваць сабе ў моры,
А ці, можа, ў акіяне,
Куды неба сыпле зоры,
Сцеле месяцава ззянне.
Толькі ведай – там не лёгка:
Трэба скрозь асцерагацца.
І пры тым — не ныць, не вохкаць,
А за шчасце — пазмагацца.

* * *

Прабягаюць дажджы веснавыя,
І вятроўнік цвіце ля вады,
Дзе вярба косы доўгія мые.
А чаромха —
нагадвае пра халады.

Сонца песціць разлогі азімін,
І узлесак такі малады!
Дні здаюцца наскрозь залатымі...
А чаромха —
нагадвае пра халады.

І чароўныя нашы сустрэчы,
І пяшчотны і радасны ты,
І цяплом авявае нас вечар...
А чаромха —
нагадвае пра халады.

* * *

А ноч — бы азораны свечкамі храм.
Ля рэчкі салоўка зазыўна спявае.
Ляцець бы, ляцець... Як жа хораша там!
І вабіць палёт — і раптоўна злякае.
Мой белы анёл зноў цярпліва чакае...
Не, ноч я чароўную сну не аддам.

Лячу я ... І лёгкасці крылам стае.
Варушацца ў гнёздах, не спяць птушаняты.
Уміг страпянуся. А як там мае?
Ці шчыльна фіранкамі вокны запяты?
А, можа, трывожыць іх месяц зіркаты?
О, ночка прабегла... Ўжо сонца ўстае!

* * *

Зноў каліна ўбралася ў карункі.
Гэта чары маладой вясны.
Блікі сонца —нібы пацалункі,
А жыцця праявы — нібы сны.

І чаруюць дрэў скразныя ўборы,
Дзьмухаўца вясёлы аганёк.
Вунь ляціць, адольвае прастору
Да яго наіўны матылёк.

І шчабечуць ластаўкі шчасліва,
І сарока рассыпае смех...
Ёсць адна, бадай, несправядлівасць,
Што не растае на скронях снег.

* * *

Забудуцца крыўдныя словы.
І здасца — за вокнамі болей святла.
Ты скажаш: — Я тут выпадкова...
Сцяжына сама завяла.
Ішоў задумёны і — збочыў...
Такіх вось абставінаў збег.
А я пазіраць буду ў вочы,
Як быццам бы веру табе.
І моўчкі хлусню я дарую,
І свой недавер прыглушу,
Бо голас твой зноў зачаруе,
Знаёма ўстрывожыць душу.
Кіўну — пагаджуся нібыта.
Ах, мілы і шчыры мой хлус,
Я ведаю, мы — два магніты:
Я — мінус, а ты — мусіць, плюс.

* * *

Не ведаю, хто я — такая дзівачка.
Спадарыня я ці кухарка... Мо прачка?
То шчодра я ўсім раздаю ўзнагароды,
То проста вымольваю кроплю свабоды.
Валодаю небам і птушкай лунаю,
То падаю нізка — ад смагі канаю.
І ледзьве іду я, апушчаны крылы,
І так мне гаркотна, і свет мне нямілы.
Здаецца, вось-вось мяне дух мой пакіне.

І хочацца быць мне тваёю рабыняй.
То зноў паўстаю, путы ўсе разрываю.
Тады я сапраўднаю, мусіць, бываю.
Тады па плячы мне любая работа.
У радасць і сонца, і дождж, нават слота.

* * *

А сонца... сонца так паліла!
Стаяла спёка дзень каторы...
Я капялюшык свой забыла.
І не было дарогі торнай.
Ты гаварыў: бярыся ценем,
Бо сквар — то згуба для лілеі.
Парады мы тады не цэнім,
Як на сябе адна надзея.

Але я вытрымаць сумела
Слату і спёку, золь і вецер...
Як цяжка ўсё ж я разумнела
І жыць вучылася на свеце.
Паразумнела, пасталела,
Ды штосьці важнае забыла.
І толькі квет лілеі белай
У сэрцы беражна насіла.

* * *

Звечарэла...
І морам разліўся сон.
Не глыбокі яшчэ,
Палахлівы ён.
Цішыня нат адпрэчыла
Вецер,
Каб, як рыбкі,
Плылі ў казкі дзеці.
А бабуля сцярожкаю кошкай
Ціха-ціха прайшла
Каля ложкаў.
Цацкі, лялькі яна пазбірала.

А наўкруг —
Усё соладка спала.
І ніякіх размоў і капрызаў,
Нават змоўк
Гаварун-тэлевізар...
Толькі кошка —
Пярэстая Мурка —
Перасіліла леныя жмуркі.
І нячутна пайшла
Ціхім садам яна.
Як і я,
Кошка любіць
Гуляць адна.

* * *

Начныя дажджы — як таемныя слёзы.
Сумотныя восеньскіх струн галасы.
А ранне нагоніць туман сівалёзы,
І здасца — ў лагчынах цвітуць верасы.

Начныя дажджы — шапаткое маленне.
Чыё, за каго — не магла зразумець:
На ранні жыцця вы дарылі мне сненні,
Цяпер — прымушаеце сэрца шчымець.

І з вамі шапчу я святыя малітвы
І помню пра тых, каго побач няма.
Начныя дажджы, шыбы вамі умыты,
Каб глянула ў іх самавіта зіма.

* * *

Ліхтары хістаюцца
Ў пругкай цемнаце.
Вецер завіхаецца —
Вуліцы мяце.

Весела пасвістае —
Лёгкі на падхват.
Атрасае лісце ён
Ззяблае з прысад.

Восень адступаецца —
Дрэвы ў крышталях.
Вецер... Ён стараецца
Ладзіць зімні шлях.

* * *

Ветрана, ветрана...
Люты мароз.
Як перайсці
Скразняковае поле?
Там, у лагчынцы,
Ля белых бяроз,
Мусіць, зацішна,
А тут —
Ветру воля...
Можа, вярнуцца
Ды перачакаць?
Следу няма...
Хтосьці пройдзе, ён — будзе.
...Трэба мець смеласць,
Каб след пакідаць,
След, якім пойдуць
Упэўнена людзі!

* * *

Пустыня зімы, дзе мы прагнем цяпла.
Як вострыя стрэлы — праменні святла.
Сумуем, і мерзнем, і скардзімся мы.
І мары аб леце лятуць, як дымы.

Сплыве ручаямі ільдзіна зімы, —
І зноў рассмяюцца над лесам грамы.
А покуль нам трэба цярпліва трываць
І помніць — не вечна зіме панаваць,
Не вечна віхурам адчайным гуляць.

...Ці чуеш, стукочуць ужо капяжы? —
У поўдзень вясна, мусіць, дахам бяжыць.

## ФРАНСУАЗЕ САГАН

Ах, Франсуаза, Франсуаза,
Табой захоплены Парыж.
У небе зоры, нібы стразы,
А ты не спіш, а ты — не спіш.

Ты ўсё чакаеш — промнік сонца
Прасвеціць цёмную ваду.
А я... па ім, як па саломцы,
Насустрач думкаю іду.

Хачу хоць крышачку сагрэцца,
Пазбыцца холаду й нуды,
Бо так маё застыла сэрца
Ў глыбінях доннае вады.

* * *

Праспекты, прысады і гмахі-дамы,
Шаша, што, здаецца, нідзе не канчаецца...
Дарэмна тут нас затрымаць парываецца
Вятрыска, адвечна глухі і нямы.
Гатовы разбіцца аб тонкае шкло,
Ды нашы намеры ўцячы неадольныя.
Пакінулі лёгка, як птушкі, жытло,
У вырай ляцім мы — шчаслівыя, вольныя.
Пад колы кладзецца імкліва асфальт.
І чую за спінай сапраўдныя крылы я.
Ляцім мы ў шырокую сінюю даль:
У царства лясное, што змалку любіла я.
У казачны пошум яго, цішыню —
Ад тлуму і ад мітульгі невыноснае.
Як сонца ўстае над далінаю роснаю!
Магчыма, такое я мрою ці сню.

* * *

Якое стагоддзе
Не можам пазбавіцца комы.
Крыху акрыяем, —
Трывожна пытаемся: хто мы?
Мы ворага гналі,
І коні не ведалі стомы.
Дык дзе мы цяпер? Адкажыце,
Напраўду мы дома?
Як цяжка тарылі
У вольны свой край мы дарогу.
Чаму ж упадаем мы зноў
У знявер і знямогу?
Нам чуецца конскае ржанне
Дагэтуль уночы,
Туман — сівы лунь —
Засцілае стамлёныя вочы.
Багата пра што мы не ведаем,
Трэба дазнацца.

У нетрах гісторыі,
Бы ў рудніках, нам капацца.
І помніць заўжды
Кастуся Каліноўскага чыннасць.
Нам мудрасць яго
Запаветам і сёння гучыць:
Маўляў, навучыліся мы
Паміраць за Айчыну,
Патрэбна цяпер навучыцца Айчынаю жыць...

* * *

Плачў даўгі... Чые даўгі?
Павек іх не сплаціць.
Мая віна, мая віна... —
Прад Богам мне цвярдзіць.

Не наракаю — лёс такі.
Плаціць... За што — не знаць.
Душою нечыя грахі
Мне на сябе прымаць.

Як быццам бы не навіна —
Не думаць, не гадаць.
Мая віна, мая віна... —
Пакорна паўтараць.

Мой Божа, дай мне век даўгі
Натхнёнай працай жыць.
Свае і не свае даўгі
Павінна я сплаціць.

* * *

Усміхаюся ранку як цуду,
І так хочацца... хочацца быць
Памяркоўнай, вясёлай і мудрай
І дабро не пазніцца рабіць.

І прыходзіць святлом разуменне —
Цешыць сэрца і сілу дае —
Лёгка жыць з чысцінёю сумлення.
Твая кожная струнка пяе!

## ПЕРАД ДАРОГАЙ

О Прасветлая, абярогам,
Заступствам сваім атулі,
Каб не марнай была дарога,
Якой мы пайшлі па зямлі.
І святое, што ў сэрцы маем,
Чым нам у жыцці даражыць,
Пакінь нам часінай расстайнай
І душаў цяпло зберажы.
Адгарні Ты ўсё злое ветрам,
Каб подых варожы аціх,
Асвяці невядомасці нетры,
Вышлі ўперад анёлаў сваіх.
Пэўна ўкажуць яны дарогу,
Скіруюць на праведны шлях.
Святлом нам Твая дапамога
І сонцам Твой лік у вачах.
Ды вярнуцца дамоў належна
Надзею ласкава пакінь.
Любую тады непазбежнасць
Мы зможам асіліць. Амінь.



*ПРОЗА*



## Галіна ВАСІЛЕЎСКАЯ

# МАЦІ

*Апавяданне*

### 1

Было гэта гады тры-чатыры таму. У мяне дома раздаўся тэлефонны званок, і незнаёмы голас па-беларуску пачаў усхвалявана гаварыць:

— Сёння ў мяне свята, у маёй хаце паставілі нарэшце тэлефон. I першы мой званок быў у Мінск, у часопіс, дзе вы некалі працавалі. Пыталася пра вас і прасіла даць мне нумар вашага хатняга тэлефона. Я шчаслівая, што чую ваш голас. Мяне вы, канешне, не пазналі. Гэта Ядзя, была Леашкевіч, цяпер даўно Чудзілоўская з Дзятлаўскага раёна. Вы пісалі пра мяне нарыс гадоў сорак назад. I ў калгас наш прыязджалі, і ў Мінск мы з вамі разам у пачатку сакавіка ездзілі. Не помніце? Колькі мокрага снегу і вады было ў тую ноч, — яна рассмяялася свайму ўспаміну. — А яшчэ прыязджала ў Мінск і мяне, цялятніцу, вазілі вы на сваёй «Волзе» па магазінах, каб памагчы выбраць сукенку для вяселля. Няўжо не помніце? А я ўсё жыццё помню вашу дабрыню, бо адчула яе тады ўпершыню. Не магу забыць...

I я ўспомніла...

Ехала я ў калгас «Слава працы», каб сустрэцца з цялятніцай, самым маладым дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР.

Зіма ў той год была снежная. Люты лютаваў, мяла мяцеліца, дзень і ноч сыпаў снег. Нібы Божанька наводзіў парадак у сваёй гаспадарцы на небе і скідаў з хмар снег, апошні, заляжалы.

---

***Васілеўская Галіна Ануфрыеўна*** *нарадзілася 15 студзеня 1927 года ў г. п. Клічаў.*

*У 1932 годзе сям'я пераехала ў Мінск. Да вайны скончыла шэсць класаў сярэдняй школы. Пасля вайны экстэрнам здала экзамены за дзесяцігодку (1945). У 1950 годзе скончыла аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта БДУ. Працавала радыёжурналістам, літаратурным супрацоўнікам часопіса «Сельская гаспадарка Беларусі». З 1959 да 1977 года была рэдактарам аддзела часопіса «Работніца і сялянка», з 1977 года загадвала аддзелам нарыса, а з 1979 была адказным сакратаром часопіса «Полымя». З 1982 па 1988 г. узначальвала бюро прапаганды мастацкай літаратуры СП БССР.*

*Выдала кнігі: «Маланка ўначы», «Малюнак на снезе», «Юныя назаўсёды», «Бывай, Грушаўка!», «Я еду на вярблюдзе», «Крылы, альбо Адзін год з жыцця Віталя Пятроўскага», «Выбранае: аповесці і апавяданні» і іншыя.*

Са станцыі я пазваніла старшыні калгаса, каб памаглі дабрацца да вёскі, дзе жыла гераіня майго будучага нарыса. Праз некаторы час да станцыі пад'ехалі сані-развалкі, запрэжаныя канём, засланыя сенам, пакрытым посцілкай. Я ўзрадавалася, убачыўшы такі выдатны транспарт.

Конь весела бег па ўтрамбаванай снегам дарозе, па баках якой высіліся белыя гурбы. Значыць, дарогу расчышчалі, і ехалі мы нібы ў тунелі. Я любавалася мноствам чыстага снегу, што срэбрам блішчэў на сонцы, і думала пра сустрэчу, якая мяне чакала. Вельмі ж хацелася, каб дзяўчына, да якой еду, спадабалася мне, тады лёгка напішацца нарыс.

Невысокія сялянскія хаты ў вёсцы, куды мы прыбылі, былі ўсе ў снезе амаль да стрэх. Потым я дазналася, што раніцай, пасля начнога снегападу, толькі ад дзвярэй расчышчалі снег суседзі. А тады ўжо гаспадары самі пракладвалі вузкія сцежкі да хлява, дзе стаяла скаціна, да калодзежа, да брамкі...

З коміна хаты, да якой мы пад'ехалі, ішоў лёгкі дымок, значыць, палілі печку і будзе цёпла. У дарозе я трошкі замерзла.

Хата звычайная, сялянская. Вялікая печ пасярод кухні, якая была і прыхожай. Толькі сенцы з жалезнай клямкай на дзвярах, якая папярэджвала гаспадароў, што нехта ідзе ў хату, аддзялялі кухню ад двара, дзе часта летам гулялі куры.

У хаце была адна жанчына сярэдніх гадоў. Я зразумела, што гэта маці Ядзі. Пазнаёміліся. Я спытала:

— Вы з Ядзяй удваіх жывяце?

— Не, яшчэ сынок мой, Антоша, з намі.

— А дзе ён цяпер?

Яна паглядзела на гадзіннік, што стаяў на стале:

— От лайдак, зноў пасля школы пабег у цялятнік да Ядзі.

Я здзівілася:

— Чаму?

— Пра гэта доўга расказваць. — І яна замаўчала. Потым паднялася, узяла з прыпечка чайнік і, сказаўшы: — Пойдзем у чысты пакой, гарбату піць будзем, — накіравалася туды.

Я пайшла следам.

Чыстая, светлая гасціная была за спальняй, самі гаспадары, ведала я, заходзілі ў гэты пакой рэдка. На сцяне ў прыгожых драўляных рамках вісела многа фатаграфій: маладая, сімпатычная дзяўчына і такі ж прыгожы хлопец. Відаць, толькі пажаніліся. Я пазнала гаспадыню Марыю Іванаўну. Сярод іншых фотаздымкаў звярнула ўвагу на адзін, дзе былі знятыя тры дзяўчынкі.

Гаспадыня ўбачыла, куды я гляджу, і растлумачыла:

— Гэта таксама мае дачушкі. Толькі з намі яны не жывуць. Дзве малодшыя ў дзіцячым доме, а старэйшая жыве ў Адэсе, у пляменніка мужа, сына яго сястры, капітана далёкага плавання...

Мы сядзелі за сталом, пілі смачную гарбату, завараную рознымі травамі, сабранымі гаспадыняй на лясных палянах. Яна раптам сказала:

— Не ведаю чаму, але мне хочацца расказаць вам тое, што я яшчэ нікому не расказвала. Нават дзецям.

Мне не трэба было даставаць свае блакноты, каб запісваць. Тое, што гаспадыня расказвала, я помню і цяпер, хаця прайшло так многа гадоў. Бо ніколі ні да таго дня, ні пасля нічога падобнага я не чула...

— Адукацыя ў мяне маленькая, усяго чатыры класы школы. Вучылася яшчэ пры панах, пры паляках. Мы ж і цяпер жывём у былой Заходняй Беларусі. У нашай вёсцы школы не было, хадзіла я, не, не хадзіла, а бегала ў школу праз балота аж за пяць кіламетраў у суседнюю вёску. Босая, зімой вельмі мерзлі ногі. Грэла я іх, як і мае сяброўкі, проста: спыняліся на купіне на балоце, трошкі прыпадымалі доўгую зрэбную спадніцу, каб не замачыць, і... мачыліся на ногі.

А потым зноў скакалі з купіны на купіну і беглі, беглі, каб хутчэй дабрацца да школы. І так чатыры зімы. У трынаццаць гадочкаў я ўжо працавала, пасвіла ў пана свіней. А яны ж паганыя, не слухаюцца. На зробленыя грошы купіла сабе першую рэч, якой ніколі ў мяне да гэтага не было, — рэйтузы...

Аповед не проста ўразіў, ён мяне ашаламіў. Я анямела. Глядзела на жанчыну і дзівілася сама сабе, як гэта яна дажыла да сталага ўзросту, як не памерла ад прастуды яшчэ ў дзяцінстве...

А гаспадыня гаварыла далей. Я моўчкі слухала і нібы сама перажывала той чорны, страшны дзень, пра які яна ўспаміналa:

— Муж мой, Бенядзікт Вікенцьевіч, з якім пражыла я шчасліва семнаццаць гадочкаў, рана памёр. Сэрца ў яго было хворае. У мяне таксама яно нездаровае. Часта ў бальніцы бываю, дактары ратуюць. Сталі мы такімі пасля таго, як нас, усю сям'ю, расстрэльвалі.

— Хто?! — здзівілася я.

— Не ведаю. Прыйшлі з лесу ў хату мужыкі, чалавек восем, вывелі ўсіх на двор, загадалі стаць ля сцяны хлява. Ядзі, самай старэйшай, не было нават дзесяці гадочкаў. Гэта ў канцы саракавых адбывалася. Вывелі нас з хаты і чатыры дачушкі з намі. Самая малодшая, Іра, яшчэ ў пялёнках. На руках я яе трымала. Ядзя — каля бацькі, ён яе абдымае, да сябе прытуляе. А Стася і Лена ў мяне за спадніцу хаваюцца. Адзін з мужыкоў загаварыў, звяртаючыся да мужа:

— Ты настаўнік?

— Так, — адказаў муж.

— І цяпер настаўнічаеш?

— І цяпер.

— Вось за гэта мы вас усіх і знішчым. Каб і духу вашага не засталося.

Пачалі яны даставаць з-пад куртак свае вінтоўкі-абрэзы, і ў гэтую хвіліну, відаць, суджана нам было яшчэ жыць, на конях прыскакалі савецкія салдаты, збілі мужыкоў на зямлю, абяззброілі, звязалі і забралі з сабою. А нам сказалі:

— Ідзіце ў хату і жывіце спакойна.

Яны паехалі, а мы не маглі крануцца з месца. У мужа падкасіліся ногі, і ён упаў на траву. Відаць, тады ўпершыню ў яго забалела сэрца.

— А хто ўсё-ткі маглі быць тыя мужыкі? — зноў спытала я.

— Ніхто нічога пра той страшны выпадак нам не гаварыў. Можа, надакучыла ім, бандытам, бадзяцца па лесе. Можа, спатрэбілася наша хата, крайняя ад лесу, наша гаспадарка.

Замаўчала яна, усхваляваная ўспамінамі. У пакоі ціха цікаў гадзіннік. Я была ўражаная гэтым аповедам, думала пра той трагічны дзень і разумела, што прайсці бясследна для сям'і ён не мог. І, нібы пацвярджаючы маю думку, гаспадыня дадала:

— Фактычна яны мужа тады смяртэльна паранілі, хоць не паспелі стрэліць. Стаў ён маўклівы, не скардзіўся, што баліць у яго сэрца, моўчкі пераносіў боль і да дактароў не звяртаўся. Ды дзе былі тыя дактары пасля такой вайны?.. Ішоў час. Аднойчы муж сказаў мне: «Калі памру, ты без мяне дзяцей не падымеш, аддай іх тады ў дзіцячы дом». І пашкадаваў, што не застанецца пасля яго сына. А я была цяжарная і сказала яму пра гэта.

— Дай Божа, каб нарадзіўся сынок, — адказаў ён ціха.

— Пасля паявіўся Антоша. І было яму толькі два з паловай месяцы, як муж памёр. Паспеў хоць трошкі пацешыцца сынам...

Успамін растрывожыў яе, расхваляваў.

Каб памяняць тэму размовы, я спытала:

— Далёка адсюль цялятнік?

— Не, летам дык зусім блізка, і цяпер недалёка. Хлопчык звычайна просіцца туды, да Ядзі, плача, калі не пускаю. У цялятніку добра, цёпла, чыста. І покой-

чык ёсць для адпачынку. Раней бібліятэка там у яе была, кніжак многа розных. Любіў ён яшчэ малы гартаць іх, разглядаць. Хата ў нас тады старая была, з даху цякло, кніжкі маглі загінуць. Потым калгас пабудаваў нам гэты дом. І кніжкі забралі сюды. Месца ж ёсць. А ён усё роўна туды, у цялятнік, рвецца...

Лязнула клямка дзвярэй.

— Відаць, ідуць Ядзя з брацікам.

Жанчына паднялася з крэсла, пайшла на кухню сустракаць дзяцей...

Пра ўсё астатняе я дазналася ўжо ад Ядзі, і не толькі ад яе.

## 2

...Стол на кухні засланы старой цыратай. За сталом Марыя Іванаўна, маці. Яна не падымае апушчанай галавы, глядзіць на свае натруджаныя рукі, што ляжаць на каленях, быццам упершыню бачыць іх. Насупраць — лаўка, на ёй сядзяць дзеці. Ядзя абдымае трох дзяўчынак. Яны туляцца да сястры. Худзенькія плечыкі яе дрыжаць, па шчоках цякуць слёзы. А маці гаворыць, гаворыць цяжка:

— Сёння да мяне зноў прыходзіў дырэктар школы, гаварыў, што школа дапаможа ўладкаваць у харошы дзіцячы дом Лену і Іру. А яшчэ пра тое, што Стасю забірае ў Адэсу ваш дзядзька, хросны сын вашага бацькі. Ад іх, маўляў, прыйшоў ліст, просяць аддаць ім старэйшую Стасю. Я пярэчыла дырэктару, што будзем жыць усе разам. А ён даказваў, што ў дзіцячым доме дзяўчынак і накормяць у час, і дагледзяць. Адным словам, угаворваў мяне.

Ядзя бліжэй прыціскае да сябе сясцёр.

— Мама, не рабіце гэтага, — просіць яна, — я ўжо вялікая, пайду працаваць. Толькі няхай сястрычкі застануцца дома.

Маці маўчыць. Ёй цяжэй за ўсіх, бо павінна прымаць рашэнне. Ведае, што Ядзя сама яшчэ малая, не справіцца, калі яна, маці, зноў апынецца ў бальніцы. Яшчэ ж і нейкая скаціна ў хляве ёсць: кароўка, парсючок, куры... Без іх у вёсцы жыць немагчыма. І іх жа карміць-даглядаць трэба. Як з усім управіцца... Не, на яе слабыя плечы нельга класці такі груз, не вытрымае. Яна і Ядзю шкадуе, і з малодшымі расставацца цяжка. Што рабіць? Як знайсці правільнае выйсце?

У драўляным карытцы, што звісала са столі, была люлька. Заплакаў Антоша. Марыя Іванаўна ўзяла яго на рукі.

— Заўтра ж паеду ў тое Іўе, пагляджу, што там за дзіцячы дом, а тады ўжо разам будзем вырашаць, як жыць далей, — сказала яна і пайшла спавіваць і карміць малога...

Дзіцячы дом знаходзіўся ў вялікім, дабротным памяшканні. Чыстыя, светлыя пакоі, цацкі ў адным з іх, асобная сталовая. Двор, дзе не трава расла, а былі пасаджаны градкі з цыбуляй, зелянінай... Усё тут маці спадабалася. Дзеткі чысценькія, настаўнікі памагаюць рабіць хатнія заданні, школа недалёка.

І Марыя Іванаўна прыняла рашэнне. Адзінае, што магла зрабіць Ядзя, — папрасіла маці сфатаграфаваць дзяўчынак, каб у хаце засталася хоць іх фатаграфія.

Трэба Ядзі ісці працаваць. Пайшла да старшыні калгаса на ферму прасіцца да цялятак. Не бярэ, малая, кажа. І сама ведае, што малая, але ёй так трэба працаваць!

— Ідзі на поле з жанчынамі, — прапануе старшыня, там лягчэй.

— А я люблю цялятак, — адказвае Ядзя.

Нарэшце ўпрасіла, узялі практыканткай.

— Дваццаць цялят бяры, але праз тыдзень сама ўцячэш, — паабяцаў старшыня.

Было цяжка. Цялятнік стары, пахілы. Ваду трэба цягаць за кіламетр, самі цялятніцы пілавалі дровы, гатавалі пойла. Ядзя вельмі баялася, што яе прагоняць, і так старалася, так старалася, што праз два тыдні, калі цялятак узважылі, у яе гадаванцаў аказалася самае высокае прыбаўленне ў вазе.

З фермы яна не ўцякла.

### 3

Першы раз у жыцці Ядзя паднялася на сцэну раённага клуба, заціснуўшы ў руцэ паперку са сваёй «прамовай». Маленькая, тоненькая, зусім дзяўчо, яна ледзь віднелася з-за высокай трыбуны. З цяжкасцю падняла вочы, глянула ў залу. Ніколі не бачыла перад сабою столькі народу. А колькі пажылых, нават з сівізной у валасах! І ўсе глядзяць на яе, чакаюць. Што скажа ім, перадавым жывёлаводам раёна? І ці мае права? Стала страшна, захацелася ўцячы.

— Ядзя, не саромейся, ты ж у нас малайчына, — пачула з прэзідыума ціхі голас старшыні калгаса Паўла Фёдаравіча Сарадоева. — Тут твае сябры, смялей.

Ядзя з палёгкай уздыхнула, быццам толькі і чакала гэтых слоў. Сапраўды, тут жа яе сябры, жывёлаводы. І пачала гаварыць. Лёгка і проста расказала аб сваёй рабоце, аб цялятах, аб прывагах. З яе слоў выходзіла, што даглядаць цялят зусім не цяжка, атрымліваць высокую прыбаўку ў вазе — па 80 грамаў за суткі — таксама нічога складанага: кармі, паі, чысці — вось і ўсё. А што цяляты не хварэюць — і тут нічога незвычайнага: сачы, каб здаровыя былі.

— І ў цябе заўсёды ўсё так гладка ішло, як ты расказваеш? — пачуўся з залы нечы звонкі голас.

— Чаму, усяк бывала.

І ўспомніла Ядзя, як аднойчы зімою захварэла цялушка, з рота пайшла чырвоная пена. Здарылася гэта, калі яна збіралася ісці дадому, ужо здавала ферму вартаўніку і ў апошні раз аглядала сваіх гадаванцаў. Што рабіць, як ратаваць цялушку, Ядзя тады не ведала.

Ветфельчар жыў на хутары за тры кіламетры ад фермы. Дарога ішла лесам, на ўскрайку якога цямнелі могілкі. Але Ядзя нават забылася, што баіцца могілак. Адна толькі думка не пакідала: «Хоць бы паспець, хоць бы выратаваць!»

Забарабаніла ў цёмныя вокны хаты:

— Іван Рыгоравіч! Іван Рыгоравіч!

За шклом паказаўся заспаны твар.

— Цялушка прападае, хутчэй!

І зноў пабегла ў цялятнік. Пакуль фельчар на кані прыехаў на ферму, Ядзя ўжо была там.

— Падавілася тваё цялё, нешта засела ў горле, — ён узяў кальцо, уставіў цяляці ў рот і загадаў: — Твая рука танчэйшая, даставай.

І хоць цялё балюча грызла руку, Ядзя дастала ў яго з горла кавалак нейкай косткі...

Пасля гэтага выпадку Ядзя стала рукамі прамацваць усё, што давала цялятам. І замяшанае пойла, і нават сена, а летам траву. І яшчэ папрасіла фельчара навучыць аказваць першую дапамогу цяляці. У цялятніку паявіўся шпрыц і невялікая аптэчка...

За перамогу ў сацыялістычным спаборніцтве Ядзі пад воплескі ўсёй залы ўручылі падарунак — гадзіннік. Беручы карабок, дзяўчына сумелася. Толькі цяпер заўважыла скамечаную паперку, заціснутую ў кулаку. Гэта была «прамова», на якую яна забылася.

...Кожную свабодную хвіліну ў вёсцы стыхійна ўзнікалі танцы. Семнаццаць сваіх гарманістаў. Ядзя не супраць танцаў, але ж і кніжку калі-небудзь пачытаць

не шкодзіць. Бібліятэка ў іх ёсць свая, перасоўка, але амаль заўсёды на замку. Трэба пагаварыць з Нінай, бібліятэкарам. Размова пачалася на чарговых танцах, у час перапынку.

— Ніна, — звярнулася Ядзя да бібліятэкара, — чаму ў цябе ніколі нельга кнігу ўзяць?

Ніна абурылася.

— Я паштальён. За бібліятэку мне грошай не плацяць, толькі падлогу топчуць і «дзякуй» не кажуць.

— А за што ж табе казаць «дзякуй»?

— Я бясплатна працаваць не буду. Забірай ад мяне кніжкі, і ўсё тут.

— Хлопцы, дзяўчаты! — звярнулася Ядзя да прысутных. — Хто хоча быць бібліятэкарам?

Усе маўчалі. Ніна зларадна ўсміхнулася. Такога Ядзя не чакала, але і адступаць было позна.

— Добра, — сказала, — я забяру кнігі да сябе.

75 кніг перацягнула яна ў сваю хату. Вечарам прыйшлі дзяўчаты, трое:

— Дай кніжку пачытаць.

Узяла сшытак, запісала. На другі вечар прыйшлі яшчэ. А потым не засталося ніводнай кніжкі.

Тады Ядзя сабрала сваіх чытачоў.

— Можа, у каго якія кнігі дома ёсць? Прынясіце. Для сваіх жа сяброў.

Чатыры дзяўчынкі-сямікласніцы згадзіліся памагчы, пайшлі па хатах. За два тыдні прынеслі 1120 кніг. Але давялося іх перанесці ў цялятнік. Бо хата была старая, трымалася на падпорках, страха — рэдзенькая. Пойдзе дождж — Ядзя кніжкі ў шафу хавае ды яшчэ брызентам прыкрые, каб не падмоклі. А ў цялятніку чыста, суха. Кожны ж месяц беліць яго.

З кожным днём расла і колькасць чытачоў. У Казлоўшчынскай бібліятэцы далі Ядзі кнігу для запісу, абанементы, фармуляры. Грамадская бібліятэка — першая ў раёне. Пра яе даведаліся нават у Мінску, узнагародзілі Ядзю Ганаровай граматай Міністэрства культуры БССР і прыслалі ў падарунак кнігі. Прыслалі кнігі і з Гродна, і з Казлоўшчынскай бібліятэкі.

Калгас пабудаваў Ядзі новы дом. Знайшлося ў ім месца і для бібліятэкі.

Бібліятэка заняла першае месца ў рэспубліцы. Прэмія за гэта была незвычайная: Ядзя ездзіла на экскурсію ў Маскву.

Незабыўная паездка.

... — А які я канцэрт бачыў! — прагаварыў летуценна нехта з хлопцаў на чарговых танцах. — Дагэтуль забыць не магу.

— Што, артысты выступалі? — спытала Ядзя.

— Не, самадзейнасць.

— А чаму ў нас няма?

— З песнямі мы не сябруем.

— Няпраўда. Калі вы, хлопцы, заспяваеце ў нашых Драбавічах, за тры кіламетры чуваць.

Прыйшла Ядзя дадому і спаць не можа. Думае: ні адно вяселле без нашых музыкантаў не абыходзіцца. А самі ні весяліцца, ні адпачываць не ўмеем.

Назаўтра, пакарміўшы цялят, села на свой ровар — і ў Казлоўшчыну, да дырэктара гарадскога Дома культуры, папрасіла, каб прыйшоў памагчы. Ён прыйшоў не адзін, а з мастацкім кіраўніком.

Вечарам хата калгаснікаў, дзе была рэпетыцыя, свяцілася ўсімі вокнамі. Ядзя затрымалася на ферме. Як была, у ватоўцы і ў гумавых ботах, паехала на ровары да артыстаў. Прыйшло чалавек дваццаць. Пачалі рэпетыцыю. І тут адкрылася столькі талентаў! Арганізавалі хор. Знайшліся салісты, дэкламатары, танцоры...

Позна ўначы разыходзілася моладзь, і ў Ядзі пытаюцца:

— А калі яшчэ рэпетыцыя будзе?

...Праз два тыдні на цэнтральнай сядзібе калгаса далі першы канцэрт. Поспех быў незвычайны. Сваім артыстам апладзіравалі, не шкадуючы далоняў. Апладзіравалі і арганізатару, ціхай і сціплай дзяўчыне.

Першы поспех, першыя апладысменты... Гэты дзень стаў сапраўдным днём нараджэння калгаснай самадзейнасці...

Праз тры гады стварыўся ансамбль «Рэчанька», вядомы далёка за межамі раёна...

Аднасяльчане выбралі Ядзю Леашкевіч сваім дэпутатам у Вярхоўны Савет рэспублікі. Дзяўчына з вёскі — дзяржаўны дзеяч...

## 4

Я адчувала, што нарыс напішацца лёгка. Трэба было ехаць дадому пісаць. А тут умяшалася прырода. Засвяціла сонца, ды такое цёплае, што пачаў хутка раставаць снег. Вада цякла па дарогах, ператвараючы іх у ручаіны. У Ядзіных гумавых ботах я дабіралася да праўлення калгаса, да старшыні. Ярка свяціла сонца. У каляіне пад празрыстай скарынкай лёду замітусіліся вадзяныя жыўчыкі, потым паплылі бурбалкі. І калі пад сонцам лёд раставаў, бурбалкі знаходзілі сабе выйсце, — было чуваць, як яны лопаюцца.

Я ішла і ўсміхалася. Можа, сонцу. Можа, першым вадзяным бурбалкам.

Старшыня быў у сваім кабінеце.

— Як мне дабрацца дадому? — спытала я.

Ён спакойна адказаў:

— Прыйдзецца пачакаць, пакуль сыдзе вада.

— Гэта доўга?

Старшыня засмяяўся.

— Адзін Бог ведае, колькі дзён на гэта спатрэбіцца: тыдзень ці болей.

— Мне ж трэба ехаць пісаць.

— Пішыце тут.

У гэты час у кабінет увайшла паштальён, падала старшыні дзяржаўную тэлеграму.

— Выклікаюць Ядзю на сесію Вярхоўнага Савета рэспублікі.

Старшыня схапіўся за галаву.

— Як я адпраўлю яе ў такое разводдзе?

— Можа, да станцыі трактарам як-небудзь давезці, а там ужо цягніком, — выказала прапанову паштальёнка.

— Прыйдзецца трактарам, — згадзіўся старшыня.

— І я з ёю паеду, — узрадавалася я.

— Лепш перачакайце, — параіў мне старшыня.

— Ну што вы, — настойвала я, — і ёй весялей са мною будзе.

— Не раю, — падагуліў старшыня.

Я пабегла да Ядзінай хаты, упэўненая, што паеду дадому.

Вечарам да нашых веснічак падкаціў новенькі колавы трактар, але чамусьці ў бакавых вокнах не было шкла. Развітаўшыся з Марыяй Іванаўнай, мы лёгка забраліся ў кабіну і паехалі. Цямнела хутка, і Міця, трактарыст, уключыў фары. Ад'ехалі мы ад дома кіламетры два, можа, трохі болей, калі трактар трапіў у нейкую яміну, запоўненую вадой. І як ні стараўся хлопец выбрацца з яміны, у яго нічога не атрымалася — ні наперад праехаць, ні назад.

Скончылася ўсё тым, што Міця дастаў з кабіны сядзенне, паставіў за трактарам збоку, дзе не дзьмуў на нас вецер, і, сказаўшы: — Я збегаю за гусенічным, я хутка, — растварыўся ў цемры, хлюпаючы па вадзе гумавымі ботамі.

Мы засталіся адны ў полі, дзе круціў-гуляў вецер, дзе над намі — зорнае неба, а пад нагамі — мокры снег і вада. Сталі чакаць. Пра што мы толькі з Ядзяй ні перагаварылі ў тую ноч. Хваляваліся за Міцю, як ён дабярэцца да калгаса адзін у такое разводдзе. Каб падняць настрой засумавалай Ядзі, я пачала:

— Ты не здагадваешся, чаму мы трапілі ў гэту яміну?

— Не.

— Дык я табе скажу. Міця ж на дарогу не глядзеў, ён глядзеў толькі на цябе. Вачэй не зводзіў.

— Ну вы і прыдумаеце.

— Я ж бачыла і ведала, што дабром гэта не скончыцца.

Ядзя рассмяялася:

— Адкрыю вам адзін сакрэт. Як выбралі дэпутатам, паштальён мне пісьмы насіць кожны дзень. І не толькі з Беларусі, а нават і з Расіі. Бо ў «Камсамолцы» было надрукавана пра мяне. Ёсць нават мужчыны, што прапануюць руку і сэрца. Кажуць, будзем жыць разам — два дэпутаты. Цікава.

— І што ты ім адказваеш?

— Кажу, што яшчэ маладая і замуж не збіраюся.

— А на сваіх, калгасных, хлопцаў, такіх, як Міця — заглядаешся?

— Ну што вы. Мне часу няма.

— Бачыла я многа газет, дзе пра цябе напісана.

— Газет многа, але мне спадабаўся толькі адзін нарыс, надрукаваны ў «Гродзенскай праўдзе».

— Разбіраешся ты, — зазначыла я. — Чытала я гэты нарыс. Сапраўды хараша, таленавіта напісана. Нават прозвішча запомніла аўтара — Аляксандр Касенка. Хачу пагартаць у Доме друку гродзенскую газету, пачытаць яго нарысы.

Зорнае неба схавалі хмары. Пайшоў мокры снег. Мы зноў забраліся ў кабіну трактара, там гуляў вецер, але хоць зверху макрынёй не сыпала. Хутка пачуўся рокат машыны, што набліжалася да нас. Прыехаў Міця. Мы пераселі ў гусенічны трактар і без праблем дабраліся да чыгункі.

Неўзабаве цягнік ужо мчаў нас у Мінск...

Нарыс я сапраўды напісала лёгка.

## 5

Ішлі, беглі, ляцелі гады. Але помняцца яны толькі падзеямі.

Ядзя выйшла замуж за Міцю, таго самага трактарыста, што вёз нас далёкай вясной на станцыю. Вяселле было шумнае. Гуляла не толькі вёска, гуляў увесь калгас.

Пакідаць маці адну з Антонам, любімым брацікам, Ядзя не хацела, і Міця прыйшоў жыць да яе. Нарадзілі дачушку Леначку, потым сыночка Сярожу. Маці, Марыя Іванаўна, памагала даглядаць. Раіла: не вельмі пестуй малых, змалку прывучай да работы, каб не выраслі гультаямі.

І Ядзя прывучала. Ля дома рабіла маленькія градкі, а потым вучыла малых, як якую траўку трэба рваць, каб не перашкаджала расці цыбулі, часнаку. Калі дзеткі ачышчалі градкі ад травы, і сястрычка рабіла гэта хутчэй за брацікa, ён плакаў. А маці вучыла дачушку:

— Ты старэйшая, зрабіла сваю работу — памажы брацiку.

Так і раслі яны дружна, памагаючы адно аднаму...

Аднойчы ўзбунтаваліся бацькі Міці:

— Хіба ён бомж які, што ў прымакі пайшоў? У яго хата свая ёсць, і тут ён павінен жыць.

Не ведала Ядзя, як прымуць яе свякроўка і свёкар, думала, што будзе цяжэй без сваёй маці. Але пярэчыць не стала. Міця на трактары перавёз яе

з дзецьмі ў сваю вёску, у свой дом. Бацькі Міці прынялі нявестку добра, як дачку. Памагалі, даглядалі малых, калі Ядзя была на рабоце. Яна звала іх мамай і татам.

Сваю маму таксама не забывала, сумавала па ёй і па брацiку. Упершыню рассталіся. У вольную хвіліну прыязджала на ровары да іх з гасцінцамі. Ездзіла і да сястрычак у дзіцячы дом, правярала дзённікі, прасіла, каб добра вучыліся. І таксама вазіла гасцінцы. Дзяўчынкі радаваліся, калі яна прыязджала. Стараліся вучыцца, каб імі ганарылася старэйшая сястра. Прыязджала і Марыя Іванаўна да іх з Антонам.

Ля дома мужа Ядзя разбіла вялікі кветнік. Ачысціла ад курэй двор, адгарадзіўшы ім для выгулу пляцоўку ля куратніка. Двор стаў прасторны, чысты, з зялёнай траўкай, па якой проста прыемна прайсці летам басанож.

Першай дзесяцігодку закончыла Лена. Пагасціла ў мамы, у Ядзі, а потым сабралася ды паехала ў Адэсу да сястры Стасі, якую даўно не бачыла. Думала — у госці, але... там і засталася.

Потым у Адэсу паехала і Іра, і таксама засталася там. Адэса — горад прыгожы, цёплы, мора побач. Каго гэта не прывабіць? Каму не захочацца жыць у такім горадзе? Тым больш, што карэнні, якія робяцца моцнымі, калі жывеш у сям'і, у іх не вельмі разрасліся і не вельмі трымалі на радзіме.

А Ядзя ўсё жыццё жыла ў вёсцы, палюбіла і Міцеву вёску, невялікую, усю акружаную лесам. Любіла поле за лесам, дзе каласілася жыта, нават падабаўся ёй канал, выкапаны для таго, каб асушыць балота. Роўны, не вельмі глыбокі. Звалі яны яго «наша рэчка». Купаліся там летам у добрае надвор'е. Ядзю нікуды не цягнула з дому. Усё і побач, і навокал было сваё, роднае.

А жыццё ішло па сваіх законах. Не стала бацькоў Міці. Спачатку памёр бацька, Іван, потым адышла і маці, Антаніна.

Ядзя і Міця заказалі вялікія іх партрэты, павесілі на сцяне насупраць дзвярэй, што вялі ў чысты пакой. Заходзіш і адразу бачыш іх, бацькоў, гаспадароў, якія пражылі тут, у вялікім доме, увесь свой век. Такім чынам дзеці вырашылі выказаць ім сваю любоў і павагу. І памяць.

Сёстры Ядзі атрымалі ў Адэсе адукацыю, павыходзілі замуж, нарадзілі дзяцей. З Ядзяй бачыліся рэдка. Калі-нікалі летам прыязджалі з дзецьмі на Радзіму, спыняліся ў Ядзі.

Аднойчы, за вялікім абедзенным сталом, які паставілі ў садзе пад старой разгалай грушай, Ядзя сказала:

— Я лічу, што дзецям летам у Адэсе вельмі горача. Будзе больш карысна для іх здароўя, калі лета яны будуць праводзіць тут, у мяне, у садзе, у лесе, дзе не так горача, дзе ёсць ягады, грыбы і... векавы цень. Карысныя ім і сырадой, і свежае яйка, і гародніна з градкі. Таму прапанова мая такая: кожнае лета на тры месяцы вы прывозіце сюды сваіх дзетак. А ў канцы жніўня прыедзеце за імі. Такая мая катэгарычная прапанова. Яна не абмяркоўваецца.

З гэтага ўсё і пачалося. Кожны год у вёску, дзе жыла Ядзя, нехта з сясцёр з мужам прывозілі ўсіх дзяцей да Ядзі, а самі вярталіся ў горад, дзе іх чакала праца.

Міця да прыезду дзяцей прывозіў у свой дом Марыю Іванаўну з яе гаспадаркай — курамі, якіх засяляў у свой куратнік. Бабуля таксама рыхтавалася да сустрэчы з унукамі, запасала гасцінцы — семкі і гарбузікі, варэнне рознае з лясных ягад, мёд, узяты таксама ў лесе з дупла на дрэве. Усё для ўнукаў. Прыязджалі і пляменнікі Міці.

У вольную хвіліну Ядзя хадзіла з імі ў лес, вучыла збіраць ягады і грыбы, вучыла, як у лесе не заблудзіцца, як знаходзіць дарогу па сонейку, па мху, які расце ўнізе на дрэвах. Вучыла ўсяму, што ведала сама. Але самім хадзіць у лес забараняла.

Адным летам сёстры і іх мужы дамовіліся між сабой, узялі ў адзін час адпачынкі і прыехалі сем'ямі да Ядзі. Тады цэлы месяц жыло ў яе аж семнаццаць чалавек. Дзеці спалі ў доме на падлозе, бацькі на вышках. Сена Ядзя засціла-ла прыгожымі посцілкамі, якія зімою ткала, а зверху прасцінамі. Адтуль доўга яшчэ да хаты даносіўся вясёлы смех і радаваў Ядзю.

Гэты месяц, праведзены з роднымі, яны потым успаміналі з Міцем доўгімі зімовымі вечарамі. Так было хораша разам з усімі.

## 6

Цяпер Ядзя даўно на пенсіі, але займаецца грамадскай работай. Вяскоўцы выбралі яе сваім старастам.

— Я шчаслівая, — гаворыць яна, — у мяне харошыя дзеці, харошыя нявестка і зяць, выдатныя ўнукі. Я багатая, у мяне многа радні, якім я яшчэ патрэбна. Ёсць сябры — мае аднавяскоўцы.

Калі і Антоша, любімы брацік, паехаў у Адэсу, стаў маракам, а потым інжынерам, Ядзя клікала, угаворвала маці пераехаць жыць да іх, да яе з Міцем. Маці не згаджалася:

— Тут, дачушка, я пражыла жыццё. Тут была і шчаслівая, і няшчасная. А гэта не забываецца, помніцца. Жылі тут некалі мае продкі, мне нават здаецца, што я дух іх адчуваю. Гэта так хораша. Мне добра ля лесу. Я прывыкла.

І зноў Ядзя садзілася на ровар і ехала да маці. Зноў як некалі везла ёй гасцінцы, свежае малачко, гародніну.

Але настаў дзень, калі Марыя Іванаўна сказала сама:

— Добра, Ядзя, паеду да цябе, можа, табе будзе лягчэй, калі я побач. Не трэба нагамі круціць гэтыя педалі. І ты ўжо не маладая. А мне нешта ўжо становіцца цяжка. Нават вядро вады прынесці з калодзежа.

Узрадавалася Ядзя:

— Мама, вам будзе добра ў мяне, вось паглядзіце. Я памыю вас і бялізну, накармлю свежанькім. І кожную вольную хвіліну буду бачыць.

Унук Сярожа, аграном калгаса, на сваёй машыне перавёз бабулю да бацькоў.

Вечарамі, парабіўшы па гаспадарцы ўсе справы, Ядзя садзілася ля ложка маці. Брала яе працавітую руку ў сваю, гладзіла і слухала, слухала...

Успаміны ў маці былі і сумныя, і радасныя, калі яны жылі ўсе разам.

— У нас цяпер як у самым пачатку, — гаварыла маці, — толькі тады я даглядала цябе, а цяпер ты даглядаеш мяне.

Клікала Ядзя дактароў, калі бачыла, што маці цяжка дыхаць. Дактары аглядалі хворую, выпісвалі таблеткі. А на развітанне разводзілі рукамі:

— Ну што вы хочаце, ёй ужо даўно за восемдзесят, арганізм знасіўся.

Аднойчы маці заснула, а раніцай не прачнулася...

Пазваніла Ядзя ў Адэсу. Прыехалі хаваць і сёстры, і брат, і іх ужо дарослыя дзеці. За жалобным сталом успаміналі добрымі словамі нябожчыцу ўсе: і родныя, і знаёмыя з вёскі.

Потым падняўся Антон.

— З гасціннага, прыгожага горада Адэсы, які нас, беларусаў, прыняў як родных, мы ўсе з радасцю прыязджалі сюды на нашу радзіму, — сказаў ён. — Нам і тут было хораша, цёпла ад дабрыні нашай маці і нашай сястры. Сёння мы пахавалі любімую матулю, самага галоўнага для нас чалавека на зямлі. Не было б матуль, жыццё на зямлі скончылася б. Але... мы не сіроты. У нас ёсць старэйшая сястра. У яе вялікае сэрца. У ім хапае месца кожнаму з нас. Яна любіць нас і нашых дзяцей. Як маці. Нам хораша з ёю. — Ён паглядзеў на Ядзю і ціха дадаў... — Ядзя, цяпер ты — наша маці...



## Святлана ЯВАР

* * *

Я верыла, што светлаю дарога
Мая, канечне ж, будзе назаўжды.
Я адганяла прэч сваю трывогу
І зноў святло вяртала, сапраўды.

Ды з кожнай паваротклю дарогі
Цяжэй было смяяцца ці спяваць,
Далей ісці больш не хацелі ногі.
Боль не пераставаў. І турбаваць

Мяне пытанне пачало: «Як выжыць,
Сябе не страціўшы ў дарозе той?»
Я абцяжарана пакутным крыжам.
Але не хочацца мне сябраваць з бядой…

* * *

Каго цікавяць боль чужы і страх,
Якія мучаць, рвуць душу на часткі?
Ідзеш, здаецца, угару. Ў гарах
Няма чым дыхаць. Вось ужо ты ў пастцы.

А нехта не жадае за табой
Наверх узлазіць, і смяецца хціва,
І выклікае злосна на двубой.
А іншы кланяецца так пачціва…

---

*__Святлана Явар (Сачанка Святлана Барысаўна)__ нарадзілася 11 ліпеня 1968 года ў Мінску. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (1990) і аспірантуру Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі (1993). Была навуковым супрацоўнікам Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны, выкладчыкам беларускай мовы ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры, рэдактарам аддзела крытыкі ў часопісе «Крыніца», спецкарэспандэнтам штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», малодшым навуковым супрацоўнікам Інстытута мовазнаўства.*

*Аўтар паэтычных кніг «Белы месяц» і «Раніца ў туманах». Выступае ў жанрах прозы і крытыкі на старонках перыядычнага друку.*

Інтрыгі, дзіўныя размовы, смех,
Які ты падтрымаць чамусь не можаш.
О Божа мой! Як зберагчы мне мех,
Ахвярна ўскладзены ля гор падножжа?

* * *

Не, не кахаю я нікога. Не.
Каханне — марны і пусты занятак.
Аднак іголкай часам мне кальне
Дзіцячы плач. Ды не, даволі згадак!

Зайздросціць сорамна чужой удачы,
Аб шанцы ўпушчаным не трэба сумаваць.
Задаў мне Бог нялёгкую задачу —
Сябе ў жыцці бязгрэшнай захаваць…

* * *

За ўсе свае няўдачы і заганы
Я заплаціла страшную цану.
Пакутніцай, зняверанай, загнанай,
Сябе цяплей я ў футра апрану.

Ніхто не ўбачыць, як баліць мне сэрца
Пад хараством убрання. І ніхто
У мой няпоспех болей не паверыць.
І я ўратуюся. Мо як ніхто.

* * *

Ты мяне не ўспрымаў усур'ёз,
З-за чаго праліла многа слёз.
Замарозіў пачуцці мароз,
Я адна зноў іду між бяроз.

У суровых умовах жыву
І ламаю штодня галаву
Над пытаннем: навошта траву...
Ты *выпальваў*? І больш не заву.

* * *

Ты сябрам быў, надзейным, верным.
Што ж сталася з табой цяпер?
Ідзеш паводдаль крокам мерным.
Узняўся ад сваіх папер...

Высока заляцеў кудысьці
І, не заўважыўшы, ляціш.
Дзе ж мне знайсці якое выйсце,
Каб разарваць між намі ціш?

* * *

Як горка, што былое паміж намі
Ты абвясціў прыгодай, і не больш.
Цябе спалю, напэўна, перунамі —
Не вытрываю гэтага я дольш.

Маланкі на тваю на галаву!
Я без цябе жыву — і не жыву…





## Ніна ШКЛЯРАВА

### ЖАДАННЕ

Нібыта дрэву трапятаць
Ад зімняй сцюжы сярод поля.
Вясной — шчасліва дзень вітаць
Зялёным лісцейкам на волі.

Прыгожай кветкай аддаваць
Чмялю красу сваю і цноту,
Зачаравана заміраць
Да самае шчымлівай ноты.

### ЦЁПЛЫМ ВЕЧАРАМ

Не прывечаны мной,
Мой нястрэчаны!
Прадчуваю цябе
Цёплым вечарам,
У мяне адну — закаханага,
Беззаганнага, мне адданага...

Паглядзіш на мяне
Засяроджана,
Я падумаю:
Вось ён, Божа мой!
Мной прывечаны
Гэтым вечарам...

Познім вечарам,
А не ранкам,
Па-старэчаму
Каля ганка

Я з суседкамі прыпазнілася —
Пра жыццё-быццё
Гаманілася...

Запытаўся ты проста-запраста:
— Што жадаеш,
Мая ты ластаўка?
Хочаш, будзеш
Маёй царэўнаю,
Ненаглядную каралеўнаю?..

Адказала я:
— Толькі жонкаю!
Рассмяялася рэха звонкае.
Паляцела яно
За сваццейкай
Ці ўтапілася мо
Ад шчасцейка!

---

*__Шклярава Ніна Нічыпараўна__ нарадзілася 10 снежня 1947 года ў вёсцы Пракопаўка Гомельскага раёна. Скончыла гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага універсітэта (1971). Працавала карэспандэнтам гомельскай раённай газеты «Маяк», рэдактарам на абласным тэлебачанні, настаўніцай у школе. Цяпер кіруе школай маладога літаратара пры гомельскім аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Міг і вечнасць», «Дзічка», «Аберуч» і інш.*

Цішыня наўкол —
Недарэчная.
Я сяджу адна
Цёплым вечарам.

## ЛЮСТЭРКА

З раніцы ў люстэрка выглядаюся.
— Ці ж не я найпрыгажэйшая? — пытаюся.
Толькі ісціна дакорліва ўпікае.
Як ільдзінка, яна тонкая такая,
Што ні дотыку не чую, ні вагі,
Пад вачамі адны цёмныя кругі.
Як загнаны звер, канае маладосць...
— Не пазнаць Вас у люстэрку, ягамосць.

* * *

*В. Таянковай*

Песні сяброўкі, як тыя зёлкі,
Сэрца маё адагрэюць.
Зазіхацяць у нябёсах вясёлкі, —
Свет навакол падабрэе.

Песні сяброўкі, як тыя зоркі,
Ночку ў снах карагодзяць...
Ці то жар-птушка скінула пёркі,
Ці гэта сонейка ўсходзіць?!

Песні сяброўкі, як тыя пчолкі,
Не пасядзяць без работы.
Нота да ноты, слоўка да слоўка —
Музыкі поўныя соты.

* * *

Ночы куродым. Ліхтар.
Хаты замшэлае твар.
З выбітым вокам акно,
Цемень асела на дно.

Нат азірнуцца мне жах,
З вечнасцю я на нажах.
Родных пакінула ёй,
Гоніцца памяць за мной.

Маці прыходзіць у снах,
Кросны снуе па начах.
Посцілкі тчэ, раздае...
Тройца. Пахне аер!

Бацька садзіцца за стол,
Вып’е гарэлкі грам сто.
Потым паўторыць не раз...
Цётка. Малітва. Абраз.





Ганад ЧАРКАЗЯН

# ЧАРГАВІ

* * *

Дарога імкнецца на ўзгорак жыцця,
З яго чалавеку абсяжна відно.
А потым на старасці ён, як дзіця:
Плывуць успаміны, як кадры кіно.

* * *

Сусвет кіруе ўсім — і што было,
Што ёсць, што будзе. Вечнасці належыш.
І згаснем мы, як зорнае святло,
Ў ягоным неагледзеным бязмежжы.

* * *

Усё на зямлі ва ўладзе святла —
Сумленне і гонар ім шчодра прасветлены.
І мужнасць такія вышыні ўзяла,
Дзе ў лёце стагоддзяў і золка, і ветрана!

---

***Чарказян Ганад Бадрыевіч*** *нарадзіўся 18 кастрычніка 1946 года ў Арменіі. Пасля заканчэння сярэдняй школы вучыўся ў тэхнічным вучылішчы № 1 горада Ерэвана, у прафесійна-тэхнічным вучылішчы № 27 горада Эчміадзін, працаваў на суднарамонтным заводзе імя Ф. Дзяржынскага ў горадзе Туапсе Краснадарскага краю, служыў у Савецкай Арміі. Скончыў Ерэванскі індустрыяльна-педагагічны тэхнікум (1976) і будаўніча-педагагічны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута (1982). Працаваў у будаўнічых арганізацыях Мінска, у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Цяпер — дырэктар фірмы ТСТ.*

*Піша на курдскай, армянскай і рускай мовах. Выдаў у перакладзе на беларускую і рускую мовы зборнікі вершаў «Прочность», «Цвет доброты», «Пространство и время», «Караваны гор», «Чаргаві», «Плач», «Дом дождя», «Тоска по дому», «Зорная глыбіня», «Мелодия разлуки», кнігі прозы «Шамдзін», «Камни печали», роман «Опередить смерть» і інш; кнігі для дзяцей «Пумпур у калясцы», «Казкі дзеда Ганада».*

* * *

Ад зямлі — і ўсяго — нашы беды ўсе,
Бо забытая намі яна, святая,
Бо падаўна забылі пра след на расе
І пра тое цяпло, што ў зямлі нас чакае.

* * *

Крылаў няма — і прасторы няма,
І птушка не чуе волі раздолле.
Бяскрыла ўссядае на плоце сама
Ды зорыць зайздросна на бачнае поле.

* * *

Чым большы год цяжар,
Тым болей сноў-кашмараў.
У іх — абложа хмар,
А не успышкі募. мараў.

* * *

Каханне іх было, як гімн вясне,
І чуўся ўзлёт пачуццяў чалавечых.
Ды згасла ўсё ж яно не ў сівізне —
Зарана з хаты выселілі рэчы.

* * *

Аблокаў сувой у нябёсах клубіцца,
Нібыта драконы застылі ў цішы.
Зданяў баяцца — пра мары забыцца,
Убачыць цямрэчу ўласнай душы.

* * *

Вынайдзена кола, масты ўзведзены —
Выгоды на ўсе зямныя часы.
Ды вузкімі стануць свету агледзіны,
Калі нам не бачыць жаночай красы.

* * *

У рэчцы крынічнай наўздзіў карасю
Стронга віжуе-млее.
Каб зразумець мудрасць усю,
Ці варта ляжаць у глеі?

* * *

Ты голас мой пачуеш усё ж,
І музыкай ён даплыве да слыху.
Так шэпчацца з травамі гойны дождж,
Падданы шапоткаму ускалыху.

* * *

Звычка даўняя ёсць адна —
Скінь ля крыніцы абутак спярша.
І стане крыніца светлай да дна,
Як і твая ў гэты міг душа.

* * *

Карахан — герой забытых эпох,
Учынак ягоны любога кране:
Бяссмерце яму прапаноўваў Бог,
А ён Бога любіў і адмовіўся: «Не!»

* * *

Лайдак з палахліўцам шчасце займеюць,
Калі ім паднесці бочку віна.
Як людзі ў атруце тапіцца ўмеюць!
Ды гэта, відаць, не мая віна.

* * *

Ні рыбаком, а тым больш — паляўнічым
Жадання не маю ў жыцці пабываць.
Адзін ружжом братоў меншых нішчыць,
Другі рыб умее кручком забіваць.

* * *

І карканню варон, і спевам салаўіным
Прастору на зямлі хапала спрадвек.
Судзіць з іх кагосьці мы ўсё ж ці павінны,
Калі ўсё да рук прыбраў чалавек?

* * *

Калі ў хаце гора і хустка ў слязах —
Па звычаі даўнім яе ў рэчцы топяць.
Наіўна хтось думае, робячы ўзмах:
Соль слёз растапіць вады рачной хопіць.

* * *

Несці магчыма ўласны свой крыж,
Хоць цяжар яго непамерна вялікі.
А гора чужое панесці — глядзіш,
Трэба багата каго яшчэ клікаць.

* * *

Жыцця скарыстаны аванс спаўна —
Язык неслухмяны і голас асіп.
Дзе смоль валасоў была, там — сівізна,
Пачуццяў застаўся адзіны ўсхліп.

* * *

Зламалася памочніца-асадка,
У трэшчынах, хоць пацягнута клеем.
А трэшчыну, што час пакіне, гладка
І сёння ў сэрцы склеіць мы не ўмеем.

* * *

На папялішчы хаты дзед сівы,
І слёзы ўсе павыпаліла скруха.
Сядзіць стары, не ўздыме галавы.
Ляцяць снарады, гупаючы глуха.

* * *

Хвасты падцялі — сабакам не ўкрыўду —
Хапугі новыя без веры і маралі.
Хай рухне свет! Больш сквапныя прыйдуць.
Глядзяць з пагардай — колькіх абабралі!

* * *

Падманам жыць — як без падмурка дом
Узводзіць. Ён пагрозна нетрывалы.
І чалавек, што спіць салодкім сном,
Спахопіцца, калі ўдараць шквалы.

* * *

Мільёны людзей не чакаюць хвалы:
Іх просты удзел — працуй і жыві.
Другая палова крывотліва-злых —
Іх суддзі, што свет патапілі ў крыві.

* * *

Бядняк перажыў і стагоддзі, і войны
І духам узнёсся, дажыўшы да нас.
Калі ж не сканае, — то будзе спакойным
І мудрым прабудзе наступнасці час.

* * *

Кахаць жанчыну — як любіць жыццё.
І хто адпрэчыць ісціну такую?
Інакш — укрые часу забыццё,
Нішто тады пад небам не ўратуе.

* * *

Дождж хвошча несупынна, несыходна.
Ноч цьмяная. І чарната аблок.
Ды ранак гляне стоена-лагодна.
Як і належыць, свой прыспешыць крок.

* * *

Згадаць жадаеш юні краявіды,
Калі бяспечна мараю жывеш.
Але ў жыцці хапае ўсё ж агіды —
Па чорнай рэчцы прошласці плывеш.

* * *

Ноч прамінула. Наш цягнік
Спыніўся, стаўся казкай ночы.
І пасажыр апошні знік.
Наступнасць глянула у вочы.

* * *

Бягуць зададзена па рэйках цягнікі,
Ды імі ўсё ж кіруе чалавек.
Мацней жалеза ўзлёт яго рукі,
Вось і надзея — не апошні век.

* * *

Калі розум саступіць бязлітасці зла
І зямлю забярэ цямрэча ў турму,
Салавей адзін толькі з узмахам крыла
Запяе… Ды паслухаць не будзе каму.

* * *

Век наш брыдзе — як катком па зямлі,
Толькі й пакіне траву на ўспамін.
Тут мы былі. Тут мы — жылі.
Толькі ўзварушыцца вецер адзін.

* * *

Пражыў паўстагоддзя — і смела балюем:
Ты не ў нізіне, ты — на гары!
Толькі ці зменіцца што? — засумуем.
Услед пасміхнецца свет мудра-стары.

* * *

Рабавалі багатага, сям'я яго згінула,
Для ўсіх тыя чорнымі дні былі.
У нетрах алмазы мільёны год стынулі,
Зрабіліся злом, калі іх здабылі.

* * *

Свет старажытны больш справядлівасці меў,
Хоць і рабы там былі і былі ізгоі.
Часаў урок, што наш свет ўразумеў:
Слабы вінаваты заўжды, хоць і няпраўда тое.

* * *

Хіжак небяспечны, калі ён пры ўладзе,
І точыць уладу, як дрэва чарвяк.
Усё быць павінна у згодзе і ладзе.
Ды толькі хіжак з тым не згодзен ніяк.

* * *

Лівень пральецца — хлыне разводдзе,
Спрыт рук уратуе ці бервяно.
Кожны пад Богам з нас сёння ходзіць.
Бясконцым пагрозам канца не відно.

* * *

Гармоніяй птушыных галасоў
Ва ўсе часы натолены лясы.
Пільней зірнеш — хапае кіпцюроў,
Клыкоў ваўчыных, хітрыкаў лісы…

* * *

Няўдалыя дзеці — цвікі ў дамавіны века,
І з іншым наўрад параўнаеш іх чым.
Жывуць на зямлі, забіўшы ў сабе чалавека,
А мы не крычым, мы — горка маўчым.

* * *

Пажухлай лістотай грудок зацярушыць восень.
І памяць захоча на вогнішчы гэтым згарэць.
І хмурая сцюжа над чорнай плітой загалосіць.
Ды з'явішся ты, каб сэрцам яе сагрэць.

* * *

На свеце сягоння больш прахалодна,
І кожнаму — пажурыцца на лёс.
Чужая мараль косіць сэрцы шкодна,
Сцінаецца свет ад фальшывых слёз.

* * *

Іх дні даўно за небасхілам вечнасці —
Колас, Купала і малады Багдановіч.
Ды толькі ў жыццёвай зямной быстрацечнасці
Нязгаснае Слова іх часы узновіць.

* * *

Надвор'е — хлюпота, туман і дождж.
На грудзе магільным стынуць вянкі.
А чалавек, няўрымсны, усё ж
Верыць — яму належаць вякі.

* * *

Што горай падману, слёз і здрады?
Тое вядома спаўна табе.
Цяжэйшай няма — чым зямлі сваёй — страты,
Гусцей не ўзысці чутай журбе.

* * *

На заходзе сонца жартуе —
Бачыш, цені якія даўгія?
Сёння нашы пагляды вартуе,
Заўтра — стрэнуць вочы другія.

* * *

Свіцязі чаша пад ценем дубоў
Поўна блакіту да глыбіні.
Тых, хто сякерай узносіць любоў,
Дзень мой, на беразе перапыні.

* * *

Горад старажытны, вулак звівы.
Крыж каменны з-пад зямлі расце.
Будучыні прывід міргатлівы
На зямной убачыцца вярсце.

* * *

Прыме аднойчы зямля — вер не вер —
І думай аб тым у стане цвярозым.
Паболей пад небам рабі цяпер,
І справы узважыць на вагах розум.

* * *

Не люблю прасталыг, ненавіджу падману
І шаную халодную бель сівізны.
Хтось камусь не аддаў і сягоння пашаны,
А ўжо той, што з касой, крокі блізка чутны.

* * *

Што дрэнна ляжала — прыбрана да рук.
Ад сэндвіча чалавек тлусцее.
А той, хто штодзённа гнуўся ў крук,
І сёння, галодны, ад працы пацее.

* * *

Выблісне золак зямны як надзея.
Ўзрушыць наплыў салаўіных рулад.
Глянеш — і сэрца ў грудзях халадзее,
Свет ледзяны не змяніўся, Ганад!

* * *

Збаны няспынна былі павінны
Па сцежках горных насіць ваду.
Хоць быў і доўгім век іхняй гліны,
Пралеглі трубы — адлік вядуць.

* * *

Хто з песняй прыйшоў — і сыдзе з песняй.
Прыдумана так на суцяшэнне.
Нябыту няма! Парою весняй
З вечнасці нашай нап'ецца карэнне.

* * *

Каштоўнасць учынкаў малых і вялікіх
Нам дорыць заўсёды спатолю жыцця.
Калі дарослы робіць пралікі,
Пакутуе потым бязвінна дзіця.

* * *

Не прывыкаць пазыкі вяртаць.
І тое, напэўна, лёсу ўгодна.
Колькі спраў добрых будзе чакаць,
Марнасцей колькі зробіцца шкодна.

* * *

Бог жыццё дараваў і тут жа адсек:
Жывіце без лішкаў — ашчадна жывіце.
Што раб перад Богам — забыў чалавек,
Настрой спажывецкі заўсёды ў зеніце.

* * *

Шпарка і хутка рушыць наш век,
Ад цішыні ён гаючай адвык.
А па дарозе ідзе чалавек.
І крок яго можа спыніць грузавік.

* * *

Захад пазначаны сонца каронай,
Ад шэрані мокрай стаміліся людзі.
Заўтра трава стане зялёнай,
Неба блакітным зноўку будзе.

* * *

Вецер халодны цярэбіць голле,
Лапіны снегу ўсцяж відны.
Птушкі вярнуліся. Іх сваволле
Больш не супыніць холад скразны.

* * *

Чаранок у зямлю ўтыркнуў наградзе,
Думаў — пяшчотай успыхне ружа.
Бутоны завялі. Услед брыдзе
Толькі жыццёвая сцюжа.

* * *

Вечар змяніўся ноччу цьмянай,
Стылая зорка воку відна.
Колькі эпох прайшло над нірванай!
Толькі нясходная зорка адна…

* * *

Заўжды на гары вецер праніжа,
Ды ўбачыцца шырай далеч зямная.
І чалавек неаднойчы выжыў
Там, дзе пагроза сувой развінае.

* * *

Дзень адыходзіць — пакіне смутак.
Марыш, што вечар агорне цяплом.
Толькі адвечнае кола сутак:
Ранак успыхне агністым крылом.

* * *

Прайшоў час гучных слоў і бравад,
Каханне заўжды на шэпт пераходзіць.
Слоў не патрэбна — адзін пагляд
У сэрцы пагаслым пачуцці адродзіць.

* * *

Думка была — працаваць і марыць,
Пакуль збан трывання не поўны слёз.
Ды толькі касцёр патушылі скнары
У полі адкрытым у люты мароз.

* * *

Спеліць у сэрцы боль адзінота,
Сон усплывае над гаманой.
Ноч… Зоркі… Я… І начы самота.
Боль… Ты, каханая, не са мной.

* * *

Пупышкі першыя вока скмеціла,
Так нечакана прыйшла вясна.
Снег белы былы — скразное месіва,
Птушыная ў вышы стаіць гамана.

* * *

Судны дзень якім будзе? — пытаем здавён.
Нямала пражыў. І грашыў нямнога.
Змеі знікаюць, як выбухне звон,
А зло не сыходзіць са шляху зямнога.

* * *

Кахаць ад душы і расстацца з болем —
Бедных удзел і рамантыкаў лёс.
Клічу з былога (не ўбачымся болей) —
Адказу няма, толькі іскры слёз.

* * *

Гады праляцелі, музыка згасла.
У стэпе халодным стаю адзін.
Туга разгарнула сваё перавясла.
Маркота апошніх сыходных гадзін.

* * *

Сэрца, нібыта расінка, дрыжыць —
Колькі яму ў свеце відно!
Без хвалявання сэрцу не жыць,
Толькі яно у мяне — адно.

* * *

Сыходзяць і вяртаюцца страты,
Каханне толькі ў гадах растае.
Хтось любіць да той неабвержнай даты,
Хтось гімны каханню нядоўга пяе.

* * *

За стратамі ўсімі ідзе цішыня,
Часта закутая ў горыч скрухі.
Толькі каханне здатнае ўняць
І завярухі, і завірухі...

* * *

Унучка шчабеча — чыста салоўка,
Усцешна спявае — мінула трывога.
Калі аслабне бядоты вяроўка, —
Чаму мы жывём? — пытаем у Бога.

* * *

Рухнулі замкі, што ўзводзіў у марах,
Дзе любай, нібыта птушцы, крыляць.
Зменліва ўсё на свету абшарах,
А чалавеку адно — сузіраць.

* * *

Час раны залечыць, самота мінецца,
Зрынуўшы цяжар, узняцца пасмееш.
Розум разважлівым застанецца,
А сэрца не прыме, не зразумее.

* * *

Нічога не зменіцца. Прыйдзе вясна.
Сонца душу прасветліць наскрозь.
Толькі ці выпіта страта да дна?
Толькі ці новае ўспыхне штось?

* * *

Ты — ружы водар, і вецер чужы
Зносіць яго, пялёсткі пудзіць.
Чуючы водар жыцця, скажы,
Якімі павінны на свеце быць людзі?

* * *

Смутна агуслі хмурыны вясны,
На прасвятленне спадзеву няма.
Экран тэлефона… Лічбы відны…
Маўчанне… Пачуцці скавала зіма.

* * *

Страт болей там, дзе іх не чакаюць,
Сябра сышоў — не развітаўся.
Хаты ў плыні рачной знікаюць,
Толькі спадзеў на цуд і застаўся.

* * *

Як мамант за безліч мінулых год,
Вымер апошні рамантык чуллівы.
Блукаю, як вецер. Холад і лёд.
Чакаю вяртання з цянётаў маўклівых.

* * *

Мой свет у тумановай прахалодзе,
Маяк пагас і знікла цвердзь зямлі.
Кахаць кляліся цэлыя стагоддзі,
Аднак кахання ўсё ж не ўбераглі.

* * *

Мяне пакрыўдзіла ты незнарок,
Маўчаннем сцятым апёкшы сэрца.
Пачуеш мой з мінулага крок,
Памяць не руш, мне там сагрэцца.

* * *

Сонцам прасветлены келіх віна —
Губляюцца ўсё-ткі водар і смак.
Калі віно вып'еш да дна, —
Хістаецца свет, як падпіты прымак.

* * *

Ты пройдзеш тратуарам — брук
Аздобіць рэхам свет шырокі.
Крану цяплынь дагнаных рук —
Нальюцца зайздрасцю аблокі.

* * *

У ружу закахаўся безнадзейна,
Яна і водар мне, і прыгажосць.
Адным — пяшчоты пахкі дых узвейны,
Другім — шыпы калючыя, як ёсць.

* * *

Жорсткім не будзь — ні рублёў, ні песет
Не забярэш у дамавіну.
Нават тады, калі рухне твой свет,
Мяне не штурхай у спіну.

* * *

Розум заўсёды зможа мароз —
Пасобяць адзенне, хата, касцёр.
Шкада адно толькі ззяблых бяроз,
Што моляць цяплыні начамі ў зор.

* * *

Першыя прыклады у жыцці
У малыша ад маткі і бацькі.
Падрос — і чужыя вучаць ісці
Больш безаглядна, бацькоў не бачыць.

* * *

Гадзіны збягаюць — худзеюць дні,
Нібы на дыеце уся планета.
І што думае з вышыні
Мост над ракой, бачачы гэта?

* * *

Кожны ў даўгу перад Тварцом
І тымі, хто ведае правільны шлях.
У першым жыцці быў кат мудрацом,
Кавалкам вяроўкі была пятля.

* * *

З кавалкаў асобных Бог свет стварыў,
Месца даў геніям і пачварам.
Вось і гадае нямоглы стары:
Неграм быць сытым ці галадаць з белым тварам.

* * *

Сабака на выгуле наструніў вушы,
Здаецца, і вольны, ды ашыйнік на шыі.
А чалавек, хоць ашыйнік не душыць,
Ад цяжару па-сабачы вые.

* * *

Чалавека шкада і шкада мураша,
Кожны жыве, як наканавана.
Ды скаланецца лесу душа.
Колькі някметна тут дрэў спілавана!

* * *

Патрачаны час на тлум пустых спраў.
І куды гэтак несла? — пытае.
Маны ураджай шчодры сабраў:
Давіцца, у адзіноце глытае.

* * *

Трое — старая, сабака і кот—
З-за брамкі на свет глядзяць.
Смутна жыццё канчае свой ход,
Каб гэтакім вынікам стаць.

* * *

Кветкі любяць жанчыны — чаму б і не.
Ухвальна зірнеш — хараство ля прыгажосці.
Можна купіць букет і зімою, і па вясне.
Толькі знікае святое штосьці.

* * *

Над пуцінай тваёй — рэчкі плынь, вербалоз і сляза,
Ды збяднее жыццё і шырокаю стане пуціна.
І нікому аб тым не паспееш трывожна сказаць —
Абмялела рака, верба ссохла, сляза капне стынна…

* * *

Зноў на планеце льецца крыві замнога,
Якую не змыюць усе дажджы.
Чалавек на калені ўстае перад Богам:
— Я грэшны, дапамажы.

* * *

Хто марай жыве — свайго дачакаецца,
Няхай і не гор залатых.
Чакаеш чорнага — светлае напаткаецца.
Чаканняў не бывае пустых.

***Пераклад з курдскай Міколы Мятліцкага.***





*ПУБЛІЦЫСТЫКА*

**Таццяна ШАМЯКІНА**

# ПАРАДОКСЫ НАШАГА ЖЫЦЦЯ

Народны язычніцкі каляндар, звязаны ў асноўным з рухам сонца, меў на мэце наладжванне святаў прыблізна праз кожныя сорак дзён. Гэта азначае, відаць, тое, што нашы продкі, жывучы ў гарманічным суладдзі з прыродай, бачылі і адчувалі не толькі яе своеасаблівыя рытмы, але нават і тое, што фізіялагічна чалавеку патрабуецца адпачынак-разрадка праз кожныя сорак дзён. 40 — лічба далёка не выпадковая, яна неаднаразова згадваецца ў Бібліі і ў нацыянальным фальклоры. Мы са студэнтамі правяралі на сабе, родных, сябрах, калегах. Сапраўды, адпачынак неабходны — асабліва ў асенне-зімова-веснавы перыяд, калі беларусам катастрафічна не хапае энергіі. Ад летняга адпачынку да Новага года і ад Каляд да веснавога комплексу (Вялікдзень — Радаўніца — 1 Мая — 9 Мая) прамежак часу залішне вялікі. Тут пажаданыя або калядныя канікулы на 10—12 дзён, як і было ў нашых продкаў, або на 3—4 дні выхадных у кастрычніку — пачатку лістапада і ў сярэдзіне лютага. На жаль, ні свята Кастрычніцкай рэвалюцыі 7 лістапада, ні Дзень абаронцаў Айчыны 23 лютага ўсё ж на шырокамаштабныя святы не цягнуць. Можа, варта было б сэнсава паглыбіць Пакроў (14 кастрычніка) і Стрэчанне (15 лютага)? Але гэта праваслаўныя святы, сярод жа беларускіх грамадзян — людзі розных канфесій. Хоць выхад ёсць: у адным выпадку скіраваць увагу на Дні Маці, у іншым — на Дні Святога Валянціна (14 лютага), пашырыўшы яго як дзень Любові (ужо паколькі заходняе свята прыйшло да нас, дык неабходна неяк яго выкарыстаць)…

Шкада, што з календаром такі хаос. А народ жа прыдумаў мудра…

* * *

Улады б'юцца над тым, каб надаць дзяржаўным святам высокі сэнс, нават не ідэалагічны, а ідэйны, сімвалічны. Аднак на ўзроўні канкрэтнай асобы пафасу ўсё менш: ну яшчэ адзін свабодны дзень — добра, безумоўна, можна паспаць або тэлевізар даўжэй паглядзець… Я прашу студэнтаў: «Шукайце сімвалы ў жыцці, рытуалізуйце яго, бо кожная праява нашага існавання напоўнена глыбокім сэнсам!» А не атрымліваецца: усё шэра, звыкла, нецікава, нягледзячы на тое, што гарады ўпрыгожваюцца больш ярка, эстэтычна прывабна. Жыццё катастрафічна хутка — у асноўным пад уплывам мас-медыя — губляе свой сімвалічны сэнс. Гэта першы і самы важкі паказчык заняпаду культуры, якая ўся — на сакральных асновах, і поўнага захопу цывілізацыяй культурнага поля.

Культ розуму прынёс свае выдаткі. Дарэчы, навука ў многім паспрыяла таму, што знікла адчуванне таямніцы прыроды, адчуванне прыгажосці Божага свету,

яго загадкавасці. Усеагульная бюракратызацыя жыцця давяршыла справу. Хутка ніхто нічому не будзе здзіўляцца — а гэта ж жывёльны прынцып існавання.

Тым даследчыкам, хто імкнецца раскрыць вочы чытачам і слухачам, паказваюць цуд жыцця, цуд прыроды, цуд мастацтва, уносяць у свае навуковыя творы нязвыклыя, парадаксальныя ідэі, апаненты даюць рэзкую водпаведзь, б'юць па вачах: ненавукова, супярэчыць навуковай карціне свету! Але недасканалая яна яшчэ, навуковая карціна свету! Бедная і механістычная! І дарэчы, у канцэпцыях фізікі — як бы эталона навуковага дыскурсу — больш дапушчэнняў, больш фантазіі, чым ва ўсіх фантастычных творах! А астрафізіка?! Ды гэта ж суцэльная міфалогія! З той розніцай, што, прыкладам, індыйскі міф пра сны бога Брахмы нашмат цікавейшы, чым тэорыя сінгулярнасці, модная сёння і запазычаная менавіта з індуізму. Тэорыі, што некалі былі сапраўдным прарывам навуковай думкі, усё часцей паўстаюць толькі адным з аспектаў неверагодна складанай мадэлі Космасу, працэсы ў якім на самай справе пакуль апісваюцца на ўзроўні гіпотэз, а значыць, навуковых міфаў (у самым станоўчым сэнсе гэтага слова), хоць не выключана, што многія з гэтых гіпотэз могуць аказацца справядлівымі.

* * *

Прыкладам савецкага манапаліста ў навуцы, ганіцеля прагрэсіўных яе накірункаў з'яўляецца акадэмік-сталініст Т. Лысенка. Хто толькі па ім ні патаптаўся, як толькі ні давалі яму выспятка! Безумоўна, справядліва. Праўда, пры гэтым неяк заўсёды забываліся згадваць, што Лысенка барацьбу пачынаў супраць яўгенікі — адгалінавання ў генетыцы, якая мела расісцкую накіраванасць і якую падтрымліваў Гітлер. Не пішуць і пра ўласныя практычныя дасягненні Лысенкі, а яны ўсё ж былі, хоць ён па сваёй неадукаванасці не ўмеў іх па-навуковаму аформіць. Але паглядзім на вынік. Дзякуй Богу, прыгнечаная некалі генетыка — сёння царыца навук. Відаць, справядліва яшчэ старажытныя рымляне гаварылі: per aspera ad astra — праз церні да зорак. У адносінах да генетыкі гэта аказаўся адзін з самых шчаслівых парадоксаў у навуцы. Праўда, часам у дылетанта закрадаецца крамольная думка, што вывядзенне карысных гатункаў раслін і парод жывёл варта было б даручыць не геннай інжынерыі, а традыцыйнай, стагоддзямі праверанай, селекцыі. Калісьці ў селекцыянера І. Мічурына былі тысячы паслядоўнікаў. У наш час селекцыя на масавым узроўні поўнасцю сканала, а тое, што было напрацавана продкамі, страчана. Скажам, пра дзесяткі гатункаў яблык, распаўсюджаных на Беларусі ў пачатку XX стагоддзя, ніхто і не ведае (лічыцца, што ў нас панавала суцэльная галеча, адкуль жа пабрацца тым яблыкам!). Між тым у майго прадзеда па маці Азара Кротава быў самы вялікі і багаты ў велізарнай вёсцы сад: назвы гатункаў розных садовых дрэў, што пачула ад родзічаў, я не сустракала больш нідзе. Але я памятаю ў 1950-я гады, да хрушчоўскага вынішчэння, шыкоўныя сады ў гомельскіх вёсках, няхай не з дзесяткамі, дык хоць з дзесяткам гатункаў яблык. Дзе яны сёння? Народ адвучылі эксперыментаваць ва ўласным садзе. Гэтым займаліся ў асноўным мужчыны — сёння сад у многіх заменены пляшкай «чарніла». Затое поспехі пакутніцы-генетыкі ўнушальныя! Кланіраванне, вырошчванне новых органаў, расшыфроўка геному — велізарнае дасягненне (кажу без іроніі). Праўда, яшчэ гадоў пяцьдзесят, не менш, за аперацыю па замене органаў неабходна будзе заплаціць каласальную суму, абсалютна немагчымую для простых людзей. Узамен ужо сёння трансгенныя прадукты нясуць гэтай шэрай, з пункту гледжання «эліты», масе — простым людзям — рак і розныя алергічныя захворванні.

Не толькі лысенкаўшчына, але таксама і барацьба з ёю, скрышальная перамога генетыкі дае яшчэ адзін павучальны ўрок, пра які лічыцца непрыстойным гаварыць. Навука што ў выпадку з Лысенкам, што ў выпадку з генетыкай была

скіравана на практычны вынік — як і сёння. Усё правільна. Навука, уласна кажучы, для таго і існуе. Але наступствы яе адкрыццяў часта непрадказальныя і амбівалентныя. Так, спажыванне трансгеннага харчу невядома як адаб'еццца на нашчадках. Ды і ў нас выклікае алергічныя рэакцыі. А смаку ж у такой ежы няма. Успомнім разварыстую бульбу, што мы елі ў нашых вясковых родзічаў яшчэ дваццаць гадоў таму, — і сённяшнюю са смакам ваты. Таму тэлеэфір і запоўнены рознымі кулінарнымі перадачамі: у іх нас прывучаюць да незвычайных спалучэнняў прадуктаў, вострых соусаў, экзатычных страў, каб вучыліся дадаваць смак у абсалютна прэсную ежу.

Модныя накірункі, накшталт розных біятэхналогій, якія прыносяць сённяшнюю — хто спрачаецца — несумненную выгаду, зусім верагодна, практычна небяспечныя, а можа, і шкодныя пачынанні. Затое ў фундаментальнай біялогіі ніякіх адкрыццяў не адбылося. Яна так да гэтага часу і не ведае, што такое жыццё і па якіх аб'ектыўных законах яно існуе. Інакш кажучы, у палеміцы барацьбы адбыўся перакос у развіцці надзвычай важнай навукі — біялогіі, бясспрэчна, у будучым пануючай, галоўнай сярод іншых прыродазнаўчых навук. А мой непакой — з-за ведання тых тэхналогій, якія ўжо дасягнуты ў генетыцы і пра якія чытачы, магчыма, і не ведаюць. Скажам, пра генную зброю — нанясенне ўдараў па генах, якія ёсць у наяўнасці толькі ў пэўнай расы, этнасу, групы, нават асобнай сям'і, або здольнасць вырошчваць людзей з зададзенымі ўласцівасцямі. Што і казаць — фантастычныя дасягненні, але ад іх робіцца страшна. І часам думаеш: а можа, у асобе Лысенкі сама Прырода паўставала супраць тых адмоўных накірункаў у развіцці, бясспрэчна, фенаменальна патрэбнай навукі, якія мы бачым сёння?

* * *

Больш блізкая мне сфера — фалькларыстыка — непакоіць таксама. Час інтэнсіўнага збірання і папярэдняй апрацоўкі скарбаў народнай творчасці скончыўся, надышоў час асэнсавання, філасофскага абагульнення, пошуку ліній судакранання з іншымі філалагічнымі навукамі. Але якія аднатыпныя, скажам, працы па чарадзейных казках! Матэрыял найбагацейшы, жанр мастацтва — самы таямнічы, гіпотэз можна выказаць сотню, самых незвычайных, у тым ліку тую, што душа, сапраўды, несмяротная, і казкі маюць дачыненне да падарожжаў душы ў паралельных светах. А раптам адна з гіпотэз акажацца правільнай?! Стоп! Не маеш права! Ненавукова! І вось такі ўдзячны матэрыял заганяецца ў мёртвыя, бяздушныя канструкцыі — абы толькі выглядаў навукападобна! І не дай Бог адступіць ад думкі аўтарытэтаў, выказаць нешта сваё! Між тым любая гіпотэза, у якой адсутнічае ўнутраная супярэчнасць, мае права на існаванне. Члены ВАКа, якім даводзіцца знаёміцца з кваліфікацыйнымі работамі, хацелі б прачытаць, пачуць нейкую арыгінальную навуковую тэорыю. Але ўжо на кафедральным узроўні маладых вучоных, палохаючы ВАКам, схіляюць фактычна да шаблону, любую праблему максімальна фармалізуюць, усё складанае і незразумелае зводзяць да простага (а на самай справе прымітыўнага) і як быццам зразумелага. Гэта нараджае вялікую колькасць аднолькава нецікавых прац. Прарыву ў бліжэйшы час не чакаецца.

Людзей адвучылі мысліць арыгінальна, вобразна, таму і літаратура з галоўнага віду мастацтва адышла на апошні план. Але без яе грамадства непазбежна дэградуе. Ужо дэградавала. І не варта падманваць сябе поспехамі нашых маладых матэматыкаў на міжнародных алімпіядах. Мозг працуе як адзінае цэлае, у ім правае, вобразнае, паўшар'е абавязкова дапамагае мысліць, ствараць нешта новае леваму, што якраз адказвае за лагічнае, рацыянальнае мысленне. Атрафіруецца правае — нічога не народзіць і левае. Поспехі ёсць, але неўзабаве скончацца.

Яшчэ пакуль дапамагае тое, што моладзь чытае фантастыку, і такім чынам стымулюе правае паўшар'е. Але хутка маладых і ад гэтага адвучаць, ды проста часу не будзе чытаць!

* * *

Народная культура — вось сапраўдная навука! Варта ставіцца з увагай да абсалютна ўсіх народных назіранняў, зафіксаваных у прыкметах, павер'ях, паданнях, былічках. Фалькларысты большасць з іх лічаць прымхамі, забабонамі і трактуюць як памылковыя ўяўленні нашых продкаў. А я веру, што яны неслі ісціну, ды толькі наша афіцыйная навука — хоць бы фізіка ці біялогія — не дасягнула яшчэ таго ўзроўню, каб растлумачыць народны дыскурс. Праўда, сёе-тое ўжо можна вытлумачыць, скажам, з пункту гледжання эніялогіі, хіміі ці мікрабіялогіі.

Вось зусім просты прыклад. Існуе прыкмета: закаханыя людзі, як правіла, перасольваюць ежу. І праўда: сёння вучоныя высветлілі, што закаханым, сапраўды, чамусьці не хапае солі!

* * *

У 1827 годзе, калі жылі яшчэ паплечнікі Напалеона, захоўвалася памяць у народаў Еўропы пра яго справы, выдаваліся шматлікія мемуары, у Парыжы выйшла кніга пад назвай «Чаму Напалеона ніколі не існавала». Кнігу хутка перавыдалі ў шмат якіх краінах Еўропы. З аўтара дружна смяяліся, але не палічылі вар'ятам, бо гэта быў шырокавядомы ў навуковых колах і сапраўды бясспрэчна таленавіты прафесар матэматыкі Ж. Перас з Ліонскага універсітэта. Перас даводзіў, што такі чалавек — Напалеон — ніколі не жыў, што гэта міраж XIX стагоддзя, грамадскі міф, вынік масавага самагіпнозу. Доказы прыводзіліся выключна навуковыя. Кніга Пераса — і сёння цудоўны прыклад таго, як з дапамогай навукападобных фраз, матэматычных формул і фактаў, па сутнасці зусім не адносных да справы, можна стварыць знешне абсалютна навуковую гіпотэзу.

* * *

У сябе на філфаку БДУ ў канцы 2007 года мы адзначалі 100-годдзе прафесара Міхася Рыгоравіча Ларчанкі, былога нашага дэкана, загадчыка кафедры беларускай літаратуры, настаўніка шмат якіх літаратуразнаўцаў (узрасціў шэсць дактароў навук і сорак кандыдатаў). Усе мы, хто вучыўся ў М. Ларчанкі, успаміналі яго лекцыі, на якіх ён любіў чытаць вершы на беларускай і рускай мовах. Чытаў А. Пушкіна, М. Лермантава, Я. Купалу, М. Танка, А. Куляшова, Р. Гамзатава, Я. Яўтушэнку і шмат іншых выдатнейшых паэтаў. Нам, студэнтам, вельмі падабаліся гэтыя, па яго словах, «паэтычныя размінкі». Але паколькі часу на вершы ішло шмат, асноўны вучэбны матэрыял не заўсёды выкладаўся ў поўным аб'ёме. І сёння я думаю: на якіх шалях узважыць, што аказалася важней — развіццё нашага эстэтычнага густу дзякуючы мастацкаму чытанню прафесара, далучэнне да шэдэўраў паэзіі ці сухія рацыянальныя звесткі з гісторыі беларускай старажытнай літаратуры? Больш таго, як бы пачуваў сябе сёння паважаны Міхась Рыгоравіч, калі б яго пачалі правяраць, як правяраюць нас, на прадмет супадзення яго плана на паперках і рэальнай працы ў аўдыторыі.

Праверкі, безумоўна, неабходныя, дакументацыя павінна весціся акуратна, у любой сферы дзейнасці ёсць план і вынікі выканання плана. Асабліва важная

абсалютная дакладнасць там, дзе гаворка ідзе пра фінансы і пра жыццё чалавека — у медыцыне, ваеннай справе. А вось што тычыцца творчасці, ды яшчэ вербальнай, то я вельмі сумняваюся, што пачну працаваць лепш пад пільным вокам чыноўніка. Хутчэй наадварот. Я б не стала пра гэта гаварыць, бо сапраўды лічу праверкі карыснымі (хоць некаторыя бюракратычныя тэхналогіі выглядаюць ужо залішне дапатопнымі), калі б не адзін цікавы факт, пра які прачытала ў аўтарытэтнай «Литературной газете»: у Фінляндыі абсалютна няма праверак у сістэме адукацыі, пры гэтым у сусветных рэйтынгах самымі разумнымі аказаліся школьнікі з Фінляндыі. Яны ж найбольш і чытаюць… Нейкая, на маю думку, анархія пануе і ва універсітэтах іншых еўрапейскіх краін. Нашы факультэцкія калегі, што часова працуюць у Польшчы і Германіі, увогуле не запаўняюць ніякіх паперак. Гэта ўжо занадта! Але міжволі закрадаецца думка, што прафесарам давяраюць, таму што паважаюць!..

* * *

У сваіх першых «Парадоксах…» («Полымя», 2007, № 3) я пісала пра знаёмства знакамітага мастака Казіміра Малевіча з тэорыямі акультных ордэнаў. Можна не сумнявацца, што ў акультызме, эзатэрыцы цудоўна разбіраўся Міхаіл Булгакаў. Тое ж тычыцца Аляксея Талстога — аўтара навелы «Граф Каліостра». Мала хто ведае, што Каліостра, шырокавядомы як махляр і авантурыст, шчыра цікавіўся акультнымі таямніцамі і з'яўляўся аўтарам кнігі «Таямніца таямніц», дзе імкнуўся разгадаць загадку кахання, за што яго нельга не паважаць. Знаходзіліся ў палоне акультызму і Дзмітры Мережкоўскі, Зінаіда Гіпіус, Андрэй Белы, Аляксандр Блок, Вячаслаў Іванаў, Валеры Брусаў, Максіміліян Валошын і іншыя выдатныя прадстаўнікі Сярэбранага веку ў Расіі. Не сумняваюся, што і нашы Уладзімір Дубоўка, Вацлаў Ластоўскі і некаторыя іншыя творцы — таксама.

Прыцягальнасць эзатэрычнай традыцыі, акультызму, містыкі ў асяроддзі менавіта мастакоў, пісьменнікаў, творчых людзей абсалютна зразумелая. Кожны творца, нават самы цвярозы рэаліст, у душы — рамантык. Яго цягне да сябе ўсё таямнічае, казачнае, фантастычнае, незвычайнае, ён пакутуе ад шэрасці, рацыяналізму, духоўнай беднасці будзённага існавання. Акрамя таго, шмат хто з мысляроў сумняваецца ў тым, што сучасная пазітывісцкая навука да канца і правільна апісвае свет. Для мастакоў характэрная менавіта інтуіцыя, якая і дапамагае ім бачыць беднасць і, як ні парадаксальна гэта гучыць, міфічнасць афіцыёзнай навукі.

* * *

З іншага боку, акультызм у псеўдарамантычнай абалонцы, асабліва ў наш час, з'яўляецца важнай і надзвычай паспяховай часткай усеагульнай «прамыўкі мазгоў», выкарыстоўваецца разам з іншымі формамі сугестыўнага ўздзеяння на псіхіку чалавека. Нагадаю пра Казіміра Малевіча, які запазычаў у сваёй творчасці ідэі містыка XVI—XVII стагоддзяў Роберта Флуда (1574—1637). Настаўнік гэтага Флуда Джон Дзі — выключна living рознабаковы, таленавіты і мудры чалавек — быў не толькі дарадцам і астролагам англійскай каралевы Елізаветы I, але і галоўным шпіёнам краіны, алхімікам і вешчуном. Яго кадавае імя як рэзідэнта брытанскай разведкі — лічба 007. Думаю, што англійскі пісьменнік XX стагоддзя Ян Флемінг, што пісаў раманы пра Джэймса Бонда, агента 007, зусім невыпадкова надаў свайму герою той жа нумар. Кнігі і кінастужкі пра Джэймса Бонда — прыклад менавіта псеўдарамантыкі, паэтызацыі ніцшэанскага звышчалавека, амаралізму, гвалту, жорсткасці, садызму. Бонд — узор дэманстратыў-

най антынарматыўнасці — псіхалагічнай, маральнай, нават фізічнай, улічваючы яго фенаменальныя «подзвігі». Творы пра Бонда, што з'явіліся ў СССР у канцы 1980-х гадоў, добра падрыхтавалі «вялікую крымінальную рэвалюцыю» на постсавецкай прасторы, бо здымалі любыя абмежаванні і менавіта рамантызавалі забойства і ўсёдазволенасць.

* * *

Згаданы вышэй розанкрэйцар Роберт Флуд напісаў кнігу «Зямны Манахорд», якая з'яўляецца асновай «новай музыкі» — тэорыі, што ўзнікла зноўтакі ў XX стагоддзі. Флуд лічыў, што святло, якое зыходзіць ад Сонца, адлюстроўваецца (часткова прама, часткова з фазавым зрухам) ад цэнтра Зямлі, дзе знаходзіцца «сталец Люцыфера». Ідучы з Неба на Зямлю, святло набывае — па колькасці нябесных сфер — сямілічбавую структуру, а вяртаючыся — дванаццацілічбавую (першыя 7 плюс 5, што ўзніклі ад зрушэння). Адсюль розная сістэма нот: белая (танальная) складаецца з сямі, чорная (атанальная) — з пяці. Гэта, дарэчы, адбілася і на канструкцыі фартэпіяна: сем белых і пяць чорных клавішаў актавы.

Тэорыю розанкрэйцараў развіў Тэадор Візенгрунд, які ў 1934 годзе збег ад нацыстаў з Германіі ў Англію і працаваў тут пад псеўданімам Тэа Адорна. Менавіта ён, пра што мала хто ведае, у 1960-я гады пісаў музыку для «Бітлз», а чацвёрка яе толькі аранжыравала. Пасля яго смерці група ўласнымі намаганнямі нічога каштоўнага не стварыла і самаліквідавалася праз год...

За кожнай з'явай масавай культуры, як, дарэчы, і палітыкі, хаваецца, як бачым, некаторая інтрыгуючая таямніца.

Прафесара Адорна лічаць стваральнікам музычнага наркотыку, але ён усяго толькі, як і Флуд, працягваў сусветную традыцыю. Розэнкрэйцары выкарысталі набыткі з храмавай практыкі Блізкага Усходу і язычніцкай Грэцыі — з культаў Ваала і Дыяніса. Урэшце, складаны барабанны рытм — біт — здаўна выкарыстоўвалі <u>ўсе</u> жрацы і шаманы ў свеце. Ён уплывае на тыя цэнтры мозгу, якія адказваюць за канцэнтрацыю ўвагі, падаўляючы іх. Эфект біта можна параўнаць з дзеяннем лёгкіх наркотыкаў. У XX стагоддзі пачалі выкарыстоўваць яшчэ і бас — інструменты і электронныя сінтэзатары, што даюць нізкія і звышнізкія вібрацыі, якія ўплываюць на ліквор спіннога мозгу, правакуючы агрэсіўнасць і схільнасць да суіцыду...

* * *

Мая старэйшая дачка выдатна разбіраецца ў творах класічнага жывапісу. Аднойчы выказала цікавую думку адносна імпрэсіяністаў. Іх манеру звязвалі з дрэнным зрокам вядомых мастакоў Мане і Дэга. А вось яна лічыць, што такога кшталту тэхніка абумоўлена яшчэ і слабымі рукамі — асноўным рабочым інструментам мастака, а рукі трэсліся, хутчэй за ўсё ад прыхільнасці да алкаголю, у прыватнасці, да вельмі шкоднага абсенту.

* * *

Смешна і непрыемна глядзець на герояў з кудлатымі галовамі і неахайнымі барадамі ў гістарычных кінастужках. На самай справе з міфалагічна-фальклорных крыніц вядома, што нашы продкі надзвычай клапаціліся пра свае бароды і валасы, надавалі ім літаральна сакральны сэнс. Ды і археалогія пацвярджае: шмат знаходзяць менавіта грабеньчыкаў; найлепш захаваліся вытачаныя з рога.

Кожны чалавек насіў грабеньчык на поясе. Дык адкуль у фільмах гэтыя знешне непрывабныя людзі, падобныя да нейкіх лесавікоў? Аднойчы склаўся стэрэатып і вось тыражыруецца. Аднак нашы продкі — зусім не бамжы, як бы ні ўяўлялі іх такімі некаторыя рэжысёры, а людзі, якія клапаціліся пра гігіену.

* * *

Недзе гады два таму прашумела кніга, а затым і фільм «Код да Вінчы». Пра тое, што іх раскручвалі на сусветным узроўні, нават непрыстойна і гаварыць: гэта адна з самых магутных піяр-акцый у культуры за апошні час! Даводжу студэнтам, што кніга і фільм кашчунныя. Не разумеюць чаму. Што дрэннага ў тым, што ў Хрыста была жонка — Магдаліна? Тлумачу, што названы твор знішчае, падрывае самую сутнасць хрысціянства — Уваскрэсенне — галоўную таямніцу нашай рэлігіі. Яе цяжка растлумачыць у навуковых тэрмінах; лепш сказаць, для разумення яе патрабуецца значная падрыхтоўка, якую, на жаль, ні школа, ні нават універсітэт не даюць.

У рэлігіі ёсць шмат таго, што даказаць немагчыма, але нічога бессэнсоўнага ў ёй няма. З іншага боку, і не хочацца даказваць містычныя рэчы ў паняццях абмежаванай сучаснай навукі: беражліва захаваная таямніца даражэй за сумніўныя веды…

* * *

Характэрна, што раскручванне кнігі «Код да Вінчы» супала са з'яўленнем расійскага серыялу «Майстар і Маргарыта» (шмат якія піяр-акцыі — на дзіва — праходзяць сінхронна). Стварэнне фільма паводле класічнага твора — рэч, безумоўна, станоўчая, якую можна толькі вітаць. Але… Калі я выказала думку, што не варта раман М. Булгакава вывучаць у школе, то ў адказ ад студэнтаў атрымала літаральна буру абурэння. Прыйшлося цэлую лекцыю прысвяціць расповеду пра акультныя, гнастычныя вытокі знакамітага і, бясспрэчна, выключна таленавітага рамана. Усё роўна, сказалі мне ў канцы, раман больш карысны, чым шкодны, бо хоць бы так знаёміць школьнікаў з асновамі Бібліі. А і праўда! Вось парадокс з парадоксаў! Духоўная прага ў дзяцей агромністая, а дзе і як мы яе задавальняем?

* * *

Выключна ўдалая назва ў кнігі Дэна Браўна «Код да Вінчы», бо, акрамя моднага слоўца з семіётыкі, у ёй заключана згадка пра таямніцу, якая рыхтуе глебу для чарговага антыхрысціянскага піяру — кнігі (спецыяльна не называю імя аўтара, каб не рабіць рэкламу), дзе Леанарда да Вінчы аб'яўляецца стваральнікам Турынскай плашчаніцы — адной з галоўных святыняў хрысціянства. Падлог у кнізе настолькі нахабны, што літаральна павяргае ў ступар. Доказы наіўныя, якраз абсалютна ненавуковыя пад выглядам акадэмічнай навукі, прытым ігнаруецца нядаўняе ашаламляльнае адкрыццё рускага вучонага Дз. Кузняцова, які даказаў, што ад агню (плашчаніца перанесла пажар) змянілася хуткасць распаду ізатопаў, і тканіна як бы «памаладзела», таму з дапамогай прынятага ў навуцы радыявугляроднага аналізу нельга вызначыць яе сапраўдны ўзрост. Іншыя ж паказчыкі сведчаць, што ёй каля 2000 год. Аднак што да гэтага сусветнаму мешчаніну! Ён ужо настолькі наркатызаваны тэлебачаннем, што верыць любому глупству, якое падносяць пад выглядам навукі. А галоўнае, хоча верыць, бо, папершае, у нас навука прыняла форму рэлігіі, па-другое, абывацель з падазрона-

сцю ставіцца да цуду; ён верыць у чалавечы абмежаваны розум, забыўшыся на мудрасць, што ідзе ад Хрыста.

Богаадступніцкія працэсы паглыбляюцца, і гэта, бадай, самая характэрная асаблівасць нашага часу.

* * *

Сусветнае раскручванне дзіцячых кніг пра Гары Потэра мае, на маю думку, некалькі мэт. Па-першае, піяр усёй казачнай серыі ўпісваецца ў глабальны праект па дыскрымінацыі хрысціянства, прыніжае яго ў вачах маладога пакалення, натуральны інтарэс якога да таямніц жыцця скіроўваецца на магію. Па-другое, мазгі падлеткаў рыхтуюць да ўспрыняцця ў якасці нормы тых навуковых адкрыццяў, над якімі ўжо працуюць у шматлікіх лабараторыях свету, — яны сапраўды фантастычныя, але не заўсёды вытрымаюць тэст на маральнасць. Праўда, ёсць думка, што казачны цыкл Джаан Роўлінг дастаткова займальны, і хоць бы ён прывучае дзяцей да чытання.

* * *

Неаднаразова прыходзілася чуць ад папулярных вядучых ці супрацоўнікаў расійскага тэлебачання, што сваім дзецям яны тэлевізар глядзець забараняюць. Сумняваюся, што гэта так. Гульня на публіку: паколькі сапраўдныя інтэлігенты тэлебачаннем пагарджаюць, пошлыя і дэбільныя абывацелі, якіх, на жаль, пераважная большасць у расійскіх СМІ, падрабляюцца пад эліту. А калі ўсё так і ёсць, то якім жа фенаменальным цынікам і нахабнікам трэба быць, каб берагчы сваіх дзяцей і духоўна атручваць чужых!

* * *

У беларускіх «Навінах» у рэпартажы са Шклова, дзе праходзіў у 2007 годзе Дзень пісьменнасці, паказалі інтэрв'ю з Анжалікай Агурбаш. Жанчына прыгожая, добра глядзіцца, умее гаварыць. Але больш лагічна было б убачыць і пачуць выступленне пра кнігі, пра значэнне слова ў жыцці чалавека ўсё ж пісьменніка, кнігавыдаўца, навукоўца, рэдактара. Праўда, у іншых перадачах яны прысутнічалі, але ж аўдыторыя «Навінаў» намнога большая, і нейкая іерархічнасць у дадзеным выпадку, бясспрэчна, была парушана. Гэта, дарэчы, характэрна для ТБ — арыентацыя пераважна на эстраду. Але, можа быць, варта ўжо паступова змяняць масмедыйную парадыгму і пачаць выхоўваць народ яшчэ і на ўзорах класічнага мастацтва?

* * *

Яшчэ наконт прафесіяналізму. Праграмы тэлебачання тыпу «Танцы з зоркамі», «Танцы на лёдзе» і падобныя, з аднаго боку, маюць на мэце паказаць, што любую прафесійную справу можа выканаць і дылетант (якому вельмі карціць вылезці на экран), а з іншага боку, такім чынам размываецца само разуменне прафесіяналізму і каштоўнасць любога прафесіянала.

* * *

З дзённікаў Івана Шамякіна, якія захоўваюцца не ў мяне, бо я з бацькамі не жыла, а ў малодшай сястры Алесі, даведалася, што ён год прымаў лекі, якія дазвалялася піць усяго толькі на працягу месяца. Акрамя таго — таксама пост-

фактум — я прачытала, што снатворнае дрэнна выводзіць мачавую кіслату, ад чаго ўзнікае падагра. Між тым Шамякін пастаянна пакутаваў на бяссонніцу і прымаў снатворнае, а апошнія гады жыцця асабліва пачаў скардзіцца на нагі. Хадзіў, і праўда, цяжка. Яго хаатычны прыём разнастайных лекаў заўсёды выклікаў наш, яго родзічаў, непакой. Але ён адмахваўся і гаварыў, што не нам лезці ў чужую парафію — медыцыну, а ён сам з-за дрэнных вачэй не можа разабраць, што пішуць у інструкцыях.

Таямнічая перадсмяротная хвароба бацькі (канчатковы дыягназ так і невядомы), магчыма, была звязана са шматгадовым бескантрольным прыёмам ім вялікай колькасці лекаў…

* * *

Рэклама на вуліцы: «Тым, хто любіць сябе»… Часта чую ад знаёмых і сяброў: «Любі сябе!», «Ты не любіш сябе!», «Мы ўсе павінны больш любіць сябе!» Адказваю я наступным чынам: «Мы і без напаміну любім сябе — гэта абсалютна натуральнае пачуццё, закладзенае ў нашай прыродзе, — думаць перш за ўсё пра сябе, усё вымяраць адпаведна са сваімі інтарэсамі, клапаціцца пра сябе. Наадварот, мы павінны больш любіць іншых, непакоіцца пра іх, вучыцца гэтай любові. Што ж тычыцца сябе, то гаворка, відаць, павінна ісці пра больш правільны і разумны лад жыцця, пра самавыхаванне. У гэтым і будзе выяўляцца любоў да сябе і адначасова прыклад для іншых». Дарэчы, любоў — аснова і хрысціянскага вучэння. А лозунг «любі сябе!» — тыпова буржуазны. Індывідуалізм і без таго пашырыўся да такой ступені, як ніколі не было яшчэ ў гісторыі!

* * *

Махляры заўсёды абаяльныя — інакш не маглі б ашукваць людзей! Гэта закон жыцця. Прытым нават выключна разумныя людзі, інтэлектуалы, трапляюць у палон абаяльнага ашуканца і вераць у яго высакароднасць. Відаць, гіпнатызуе талент, хоць і крымінальны…

* * *

Абывацель вельмі часта падсвядома (падкрэсліваю — падсвядома) імкнецца прынізіць чалавека, нават не вышэйшага ў пэўных адносінах, а, па адчуванні абывацеля, іншага. Прычым свядома заўсёды абапіраецца і спасылаецца на законы, на парадак, на розныя такога кшталту, як быццам, зусім правільныя рэчы.

* * *

У мінулых «Парадоксах…» («Полымя», 2007, № 9) я пісала пра дзіўную прыхільнасць беларусаў-гараджан да зацемненых памяшканняў. Ужо здала матэрыял у рэдакцыю, і мне цюкнула; нават здзівілася, як не дапяла раней — гэта ж элементарна! У нас вочы стаміліся ад моцных раздражняльнікаў — тэлевізараў і камп'ютэраў.

* * *

Нашы новаспечаныя бюргеры ўпэўнены, што замежныя назвы іх фірмаў нададуць ім больш рэспектабельнасці. У тым жа перакананы гарадскія чыноўнікі. Між тым, у Кіеве я практычна не бачыла шыльдаў на замежных мовах — ні на

англійскай, ні на нямецкай, на ні рускай — толькі на ўкраінскай. А наш Мінск літаральна зіхаціць — прычым назвы часта ўвогуле ні на якой мове: прыдумлялі самі, абы гучала «па-замежнаму», абы не на сваёй роднай, на іх думку, мужыцкай. Але кожны народ паважаюць роўна ў той ступені, у якой ён сам паважае сябе! Бяздумнае пакланенне замежнаму — форма духоўнага рабства. Дарэчы, і прычына ўсіх нашых нацыянальных няшчасцяў.

* * *

Дзіўнае, супярэчлівае, менавіта парадаксальнае, адчуванне ад жыцця ва ўласнай дзяржаве. Шмат што радуе і захапляе. Але часам адчуваеш сябе, быццам у акупіраванай ворагам краіне, быццам ты не яе грамадзянін, а сапраўды, як гавораць на расійскім тэлебачанні, піпл, антрапамаса. Прыкра, што адчуванне гэтае ўзнікае там, дзе прыходзіцца менавіта жыць, — на лецішчы, што асталося ад бацькоў. Калісьці ў дачным пасёлку пасяліліся мастакі, пісьменнікі, навукоўцы, выкладчыкі. Дамы ва ўсіх былі сціплыя, а жылі мы вельмі дружна, весела, радасна. Дапамагалі адно аднаму, штодзень хадзілі ў госці, разам — на Мінскае мора, у лес па грыбы і ягады, амаль кожны вечар летам у каго-небудзь палілі вогнішчы, смажылі сала, бульбу, адзначалі дні нараджэнняў. За апошнія пятнаццаць гадоў шмат хто са старых гаспадароў, на жаль, адышоў у нябыт, нашчадкі папрадавалі свае ўчасткі нашым супербагатым суайчыннікам. Месца надзвычай прывабнае — блізка ад Мінска, усе камунікацыі падведзены, і ў той жа час ізалявана ад шырокай публікі, што прыязджае адпачываць на Заслаўскае вадасховішча. І вось асталося нас — былых жыхароў, абарыгенаў, тыпу амерыканскіх індзейцаў — усяго некалькі сямей. А вакол на старых участках, даволі вялікіх, замест хацінак павырасталі сапраўдныя палацы на 3—4 паверхі, з лазнямі, басейнамі, біліярднымі, дамамі для ахоўнікаў. Натуральна, уладальнікі пампезных будынкаў усталявалі свае парадкі. Скажам, каля нашага дома дзеці заўсёды гулялі ў футбол ці бадмінтон. Шамякіну, бясспрэчна, перашкаджалі пісаць, але ён ні разу нават не папрасіў дзяцей не шумець, не тое што прагнаць: дзеці для яго — святое. А вось адзін з нашых суседзяў, пенсіянер, ганяе дзяцей, прычым груба, абавязкова з бруднай лаянкай. Жыццё шмат у чым атручваюць і сабакі. Ва ўсіх — байцоўскія, якіх свабодна выпускаюць, — тут не горад, міліцыі няма. Маю старэйшую сястру пакусалі ў лесе, іншых, у тым ліку дзяцей, неаднаразова кусалі на вуліцы. Так і жывём, як у асадзе, баімся нос высунуць са двара, адчуваючы сябе ў варожым акружэнні. Людзям з іншых сацыяльных колаў і, галоўнае, з іншым менталітэтам, аказваецца, вельмі цяжка жыць побач з цяперашнімі «гаспадарамі жыцця». Дарэчы, і ім з намі цяжка, і мы іх, нягледзячы на нашу выключную сціпласць, раздражняем. Раздражняем самім фактам нашага існавання…

* * *

У 70-я гады мінулага стагоддзя вядомы рускі пісьменнік Васіль Бялоў рэзка выказаўся супраць моднай тады аэробікі: маўляў, яна разбэшчвае жанчын, прывучае іх да непрыстойных рухаў. Я заўсёды чытала шмат прэсы і памятаю вакханалію адносна пасажу Бялова. Як толькі з яго не кпілі, як толькі не абражалі: рэакцыянер — самае нявіннае! Я пашкадавала Бялова, тым больш, што і я да ўсяго моднага заўсёды, з маладых год, ставілася з некаторай падазронасцю (выяўляліся гены продкаў-старавераў). Мне было шкада Бялова яшчэ і таму, што я яго ведала не толькі па творах. Аднойчы, калі мы адпачывалі ў Кактэбелі ў Доме творчасці пісьменнікаў, там быў і Бялоў з жонкай. Парадокс заключаецца ў тым, што ён — адзін з самых таленавітых людзей

Расіі — трымаўся выключна сціпла і пачуваўся яўна ніякавата сярод шумных, нахабных, раскаваных масквічоў, кожны з якіх падаваў сябе не менш як нобелеўскім лаўрэатам. Яны ім пагарджалі, рабілі выгляд, што не заўважаюць, і я перажывала, бачачы, які ён адзінокі, які чужы сярод гэтай фанабэрлівай публікі. А яны трымаліся ўсе разам, шумнымі кампаніямі, заўсёды стоячы на самым вядомым «пятачку» ў Кактэбелі — перад пісьменніцкай сталоўкай, гучна нешта абмяркоўвалі, злосна пляткарылі, распавядалі анекдоты, рагаталі, а на такіх рахманых правінцыялаў, як Бялоў, паглядалі, быццам з гары Карадаг. А творы Бялова ўжо тады вывучаліся ў школах. Бачыла я сярод маскоўскай тусоўкі і некаторых вядомых беларускіх пісьменнікаў. Ясна, што ім не было справы да нейкага там валагодца Бялова, няхай і таленавітага, іх месца аказвалася нязменна побач з уплывовымі — рэдактарамі часопісаў, сцэнарыстамі, моднымі крытыкамі. Менавіта на курортах заводзіліся асабліва прыяцельскія адносіны. Дарэчы, мае бацькі курорты страшна не любілі, хоць ім і прыходзілася лячыцца ў некаторых санаторыях, а ў Кактэбель замест іх ездзіла некалькі разоў я з мужам. Але і мне за тры-чатыры разы абрыдлі курорты, і з 1979 года я ніколі больш на іх не была.

Разважаючы сёння над выступленнем Бялова, я думаю, што, з аднаго боку, мода — з'ява несмяротная, усеагульная, асабліва ў час масмедыйнага панавання і глабалізацыі, і прайсці праз захапленні рознымі аэробікамі, шэйпінгамі і ўсім падобным, сапраўды не заўсёды прыстойным, мы асуджаны. З іншага боку, гэта не азначае, што з'явам моды, з'явам увогуле цывілізацыі нельга даваць маральную ацэнку. І па вялікім рахунку, Бялоў, бясспрэчна, меў рацыю: рухі, жэсты, манера трымацца, да якіх нас тады прывучалі, абсалютна не стасуюцца з вобразам рускай, беларускай, славянскай жанчыны, якая заўсёды вызначалася сарамлівасцю, сціпласцю, цнатлівасцю. Наступленне ўжо тады ішло шырокім фронтам — разам з практыкай жаночага курэння (у асноўным вучылі праз кіно), агаленнем цела, разняволенасцю паводзін. Прывучылі да ўсяго гэтага і шмат чаго іншага ўжо настолькі, што гаварыць пра тое ж сёння — значыць, быць незразуметай, проста элементарна шакіраваць дзевяноста пяць працэнтаў чытацкай аўдыторыі. Пра што яна, Шамякіна? Якія такія спецыфічныя славянскія рухі і жэсты?! У наш час! Нельга ўсё ж быць такой кансерватаркай!

* * *

У сувязі з папярэдняй мініяцюрай выкажуся адносна балючага пытання — дэмаграфічнай сітуацыі. Як заахвоціць жанчыну раджаць? Эканамісты выдаткоўваюць нейкія сродкі, сацыёлагі, палітыкі сур'ёзна разважаюць над праблемай, будуюць тэорыі. Проста смешна чытаць! Позна! Трэба было Васіля Бялова слухаць! Жанчына ўжо настолькі змянілася, што проста не жадае вяртацца да свайго асноўнага жыццёвага прызначэння.

Мы расплаціліся за розныя аэробікі на працягу аднаго пакалення. Вяртаючыся да самага балючага для мяне пытання — адукацыі, я — паводле асацыяцыі — думаю, што тыя чыноўнікі (у сусветным маштабе), якія знішчаюць літаратуру ў школах і ВНУ, паспеюць адчуць на сабе ўсе наступствы гэтай страшнай з'явы — бездухоўнасці, паспытаюць сілу яе адваротнага ўдару ў поўнай меры! (На жаль, і мы — разам з імі.)

Смешна слухаць таксама пра «капітал маці» ў Расіі. Як можна верыць расійскім антынародным уладам: была ж гайдараўшчына, што адабрала ў людзей усе сродкі, была чубайсаўская рабаўнічая прыватызацыя, злачынны дэфолт, розныя МММ, а публіка ўсё яшчэ працягвае верыць расійскаму істэблішменту! Ельцын кляўся «легчы на рэйкі», а яго спадкаемца Пуцін, абяцаючы залаты дождж для ўсіх маці ў 2010 годзе, цудоўна ведае, што тады на месцы Расіі будзе ўжо зусім

іншая дзяржава, а можа, і не адна, і тагачасныя ўлады ніякай адказнасці перад сваім электаратам несці не будуць (як, дарэчы, і сёння не нясуць).

У той жа час я патаемна спадзяюся, што памыляюся і залішне крытычна ацэньваю расійскіх «барацьбітоў за народнае шчасце».

* * *

Я ўжо пісала, што ў 1970-я гады мы, выкладчыкі, пастаянна сутыкаліся з праблемай, хоць і прыемнай, але праблемай, калі на 5-м, выпускным, курсе амаль усе студэнткі былі або цяжарныя, або маладыя маці, і ім было, уласна кажучы, не да вучобы. Нічога і блізка падобнага, калі больш палавіны курса — цяжарныя, сёння, на жаль, няма. Вельмі рэдка сустракаюцца шчаслівыя выключэнні. Адна мая студэнтка, нарадзіўшы, пачала абагаўляць не толькі сваё дзіця, што натуральна, але і іншых дзяцей, кардынальна змяніўшы сваё да іх стаўленне. Асабліва яе засмучае, літаральна да слёз, палажэнне дзяцей-сірот; яны з мужам нават выразшылі ўзяць дзяўчынку з дзіцячага дома. Можа быць, гэты прыклад — сведчанне таго, што Прырода кампенсуе цяперашнюю рэдкасць дзетанараджэння такімі вось, сапраўды гуманістычнымі, адносінамі да дзяцей.

* * *

Калі я была яшчэ аспіранткай, гэта значыць, у 1970-я гады, мая знаёмая расказала мне выпадак, які адбыўся з ёю і яе дарослымі дочкамі — балерынамі. Аднойчы яны, тры жанчыны з вялікімі сумкамі, дабіраліся з лецішча да Мінска, галасуючы на шашы. На іх здзіўленне, спынілася шыкоўная «Чайка». Чалавек у чорных акулярах, што сядзеў побач з вадзіцелем, усю дарогу вёў з пасажыркамі ажыўленую размову, расказваў пра двух сваіх дачок, унучак. Прыехаўшы з ветрыкам у Мінск, жанчыны дапялі да таго, што прапанавалі гаспадару машыны грошы за праезд. Чалавек павярнуўся да іх усім корпусам, зняў акуляры і з абурэннем сказаў: «Вы хоць ведаеце, хто вас падвозіў?!» Гэта быў Машэраў...

Мне згаданы выпадак уяўляецца апафеозам абывацельскага існавання. Якім жа жывёльна-раслінным жыццём трэба жыць, каб не глядзець беларускія навіны па тэлебачанні, не чытаць газет, не ведаць уласнага кіраўніка дзяржавы (ён часта хадзіў у чорных акулярах, яго так і здымалі)! А ім гэта было непатрэбна! Жылі матэрыяльна добра, а ўсё астатняе іх не датычылася.

І яшчэ. Яны не маглі ўявіць, што высокі кіраўнік можа шчыра, проста, душэўна гаварыць з незнаёмымі людзьмі.

Дарэчы, і сёння ведаю шмат суайчыннікаў, якія не глядзяць беларускія навіны, а толькі расійскія — без гэтага наркотыку не ўяўляюць жыцця, а тое, што адбываецца ў роднай краіне, іх абсалютна не цікавіць.

* * *

У выкладанні беларускай літаратуры я звычайна не акцэнтую ўвагу на жахах прыгону, паланізацыі, русіфікацыі і падобным, што так любяць падкрэсліваць некаторыя публіцысты і выкладчыкі. Так, беларускі народ — адзін з самых няшчасных у гісторыі. Але гісторыя мяне цікавіць ва ўсёй яе працягласці: ад з'яўлення на нашай тэрыторыі барэалаў пасля сыходжання ледавіка і да XXI стагоддзя. А ў такіх маштабах было, вядома, усё. Я не веру ў індыйскую карму, у мінулыя жыцці, але веру ў нейкую Вышэйшую Справядлівасць — у дачыненні не толькі да асобнага чалавека, але і краіны, народа, чалавецтва. Глыбока ўпэўненая, што Беларусь, будучы некаторым сакральным цэнтрам ва Усходняй Еўропе, пра-

цяглы час існавала як эдэм, як тэрыторыя шчасця. Тут, у нашых лясах і балотах, знаходзілі паратунак плямёны, якія беглі ад захопнікаў, што прыходзілі з Усходу, спароджаныя нейкім магутным «этнічным генератарам» у Цэнтральнай Азіі. Праўда, у нейкі момант і для нашых продкаў прыйшла расплата… Закон раўнавагі… З іншага боку, пасылаючы выпрабаванні Беларусі на працягу яе гісторыі, Бог, магчыма, рыхтуе нас да яшчэ большых няшчасцяў, якіх не вытрымаюць спешчаныя заходнія еўрапейцы і амерыканцы, разбэшчаныя спажывецкай цывілізацыяй, прычым за кошт іншых. А вытрымаем мы, загартаваныя сваёй прыродай і гісторыяй. Не ведаючы задумы Бога ці Праграмы Прыроды, закладзенай, бясспрэчна, у чалавечыя гены (усё ж без генаў не магу абысціся!), мы не павінны наракаць ні на суседзяў, ні на лёс, ні на ўласны нацыянальны характар…

* * *

Глабалізацыя — гэта жупел, якім палохаюць нас і чыноўнікі, і СМІ! Шмат якія дзяржавы, народы дастаткова паспяхова супрацьўляюцца глабалізацыі, адначасова выкарыстоўваючы яе на сваю карысць. Скажам, КНР. І такое супрацьўленне будзе нарастаць, бо прыклад супердзяржавы — Кітая — натхняе. Энергія супрацьўлення абавязкова ўключае ў сябе не толькі эканоміку, палітыку, дыпламатычныя сродкі, але і нацыянальны ўклад, літаратуру, этнічную традыцыю ў шырокім сэнсе слова.

* * *

Для бюракратаў у існаванні нашай літаратуры не існуе парадокса жыцця. Для іх адназначна літаратура — справа настолькі не патрэбная, ва ўсялякім разе, сярод дысцыплін школьнай адукацыі апошняя, што яшчэ трошкі, і яе амаль зусім выключаць са школьнай праграмы, звядуць да таго, чым даўно ўжо, да ўсіх нас страшэннай ганьбы, сталі ўрокі спеваў і малявання. Між тым і тое, і другое, і трэцяе — найважнейшыя заняткі для выхавання духоўнага чалавека. Але ж ніякі духоўны чалавек функцыянеру абсалютна не патрэбны, ён не ведае — што гэта, а галоўнае, навошта.

Даходзіць да таго, што сама я, усё ведаючы і разумеючы, пачынаю шукаць для роднай літаратуры нейкую функцыянальную нішу, практычнае яе прымяненне.

Апошнія дзесяцігоддзі нашага жыцця былі гадамі балбатні. Ніколі слова не мела такога фенаменальнага значэння ў змяненні нормаў жыцця, маралі, літаральна ў пераварочванні быцця дагары нагамі. Але ніколі слова да такой ступені і не абясцэньвалася. Пасля старых генсекаў, што ледзь варочалі языком, з'явіўся гаваркі і саладжавы Гарбачоў. І — пайшло! Заварожаныя натоўпы лавілі кожнае слова. Колькі поўных нікчэмнасцей пралезла ў палітыку ці ў тэлежурналістыку дзякуючы свайму ўменню проста малоць языком!

Перад так званай «перабудовай» народ стаміўся ад пустой камуністычнай рыторыкі, смяяўся са сваіх правадыроў. І гэта было заканамерна. Калі ж прыйшлі новыя людзі, з абноўленым слоўнікам, з зусім іншай лексікай і фразеалогіяй, ім, гэтым людзям, адразу паверылі — настолькі была моцная прага іншай мовы. Паверылі да такой ступені, што разбурылі ўласную краіну — насуперак здароваму сэнсу. Але час умельцаў прыгожа гаварыць, а не працаваць, мінае! Людзі звыкліся, прызвычаіліся да «дэмакратычнай» прапаганды — яна на іх ужо не дзейнічае, не наркатызуе, як раней, у канцы 1980-х, 1990-я гады. Падыходзіць эпоха абнаўлення слоўніка. Прычым абнаўлення глабальнага. Сёння імкненне да абнаўлення мовы яшчэ мацнейшае, чым было ў 1980-я гады.

Але нехта пасміхнецца з маёй наіўнасці і адкажа: «Правільна, абнаўленне будзе, але за кошт англійскай мовы, бо моладзь ужо даўно ведае яе лепш, чым беларускую; у крайнім выпадку, за кошт рускай мовы — яе рэсурсы невычарпальныя». Я сама — у пастаянных сумненнях-ваганнях, а ўсё ж веру, што абнаўленне вылучыць на першы план менавіта беларускую мову, закрануўшы ў ёй слоўнік і тропіку. Нацыянальны архетып урэшце спрацуе, не можа не спрацаваць! Чаму? Таму што многія словы рускай мовы, на якой гаворыць шмат хто з гараджан, набылі супрацьлеглы зыходнаму сэнс, руская мова страшна засмецілася. З беларускай такога не адбылося. Што можа быць больш кашмарным за рускі выраз «заниматься любовью», калі гаворка на самай справе ідзе пра самы вульгарны секс. У беларускай мове слова «каханне» захавала сваё першапачатковае высокае значэнне. І так у вельмі многім. Цяперашнія рускія словы згубілі ісціну, без якой немагчыма жыць. А людзі прагнуць ісціны. Маладыя беларусы насуперак таму, чаму іх вучыць расійскае тэлебачанне, захавалі чысціню, дабрыню і мараць пра сапраўднае каханне. Таму і звернуцца ўрэшце да слоў, якія сцвярджаюць норму і гармонію ў чалавечых стасунках. І тады будуць запатрабаваны ўсе нашай мовы — найперш лексічныя, вобразныя — рэсурсы. Вось так я шукаю нішу для роднай мовы і літаратуры.

Для прагматыкаў іншы доказ. Ужо сёння рэкламныя агентствы адчуваюць моцную патрэбу ў новых ідэях і вобразах, далей праблема яшчэ абвострыцца: тавараў і паслуг усё больш, а прадаць іх усё цяжэй. Успомняць пра філолагаў — хто яшчэ, як не яны, могуць падказаць арыгінальныя рашэнні.

Сёння ж усе контраргументы чыноўнікаў на нашы аргументы выглядаюць, безумоўна, абсалютна правільнымі, доказнымі і лагічнымі (краіна бедная, Газпрам ціснe, грошай няма), таму з пункту гледжання сучаснай эканомікі, дэмаграфічнай сітуацыі і ўсяго падобнага ўвесь наш, літаратараў, пафас — не да месца. Але і не выказвацца мы не маем права!

* * *

Усё больш складаная тэхніка патрабуе даваць у школах усё большы аб'ём ведаў. З-за гэтага неабходна павялічыць колькасць урокаў, але намнога іх павялічыць нельга: 6—7 у дзень, не больш. Выхад знайшлі: колькасць гадзін на дакладныя дысцыпліны ўзрасла за кошт памяншэння выкладання гуманітарных курсаў, у прыватнасці мовы і літаратуры. Што пры гэтым можна чакаць, чыноўнікі, бясспрэчна, ведаюць. Але калі культура кожнай асобы падае, то абавязкова дэградуе агульная культура ўсёй грамады. Гэта — адыход назад нават пры наяўнасці магутнай тэхнікі. Чалавечае мысленне робіцца ўсё больш прымітыўным. Намаганнямі бюракратаў мы ідзём уверх па лесвіцы, якая вядзе ўніз. Вобраз не новы, але дакладны. Тут не дапаможа ніякі Інтэрнет, на які звычайна спасылаюцца, таму што чалавек са спрошчаным мысленнем сур'ёзнай інфармацыяй не цікавіцца, а шукае ў сусветнай сетцы ваенныя гульні, парнаграфію, анекдоты і падобнае. А ўрэшце, чалавеку ж з прымітыўным мысленнем нельга давяраць нешта тэхнічнае, бо тады нас чакаюць тэхнагенныя катастрофы (як быццам Чарнобыля мала!).

* * *

Каб зразумець, як вучыць чалавека, неабходна ведаць, з чаго ён, так бы мовіць, складаецца. Нагадаю зусім банальную рэч: чалавек мае цела і душу. Большую частку жыцця мы прысвячаем абслугоўванню цела, і ўся эканоміка краіны таксама на яго, цела, працуе. У наяўнасць душы вераць далёка не ўсе, і таму яе абслугоўваюць, як у дзяржаве культуру, — па астаткавым прынцыпе. Харч для

цела — ежа, харч для душы — асвета. Інфармацыя расце неверагоднымі тэмпамі, чалавек усё роўна ўсё запомніць не можа. Неабходна вучыць дзіця мысленню. Мысліць — значыць, успрымаць інфармацыю ў вобразах. Якраз усё вобразнае ўшчэнт выкідваецца са школы і ВНУ.

* * *

Гадоў сем таму адзін аўтарытэтны кіраўнік у галіне адукацыі, здзекуючыся са сваёй прафесуры, гаварыў нам, што любы студэнт, які добра валодае камп'ютэрам, на галаву вышэй за прафесара, бо штодзень успрымае большы аб'ём інфармацыі. Паважаны былы чыноўнік, сам доктар педагагічных навук, не разумеў розніцу паміж інфармацыяй і ведамі, не бачыў сутнасці Інтэрнету, ды і сэнсу асветы, якая, між іншым, адрозніваецца ад навучання. Задача асветы — упарадкоўваць мазаіку вопыту. У дачыненні да школы, дзе вучацца дзеці і падлеткі, у якіх жыццёвага вопыту яшчэ мала, згаданая задача як быццам не працуе. Аднак да свайго жыццёвага вопыту можна дадаць чужы вопыт — праз чытанне. Вось яшчэ і ў гэтым значэнне прыгожага пісьменства. Праўда, абывацелю не патрэбны чужы вопыт — ён не цікавіцца нікім, акрамя сябе, нашто яму чытаць пра іншых людзей, разумець нейкую там псіхалогію! Таму і літаратурай пагарджаюць тыя, каго не цікавіць жыццё іншых.

Між іншым, не самі чыноўнікі — бацькі школьнікаў ціснуць на іх, каб зрабілі палёгку дзецям — пазбавілі ад чытання. Я вельмі спачуваю гэтым бацькам у будучым! Не наракайце тады на эгаізм уласных дзяцей — вы самі гэтага захацелі!

* * *

Згаданы ў пачатку папярэдняй мініяцюры былы высокі кіраўнік, на рахунку якога ёсць і добрыя практычныя справы, знаходзіцца ў палоне аднаго з найбольш пошлых міфаў апошняга стагоддзя — пра прагрэсіўнасць моладзі. Быццам моладзь заўсёды скіравана на наватарства, насуперак кансерватызму бацькоў. Аднак для ўнёску ў жыццё нечага сапраўды новага неабходна добра вывучыць ужо існуючае, мець багаты інтэлектуальны вопыт. Моладзь вопыту не мае, таму яна якраз, як ні парадаксальна, — кансерватыўная, хоць знешне рэвалюцыйная і радыкальная. Змена знакаў у ацэнках, што характэрна для моладзі, абывацелем прымаецца за наватарства і арыгінальнасць.

* * *

Часам, пачынаючы з многімі калегамі ці студэнтамі размову пра высокія матэрыі, я тут жа, імгненна, бачу іх адчужанасць і нудоту, як бы ўвогуле адключэнне мозгу. Усё гэта ім страшна нецікава і нават варожа. Навошта, хіба яно дапамагае ў рэальным жыцці, якая практычная карысць у веданні хоць бы геаграфіі, гісторыі, культуры, у чытанні класікі? Не ўсе, безумоўна, так рэагуюць, але значная колькасць.

* * *

На Захадзе ўжо даўно склаліся два так званыя «калідоры» ў навучанні: адна, элітная, школа — для нямногіх, другая — для масы. У першай захоўваюць універсітэцкі прынцып, які прасочваецца з часоў Сярэднявечча, а насамрэч, яшчэ ад

Платона і Арыстоцеля, — цэласны погляд на свет, адлюстраваны ў дысцыплінах. Асваенне гэтага вобраза свету ідзе па ўзыходзячай, згодна логіцы развіцця самой культуры. Вучань як бы праходзіць этапы станаўлення чалавецтва. Прычым з навучаннем цесна звязана выхаванне — перадача каштоўнасцей. Да такога ідэалу імкнулася, дарэчы, і савецкая школа (як сярэдняя, так і вышэйшая). Я пачынала чытаць курс «Гісторыя і тэорыя сусветнай культуры» яшчэ ў 1980-я гады. З таго часу колькасць гадзін дысцыпліны, якая карыстаецца нязменнай любоўю студэнтаў і важнасць якой самі студэнты цудоўна ўсведамляюць, скарацілася ў тры разы і сёння ледзь цягне на невялікі спецкурсік! Паказальна…

Рэформы апошняга пятнаццацігоддзя пры ўсім іх станоўчым значэнні разбураюць шмат каштоўнага. Гуманітарныя дысцыпліны вынішчаюцца, навучанне будуецца не цэласна, а мазаічна, паводле кліпаў ці коміксаў, лекцыя — найбольш эфектыўная форма заняткаў у ВНУ — проста скасоўваецца, праверка ведаў пераводзіцца не ў творчыя работы, а ў тэсты: сядзі, студэнт, перад машынай, цісні кнопкі, кантактаваць з жывым чалавекам, часта цікавым, ты не маеш права. Між тым на 75 працэнтаў слухач успрымае інфармацыю з дапамогай невербальных сродкаў — жэстаў, мімікі, інтанацыі, рытму маўлення… Часам нават знешнасць выкладчыка аказвае выхаваўчае ўздзеянне, асабліва ў эпоху джынсавай псеўдакультуры…

* * *

Часта ў друку прыходзіцца сустракаць пасажы наконт славутага «жалезнага заслону». Чарговая хлусня! Яшчэ адзін глабальны спецміф, які абсалютна засмеціў мазгі публікі. Так, дзелавыя людзі не ездзілі далей краін народнай дэмакратыі і краін так званага трэцяга свету, але гэта ж палова планеты! Савецкія людзі будавалі, скажам, грандыёзную Асуанскую плаціну ў Егіпце. Калі Анвар Садат, прыйшоўшы да ўлады пасля нечаканай і падазронай смерці яшчэ маладога Гамаль Абдэль Насера, выганяў з краіны савецкіх рабочых і інжынераў, гаворка ішла, як успамінаецца, пра дзесяткі тысяч чалавек! А будавалі ж яшчэ магутныя камбінаты, чыгункі, парты ў Кітаі, Індыі, Вьетнаме, Бірме, Анголе, Сірыі, на Кубе, ды дзе толькі не будавалі. Безумоўна, не дзяржавы першага раду, але знаходжанне ў многіх з іх — краінах з высокай старажытнай культурай — развівала савецкага чалавека, адкрывала шырокія далягляды, стымулявала працэс мыслення.

Імпарт таксама быў. У маіх бацькоў і праз сорак гадоў захоўваліся цудоўныя рэчы з Кітая (скажам, з натуральнага шоўку), якасцю сваёй намнога пераўзыходзячыя сённяшнія анучы. Ёсць некалькі высокамастацкіх рэчаў з Індыі і Егіпта, купленых у Мінску. Паліцы ў крамах угіналіся ад вельмі смачнай кансерваванай садавіны і агародніны з Венгрыі і Балгарыі, ад цацак з ГДР, а ў 1970-я гады, калі запрацавала «труба», пайшлі «газавыя» грошы, а за іх і шматлікія тавары ўжо з заходняга свету. Не ўсё, безумоўна, што хацелася і не ў такіх аб'ёмах, як хацелася. Але неяк даставалі. «Дастаць» — моднае слоўца таго часу. Так, былі тады свае парадоксы. А калі і дзе іх няма?!

На курорты прафсаюзы проста прымушалі ехаць у тую ж Балгарыю. І не нас, як быццам «эліту», а простых рабочых на заводах. Мая сястра Ліна па турыстычнай пуцёўцы ў сярэдзіне 1960-х гадоў месяц правяла ў Францыі. Як жа, скажуць мне, дачка Шамякіна! Але ж яна была ў групе не адна, і групы фарміраваліся рэгулярна! Пісьменніцкія дэлегацыі вельмі часта выязджалі за мяжу. Ездзілі і проста турыстамі. Іван Мележ падарожнічаў вакол Еўропы, мае бацькі — па Дунаі. Некаторыя пісьменнікі, як, напрыклад, Янка Брыль, Алег Лойка, былі нават у Індыі, не кажучы ўжо пра іншыя краіны. Аб'ездзілі паўсвету. Мой бацька — страшэнны дамасед, але і ён пабыў у краінах дваццаці, і не раз. Ездзілі спартсмены на спаборніцтвы, ездзілі артысты на гастролі. Ансамблі пад кіраўніц-

твам Ігара Маісеева або «Бярозка» ўвогуле ў роднай краіне амаль не выступалі — толькі на замежных гастролях. Часам хто-ніхто з артыстаў і спартсменаў на Захадзе заставаўся…

СССР затоена і ваяваў — у Карэі, Егіпце, Вьетнаме, ужо адкрыта — у Афганістане. Усё было. Але хіба гэта «жалезны заслон»?! Прытым, што кніг пра іншыя краіны, скажам, журналістаў-міжнароднікаў ці навукоўцаў, прытым замежных, выходзіла намнога больш, чым цяпер. Я гэтыя кнігі збірала — маю матэрыяльныя сведчанні. А наша дзіцячая перапіска з аднагодкамі з самых розных дзяржаў, клубы інтэрнацыянальнай дружбы?! А Юры Сянкевіч, які здымаў «Клуб падарожнікаў» літаральна ва ўсіх краінах свету, — як яго адпускалі? Інакш кажучы, калі чалавек хацеў ведаць пра іншыя краіны, ён ведаў. Але абывацелю патрэбна было іншае. Пра гэта б і гаварылі — пра сваё.

Працаваць на Захадзе за як мага большыя грошы — вось запаветная мара. Ну далі вам сёння еўрапейцы ці канадцы магчымасць усталявацца ў сябе, — у заходнікаў, дарэчы, тут свой інтарэс. І няхай абывацель не думае, што гэта доўга працягнецца: ужо сёння на Захадзе поўна сваіх лішніх людзей.

Жахі сталінізму? Яшчэ адзін жупел для тых, хто не ведае сапраўднай гісторыі, яе фенаменальных парадоксаў, вар'яцкіх супярэчнасцей, бязмежнай складанасці, фантастычнай перакручанасці прычын і наступстваў, а слухае Э. Радзінскага і ад яго чэрпае ўсе звесткі пра XX стагоддзе. У сувязі з Радзінскім, пястунчыкам амерыканскага прэзідэнта, зноў пра пісьменнікаў. У 1920-я гады ездзілі многія. Уладзімір Маякоўскі яшчэ не лічыўся «самым таленавітым паэтам эпохі», але кожны год падарожнічаў то ў Францыю, то ў Амерыку, дзе нават завёў дачку. Для некаторых пісьменнікаў, як і партыйных кіраўнікоў, нормай лічылася ездзіць лячыцца на курорты Еўропы. Ага, скажуць мне, партыйныя кіраўнікі, а не простыя людзі. Але ж і сёння простыя людзі не ездзяць лячыцца за мяжу, а ездзяць выбраныя! У 1933 годзе пісьменнікі Ілля Ільф і Яўген Пятроў разам з мастаком Барысам Яфімавым падарожнічалі вакол Еўропы і наведалі Амерыку. Ілля Эрэнбург пастаянна жыў у Францыі, хоць лічыўся савецкім грамадзянінам. У 30-я гады ваяжыравалі па свеце Аляксандр Фадзееў, Канстанцін Федзін, Фёдар Гладкоў, Ісак Бабель, Валянцін Катаеў, Валянцін Нікулін, Аляксандр Кіршон і шмат хто іншы. Беларускія пісьменнікі выязджалі ў 1935 годзе ў Парыж. Вырвацца працаваць за мяжу было, і праўда, цяжка, але ўсё ж для сапраўдных талентаў магчыма. Мікалай Вавілаў аб'ездзіў увесь свет, быў у 180 (!) экспедыцыях, здабываючы розныя расліны для батанічных калекцый. Пётр Капіца, пабыўшы больш чым дзесяць гадоў у Англіі, прыехаў у 1934 годзе ў СССР, і назад у Еўропу яго ўжо не пусцілі, прадставіўшы, аднак, найлепшыя ўмовы для жыцця і працы. А Цімафееў-Рэсоўскі так і прапрацаваў дзесяцігоддзі ў нацысцкай Германіі.

Пасля Другой сусветнай вайны — іншая справа. Сапраўды, «жалезны заслон». Але не сталінская, а чэрчэлеўская прамова ў Фултане распачала халодную вайну. Акрамя таго, людзі не толькі ў нас, але і ў іншых дзяржавах свету, пераважна ў Еўропе, былі занятыя элементарным выжываннем, адбудоўвалі гарады, наладжвалі быт. Тут не да асаблівых кантактаў. Як толькі краіны трохі падняліся, пачаліся паездкі. Былі і іншыя формы знаёмства з іншай культурай. Скажам, хто з сённяшніх маладых глядзеў фільмы італьянскага неарэалізму? А гэта ж лічыцца класікай сусветнага кіно. Я ў Мінску паглядзела ўсе. Фільмы прасякнуты любоўю менавіта да простага чалавека, і ў іх паказана, як бедна, як цяжка жылі людзі ў Еўропе пасля вайны.

Ёсць і іншы аспект праблемы, пра які маўчаць. Пра магчымасць лёгка, за капейкі, ездзіць па ўласнай краіне — велізарным Савецкім Саюзе. А што, цікаўным людзям не было на што паглядзець? Хіба ўся прыгажосць прыроды і шэдэўры мастацтва толькі на Захадзе? Я аб'ездзіла Саюз, не беручы ў бацькоў грошы, за сваю стыпендыю і зарплату выкладчыка. У шматлікія савецкія музеі нейкі час нельга было трапіць з-за чэргаў. А фенаменальна прыгожыя краяві-

ды! Вось з пачатку 1990-х мне ўжо і ў Маскву праблема была з'ездзіць. Пачалі ездзіць зусім іншыя людзі. Што ж, кожнаму — сваё. І, відаць, для кожнага — свой час. Толькі не варта хлусіць, да месца і не да месца ўспамінаючы, які страшны быў савецкі лад…

Хіба не сорамна нашым журналістам і інтэлектуалам з любой нагоды, пра што б яны ні гаварылі, нядобрым словам успамінаць часы сацыялізму. Пакутнікі нашы! Як жа цяжка ім, бедным, жылося! Толькі мелі кватэры, дачы, машыны, кожны год выдавалі кнігі, атрымлівалі ступені, званні, прэміі. Але ж гэта так мала! Дарэчы, тыя, хто далучае сябе да эліты, павінны ведаць, што эліта — сапраўдная эліта — заўсёды жыла цяжка. Трэба дастойна прыняць свой лёс. Але пакутавалі ў асноўным ад зайздрасці — і да сваіх больш паспяховых калег, і да замежных абывацеляў. У любым выпадку ганьбіць мінулае сваёй краіны — непрыгожа, непрыстойна, пошла!

* * *

У тэлевізійнай перадачы «Назад у СССР» (святочны канцэрт, прысвечаны 90-годдзю Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі) па беларускім тэлебачанні маладыя вядучыя ўжо звыкла і банальна «прайшліся» адносна сексу ў СССР. Маўляў, яго не было, бо адпаведныя кадры з фільмаў выразалі пільныя чыноўнікі. Па-першае, што выразаць, калі яўную парнаграфію на дзяржаўных кінастудыях ніхто ніколі і не здымаў. А па-другое, надзвычай смелыя сцэны са сферы эротыкі якраз былі зусім не рэдкасцю — у тым выпадку, калі гэтага патрабавалі мастацкія задачы; іх можна бачыць у шмат якіх савецкіх фільмах («Ціхі Дон», «Блуканне па пакутах», «Цені знікаюць апоўдні», «Цені забытых продкаў», «Раманс пра закаханых» і іншых). Расповеды пра выразанне — адзін з ліберальных міфаў, створаны нашымі «святымі пакутнікамі» — вельмі папулярнымі і запатрабаванымі ў савецкі час рэжысёрамі. Што ж тычыцца заходніх стужак, то сапраўды некаторыя кадры (часцей сцэны жорсткасці) выразалі, але я, якая ў маладосці глядзела абсалютна ўсе фільмы, што выходзілі на экран, зусім не лічу сябе абкрадзенай. Інтымная сфера і павінна быць «за кадрам», ёсць рэчы, якія нельга сузіраць. А калі некага секс асабліва цікавіць — няхай дадумвае сам.

…У тым жа канцэрце вядомую савецкую песню А. Астроўскага на словы Л. Ашаніна «Ты глядел на меня» спявала, выламваючыся і крыўляючыся, маладая спявачка ў экстравагантным уборы, трымаючы, як якая-небудзь жонка «новага рускага» з Рублёўкі, экзатычную сабачку на руках. Калі ўжо аднаўляеце атмасферу тых гадоў, то ва ўсім. Песня таму і карысталася некалі проста фенаменальнай папулярнасцю, што яна была пра шчырае, чыстае каханне звычайнай, але здольнай на глыбокія пачуцці, дзяўчыны таго часу. Яна сумуе па каханым, навошта тут крыўляцца? Няўжо маладая спявачка і рэжысёр перадачы, рыхтуючыся да канцэрта, не праглядалі «Аганькі», дзе гэтую песню проста геніяльна спявала Мая Крысталінская? У яе — ніводнага лішняга руху, вельмі сціплая міміка, зусім не святочны ўбор — а як душэўна атрымлівалася! Вобраз ствараўся выключна голасам (бо голас сапраўды быў). У перадачы ж «Назад у СССР» да стварэння вобраза не імкнуліся — усё разлічвалася на знешні танны эфект. І так, на жаль, у вельмі многіх масмедыйных праектах.

* * *

Мае дзеці, як і я, вельмі крытычна ставяцца да тэлебачання, асабліва расійскага. Але я звярнула ўвагу, што канцэрт «Хвіліна славы», што бывае па нядзелях, яны глядзяць з цікавасцю. Аднойчы паглядзела і я: аказаўся парадокс на парадоксе. З аднаго боку, кампетэнтнае журы (Аляксандр Маслякоў, Таццяна Талстая,

Аляксандр Цэкала) прывівае сапраўдны мастацкі густ, паказвае, як важна не кідацца на знешняе, а бачыць сутнасць, што і дапамагае стварэнню вобраза. Таму такая перадача для развіцця ўласна самадзейных талентаў, але таксама і выхавання гледачоў, — надзвычай карысная. З іншага боку, некаторыя выканаўцы выклікаюць шчырае шкадаванне сваёй не толькі эстэтычнай — чалавечай неразвітасцю. Перадача па расійскім тэлебачанні, а ў Расіі ўсё ж 80 працэнтаў — рускія людзі, але рускага тут — і ў сэнсе нацыянальнасці выканаўцаў, а галоўнае ў сэнсе зместу нумароў, іх назваў — надзвычай мала. Скажам, калектыў з Масквы чамусьці назваўся «Камікадзе-шоу». Прычым група прайграла. А прайграла таму, што нельга так называць сябе. «Як човен назваць, так ён і паплыве», — гавораць у народзе. Яно так і ёсць. Хоць літаральна назва на японскай мове азначае «божаскі вецер», але з часоў Другой сусветнай вайны мы ведаем, што рэальна камікадзе — лётчыкі-смяротнікі. Назва па сутнасці сваёй негатыўная, а вы хочаце з ёй выйграць? У вас жа ў падсвядомасці закладзена дзякуючы назве негатыўная праграма! Або яшчэ парадокс: карэйская дзесяцігадовая дзяўчынка выконвае арабскі эратычны танец. Ці такая няўцямка: суперсучасныя касцюмы на выканаўцах стылёва не супадаюць з па-народнаму меладычнымі песнямі. Асабліва шкада людзей, якія з тых жа тэлевізійных перадач перанялі манеру расхвальваць саміх сябе — гаварыць пра свой талент, унікальную творчасць, незвычайнасць нумароў. А затым журы пахваленцаў развенчвае, і атрымліваецца фіяска, канфуз на ўсю краіну і яе ваколіцы. Маці не саромеюцца гаварыць пра свае мары славы для дзяцей. Гэта па-чалавечы зразумела. Ды і нам, беларусам, вельмі прыемна, што нашы дзеці — лідэры на Еўрабачанні. Але ёсць адваротны бок медаля, і разумную маці ён павінен хваляваць. Навошта сусветная слава дзіцяці ў дзесяць гадоў? А як яно будзе сябе адчуваць у дваццаць пяць, калі не даб'ецца нічога асаблівага ў жыцці, а ўжо паспытала салодкасць публічнасці? Ведаем мы пра трагедыі дзяцей-вундэркіндаў. Слава, як і ўлада, — усё ж як бы прэрагатыва сталага ўзросту. Праз этапы жыцця неабходна праходзіць паступова, паслядоўна. Але ў наш час усё перавернута дагары нагамі. І гэта страшна.

* * *

У адным з нумароў газеты «Минский курьер» у артыкуле «Вось Браўна і Чэйза з базару панеслі...» распавядалася пра крымінальныя перыпетыі кніжнага гандлю ў Мінску ў савецкія гады, падчас кніжнага буму. Уразіла вялікая разнастайнасць прыёмаў махлярства — пра большасць я да гэтага часу не ведала. Я сама ў 1980-я гады купляла кнігі ў спекулянтаў, але паколькі мяне не цікавіла звычайная прадукцыя, якая карысталася асабліва шырокім попытам, то я і не пераплачвала ў дзесяць-дваццаць разоў. Ды і адкуль у тагачаснага дацэнта маглі ўзяцца такія грошы!? Тым не менш я ўсё ж пераплачвала і гэтым самым садзейнічала назапашванню махлярамі іх першапачатковых капіталаў. Аўтар згаданага цікавага артыкула ў «МК» піша: «Экс-падпольшчыкаў 70—80-х гадоў мінулага стагоддзя сёння можна сустрэць сярод гаспадароў кніжных раскладак на кірмашах... а таксама сярод уладароў кніжных крамаў і вядомых выдавецтваў...» Гэтыя гаспадары і цяпер працягваюць рабаваць нас — і як пакупнікоў, і як аўтараў.

З абурэннем, гневам і сорамам я часта ўспамінаю гісторыю з маім дыпломнікам, а потым аспірантам на нашай кафедры, які ў пачатку 1990-х прадаў сябе — інакш не скажаш — паспяховым беларускім кнігавыдаўцам. Яны абяцалі яму купіць кватэру, шмат плаціць... Сем гадоў працаваў як раб — напісаў для гаспадароў, і яны выдалі пад нейкімі выдуманымі англійскімі прозвішчамі (чаго толькі ў 1990-я гады не рабілася!) больш чым пяцьдзесят кніг фантастыкі, дэтэктываў, навукова-папулярных твораў. За кожную Алесю плацілі па 200

долараў, незалежна ад яе памеру і часу, затрачанага на напісанне, — жыў на гэтыя грошы з жонкай і маленькай дачкой. Ні адно з абяцанняў кнігавыдаўцы не выканалі, чалавек пайшоў ад іх з тым, з чым прыйшоў. Ды толькі запісу ў працоўнай кніжцы няма — сем гадоў кату пад хвост! Сёння працуе ў раённай газеце на Палессі.

У лёсе надзвычай здольнага чалавека, выдатнага эрудыта, вінаватыя ўсе: і я, што толькі мякка, як заўсёды, давала парады ( шамякінская натура!), а не адгаварыла рашуча, хоць прадчувала, чым пахне; і кіраўнік аспіранта — прафесар выпусціў чалавека ў вольны свет з практычна гатовай дысертацыяй і не падумаў угаварыць абараняцца; і сам аспірант-пісьменнік-«літаратурны негр», што спакусіўся на абяцанкі… Ну а пра выдаўцоў памаўчу — у іх іншая мараль, з нармальнымі меркамі да іх падыходзіць немагчыма, яны нас проста не зразумеюць…

Выснова з гэтай сумнай гісторыі яшчэ адна: ні адзін капітал не зароблены сумленна! А з «прадпрымальнікамі»-бюргерамі яшчэ носяцца дэпутаты і чыноўнікі, яшчэ баяцца пакрыўдзіць, у нечым ушчаміць інтарэсы… Толькі і чытаеш, толькі і чуеш пра іх, няшчасных бедакоў, цяжкае жыццё, непасільныя падаткі!

Што можа быць больш справядлівым, чым дадатковы падатак на карысць беларускіх аўтараў, што кнігі пішуць, якія дзелавыя людзі з вялікай карысцю для сябе прадаюць. Дык не — баімся! Гэта капіталізм! Самыя вялікія капіталы зарабляюцца якраз дзякуючы таму, што гаспадары не выплачваюць сапраўдную заработную плату непасрэдным вытворцам каштоўнасцей. Палажэнне літаратараў, якім — з living рознымі заканадаўчымі выкрунтасамі практычна перасталі плаціць ганарары, — зусім мала адрозніваецца ад палажэння «літаратурнага раба». Прынцып такі: гэта рынкавая эканоміка, круціцеся самі, як хочаце…Тыя здолелі — малайцы! — упісаліся ў рынак, а вы сумленнымі творцамі хацелі заставацца, капіталаў не нажылі, дык і надалей заставайцеся з фігай пад носам!..

* * *

Самая старая жыхарка Беларусі — 114 гадоў — жыла, як аказалася, без газавага ацяплення. Толькі прыезд карэспандэнтаў з тэлебачання прымусіў чыноўнікаў заняцца справай і літаральна за гадзіны зрабіць усё, што патрэбна для нармальнага жыцця старой жанчыны. Мой пафас — нават не супраць мясцовых уладаў — тут усё ясна, а супраць агульнага прынцыпу, супраць гэтага выварочвання жыццёвых сэнсаў, які ўкараніўся і лічыцца нармальным, хоць ад такой «нармальнасці» ўсё больш пакутуем мы ўсе. Чаму дзяўчатам — прыгажуням, топ-мадэлям, удзельніцам розных конкурсаў, — мільёны, якія на самай справе зусім не з’яўляюцца адэкватнай платай за атрыманую ад продкаў, перададзеную праз гены, прыгажосць? А чаму за жыццяўстойлівасць, за шматдзесяцігадовую працу — нішто, нават самых элементарных умоў існавання?!



**Уладзімір СІТУХА**

# ТРАЕКТОРЫЯ ЧАСУ

*Нарыс*

## I

У тую ноч стары Васіль не мог заснуць. Ён па звычцы сцягнуў з натруджаных ног гумавікі, прылёг, але нейкая сіла тут жа падняла яго з канапы, нібы загадала: ты не павінен ухіляцца. Ён хуценька на адны шкарпэткі нацягнуў гумавікі, накінуў на плечы ватоўку.

Васіль быў у думках там, дзе сотнямі конскіх сіл натужна ракаталі магутныя бульдозеры, заганяючы на той свет куп'ё, карчоўе і дробны хмызняк.

Вякамі здзірванелая, знітаваная карэннямі зямля не супраціўлялася, а наадварот, паблісткваючы адвернутымі пластамі тлуста-цёмнага, бы галчына крыло, чарназёму, добра прылягала з-пад лемяхоў, нібыта даўно хацела гэтага і ўжо шматабяцаюча радавала вока спацелым ворывам, на якім дзе-нідзе тырчэлі недапрэлыя карані ці галіны колішніх дрэў.

Бульдозеры набліжаліся да былога хутара старога Васіля. Яго ўжо і хутарам не назавеш: пагорак з дзвюма ліпамі ды старая разгалістая вярба, якая заўжды першай сваімі кволымі лісточкамі сведчыла пра надыход вясны. Невялікі скарб...

Дні два таму, падпільнаваўшы на «цаліне» чалавека, ад якога залежаў далейшы лёс старых раскошных ліп і вярбы, Васіль, бы незнарок, ні то пацікавіўся, ні то папрасіў:

— Дрэвы не зачэпіце, Дзмітрыевіч?

— Каму яны шкодзяць? Абмінём. Хай вякуюць. Лаўку змайструем. Калодзеж...

— Гэта мой хутар. Калодзеж там ёсць. Мы з хлопцамі мігам пачысцім. Дамо волю вадзе...

— Не хвалюйцеся, дзядзьку. Усё зробім самі. І як трэба, — спагадна-ўдзячліва ўсміхнуўся Дзмітрыевіч. — Траекторыю часу і вашай памяці не парушым.

Стары Васіль ад нечаканасці бы падрос. Шчымлівая трапяткая радасць і за сябе, што адважыўся падысці да чалавека пры высокай пасадзе, і што так лёгка ўдалося вырашыць праблему, і за гэтую родную яму зямлю, што карміла і ратавала не адзін дзесятак год, неяк узвысіла яго, прыдала годнасці.

«Вось табе і Мароз, — мыркнуў ён сам сабе пад нос. — Не сваё прозвішча чалавек носіць. Светлы, сонечны нейкі, па твары так і блукае ўсмешка. Пасуе яму яна. Бы прыварожвае. Мо каб не такі добры выраз твару, дык не хапіла б адвагі падысці, папрасіць за хутар. А так усё найлепшым чынам склалася. І трыяторыя ў мяне будзе...»

Васіль слабавата разбіраўся, што азначае гэтае хітрае слова «траекторыя», якое і вымавіць правільна не мог, але быў перакананы, што яно вельмі значнае, а можа, і знакавае для яго. Сіла ў ім заключана нейкая, мабыць.

За два дні бульдозеры падышлі да самага хутара, бо варочалі, трушчылі балота і днём і ўначы. За гэты час на сэрцы ў Васіля значна паменшала ўпэўненасці, што не зачэпяць, абмінуць ягоную хутараніну. Таму і не спаў. Нечакана для сябе вырашыў ісці туды. Навучаны доўгім жыццём, што сухая лыжка горла дзярэ, ён дастаў з закутка спраўна закаркаваную бутэльку, дадаў акраец хлеба, аздобіў яго салам з часнаком, загарнуў закуску ў льняны ручнічок, бо цалафанаў не прызнаваў — пацее, мяняе колер, псуецца любы харч у гэтай гуме, паклаў дабро ў кішэню і вырушыў на святло пражэктараў-фар.

Яго прыкмецілі здалёк. Спыніліся. Сцішылі рухавікі.

— На каго палюеш, дзед? Яшчэ незнарок пад гусеніцы трапіш...

— На каго ўжо мне паляваць? Я тут вось ад старшыні, — сарамліва працягнуў ён пачастунак. Абяцаў не пусціць плугі па «трыяторыі». Дык вы ўжо ўважце, сыночкі.

— Гаварыў ён нам пра вашу тэрыторыю. Абмінём. Акультурым. Усім спатрэбіцца. Спіце спакойна, дзядуля. А пачастуемся лепшым часам.

Стары Васіль яшчэ доўга стаяў на ўзмежку поля. Ён радаваўся, і ў гэтай радасці імкнуўся спасцігнуць, калі ж той лепшы час прыспее. Які ён? Во балота сушаць. Старшыня — сама дабрыня. Трактарысты... І яны да яго з душою. За проста так. І церыторыю помняць... Не, не церыторыю, а траекторыю, як казаў Юрый Дзмітрыевіч. Тра-е-к-то-ры-ю! Палёт, калі па вайсковай тэрміналогіі...

З гэтымі думкамі Васіль шпарчэй скіраваў да сваёй сядзібы. «Эх, колькі радасці прынёс гэты Юрка Мароз! Як уздрыганулася, абудзілася Белавежжа! Які разгон жыццё ўзяло! Колькі надзей у людзей! Колькі хлеба дасць, пазбаўленая быльнягу, кураслепу і куп'я зямля! Як хвайна ўпішуцца мае ліпы і вярба ў гэты нязвыклы краявід. Не адзін яшчэ чалавек добрым словам успомніць і мяне, і Мароза!»

## II

Калі павярнуць на «Белавежскі» збоку Расна, то абструганы сучкаваты, а таму моцны цурбан на валунах-падкладах не прыкмеціць нельга. І не так, каб надта ўдалае месца было — узгорак, што збягае ў лагчынку, апяразаную дагледжанымі дрэвамі, а завярнуць сюды хочацца. Нейкая магічная сіла прыцягвае, асабліва чалавека здарожанага, уражлівага ці моцна нечым заклапочанага.

Іншым разам можна заўважыць тут і кіраўніка тутэйшай гаспадаркі Юрыя Дзмітрыевіча Мароза. На захаваным, уратаваным ад моцных нажоў бульдозераў лапіку зямлі і яму, старшыні, як і любому чалавеку, пад птушынае разнагалоссе думаецца і дыхаецца лёгка.

Гадоў колькі таму, пабачыўшы там Мароза, хто-небудзь зайздросны не прамінуў пакпіць: «Міністр на Васілёвай церыторыі ці, як яе там — траекторыі кумекае». Цяпер выказваюцца паважліва-лагодна: «Нейкая цяжкая задача загнала нашага Дзмітрыевіча пад Васілёвы ліпы».

Усё гэта падобна на праўду. Тутэйшы ўжо больш-менш дасведчаны люд не ўяўляе жыцця без свайго Мароза.

Іншы раз ён надоўга засяроджвае позірк на бярозавым гаі, што апаясвае гарадок. Беластволыя бярозы, бы просяцца ў хаты, сваім ветлым пошумам нясуць нейкія здагадкі ці дзячаць людзям і ў першую чаргу яму — Марозу, што не выкарчавалі ніводнага дрэва: упісалі будынкі між светлых прыгажунь, каб жыць і радавацца разам. Па сваім размаху гэта ўжо хутчэй траекторыя душы Мароза. Ён цвёрда перакананы: «Можна ўсё жыццё займацца вытворчасцю, але калі прыгажосць прыроды не стасуецца з эканомікай — адны і тыя ж вынікі будуць слабейшымі, канчатковая мэта не дасягнецца». У розных месцах на свой лад вучыць гэтай аксіёме людзей шчыры Мароз. З-за гэтай перакананасці і Дошку Гонару захавалі на ранейшым месцы: каб ішоў чалавек на працу і бачыў



*Юрый Дзмітрыевіч Мароз.*

свой партрэт. Каб сусед браў прыклад з яго, бо ад гэтага не толькі маральнае задавальненне, але і добрая капейчына ідзе ў кішэню передавіка.

Са сваёй Галінай-Залацінай ён штовечар робіць абыход гарадка. Людзі ў дварах, управіўшыся па гаспадарцы, любуюцца — кожны фасадам сваёй сядзібы. Разнакветам, разнатраўем, экзатычнымі раслінамі і дрэўцамі наталяюцца. Прыгажэюць неўпрыкмет духоўна самі і дзеляцца-дзеляцца садоўніцкімі сакрэтамі, перадаючы часцінку, святлынь сваёй душы адно аднаму. Ды не прамінуць сказаць:

— Дзякуй Вам, Дзмітрыевіч. Гэта Вы прывучылі перад хатай клумбы разбіваць, кветкамі засяваць замест бульбы, цыбулі ці буракоў.

Бачачы ўсё гэта, добры, шчыра-спагадлівы ад прыроды Юрый Дзмітрыевіч яшчэ больш святлее.

— Яе хваліце, маю Захараўну, — паказвае ён у бок разважлівай і чулай жонкі.

— То ж і хвалім. Не сляпыя. Вы штовечар разам па вуліцах шпацыруеце. Захараўна — наш галоўны кансультант на грамадскіх пачатках па кветкавых справах і азеляненню сядзіб. Да яе ж бегаем сёе-тое пераняць, параіцца, падвучыцца. Такой сядзібы — дагледжанай, упрыгожанай, як ваша, ва ўсім Камянецкім раёне няма. Нам адно і застаецца браць прыклад з Захараўны, падцягвацца да яе. Дзякаваць Богу, час, каб растлумачыць, у яе знаходзіцца. І расадай падзеліцца. Калі не з уласных рук дае, дык раіць: «А вы ўкрадзіце ў мяне. Прыжывецца лепш...»

Шчыры, далікатны смех галубіць вуліцу. І яна, здаецца, робіцца яшчэ больш вабнай і дарагой сэрцу.

На душы лёгка, лёгка... І каб яшчэ больш падняць настрой, Юрый Дзмітрыевіч звяртаецца до жонкі:

— А помніш, Галіна, як мы пазнаёміліся, як першыя кветкі пасадзілі...

— Помню. Такое не забываецца.

— Каб твой родзіч, дырэктар Аршанскай птушкафабрыкі, не запрасіў памагчы тады выкапаць бульбу, мо і не сустрэліся б...

— Відаць, на усё Божая воля. Мне не выпадала ў той выхадны ехаць да сястры ў памочніцы. Мерапрыемства было. Але ж нешта падштурхнула — паехала. Да цябе асаблівай павагай праніклася, калі дачулася, што маці да сябе забраў у халасцяцкія «харомы», даглядаеш...

— А мне здавалася...

Галіна нечакана засмяялася:

— Траекторыю ўспомніў?!

— Успомніў...

Юру з Галяй паставілі ў барозны поруч. Да работы яны былі няблага прызвычаеныя. Толькі вось Юрась усё часцей і часцей прамахваўся, кідаючы клубні ў вядро. Пацэліць не мог.

— Траекторыю трэба мяняць, — пажартавала Галініна сястра.

— Памяняем! — не разгубіўся хлопец.

Вечарам пасля работы Юра запрасіў Галю на прагулку па родных мясцінах.

— Калі падышлі да твайго жытла, я бы абамлела. Такое хараство. Столькі кветак перад вокнамі. Гэта ж мая стыхія. Мая спрадвечная мара. Вачэй не магла адвесці, такая трапяткая радасць разлілася па душы... А ты апраўдвацца давай: часу не хапае, каб дагледзець усё як след.

— А яшчэ ты запытала тады: «Юрка, а ты ведаеш, чаму кветкі жывымі завуцца?»

«Ведаю», — адказаў я.

— Я з імі размаўляць умею. Дапамагае іншым разам, — прызналася я.

— Навучы мяне! — нейк само сабой вырвалася ў мяне.

Наступнымі выхаднымі Юрась і Галіна ля кветак шчыравалі разам. Дзяўчына пранікласа яшчэ большай спагадай да хлопца, калі даведалася, што на ногі станавіўся сам, без бацькі, які памёр, калі хлопчыку не было яшчэ і 11 год. Што з адзнакай закончыў інстытут, што даглядае хворую матулю і піша кандыдацкую.

Іх збліжалі, яднала нейкай прыцягальнай, пакуль яшчэ не зразумелай, але светлай і магутнай сілай клумбы пад вокнамі. І, відаць, адтуль гэтая траекторыя дугой-вясёлкай перакінулася сюды — на Белавежжа.

Плануючы пасёлак, абраны пад апладысменты старшынёю, Юрый Дзмітрыевіч Мароз укараніў 13-ю зарплату за кветкавы каларыт ля хат. Нягледзячы на вялікую напругу з грашыма, паслаў пяць аўтамашын за ружамі ў Прыбалтыку, каб першыя навасёлы пасадзілі кветкі ля сваіх сядзіб.

— Правільна гэта зрабіць вам дапаможа мая жонка. На бескарыслівай аснове. Яе хлебам не кармі — дай з кветкамі пагаманіць, — даводзіў Юрый Дзмітрыевіч. — Кветкі — наш сімвал. Наша доля. Любоў да прыгожага з'яднала, злучыла нас. Хай і вам Бог пашле падобнае шчасце. Такую траекторыю.

У словах кіраўніка не было фанабэрыстасці, заклікаў. Ён гаварыў шчырую праўду. І яна ўздзейнічала з такой агромністай сілай, што людзі, якія яшчэ зусім нядаўна называлі ружы калючымі венікамі, беражна, адна да адной, па колерах на свой густ падбіралі іх...

Дарадчыцай ім у гэтым была Галіна Захараўна Мароз, чыя сядзіба, патанаючы ў разнаквеццi, лічылася ўзорнай.

## III

Разам з непаседлівым Марозам, пад яго непасрэдным кіраўніцтвам людзі адваявалі ў прыроды вяршыню свайго, як здавалася ім, шчасця і, задаволеныя, жылі, не падазраючы нават, што збоку Брэста да іх ужо крадзецца бяда, здольная многае парушыць, а найперш — размераны рытм, уклад жыцця, дзе ўсё ўлічана і адшліфавана да драбніц.

Год быў удалы і паказчыкамі, і наваселлямі, і добрымі заробкамі. І галоўнае тым, што сярод гнілой багны выраслі гмахі комплексу, заўражаіла пустэча, а тутэйшы люд — раней бедны, прыгнечаны няўдачамі, расправіў плечы. Людзі пазналі сабе цану. Паверылі Марозу. Усе яны разам, даверліва і ўпарта, ускарабкаліся па ягонай траекторыі да заможнага жыцця.

Не ўзнікала сумненняў, што старшыня вядзе правільным шляхам і ў яго хопіць мудрасці і запалу, а ў іх — сілы і кемлівасці, каб узняцца гаспадарцы яшчэ вышэй, каб не толькі быць лепшай у вобласці, як цяпер, а грымець на ўсю рэспубліку, а мо і на ўвесь Саюз. Во і Назарбаеў, Строеў і Ніканаў едуць сюды. З абласных цэнтраў, з многіх куткоў Беларусі ў «Белавежскі» да Мароза за перадавым вопытам.

Была ў той год яшчэ адна акалічнасць для радасці. Юрый Мароз выспрачаў у самога Яфрэма Яўсеевіча Сакалова ягоную легкавушку.

— Нашаму Юрку сакратарскую машыну прыгналі, — паведамілі канторскія работнікі.




*Панарама пасёлка «Белавежскі».*

Усе ведалі, якіх тытанічных намаганняў каштавала Юрыю Дзмітрыевічу атрымаць сотні тон звышпланавай прадукцыі.

Гэта была агульная перамога пад яго ўмелым кіраўніцтвам. І людзей цяпер непакоіла адно: каб з сакратарскай машыны не перасадзілі Юрыя Дзмітрыевіча ў іншае, больш высокае і ўтульнае крэсла. Тады — усё прапала. Чуткі гэтыя мелі пад сабой падставу. Многія белавежцы былі сведкамі, калі Юрый Мароз год назад даказваў Яфрэму Сакалову, што пры роўных затратах можна мець куды больш аддачы. На сотні тон больш мяса атрымоўваць.

— Ты адказваеш за свае словы? — лавіраваў вопытны Яфрэм Сакалоў.

— Я за людзей ручаюся.

— Людзьмі не прыкрывайся. На сябе ўзвалі адказнасць.

— Згодзен. Не з пужлівых.

— Тады, лічы, дамовіліся. Стрымаеш слова, перасядзеш на маю легкавушку... Акрамя іншага. Гэта, так сказаць, для твайго асабістага заахвочвання.

Яны абняліся. Сакалоў добра ведаў Мароза і давяраў яму. Але зараз і яго, шмат чаго пабачыўшага на сваім вяку, крыху бянтэжыла занадтая ўпэўненасць Юрыя Дзмітрыевіча. Не было б прамашкі. Каб не зламаўся чалавек.

Пазнаёміліся яны бліжэй пры незвычайных абставінах. Першы сакратар Брэсцкага абкама партыі Яфрэм Яўсеевіч Сакалоў меў звычку іншым разам трапляць на аб'екты без папярэджання. Пераапранецца, пераабуецца ў гумавікі, і — туды, дзе не чакаюць. Такім вось макарам сустрэўся ён і з новым кіраўніком «Белавежскага» Юрыем Марозам, папярэдне абышоўшы ўладанні апошняга без суправаджэння. Малады, яршысты старшыня ўпарта даводзіў сваё. Кіраўнік вобласці — сваё. Спрачаліся, гарачыліся... Відаць, гэтым і спадабаліся адзін аднаму, бо на развітанне Яфрэм Сакалоў ні то пахваліў, ні то падтрымаў:

— Сваю лінію гнеш — гэта добра. На таго, хто супраціўляецца, — абаперціся можна. Помні пра гэта заўжды.

## IV

...Густая заслона дажджу заганяла ў схованьусё жывое. Цемень скрадвала святло ліхтароў. Але на душы ў галоўнага бухгалтара «Белавежскага» Лідзіі Міхайлаўны Барзэнка няўтульна было па іншай прычыне. Нейкая трывога закралася, завалодала ёю і не адпускала. Юрый Дзмітрыевіч пад самы вечар, калі ўжо збіралася ісці да хаты, неяк збянтэжана-ўсхвалявана папрасіў:

— Вы дачакайцеся мяне, Міхайлаўна. Ля тэлефона пабудзьце. Там, куды мяне выклікаюць, — любую даведку папросяць.

Вопытная Лідзія Міхайлаўна прыкмеціла на твары свайго шэфа ўзрушанасць. Нешта не давала яму спакою. Па якой прычыне просіць ён яе дачакацца? У самога галава, што камп'ютэр — з любой дэлегацыяй, чым здзіўляе многіх, можа гадзінамі гаварыць без паперак і сыпаць, сыпаць лічбамі. Тут нешта не тое.

Прысеўшы на канапу, пачала перабіраць у памяці жыццё, станаўленне калектыву. Прыгадала час, калі канторай служыў барак, куды не зачыняліся дзверы і дзе кожнаму малады Юрый Мароз знаходзіў падбадзёрваючае слова, бы ўдыхаў у разгубленую душу таго ці іншага суразмоўцы энергію дзейнасці, веры ў свае сілы. Гэта пры калгасе было. А як стаў ён саўгасам, захаваўшы ранейшую назву, гаспадарка заявіла сябе, нібы зноўку нарадзілася. Быў узяты курс на рашучы і круты пад'ём.

І зараз, калі такія канторскія харaміны, кожны спецыяліст з тэлефонам, пры легкавушцы, такі пасёлак узведзены і прырастае новымі вуліцамі ды завулкамі для работнікаў ферм, спецыялістаў, той выхаладжаны барак хіба што ў кашмарным сне з'явіцца. Па ўсіх паказчыках саўгас сярод лідэраў у рэспубліцы — і ўсё-ткі штосьці не дае спакою, вярэдзіць душу, такое адчуванне, нібыта, і дасягнуўшы небывалага, усё роўна пастаянна ад некага ў залежнасці.

Дырэктара выклікалі нечакана, без папярэджання. Што б гэта ўсё значыла?

...Прыкладна такія ж думкі даймалі ў дарозе і Юрыя Дзмітрыевіча Мароза... Перабірацца на новае месца ён намеру не меў — звыкся, прыжыўся з людзьмі ў Белавежжы. Прыкіпеў да гэтай мясціны. Урос. Гэта табе не аршанскі эксперыментальны, хай сабе і ўсесаюзнага значэння комплекс, якому аддадзена сем лепшых гадоў і дзе пад дахам Саўміна СССР працаваць было куды лягчэй: зняў тэлэфонную трубку — праблема вырашана. Тут жа, у Белавежжы, усё ў першую чаргу залежыць ад цябе. Саматугам да мэты рухаешся і ўлічваеш многае. Нават — балоцістае месца. Яно з выкрутасамі, памылак не даруе. Добра, што хоць людзі туляцца да яго — і парадай, і задумай, ды і простым звычайным словам памогуць заўжды. Любая падказка тутэйшага селяніна на вагу золата.

Чамусьці, як заўжды, у хвіліну часовай унутранай нераўнавагі ці няпэўнасці, успомніўся Яфрэм Сакалоў. Той бы дакумекаў — што тут да чаго. І параду слушную даў бы. Дзіўны ён чалавек. Асоба. Дзяржаўнага кшталту. Помніцца, у цяжкі час, калі ў галаве былі пракручаны ўжо ўсе варыянты, а выхаду са складанейшага становішча не знаходзілася, на парозе з'явіўся ён — Яфрэм Яўсеевіч. І бы абнадзейвае, вяртае да жыцця Мароза сваім пытаннем:

— Ты чаго гэта ўлёгся на паперах? Няма там адказу на твае праблемы.

— Я думаю, Яфрэм Яўсеевіч, — схамянуўся Мароз.

—Тады іншая справа. Давай разам памазгуем. Мо і мая парада слушнай будзе. Зараблю шкварку.

Памог тады, і не толькі тады Сакалоў. Асобага гарту гэты чалавек. Слоў на вецер не кідае. Калі ўжо паабяцае што-небудзь, будзь упэўнены — не падвядзе.

Мікалай Дземянцей ці той жа Аксёнаў больш на ўладу, на сілу, дадзеную гэтай уладай, напіралі. Загадана — рабі. І атрымоўвалася: за цябе думалі. А Сакалоў любіў выслухаць, пераканаць, сваю ідэю правесці, не пакрыўдзіўшы пры гэтым. Стараўся зрабіць так, каб ты пранікся, жыў гэтай ідэяй. Мазгавалі людзі, ініцыятыву праяўлялі. Жыццё іх прымушала быць такімі, строгая сістэма шліфавала, узнімала на патрэбны ўзровень, адкуль ужо апрабаваны і вывераны варыянт набываў жыццёвасць.

І тады ды і зараз не вельмі паперам давяралі. Мудрагелісты народ скрозь патрэбен.

Чамусьці ўспомніўся Віктар Іванавіч Бурскі, колішні намеснік старшыні аблвыканкама па вёсцы — разважлівы, з немалым ужо жыццёвым вопытам чалавек.

Знаёмячыся з Юрыем Марозам, ён усклікнуў:

— Юнак яшчэ зусім! Няўжо справішся з такой махінай? Праглыне цябе балота і не мяўкнеш...

Пры ўсіх станоўчых характарыстыках і рэкамендацыях, улічваючы пэўны вопыт пры маладым узросце, высокае начальства — і абласное і сталічнае, хаця і давярала, не поўнасцю верыла ў магчымасці непаседліва-кемлівага Мароза. Ды выбару не было. Юрый Мароз па асноўных ацэнках кандыдатуры быў тое, што трэба. І калі ён не зварухне з месца, не ўкараніць брэсцкую, а найбольш — сака-

лоўскую ідэю, наўрад ці гэта ўдасца каму-небудзь у бліжэйшы час: рэзерв рэспубліканскіх кадраў перитрэслі па некалькі разоў. Сышліся на яго кандыдатуры.

Ужо пад'язджаючы да Брэста, Юрый Дзмітрыевіч злавіў сябе на думцы: добра, што не падвёў. Магу смела ў вочы глядзець. Нават цяпер, калі выклікаюць на нейкай важнай справе — магчыма, і стружку знясць. Што ні кажы, а толькі за тры першыя гады з'явілася племферма, створаны саўгас, вырас і запрацаваў комплекс. Нават яшчэ, калі толькі набіраліся абароты, ішла прыцірка, падбіраліся людзі, дзяржаве адпраўлялі да 12 тысяч тон мяса штогод.

З цягам часу сістэма запрацавала на ўсю моц. І лепшым сведчаннем таму былі «чароды» аўтобусаў з важнымі персонамі, спецыялістамі ў «Белавежскі» з адной мэтай — падвучыцца, наладзіць справу, як у Мароза. Каб высокая самаакупнасць была, чалавеку жылося шчасліва, з перайначанай у кароткі тэрмін псіхалогіяй. Каб ён адчуваў сябе гаспадаром сваёй зямлі, свайго лёсу.

Шмат чаго даведзена да ладу. За параўнальна кароткі тэрмін — 14 гадоў. Слава не ўскружыла Юрыю Марозу галаву, хаця і значна пабольшала дзяржаўных узнагарод. Але яна, пэўна, зрабіла сваю справу. Бо калі ты ўвесь час навідавоку, на слыху — абавязкова ўзнікне новы прыступак. Гэта добра разумеў спрактыкаваны жыццём Юрый Дзмітрыевіч. Менавіта па гэтай прычыне ён і папрасіў галоўнага бухгалтара Лідзію Барзэнка, з кім пачынаў справу з нуля, дачакацца яго.

...Яна пазнала крокі кіраўніка. Але поступ быў, падалося, не такі ўпэўнены, як заўжды, бы стомлены. Таму, як расчыніліся дзверы, само вырвалася з грудзей:

— Гэта праўда, Юрый Дзмітрыевіч?

— Праўда, Лідзія Міхайлаўна.

— А як жа басейн? Палац культуры? Стадыён? Асфальт? Хто ўзваліць на сябе гэтую ношу?

— Загадана ўзначаліць аблсельгаспрам, — бы адсек далейшыя разважанні свайго бухгалтара Юрый Дзмітрыевіч. — Загадана, і ўсё тут...

Некаторы час яны маўчалі. Ніхто з іх тады не мог і ўявіць, што роўна цераз год на Брэстчыне намалоцяць 1 мл. 187 тысяч тон збожжа. І што гэты поспех — найперш заслуга Юрыя Дзмітрыевіча Мароза.

## V

Не паспела Галіна Захараўна Мароз зачыніць за сабой дзверы, як у іх адначасова і пазванілі, і забарабанілі. Суседкі па пад'ездзе з вышэйшых і ніжэйшых паверхаў пачалі віншаваць — шчыра, настойліва. Прыкмеціўшы збянтэжанасць на добрым твары Захараўны, самі вырашалі запоўніць інфармацыйны прабел.

— Людзечкі, дык яна ж не ведае нічога! Бы з неба звалілася.

— Тэлевізар уключы. Твайго Юру міністрам сельскай гаспадаркі прызначылі.

— Як прызначылі? Калі? Абедаў падвечар намеснікам. Ні аб чым не заікнуўся нават. На нараду нейкую спяшаўся... Казаў, мо запозніцца, дык ці прывыкаць мне да гэтага. Нам толькі збоку, бабанькі, усе зайздросцяць: жонкі начальнікаў, міністраў, іх намеснікаў, дырэктараў... Пабылі б яны ў нашай скуры...

Сустрэла Галіна свайго мужа тым познім вечарам дакорам:

— У цябе ж ціск, Юра...

— Ціск, кажаш? Во і я напіраў на гэта Прэзідэнту краіны Аляксандру Рыгоравічу. А ён суцешыў, ляпнуўшы па плячы: «У мяне ў самога ўвесь час зашкальвае, Юрый Дзмітрыевіч. І пра твае праблемы ведаю. Так што запрагайся на некалькі гадкоў: разам будзем і ціск зганяць, і з бюракратамі ды прыстасаванцамі змагацца. У тваіх папярэднікаў, на жаль, гэта не атрымалася. Хлопцы яны добрыя, але слабахарактарныя іншым разам. Ты — прамы і строгі. Адукаваны. Вопытны. Тое, што трэба... Таму і спынілі на табе выбар. Зрэшты, прымай справы ў Шаколы. На роздум часу няма...

— Іван Пятровіч хоць не моцна пакрыўдзіўся? — пасля вымушанай паузы запытала Захараўна.

— А чаго крыўдзіцца Шаколе? Іван Пятровіч чалавек разумны... Міністры мяняюцца цераз паўгода, а справы не ідуць. Нешта перайначваць трэба.

— Каб у цябе толькі атрымалася, Юрка. Каб не сказалі пасля: ну вось і Мароз не вытрымаў, зламаўся.

— Хапіла б толькі здароў'я, Галіна...

— Вось і я пра тое. Не забракавала б здароў'я, а розуму ў цябе хопіць.

...За тыя тры гады, пакуль Юрый Мароз узначальваў Міністэрства сельскай гаспадаркі, у галіне адбылося шмат станоўчых зрухаў. Наведзены парадак у сістэме, адрэгуляваны асобныя моманты ўзаемаадносін паміж службамі, закантактавалі між сабой людзі, што і дало прыкметны рост усіх паказчыкаў. І акурат тады, калі амаль ужо выкарабкаліся з цяжкасцей, пачало даваць збоі сэрца. Інфаркт...

## VI

Ісці на добрую пасаду ў СНД, куды настойліва рэкамендаваў Міхаіл Мясніковіч, Юрый Мароз пасля выздараўлення і адаптацыі катэгарычна адмаўляўся:

— Пасада добрая, ды работа — пенсійная. А мне туды яшчэ ранавата. Не магу я ў паўнакала. Зразумейце — не магу. І адпачываць не хачу. Што мне — з кульбай па горадзе сноўдацца? Ёсць яшчэ ў мяне сілы, хлопцы, дай Бог кожнаму. Змалку ў работу ўцягнуты, таму часовыя збоі пераадольваюцца лягчэй. Надоечы Валодзя Касцючэнка ганца са свайго «Прыорбанка» прысылаў. Туды пайду, паспрабую, дзе цягнуць трэба спраўна, на ўсю катушку. Там і ачуняю. Падмацую здароўе. Тады і памяркуем наконт далейшага жыцця.

Як і абяцаў, Уладзімір Іванавіч Касцючэнка ўладкаваў яго на добрую пасаду, хаця і рызыкоўную.

Толькі ўсё часцей і часцей доўгімі вечарамі закідваў Мароз размову перад жонкай аб рабоце на зямлі. Душа, маўляў, цягнецца:

— Якая гэта асалода, Галя. Свае кветкі. Свае яблыкі. Хата свая. Агародчык.

Разумеючы, на што намякае муж, кемлівая Галіна Захараўна або пераводзіла размову на іншае, або, хаця і катэгарычна, але небезнадзейна заяўляла:

— Хопіць з мяне ўжо пераездаў. І камарэча насмакталася, дзякуй Богу. І гуркоў з сваіх град наелася. І хату такую пакінула, бы ад сэрца адарвала нешта.

— Давай вернемся туды! — хапаецца за надзею муж.

— Куды — туды? У «Белавежскі»?! Там жа разваліліі ўсё. Пакралі. Другога інфаркту захацеў? Не. Нікуды я больш з Мінска не паеду. Гарадская я цяпер...

Аб тым, што наконт перспектывы пераезду жонка значна памякчэла апошнім часам, Юрый Мароз падзяліўся з Аляксандрам Папковым і Міхаілам Русым.

— Паедзь. Рызыкні. Такая гаспадарка прападае. Столькі грошай уляпана ў балота. Гэтулькі людзей у існаванні праўды можа зняверыцца. Паспрабуй, Юрка, — па-сяброўску на развітанне параілі яны. — Цябе там ад радасці на рукі падхопяць. Пра твае заслугі не забыліся...

Але найбольш паўплывалі на прыняцце канчатковага рашэння, паставіўшы клічнік у светлым і добрым намеры Юрыя Мароза, ягоныя найлепшыя яшчэ па Брэсце, а цяпер і па Мінску сябры-паплечнікі, з кім часам дзяліўся самым набалелым, каму давяраў — Пётр Пракаповіч і Канстанцін Сумар. Яны не ўгаворвалі. Яны шчыра параілі свайму сябру:

— Вяртайся! Разлічвай на нас, калі будзе цяжка.

Бы благаславілі...

Тады яшчэ ніхто не ведаў, што Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка, уведаўшы пра намер Юрыя Мароза зноўку ўзначаліць «Белавежскі», здзіўлена-ўзрушана пахваліць:

— Першы раз бачу, каб міністр на ранейшае месца вяртаўся. Чым не подзвіг! На такіх людзях і трымаецца наша зямля!

## VII

Ад'езд Мароза з Мінска паскорыла аб'ява ў адной з газет аб тым, што ў «Белавежскім» прадаецца сярод іншых іхняя хата, дзе жылі раней і знаёмы кожны куток на сядзібе.

— Пакуй чамадан, Галіна. Бегма бяжыць народ. Калі ўжо за нашымі харомамі, нашай сядзібай ніхто не гоніцца, значыць, зусім дрэнь справы. Ратаваць трэба «Белавежскі». Сваё дзецішча. Відаць, так Бог кіруе. Во і ў хатку сваю паедзем.

— Едзь — ратуй. Хацелі ж бліжэй да восені пераязджаць, пасля адпачынку... Прыпякло табе... Зараз зноў усе планы рушацца...

Галіна Захараўна добра ведала нораў мужа: хаця гаварыла з дакорам, але не вельмі пярэчыла, адгаворвала — усё роўна не перайначыць рашэння.

Але і яна тады не думала, што пасля ад'езду мужа на другі ж дзень самой прыйдзецца збірацца ў дарогу. Ад убачанага і пачутага ў «Белавежскім» у яе Юрыя зноў рэзка пагоршыўся стан здароў'я.

— Як жа вы маглі так? — пытаўся ён больш у самога сябе, чым у той рэшты канторскіх работнікаў, што засталіся пакуль тут, каб здаць справы. — Па маіх разліках, не меней, чым на дзесяць гадоў запасу было. Такі задзел быў створаны, што збег самых горшых абставін не мог ніякім чынам паўплываць, каб пагоршыць, тым больш адкінуць справу назад. Куды ж падзелася ўсё?!

Канторскія работнікі вінавата блымалі вачыма, бо і самі не маглі зразумець, як у такі тупік завялі вытворчасць новыя рэфарматары-начальнікі.

І як тут выкарабкацца цяпер, спыніць падзенне, перамагчы абвал. Затрымацца хаця б на якім маленькім рубяжы! — пытанне стаяла рубам.

Людзі спадзяваліся, што Юрый Дзмітрыевіч знойдзе выхад, як рабіў гэта неаднойчы. Што разам яны вырашаць праблемы, убяруцца ў сілу. Амаль жа на голым месцы калісьці рэкорды бралі.

І ён не падмануў іх чаканняў.

— Будзем разам ратавацца, — сказаў, хаця і ўпэўнена, але апусціўся ў крэсла, пацёр рукою грудзі... — 18 мільёнаў даляраў доўгу... Дзе іх узяць зараз?!

Адчуўшы ў голасе Юрыя Мароза стомленасць, нехта са спецыялістаў шчыра і пранікнёна папрасіў:

— Вы не ўцякайце толькі адсюль, Дзмітрыевіч. Ні зараз. Ні потым. Ніколі. З вамі абавязкова выхад знойдзем. Без вас — прападзём.

— Не для таго ехаў, каб уцякаць. Дарогі назад няма. Не спасуем перад цяжкасцямі. Паднатужымся. Гуртам і бацьку біць добра... Я ж дахаты вярнуўся, шаноўныя!

У шчырых словах Юрыя Мароза адчувалася і Вера, і Сіла, і Надзея!

Гэтыя пачуцці яшчэ больш узмацніліся, калі, вяртаючыся позна вечарам, у акне сваёй хаты ён пазнаў постаць жонкі. Галіна Захараўна прыбіралася да сустрэчы мужа.

У той жа вечар яны прайшліся пасёлкам. Вышчэрбленыя тратуары, калдобістыя вуліцы, абшарпаныя хаты, наперадзе якіх стаялі стагі сена і цюкі счарнелай леташняй саломы, патухлыя ў большасці сваёй ліхтары на слупах — усё гэта азмрочвала, псавала настрой. Добра, што жонка падбадзёрыла пры людзях:

— На сваю траекторыю зноў выйшлі. Гуртам возьмемся, дык, як раней, зазвініць, загудзе саўгас «Белавежскі». Разварушацца радасцю людзі. Заспяваем па-ранейшаму...



*У мясаперапрацоўчым цэху.*

— Мо і басейн, Дзмітрыевіч, запусціце для нашых дзетак? Ды і самім не лішне будзе нырца даць, — адазваўся нехта з натоўпу. — Закапалі ж яго пасля вашага ад'езду. Бульдозеры пусцілі, і — як не было басейна. А заставалася толькі падсветка ды ваду запусціць. Толькі інакш чамусьці вырашалі вашыя пераемнікі. Новыя гаспадары... Пад бульдозер... і — няма праблемы, бы бяльма на воку...

— Будзе ў нас і басейн, і Палац культуры, і гурткі ў ім розныя. Але пачынаць трэба кожнаму з сябе. Са свайго падворка. З генеральнай уборкі пачнём — на сваіх сядзібах і ў душах сваіх. Адрадзіць многае трэба. Тэрмінова...

Пры гэтых словах Юрый Мароз узяў пад руку Галіну, і яны, асцярожна абмінаючы шчарбіны на тратуары і лужынкі, пайшлі ўздоўж агароджы.

Людзі пацягнуліся следам...

## VIII

На другі дзень раніцою прыёмная Мароза гула. Даведзеныя да адчаю людзі не дачакаліся запрашэння. Зайшлі самі. Уварваліся ў яго кабінет. Злыя. Рашучыя.

— Аддай наша, Дзмітрыевіч... І разыдземся па-добраму. Вярні грошы, дырэктар.

Мароз абвёў прыватнікаў паглядам:

— Я ў вас, хлопцы, нічога не браў. Але аддаваць трэба. Будзем ставіць гаспадарку на ногі... Разлічымся пакрысе.

Прадпрымальнікі крыху памякчэлі.

— Дзе гарантыя? — выйшаў наперад адзін з іх.

— Вось іменна. Чым пацвердзіш? Распіску давай, — загучала ў падтрымку.

— Я не схільнік сачыняць паперы. Маё слова — гарантыя, — перахапіў ініцыятыву Юрый Дзмітрыевіч. — Сказаў аддам, значыць, аддам... А пакуль усім добрага дня. Мне да ісціны хутчэй дакапацца трэба. Так усім лепей будзе. І грошы свае хутчэй атрымаеце.

У той дзень, пасля таго як прадпрымальнікі паслухаліся і пакінулі ягоны кабінет, Юрый Дзмітрыевіч Мароз па-новаму ацаніў сілу ўласнага слова. У каторы раз пераканаўся, што чалавека, асабліва загнанага ў кут, трэба падтрымкай браць, даваць яму спадзеўку, шанц. А каб гэта спрацоўвала, спярша ў думках, хаця на кароткі час, ставіць сябе на яго месца. І з гэтай чыста чалавечай пазіцыі прымаць рашэнне.

Тое ж яму своечасова нагадаў вопытны, здольны і вынаходлівы на той час старшыня Камянецкага раёна Мікалай Аляксеевіч Кенда.

Праз некалькі дзён пасля вяртання ў «Белавежскі» Мароз, узважыўшы ўсё «за» і «супраць», прыйшоў да высновы, што пачынаць трэба з будаўніцтва свайго камбікормавага завода, з далучэння ўрадлівых сельгасугоддзяй суседніх гаспа-

дарак, якія развальваюцца на вачах. Дзе ўжо і не ўсё засяваецца і заворваецца частка ўраджаю, бо не хапае сілы на палявыя работы. Галоўны ж біч — народ адвык ад дысцыпліны, ад парадку, жыве кожны сам па сабе, не прызнаючы ні загадчыкаў ферм, ні брыгадзіраў, ні саміх старшынь. Поўная анархія.

Сагітаваць гэты люд аб'яднацца было нялёгка. Важкі аргумент — заробак: у «Белавежскім» у 3—5 разоў атрымліваюць больш. Натурплата дзейнічае. Але ж там на гадзіннік глядзець трэба. Спазніўся — і пакараны рублём. Схітрыў — без натураплаты застаўся. Без кавалка свежага мяса ці каўбасы. А тут — вольніца. Сам сабе і цар, і Бог, і воінскі начальнік.

Збіраліся разам — спярша з актывам, затым узнімалі пытанне на агульных сходах: пераконвалі людзей, спрабавалі памяняць псіхалогію. І хаця рубель быў важным аргументам, складвалася не ўсюды на яго карысць. Угаворвалі людзей. З другога, з трэцяга заходу далучылі такім макарам «Ленінскі шлях», «Радзіму». А вось у «Расіі» ледзь не атрымаўся аблом.

Вяртаючыся з таго сходу, стомлены, усхваляваны Мікалай Кенда запытаў у Юрыя Мароза:

— Як ты іх угаварыў? Не паддаваліся ж. Відаць, нейкім гіпнозам валодаеш, Юрый Дзмітрыевіч? За 20 мінут бы падмяніў хто людзей. А прагаласавалі як? Аднагалосна....

— Дайшлі словы, — стомлена адказаў Мароз. — Для іх жа стараемся. Невялікае шчасце набываем — даўжнікоў, нахлебнікаў. Але з перспектывай. Сваіх людзей, можна сказаць, абкрадаем, каб даць ім лепшую долю.

Некаторы час ехалі моўчкі. Думалі. Парушыў маўчанне Мікалай Кенда.

— Хапіла б толькі сіл узяць іх на буксір і выцягнуць.

— Узяўся за гуж — не кажы, што нядуж, — прымаўкай адказаў Юрый Мароз.

У яго павесялелым голасе адчувалася надзея і вера:

— Мы не Сноў, не Верцялішкі, дзе ўсё адлажана, адрэгулявана, як у гадзіннiку. У нас як на перадавой! Узвальвай! Думай! Дзейнічай! Цягні... А пачынаць трэба з навядзення элементарнага парадку на зямлі. Каб кожны кавалак поля працаваў на ўраджай. Месца якое — райскае, значыць, і жыць трэба адпаведна.

«Райскім кутком» «ахрысціў» гэтую мясціну ў адзін са сваіх прыездаў цяперашні старшыня Брэсцкага аблвыканкама Канстанцін Андрэевіч Сумар. Ён заставаўся верным слову, якое даў у Мінску, — усяляк спрыяў развіццю саўгаса-камбіната. Менавіта Сумар схіліў Юрыя Мароза да аб'яднання гаспадарак.

Яго слушныя парады і падтрымка былі вельмі дарэчы пры ўкараненні даільных залаў, пераабсталяванні ферм і рэканструкцыі комплексу. Не паспеюць закончыць адно, а Канстанцін Андрэевіч тут як тут з новай ідэяй:

— Бярыся за Палац культуры, Юрась. Людзей парадуй. Яны даўно мараць пра школу мастацтваў.

Наступным разам прыехаў — новая прапанова:

— Цэнтр адбудоўваецца. А пра плошчу забыліся. Зазірні ў заўтрашні дзень, Юра. Не ўяўляецца ён без плошчы. А вунь тыя шматпавярхоўкі па праекце, што ля самага лесу, не ўпішуцца сюды. Хай нібы з гаю выходзяць хаты на сялянскі манер. Усім месца хопіць...

— Адкуль вы чэрпаеце гэтыя ідэі, Канстанцін Андрэевіч?

— З жыцця, даражэнькі. Я перспектыву бачу. Часам з многімі спрачаюся, але стараюся заўжды, калі ўпэўнены, давесці сваё.

У апошніх словах кіраўніка вобласці Юрый Мароз адчуў лёгкі дакор сабе.

Само вырвалася:

— Разулі вы мне вочы, Канстанцін Андрэевіч.

— Ты аб чым гэта?

— Плошчу ўяўляю. Добраўпарадкаваную. Шырокую. Напоўненую звонкімі галасамі.

— Вось і добра, што загарэўся... А іншаму не ўцямяшыш яго ж выгоды...

І тут Юрый Мароз зразумеў, што не аднаго яго вядзе па жыцці, настаўляе на правільны шлях няўрымслівы, прынцыповы Канстанцін Сумар.

І як вынік, на вачах мяняюць аблічча многія населеныя пункты. Асабліва абласны цэнтр. Які каларыт! Колькі сілы і здароўя на гэта патрэбна! А тут яшчэ і «Белавежскі» са сваімі праблемамі...

## IX

Апалай лістотай, зацяжнымі нудзістымі дажджамі, завейнымі зімамі і небывалай для гэтага часу спёкай адшумелі, пранесліся навальніцамі са шквалістым ветрам над «Белавежскім» чатыры гады. Зазіхацелі на сонцы свежапафарбаваныя фермы. Узняліся над маладым лесам новыя будынкі: як вытворчага прызначэння, так і для жылля, падсобныя памяшканні. Не пазнаць цяпер «Белавежскага». На 15 тысяч тон мяса сёння выйшлі — больш чым у два разы павялічылі яго аб'ёмы, як вярнуўся і ўзяўся за справу Юрый Мароз. Столькі прадукцыі даюць цяпер Ганцавіцкі, Ляхавіцкі, Маларыцкі і Лунінецкі раёны разам узятыя. Знайшлі агульную мову, разабраліся з даўгамі і цяпер працуюць у адной запрэжцы яршыстыя прадпрымальнікі. Яны больш не павышаюць голас на Юрыя Мароза. Гатовы зняць перад ім шапку.

За выручаныя грошы набылі шмат новай тэхнікі. Палі — нібыта цацкі, пейзажы пішы. Заробак — за трыста долараў у кожнага. Плюс натуральныя надбаўкі за якасць, за парадак на рабочым месцы, прэміі за ініцыятыву, вынаходніцтва. А развярнуцца тут і сапраўды ёсць дзе — свой пункт тэхнічнага абслугоўвання аўтамашын, трактароў лепшы ў Камянецкім раёне не толькі багаццем запасных частак, абсталявання, але і наватарамі, вынаходнікамі. Дзякуючы ім зменшаны энергастраты, пераабсталявана сістэма ацяплення, адкуль цяпер таксама ідзе эканомія.

— Вось сушылкі толькі на чужой тэрыторыі, — бядуе Юрый Дзмітрыевіч і неўпрыкмет пераводзіць размову на самы што ні ёсць сур'ёзны лад. — Па аб'ёмах вытворчасці мы ў Беларусі абышлі ўсіх. Па якасці крыху саступаем пакуль магілёўчанам. Дык там жа фермачка, а ў нас КОМПЛЕКС. З замкнутым цыклам вытворчасці.

Наўмысна ці не, але Юрый Дзмітрыевіч прамаўчаў, што ў «Белавежскім» цяпер прыбытковая і дойная галіна жывёлагадоўлі, і больш чым кілаграмовыя прывагі бычкоў на былых няўдобіцах. А падыход да ўсяго просты: дай чалавеку месца работы, прылады працы, а галоўнае своечасова падтрымай яго ініцыятыву, і — поспех забяспечаны.

Гэты марозаўскі падыход цудоўна спрацоўвае.

## X

Лідзія Міхайлаўна Барзэнка цяпер працуе намеснікам галоўнага бухгалтара. Пенсіянерка. Яна зноў шчыра і самааддана, як і ў першы раз, 27 гадоў таму, калі пачыналі будоўлю і ўсё ішло добра, а яе, галоўнага бухгалтара, і маладога цягавітага дырэктара Юрыя Дзмітрыевіча Мароза на ўсіх нарадах хвалілі і прэміравалі, радуецца сёняшнім здабыткам.

— Зазвінеў песнямі наш саўгас-камбінат «Белавежскі». Ажыў. Расшырацца трэба, бо ўсім ужо работы не хапае. Сёлета ўпершыню ў нашай школе тры класы ПЕРШАКЛАСНІКАЎ. Во — дзе галоўны фактар нашага заможнага, шчаслівага жыцця і ўпэўненасці ў заўтрашнім дні. Несумненная і велізарная заслуга ў гэтым Юрыя Дзмітрыевіча Мароза, чалавека з вялікай літары, якім мы ўсе вельмі ганарымся і плацім бясконцай удзячнасцю.

Ірына ШМАТКОВА

# ЕЎДАКІЯ ЛОСЬ, ГАЛІНА КАРЖАНЕЎСКАЯ: ПОГЛЯДЫ НА ПАЭТА І ПАЭЗІЮ

Кожны сапраўдны паэт імкнецца спазнаць сутнасць паэзіі, яе прызначэнне, ролю ў жыцці чалавека, адказаць на пытанне, што галоўнае і якія каштоўнасці ляжаць у аснове вершаванага мастацтва. Ю. Лотман у даследаванні «Аналіз паэтычнага тэксту» піша: «Паэзія належыць да тых сфер мастацтва, існасць якіх не да канца зразумелая навуцы». Можа, таму існуе мноства азначэнняў паэзіі. Вялікая колькасць даследчыкаў і пісьменнікаў спрабуе даць канцэптуальнае эстэтычнае разуменне мастацтва слова. Большасць з іх прытрымліваюцца думкі, што паэзія — гэта ўсё, што нас акаляе, само хараство свету, жыццё ў яго незвычайных і адметных праявах, гэта тое, «...без чаго, // як без маці // Або без радзімы, // Ні нараджацца, ні жыць // На зямлі немагчыма» (М. Танк).

Паэзія ўсюды: на зямлі, у нябёсах, у плёскаце вады. Для Б. Пастарнака «паэзія — у траве». Е. Лось выказвае асабістае высокае ўсведамленне паэзіі: «У кожным імгненні паэзія ёсць, // У кожным здзяйсненні — яе прыгажосць» («У кожным імгненні...»). У такім сэнсе слова «паэзія» з'яўляецца сінонімам слова «прыгажосць». Паэзію, сапраўды, можна знайсці ўсюды, толькі важна яе ўмець убачыць. А вось якраз убачыць прыгожае дадзена не ўсім, а толькі мастаку. А. Яскевіч зазначае: «Мастак у адрозненне ад звычайных людзей феномен, які заўважае ў прадметах і з'явах тое, чаго не бачаць іншыя». І такім талентам людзі адорваюцца нездарма. Перад мастаком ставіцца важная мэта. Апрача таго, што ён павінен убачыць прыгожае, яму неабходна данесці гэтае прыгожае да іншых, зрабіць так, каб не толькі яму аднаму было даступна ўбачыць, напрыклад, прыгажосць раніцы, зорнага неба, восеньскага лесу, але і чалавеку, які пазнаёміцца з мастацкім творам, успомнілася б, што ён тое таксама бачыў. На гэты конт разважаў яшчэ Гегель: «Паэт — гэта глыбокі дух, што разумее субстанцыю, якая ёсць і ў іншых, але не зразумелая ім… Кажуць: я таксама ведаў каханне і не знайшоў у ім нічога падобнага на тое, што гаворыць аб ім паэт». Такім чынам, нават той, хто не змог бы стварыць паэтычны твор, знаходзіць у ім увасобленую сваю ўласную натуру. Паэзія дапамагае чалавеку спазнаць свет і самога сябе.

Калі абапірацца на сцвярджэнне аб адным з важнейшых прызначэнняў паэзіі — пазнанне свету і чалавека, — то неабходна зазначыць, што кожны паэт раскрывае, у першую чаргу, свой уласны духоўны свет. Спазнаўшы сябе, паэт-лірык, як заўважыў І. Шпакоўскі, «стварае «аўтапартрэт» сваёй душы, выяўляе розныя бакі свайго духоўнага стану». Паэт прапускае праз сваю душу і сэрца ўсё, што ён бачыць навокал. Ніякая ісціна не можа стаць сапраўднай для паэта, не стаўшы яго асабістым душэўным набыткам. Па словах даследчыка паэзіі Л. Цімафеева, «кожны верш — гэта канкрэтная выява характару паэта, яго лірычнага «я».

Для Е. Лось галоўнае, каб у паэта было гарачае сэрца:

Радзіўся паэтам — паэтам і будзеш!
Паэтава сіла, паэтава воля
У сэрцы гарачым...

Лірычная гераіня верша Г. Каржанеўскай таксама гатова прыняць у сваё сэрца шмат розных пачуццяў, і сваіх, і чужых, бо ведае, што без іх будзе «і золь, і пустата. // І там, дзе царствуе Нуда, // Шчэ не ўзышоў // ніводзін вершык» («Пачуцці — хісткая апора...»). І сапраўды, аб гэтым жа гаворыць літаратуразнаўцаа В. Кожынаў у манаграфіі аб рускай паэзіі XIX стагоддзя: «Прадметам» лірыкі з'яўляецца перажыванне, якое, якімі б яно падзеямі ці з'явамі рэчаіснасці ні было выклікана, заўсёды застаецца поўным жыцця і глыбока асобасным рухам чалавечай душы». Менавіта зварот да настрою, пачуцця, руху душы і ёсць спецыфічная рыса паэзіі Е. Лось, Г. Каржанеўскай. У паэтычных кнігах кожнай з гэтых паэтэс ёсць асноватворнае «энергетычнае поле» — свая душа, свой эмацыянальны змест. Разгледзім, што і як фармавала духоўна-эстэтычныя асновы іх творчасці.

У вершы «Адкрыццё» Е. Лось звяртаецца да твораў розных паэтаў, захапляецца глыбінёй думкі, чысцінёй іх таленту. Далей яна задумваецца, чый жа талент узяць за ідэал:

Але думкі падышлі ціхутка, —
Я, прызнаўшы, што няма чужой,
Чысты аркуш падхапіла хутка
І рашыла быць сама сабой!

Быць самім сабой, тварыць уласны свет — вось тое каштоўнаснае, што вызначае непаўторную індывідуальнасць паэта. Адкрываючы сябе, спазнаючы чалавека, можна зразумець сэнс жыцця, спасцігнуць цэлы свет. У гэтым і бачыць прызначэнне сваёй паэзіі Е. Лось. Як зазначае І. Шпакоўскі, «важна, каб паэт у сваіх роздумах узняўся да агульначалавечага, выхапіў галоўную супярэчнасць часу, моманту, гістарычна-важную праблему». Е. Лось у сваёй творчасці асэнсоўвае праблемы сэнсу жыцця, пераадолення цяжкасцей у ім («Усё жыццё — задача за задачай...»). Яна заўсёды імкнулася выявіць жыццёва значнае, сутнаснае і — вельмі часта — драматычнае і складанае ў навакольнай рэчаіснасці. І нават у самы напружаны момант свайго жыцця, калі паэтэса была ўжо цяжка хворай, у адным з твораў з «Бараўлянскага сшытка» — паэме «З белых пялёсткаў...» — прызнаецца ў глыбокай адданасці людзям, называе адрасата сваіх вершаў, умову сваёй творчасці:

Каб не людская ўвага і прыветы,
каб не жадалі людзі песню чуць,
я б сто гадоў назад забыла гэты
занятак, што паэзіяй завуць!..

Медытатыўным роздумам аб сутнасці свайго прызначэння на зямлі прасякнуты шматлікія вершы Г. Каржанеўскай. Увогуле, на нашу думку, гэта адна з ментальных адметнасцей яе творчасці. Аўтарка піша пра неабходнасць прысутнасці ва ўсім чалавечага цяпла, як у вершы «Што трэба траве, каб яна ажыла...», у вершы «Набываю ці трачу?» задумваецца пра сэнс самаахвяравання дзеля людзей. А ў вершы «Асенні мёд» Г. Каржанеўская разважае пра выкананне свайго творчага прызначэння. Яна асэнсоўвае пытанне: талент даецца на спажытак або гэта дар для асалоды? Тут згадваецца М. Багдановіч, які разважаў: «...няма красы без спажытку, бо сама краса і ёсць спажытак для душы»; бо «нашто каласы, калі няма васількоў?». Хто яна — прыгожая кветка, што дарує мёд, ці працалюбівая пчала, якая той мёд збірае?

Пазалацелі
і загуслі словы.
Я нават разабрацца
не змагла,
Ці кветка я,
ці зумкая пчала.

Паэтэса робіць выснову, што самае галоўнае — жыць у гармоніі са светам і з самім сабой.

Такім чынам, беларускія паэтэсы раскрываюць асновасутнаснае прызначэнне паэзіі. Іх канцэптуальнае разуменне паэзіі і творчасці можна вызначыць як «спасціжэнне свету і дыялог паміж людзьмі, самапазнанне, самапабудова чалавечай асобы ў працэсе пазнання...»

Роля паэзіі ў чалавечым жыцці — рэч надзвычай істотная, нават неаспрэчная, бо змяшчае унікальны эмацыянальна-эстэтычны змест, які здольны пераўтварыць асобу. Паэты імкнуцца данесці эстэтычныя ідэалы і каштоўнасці праз слоўны вобраз, думку-пачуццё. Духоўная аснова мастацтва ўключае чалавека ў працэс жыццятворчасці па законах прыгажосці. Паэзія дапамагае «асэнсаваць, «абжыць» новыя бакі і з'явы жыцця, павялічыць свае магчымасці мастацкага пазнання і абагульнення рэчаіснасці». Вельмі важна, каб паэзія заставалася на баку праўды, духоўнай свабоды, захоўвала нацыянальны дух. Кожная з паэтэс — Е. Лось, Г. Каржанеўская — ішлі шляхам ідэйна-духоўных традыцый, закладзеных Я. Купалам, Я. Коласам, М. Багдановічам і іншымі класікамі. Яны не спяшаліся за модай, не паўтаралі кагосьці, трымаліся свайго эстэтычнага крэда. Арыстоцель, вызначаючы прыроду паэзіі, пісаў: «Так як паэт ёсць пераймальнік (падобна да жывапісца ці іншага стваральніка выяў), то ён заўсёды непазбежна павінен наследаваць аднаму з трох: ці таму, як было і ёсць; ці таму, як гаворыцца і здаецца; ці таму, як павінна быць». Сапраўды, перад кожнай з паэтэс стаяў складаны выбар — неабходна было выпрацоўваць уласны почырк-стыль. Асабліва, калі мець на ўвазе, што іх творчае станаўленне і развіццё адбывалася ў сваім часе. Той жа Арыстоцель адзначаў: «... правільнасць у паэзіі і ў палітыцы, у паэзіі і ў любым іншым мастацтве — рэчы розныя». Можа, таму лірычная гераіня Е. Лось ацэньваць свае вершы дазваляе... родным абсягам, лугам, бярозам і дубам: «... Таму і любы мне мой родны кут, // Што чыніць ён свой справядлівы суд». Паэтэса не баіцца справядлівых заўваг. Яна звяртаецца да сваіх вершаў: «Вы адсюль. // Дык жалудоў не бойцеся, як куль! // Не бойцеся камення ўздоўж дарог — // Каменне ўзбочын аўтар перамог». У вершы «Ці гэта я нядаўна бедавала...» Е. Лось роднаму куту абяцае прынесці такія словы, «Што ў самым сэрцы доўга гадавала, // Каб усхваліць надзею і красу!»

Менавіта прыгажосць і надзея з'яўляюцца ўвасабленнем высокай ісціны, і гэтыя ідэалы паэтэса бярэ ў сваё сэрца. Дарэчы ў гэтай сувязі нагадаць словы Гегеля: «Вышэйшая здольнасць уяўлення, паэтычная фантазія, стаіць на службе не выпадковых станаў і вызначэнняў душы, а на службе ідэй і ісціны духу наогул». Е. Лось гаворыць, што ёй патрабуецца нейкая сіла звонку, каб падштурхнула паэтку, каб яна дала ўнутраны імпульс, у сэрцы загарэўся палымяны агонь:

Часам трэба, каб нехта цябе раззлаваў,
за тваю справядлівасць нялюдскім назваў,
прад ягоным нахабствам на хвілю спыніў
і залішне ружовы твой свет пачарніў...

Вось тады да алоўка памкнецца рука,
як да клінка!..

Е. Лось не проста прамаўляла словы, зарыфмоўвала думкі-пачуцці. Яна гаворыць так, як думае, адчувае. Лірычнае хваляванне з'яднана з характарам, жыццёвым лёсам. Мае рацыю В. Бечык: «Прызванне паэта драматычнае. Тое, пра што гаворыш, павінна быць пражыта. Жыць неабходна без палёгкі. Ад барацьбы, пераадолення ўхіляцца нельга, немагчыма. Самае запаветнае выносіцца на людзі. Дробязнасць, мітусня — недапушчальныя, згубныя для таленту, як любая няшчырасць, кожнае прытворства».

Паэзія для Е. Лось — гэта неспакой сэрца, змаганне духу. Не заўсёды ідэалы паэтаў супадалі з устаноўкамі, ідэаламі савецкай крытыкі. Е. Лось даводзілася адстойваць права на сваё «я», хоць можна падумаць, што паэтэса была ўключана ў прадвызначанае ідэйна-ідэалагічнае рэчышча. Яшчэ А. Блок у сваім артыкуле «Фарбы і словы» пісаў: «... крытыка абходжвае мастака з усіх бакоў... Калі вопратка не ўзлазіць на мастака, яна абсякае яму ногі, рукі ці — што ўжо зусім непрыстойна — галаву». Такое духоўнае процістаянне выявілася ў вершы Е. Лось «Рэдактар кажа: дайце пра грамадскае…». Паэтэса прыносіць у рэдакцыю вершы аб набалелым, «не маючы ў душы карыснай мэты», «несла, каб аддаць, а не прасіць». А ў адказ — чуе «адказ», і «сэрца захлынаецца», і бярэ свае творы назад, «нібы дабро жабрацкае». І ўсё ж Е. Лось упэўнена, што яе лірычная паэзія будзе прынята «грамадой», таму што выказвае тое асабістае, што сугучна іншым людзям, іх сэрцам:

І грамада і я —
　　нас блізкіх, двое...
Дай грамадзе маё, а не чужое!

У гэтых радках адчуваецца ўпэўненасць Е. Лось у вартасці таго, што выносіць на суд чытачоў, пра што піша ў сваіх творах. А. Лойка адзначае: «Паэт не можа не быць упэўнены, бо ва ўпэўненасці — яго сіла, яго вера, яго праўда». Е. Лось была ўпэўнена ў непераходнасці вечных каштоўнасцей. Яна, як і класікі нацыянальнай і сусветнай паэзіі, імкнулася да гэтых вечных ідэалаў, сцвярджала іх у сваёй паэзіі. Пераадольваючы дысгарманічнасць, яна ўсім сэрцам прагнула гармоніі і музыкі (згадайма С. Маршака: «І ў музыку пераўтварылі шум»). Яе паэзія зарыентаванана на эстэтычны ідэал як цэнтр духоўнага існавання. Па словах А. Лойкі, «прыгажосць, краса ідэалу — вось на пару з чым ва ўсім XX стагоддзі і прадаўжае ісці ў сваіх высокамастацкіх узорах беларуская літаратура». Прыгажосць, ісціна з'яўляюцца ідэаламі паэзіі Е. Лось. Слушна зазначыў А. Майхровіч: «Пытанне аб сутнасці эстэтычных ідэалаў — гэта перш за ўсё пытанне аб ідэі прыгажосці мастака, аб тым, у чым ён бачыць і як разумее прыгожае». Е. Лось выдатна ўсведамляла, што найбольшымі духоўнатворчымі магчымасцямі валодае менавіта паэзія як мастацтва слова. У вершы «Рэдактар кажа: дайце пра грамадскае...» Е. Лось даводзіць, што паэзія мае права існаваць дзеля паэзіі, існаваць як самакаштоўная мастацка-эстэтычная субстанцыя.

Відавочная геданістычная скіраванасць паэтычнай думкі Е. Лось. Яе лірыка — гэта рэфлексійны рух эмоцыі. Паэтэса імкнулася, каб вершаванае слова будзіла думку, пачуццё, прыносіла асалоду чытачу. Паэзія асвятляла жыццё Е. Лось, хаця на творчым шляху ёй давялося пераадолець нямала выпрабаванняў і цяжкасцей:

Я да цябе, паэзія, дабіралася,
Як далакоп да вады на сухой мясціне.
Я з табой, нарэшце, спазналася, —
І стала светла ў маёй хаціне.

Е. Лось захапляе само незвычайнае адчуванне паэзіі, яна для паэтэсы — найлепшы сябар, якому можна даверыць свае таемныя думкі. Як у сяброўстве, так і ў паэзіі галоўнае — шчырасць, даверлівасць, тады ты абавязкова сустрэнеш разуменне: «Люблю паперы аркуш белы, // Што пазірае ў вочы мне, // Як быццам друг адкрыты, смелы, // Якога ў чыстым бачу сне». Сон пра паэзію характарызуецца эпітэтам «чысты», а сябар-паэзія — «адкрыты», «смелы».

Таленавітая паэзія выклікае глыбокія эстэтычныя пачуцці, здольна закранаць і пераўвасабляць чалавечую душу. Як пісаў Шэлінг, «паэзія ніколі не мае мэты апрача самой сябе, хоць тое пачуццё, якое ў ёй заключана, яна выклікае і па-за сабой». Паэзія Е. Лось — крыніца шчырых пачуццяў і перажыванняў, люстэрка

душэўнага жыцця грамадства, нават цэлага пакалення, больш таго, яна змяшчае унікальны эмацыянальны вопыт. Праз эмацыянальнае далучэнне да паэтычнай спадчыны чалавек можа ўступаць у своеасаблівы дыялог з часам, падключацца да духоўна-эмацыянальнага поля творцы, якое кандэнсуе мастацкі тэкст. Гуманістычны пафас — адзін з самых яскрава выяўленых, вызначальных у паэзіі Е. Лось. Чалавек з яго светам пачуццяў і дачыненняў — галоўны вектар яе слоўнага мастацтва. У мастацтве, як адзначаў Г. Гегель, «твор ... уяўляе сабой дыялог з кожным чалавекам, які стаіць перад ім». Духоўна-гуманістычны змест абумоўлены ў творчасці Е. Лось мэтавай ідэйнай устаноўкай, якая была б немагчымай без усведамлення высокага прызначэння паэзіі.

Як і кожны паэт-творца, яна ўвасабляла ў вершаваных радках свае думкі, надзеі, перажыванні, трывогі, інакш кажучы, выяўляла чалавечае ў чалавеку, спадзявалася на водгук-суперажыванне ў сэрцы чытача. Е. Лось спадзявалася, што паэзія спараджае сустрэчны рух — духоўную камунікацыю: «Нясу я вершы // ў «Маладосць» // і спадзяюся: адгукнецца!..». Заўсёды ёсць надзея: пэўныя словы змогуць дапамагчы адчуць сваю інтымна-чалавечую сутнасць, перамяніць ход думак, перасцерагчы ад магчымых памылак, выклікаюць развагі аб жыцці. Е. Лось, рыхтуючыся да сустрэчы з чытачом, старанна і з вялікай адказнасцю, хваляваннем адбірала вершы:

А ці навучыць першы,
Другі ці будзе спеты,
Ці клікне маладога
Да палкага кастра.

Выхаваўчым пафасам, зваротам да маладых прасякнуты і вершы Г. Каржанеўскай. Напэўна, тут зноў жа адлюстроўваецца спецыфіка жаночай літаратуры. Менавіта думкай пра духоўнае пераўтварэнне жыцця, гармонію існавання, магчымасць чалавечага шчасця асвечана паэзія кожнай з гэтых аўтарак.

Жанчына, калі яна ўсведамляе сваю місію на зямлі, мае яшчэ больш высокае прызначэнне — хвалявацца, клапаціцца пра маральнае ўладкаванне грамадства, народны лёс, будучыню чалавецтва. «Духоўны свет нашага сучасніка ўсёабдымны. Паэзія заклікана выхоўваць у ім агульначалавечы пачатак, вярнуць асобе разуменне ўсёабдымнасці яе быцця, паказаць, на якой тоўшчы часу стаіць сённяшні чалавек», — адзначае У. Гніламёдаў. І вядома ж, сучасны чалавек не зможа ісці ў будучыню, не зведаўшы свае карані, сваю гісторыю. Паяднаць сучаснасць з мінулым, духоўнымі традыцыямі продкаў — адна з прыярытэтных задач нацыянальнай літаратуры. Адзінства сучасных маральна-этычных каштоўнасцей з спрадвечнымі этычнымі нормамі, якія склаліся гістарычна, — адна з галоўных умоў паспяховага існавання нашага грамадства. Е. Лось, Г. Каржанеўская знаходзяцца ў ліку тых пісьменнікаў, якія адчулі вострую патрэбу з'яднаць сучаснасць і гістарычны вопыт у адзінае цэлае. Мастацкае слова для іх, як і для У. Караткевіча, сталася своеасаблівай рэканструкцыяй духу, нацыянальнай душы, магчымасцю паглыблення ў мінулае Радзімы, каб спазнаць прыгожыя і высакародныя пачуцці сваіх продкаў.

У паэзіі Е. Лось, Г. Каржанеўскай шмат вершаваных зваротаў да мінулых эпох і людзей, якія належаць гісторыі. Аднак перш за ўсё іх цікавіць духоўны свет вялікіх паэтаў. У паэзіі Е. Лось выразна духоўная прысутнасць Янкі Купалы («Свой Купала»), Максіма Багдановіча («На магіле Багдановіча»), Лесі Украінкі («Лесі Украінцы»), Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна («Праўнук Пушкіна»); у Г. Каржанеўскай — А. Міцкевіч («Міцкевічаў дуб») і іншыя. Зварот да духоўна-эстэтычнага вопыту папярэднікаў не выпадковы. Па-першае, ніводзін творца не складзецца як сапраўдны паэт без ведання мастацкіх адкрыццяў ранейшых эпох і часоў, без далучэння да нацыянальных і сусветных класічных набыткаў. Па-другое, для такіх глыбокіх і высокаадукаваных паэтэс, як

Е. Лось, Г. Каржанеўская, мастацкая літаратура, у тым ліку сусветная, стала аб'ектам павышанай увагі. Е. Лось адносяць да «філалагічнага» пакалення, нездарма ў яе творчасці значнае месца займаюць пераклады. Г. Каржанеўская гэтак жа, як і Е. Лось, імкнецца данесці да чытача тыя светлыя і гуманныя ідэі, якія знаходзяцца па-за межамі часу і якія сталі «высокім небам ідэалу» для духоўных папярэднікаў. Безумоўна, класічная літаратура аказала на іх паэзію значны ўплыў. Ды інакш і быць не магло. Як зазначае В. Кожынаў, «сённяшняя паэзія магчыма толькі як новае звяно ў ланцугу векавога, нават тысячагадовага паэтычнага развіцця».

Вельмі важна разуменне паэтычнага мастацтва як гістарычна абумоўленага працэсу. Без гэтага немагчыма зразумець, аб'ектыўна ацаніць і асэнсаваць творы паэтэс, напісаныя ў савецкі час. У гэтым разуменні значную ролю выконвае катэгорыя часу. Дарэчы прывесці меркаванне В. Каваленкі: «Увасобіўся час у творчасці — ёсць паэт». І сапраўды, бываюць выпадкі, калі па-сапраўднаму ацаніць творчасць якога-небудзь аўтара нам дапамагае час. Па словах Г. Каржанеўскай, «і часу тайна адно паэту падуласна» («Міцкевічаў дуб»). Толькі ў кантэксце часу відаць аб'ектыўная ісціна, з вышыні часу становіцца зразумелым тое значнае, што аўтар хацеў сказаць шмат гадоў назад. Тады нас штосьці здзіўляе, а нешта, магчыма, расчароўвае. Калі мы перачытаем лірыку Е. Лось, Г. Каржанеўскай, то пераканаемся ў празорлівасці, дальнабачнасці паэтэс, у тым, што яны валодаюць дарам прадказваць, перасцерагаць. І гэта не проста інтуіцыя, а паэтычны прагнастыцызм, заснаваны на глыбокім разуменні чалавека, жыцця і часу з пазіцый вечнага і вечнасці. У выпадках з паэзіяй Е. Лось, Г. Каржанеўскай мы пераконваемся ў трываласці іх лірычнага слова. Тлумачыцца гэта тым, што эмацыянальна-духоўная аснова твораў грунтуецца не на адлюстраванні часовага, а на эстэтыцы вечнага, пачуццёвага, нават экзістэнцыяльна-філасофскім светаразуменні. У вершах паэтэс — жывое сэрцабіццё радка, тут ёсць складанасць і супярэчлівасць пачуццяў, паколькі жыццё бачылася не аднапланава і аднаколерна, а ў яго дыялектыцы і драматызме. Раскрывалася жыццё душы ў рэальным чалавечым змесце.

Паэзія розных аўтараў складае адзіную мастацкую сістэму, вядома, пры ўмове, што ёсць тыпалагічная агульнасць, тая эстэтычная аснова, якая збліжае, паядноўвае і нараджае плынь або накірунак. Дарэчы прыгадаць вобразнае параўнанне У. Гніламёдава: «Паэзія як тая рака: перад упаданнем у мора яна мае ўжо некалькі рукавоў, якія захоўваюць асаблівасці ракі і ў той жа час валодаюць сваімі, непаўторнымі якасцямі». Две паэтэсы — две індывідуальнасці, две паэзіі — две ракі, якія ўпадаюць у літаратурнае мора, акіян сусветнай паэзіі. З такіх крыніц-першавытокаў набірае моц агульны паток — літаратурнае пакаленне ці супольнасць творцаў, якія аб'ядноўваюць агульныя духоўныя ідэалы і каштоўнасці: Радзіма, прырода, мова, гісторыя і інш. Магчыма, таму Г. Каржанеўская звяртаецца да паэтаў-аднагодкаў:

Мы — паралельныя, горнія светы.  
Вы нам браты, аднагодкі-паэты...

Звяртаецца паэтэса з заклікам да духоўнага яднання, даверу адно да аднаго. І як вынік — узбуйніцца магутная рака нацыянальнай паэзіі.

Паэзія, як ужо гаварылася вышэй, субстанцыя камунікатыўная. У яе аснове ляжыць дыялагізм. Паэт размаўляе з чытачом, з народам, з цэлым сусветам. І зразумела, ніхто яго не пачуе, калі яго словы не будуць актуальнымі для людзей, калі ў вершаваных радках аўтар не здолее знайсці адказы на хвалюючыя іх пытанні. Без грамадзянскага ідэалу паэзія не можа быць эстэтычна паўнавартаснай, інакш кажучы, надзённай, сугучнай таму часу, таму стану грамадства, калі і дзе жыве паэт. У. Гніламёдаў піша: «Паэзія была і застанецца духоўна-эстэтычным эквівалентам грамадства, яна творыць, «збірае» чалавека, асвят-

ляючы яго месца і ролю ў агульнай карціне сучаснага свету». Е. Лось, Г. Каржанеўская па-грамадзянску актыўныя ў жыцці соцыуму. Беларускія паэткі не маглі абысці ўвагай тыя падзеі, якія адбываліся ў грамадстве і былі неад'емнай часткай жыцця людзей. Напрыклад, доўгія чэргі і змаганне з бюракратыяй у часы перабудовы хвалявалі Г. Каржанеўскую. Г. Каржанеўская ў вершы «У чарзе» паказвае тагачасную ліхаманку рэчавізму, звязаную з імкненнем, нават прагай набыць такія недасягальныя, «усім неабходныя рэчы». Паўсюдныя чэргі тых часоў паэтэса параўноўвае з «чаплямі эпохі перабудовы». І зноў задаецца пытанне, на якое мы не ведалі адказу: «І зразумець немагчыма, чыя тут віна». Такія да болю знаёмыя «рэаліі» «савецкага» часу: «звыклая лаянка», «выпіўшы муж», «цёткі, кабеты і дамы ў пакетах і звязках...» (дарэчы, адно з цяжкіх «выпрабаванняў» «савецкай жанчыны») паўстаюць з вершаў Г. Каржанеўскай вельмі ярка, рэалістычна-праўдзіва.

Творца «гражданином быть обязан» (М. Някрасаў), ён не мае права заставацца абыякавым да праблем грамадства, бо паэт, калі ён сапраўдны паэт — голас і сумленне народа. Г. Каржанеўская адчувае сябе кропляй у жыццёвай плыні грамады: «Нас падхапіла існая плынь // Ўсіх, грамадою. // Так і сплываем удалячынь // Разам з вадою». У кнігах Г. Каржанеўскай шмат вершаў, у якіх раскрываюцца розныя грамадскія праблемы, а гэта сведчыць пра сацыяльна-этычную ўключанасць паэтэс у жыццё соцыуму. Е. Лось надала адметную эстэтычную канцэптуальнасць грамадзянскай лірыцы. Для паэтэсы слова *грамадзянін* атаясамліваецца са словам *чалавек*, і грамадскія праблемы на яе думку — гэта чалавечыя праблемы.

Кожны паэт — пясняр сваёй зямлі, паэт свайго народа. Для творцаў, у тым ліку для Е. Лось, Г. Каржанеўскай, характэрна адпаведная нацыянальная адметнасць. Гэтая самабытнасць праяўляецца ў выбары тэм, праблем, у своеасаблівым поглядзе на розныя бакі жыцця, нарэшце ў нацыянальным моўным каларыце. Для беларускіх паэтэс характэрны пранікнёны лірызм, эмацыянальнасць, чуласць да ўсяго навакольнага ў свеце, жыццёвы аптымізм і абвостранае пачуццё прыгожага. Нацыянальна-эстэтычная сутнасць іх паэзіі сведчыць пра адметную ментальнасць і мастацкую эстэтыку.

Паэтычнае слова цесна звязана з моўным каларытам, і пры перакладзе на іншыя мовы твор нярэдка страчвае свой сэнс. Вось прыклады непаўторнай індывідуальна-мастацкай вобразатворчасці: «вецер-самавей», «громавы грозьбы», «вёсны вербалозныя», «светлая, аконная» (Е. Лось); «час расхрыстаны і скрутны», «бяскорміца», «літанні нашы, скаргі», «зімовая слата» (Г. Каржанеўская). В. Кожынаў зазначае, што «лірычная паэзія... абумоўлена гранічна цеснай сувяззю лірыкі з родным словам, з самім яго непаўторным гучаннем і ладам». Эстэтычныя карані паэзіі Е. Лось, Г. Каржанеўскай — у беларускай песеннай прасодыі. Моўная плынь іх твораў успрымаецца як музыка душы. Прывядзём вершаваныя прыклады музычнасці, меладычнасці верша: «Абуджаюцца зямныя сокі, // Бродзяць хмелем п'яным, маладым. // На палях з пралін чарнавокіх // Ўецца тумано бялявы дым» (Е. Лось); «Спярэшчаны палі. // З паўночных схілаў // Ніяк не сыдуць снежныя пласты. // Глядзяць палеткі голыя паныла, // Не высахшы ад талае вады.» (Г. Каржанеўская). Яны здолелі ўвабраць у сябе музыку беларускай мовы, ператварыўшы слоўную матэрыю ў эстэтыку мастацтва. Пры дапамозе лірыкі можна перадаць мелодыю душы, гукарытміку сэрца. Даследчык Л. Цімафееў адзначае: «У лірыцы, дзе характар выступае ў індывідуальным перажыванні, гэта значыць у прынцыпе і ў асаблівасці з гранічнай напружанасцю, гэта выражаецца і ў адметнай экспрэсіўнасці мовы, у «зычным голасе», у той важкасці слова, якую мы адчуваем у вершы. Пагэтаму ім і можна выказаць больш, чым у прозе». Лірыка паэтэс ёмістая на думку, часам адзін-два радкі ці страфа — гэта міні-вобраз, мікрасвет, маленькая драма. «Па сціснасці, канцэнтраванасці вобразнай рэчыўнасці паэзія,

безумоўна, самая ёмістая і эканомная з усіх відаў сучаснага мастацтва», — лічыць А. Яскевіч. Дасягаецца гэта тым, што кожная з паэтэс сцвярджае асноўную ідэю свайго твора шляхам развіцця лірычнага пачуцця: «Мой час па-рознаму бяжыць: // То з гулам, як вясновы гром, // То ціхенька, нібы ручай, // То скокам-бокам, нібы ліст» (Е. Лось); «Не стала глебы пад нагамі. // Такая, бачыце, пара. // Мяне прыціснула гара, // І страхі ў голаў // лезуць самі. // Як пуга — ноч, // а дзень імглісты... // Што ні кажы: на дне душы // Заўсёды твань. // Не варушы, // Не каламуць — // і будзе чыста» (Г. Каржанеўская). Верш, як правіла, не мае сюжэта ў звыклым значэнні гэтага слова, усё дзеянне — толькі «лірычны аналаг жыццёвай падзеі». Па вялікім рахунку, лірыка кожнай з паэтэс (макратэкст) — космас душы беларускай жанчыны.

Такім чынам, разгляд творчых поглядаў, асноваўтваральных ідэалаў і каштоўнасцей Е. Лось, Г. Каржанеўскай дазваляе зрабіць выснову пра ідэйна-эстэтычную заглыбленасць паэзіі гэтых аўтарак, іх адказнасць за напісанае, за тое, што адбываецца ў жыцці і ў свеце. Лірычная творчасць паэтэс змяшчае ў сабе душэўна-духоўную сферу чалавечага быцця. Іх вершы — асэнсавальны рух думкі-эмоцыі да таямніц жыцця, спазнання навакольнай рэчаіснасці. Адчуваючы жыццёвую дысгармонію, яны па сутнасці вырашаюць звышзадачу — набліжаюць дысгарманічны свет да этычнай нормы, ідэалу духоўна-гуманістычнага існавання. Паэтэсы адзінадушныя ў сваім разуменні паэзіі: яна павінна служыць праўдзе, ісціне, красе, свабодзе. Вось чаму такі высокі грамадска-эстэтычны ідэал творчасці ў іх канцэпцыі паэта і прызначэння паэзіі.

Паэзія прэзентуецца беларускімі аўтаркамі як высокадухоўная субстанцыя. У ёй заключаны цэлы свет, набліжаны да ідэальнага, створаны ў супрацьвагу разбуральнаму пачатку і дзеля «высокага неба ідэалу» — святла, кахання, любові, дабрыні. Паэзія як дыялагічны від мастацтва адрасуецца чалавеку. Гуманістычны пафас — асноўны ў паэзіі Е. Лось, Г. Каржанеўскай, ён скіраваны да свядомасці чалавека, каб пераўтварыць яго духоўна і маральна па законах прыгажосці. Паэзія вяртае да духоўнага вопыту продкаў, аб’ядноўвае ў сабе сучаснасць і мінулае. Кожная з паэтэс у першую чаргу шукае сонца — ідэал для грамадства, каб убачыць за хмарамі жыцця і штодзённага побыту вышэйшы агульначалавечы сэнс існавання. Іх творчасць увабрала ў сябе нацыянальную самабытнасць мовы і прасодыі. Паэзія Е. Лось, Г. Каржанеўскай утрымлівае індывідуальна-асабовае разуменне мастацтва вершаванага слова як з’явы эстэтычнай, духоўнацэнтрычнай, нацыятворнай і глыбінна гуманістычнай па сваёй сутнасці.



Дзмітрый БУГАЁЎ

# ПАСМЯРОТНАЕ ВЯРТАННЕ НА РАДЗІМУ

*Рышард Капусцінскі.* **Вяртанне.** Вершы. Пераклад з польскай. Мінск, «Литература и Искусство», 2007.




Выдатны польскі пісьменнік Рышард Капусцінскі за свае 75 гадоў (1932—2007) выдаў каля 30 кніг, частка з якіх перакладалася на многія мовы свету. Як паведамляецца ў змястоўнай прадмове да «Вяртання», напісанай Інай Дзямід, яго называлі каралём рэпартажу, бо Капусцінскі шмат падарожнічаў з журналісцкім пасведчаннем польскага інфармацыйнага агенцтва і з усіх сваіх падарожжаў прывозіў надзвычай цікавыя рэпартажы. Некаторыя з іх мелі сенсацыйны поспех. Рышард Капусцінскі быў у Азіі і Афрыцы, Лацінскай Амерыцы, наведваў СССР і Балівію, Іран, Конга, Уганду, Анголу і Эфіопію. У час падарожжа па СССР (1989—1991) Капусцінскі, чытаем у той жа прадмове, «праехаў больш за 60 тысяч кіламетраў, правёў больш за 1500 гутарак» і потым напісаў кнігу «Імперыя», якая «пры жыцці пісьменніка ... перавыдавалася больш чым 20 разоў».

Зборнікі журналісцкіх рэпартажаў Капусцінскага выходзілі адзін за другім: «Буш па-польску» (1962), «Чорныя зоркі» (1963), «Кіргіз сыходзіць з каня» (1969), «Яшчэ дзень жыцця» (1976), «Цар» (1978), «Шах ін шах» (1982), «З Афрыкі» (2000), «Аўтапартрэт рэпарцёра» (2003), «Вандроўкі з Герадотам» (2004), «Той другі» (2006).

Выдаў Капусцінскі і два зборнікі паэзіі — «Запісная кніжка» (2005) і «Закон прыроды» (2006).

Творчая актыўнасць велізарная. Нездарма ж лаўрэат Нобелеўскай прэміі Вяслава Шымборская сказала пра Капусцінскага: «Вялікі пісьменнік, высакародны чалавек, нястомны даследчык нашага чароўнага, але вечна трывожнага свету».

Нарадзіўся Рышард Капусцінскі ў Пінску. Свой родны кут ён любіў сыноўняй любоўю. Стаўшы прызнаным пісьменнікам, адзначае Іна Дзямід, «ніколі не цураўся сваіх палескіх каранёў, куды б яго ні закідваў рэпарцёрскі лёс, ён заўсёды помніў аб краі свайго дзяцінства, смуткаваў па родным горадзе і быў рады любой сустрэчы з землякамі». Меў намер напісаць і кнігу пра Пінск, якая павінна была стаць лебядзінай песняй аўтара. Для кнігі пра горад над Пінай збіраў «у букіністычных магазінах фатаграфіі, дакументы, альбомы, газетныя публікацыі. У рабочым кабінеце варшаўскай кватэры пісьменніка на самым відным месцы ляжаць матэрыялы з яго занатоўкамі пра Пінск і пра Палессе», — сведчыць І. Дзямід.

Але здарылася так, што якраз у Пінску і наогул у Беларусі творы Рышарда Капусцінскага ніколі не друкаваліся. Каб неяк загладзіць такую гістарычную несправядлівасць, землякі пісьменніка падрыхтавалі цяперашняе выданне. У яго

ўключаны толькі паэтычныя творы (51 верш) у перакладзе на беларускую і рускую мовы. Пераклады зрабілі двое пінчукоў — А. Шушко (беларускі тэкст) і В. Грышкавец (рускамоўная паралель). Але варыянты атрымаліся настолькі блізкімі, што ствараецца ўражанне, нібыта яны зроблены адным чалавекам.

Шкада, што ў кнігу не трапіў і польскі арыгінал. Яго наяўнасць дала б магчымасць чытачу больш адэкватна ацаніць майстэрства перакладчыкаў.

На фоне традыцыйнай беларускай паэзіі, у якой свабодны верш — рэдкасць, вершы Рышарда Капусцінскага выглядаюць нязвыкла і, бадай, трохі экзатычна. Яны ўсе належаць да жанру верлібра і друкуюцца без знакаў прыпынку. Выключэнне зроблена толькі для працяжніка і пытальніка ды яшчэ аднаго на ўсе вершы шматкро'я.

У паэзіі Капусцінскага заўважаецца схільнасць да філасофскай роздумнасці і парадаксальнасці высноў:

не магу адшукаць
сябе самога
апісаць свой воблік
даць яму назву
і запэўніць
што            існую

Гэта канцоўка верша «***Я сышоў ад цябе так далёка», якім адкрываецца зборнік «Вяртанне». Яна, тая канцоўка, выкарыстана і ў якасці эпіграфа да ўсёй кнігі. У гэтым вершы («***Я сышоў...») напаўняюцца сэнсаваай значнасцю не толькі словы, але часам і адлегласць паміж імі ў радках. Так, у апошнім радку нязвыкла вялікі прабел паміж двума словамі, якімі заканчваецца твор («Што існую»). Той нязвыклы прабел закліканы падкрэсліць менавіта нечаканасць аўтарскай высновы, яе парадаксальнасць.

На глыбакадумных парадоксах з філасафічнай шматзначнасцю трымаецца і верш «***Магчыма...»:

Магчыма
самае мудрае выказванне
— маўчанне?
як Космас?

слова
гэта падман?
спроба апісаць
ніколі нябачанае?

калі ж слепа даверыцца словам
як фальшывыя маякі
яны накіруюць у сляпыя завулкі
і завядуць у нікуды

Лічыць маўчанне выказваннем, вядома, парадокс. Але бывае, што і яно становіцца красамоўным, а то і праўда мудрым, калі хавае ў сабе не згоду з подласцю ці крывадушнасцю, а адабрэнне нейкай разумнай думкі, высакароднага ўчынку і г.д.

І слепа давярацца словам, не ўлічваючы іх падтэксту, эмацыянальнай падасновы, канечне ж, не выпадае. Так што ў нечаканых парадоксах Капусцінскага ёсць свой сэнс, часам вельмі глыбокі. А тое, што аўтар свае высновы не робіць катэгарычнымі, таксама схіляе да роздуму, на які звычайна і скіроўвае паэзія з прэтэнзіяй на філасафічнасць.

Змястоўнымі атрымаліся ў Капусцінскага некаторыя вершы пра каханне. Адзін з іх — «***Ты прыходзіш...»:

Ты прыходзіш —
і ўсё мяняе колер свой
мае новае адценне —
цябе

ты прыходзіш —
і змяняюцца гукі —
яны напоўнены тваім голасам

ты прыходзіш —
і лясы і дрэвы
пахнуць табою

ты прыходзіш —
і я дакранаюся да гэтага свету
як да нечага цэлага і адзінага

Уздымная сіла кахання, яго здольнасць актывізаваць істоту чалавека, жыццёвы тонус і светаадчуванне, рабіць нас больш высакароднымі перададзены паэтам вельмі пераканальна.

Хораша гучыць і прысвечаная каханню заключная страфа са шматтэмнага верша «***Вось цішыня...»:

слых жа дзявочы гэткі чуйны
што нават у дыханні хлапечым
ловіць прызнанне ў каханні

любоў —
песня адвечная і найпростая

Апошнія два радкі — выснова-абагульненне з тых, на якія Капусцінскі не скупіцца. Ды гэта, бадай, і ўвогуле тыпалагічная прыкмета паэзіі, трывала абапёртай на жыццёвыя рэаліі.

Ёсць свая змястоўнасць, а то і пэўная глыбакадумнасць у вершах-карацельках, даволі шчодра прадстаўленых у «Вяртанні». Адна з іх — роздум пра сапраўдную паэзію і вершаваныя творы, пазбаўленыя паэтычнага агню. Яны пішуцца не толькі яўнымі графаманамі, але і паэтамі, ды пішуцца без глыбокай вынашанасці, без натхнення, як прахадныя водгукі з той ці іншай нагоды.

Паэзія — святыня
у яе прахалодзе
разгараецца розум

вершы —
астылае полымя

Яно ж, тое астылае полымя, як вядома, не грэе, а толькі нагадвае, што жыватворны агонь на гэтым месцы быў.

У другой карацельцы («***Мой боль...») — трывожнае асэнсаванне вялікага болю, які так часта падсцерагае чалавека ў жыцці:

Мой боль увесь час рыхтуе для мяне свой нож
увесь час яго заточвае

куды ўваткне?

адразу ў сэрца?

Глыбокай філасофіяй напоўнена карацелька «Дрот»:

Ты пішаш пра чалавека які ў турме
я ж аб турме ў чалавеку
у цябе калючы дрот віецца наверсе
у мяне ён клубамі ў кожным з нас

мяркуеш гэтая розніца дужа вялікая?
то ж абодва бакі адзінай пакуты

Ды і ў тых выпадках, калі асобныя карацелькі здаюцца зусім непрэтэнцыёзнымі, яны вызначаюцца дакладнасцю аўтарскага назірання, а ўрэшце і змястоўнасцю падтэкствай думкі. Узорам такіх карацелек можна назваць верш «***Ліст»:

Ліст
ляціць адарваны ад галінкі
трымціць
і толькі калі долу кранецца
... супакойваецца

У падтэксце тут думка значная: ці варта клапаціцца ў гэтым жыцці з-за рознай драбязы, калі ўсё ўрэшце завяршаецца супакоем падзення на дол?

Ёсць у Капусцінскага і верш «Смерць», адзін з самых парадаксальных у кнізе:

Дзесьці ходзіць яна
дзесьці тут побач
кружляе варочаецца
часам подбегам
бо адрас вядомы

У яе моцнае сэрца
на стому не скардзіцца
на дэпрэсію тым больш
і сумаваць няма часу

прыклад здаровага жыцця
у яе добры зрок
не спадзявайцеся што не ўбачыць
у яе добрая памяць
не думайце што забудзе
яна ўважлівая
вельмі сабраная
лепей няма
на развітанне падала мне руку
пальцы вялыя як апалыя лісты
у спякотны дзень летні
пранізаў мяне холад

Завяршэнне зусім рэалістычнае. І пра няўмольнасць смерці, пра яе ў канчатковым выніку няўхільнасць для ўсяго жывога гаворыцца з неабвержнай слушнасцю. А вось радок пра тое, што смерць дае «прыклад здаровага жыцця», — гэты радок нясе ў сабе парадокс найвялікшы.

Змрочна-песімістычна і ў вялікай меры загадкава гучыць наступны верш, назву якому даў першы радок:

Гэтыя шэрыя вуліцы шэрыя дамы
вокны за якімі нічога не адбываецца
праз гэты астылы раён згаслых лямпаў
якія ніколі не гарэлі
рухаецца аўтобус
з ніадкуль
у нікуды

Загадкавасць у тым, што згадваюцца згаслыя лямпы, якія ніколі не гарэлі. Але калі лямпы і сапраўды ніколі не гарэлі, дык чаму яны згаслыя? Так адна частка сцвярджэння адмаўляе яго другую частку. А рух з ніадкуль у нікуды — увогуле абсурд. І ў гэтым яго невытлумачальная загадкавасць, прымальная хіба для крайніх песімістаў.

Як поўнае адмаўленне гэткага змрочна-песімістычнага погляду гучыць верш «Ружанец»:

З дрэва
з костачак
са шкла
дзесяткі пацерак
нанізаных
звязаных

як адпаліраваныя
часткі лёсу
якімі мосцім свой шлях
у неба

рашотак. Не засталіся без зменаў і гаспадарчыя пабудовы. Замест старога бровара ўзнік вінакурны завод, а ў 1896 г. да яго прыбудавалі рэктыфікацыйны цэх. У 1901 г. пан Любанскі звярнуўся ў Мінскае губернскае праўленне з прашэннем аб будаўніцтве мураванага трохпавярховага вадзяного млына. Праект, які распрацавала тэхнічная кантора вядомай у Беларусі фірмы Якабсона і Ліўшыца, зацвердзілі, і хутка на месцы старога драўлянага млына вырас новы.

## «Цябе спаткаў — і ўспыхнуў я ад захаплення...»

Аднак пералічваць усе перамены ў старажытным маёнтку і не сказаць ніводнага слова пра тую мілую пані, якая не меней клапацілася пра дабрабыт Лошыцкай гаспадаркі і з якой Бог злучыў Яўстаха Любанскага ў 1889 г., — гэта значыць абмінуць бадай што адну з самых загадкава-рамантычных і, на жаль, не менш драматычных гісторый, якімі поўніцца чароўная скарбонка легендаў і паданняў беларускай мінуўшчыны. Выбранніцай сэрца мінскага памешчыка стала пекная дачка галавы мазырскай шляхты Гераніма Кяневіча — дзевятнаццацігадовая Ядвіга.

Варта сказаць некалькі слоў пра род Кяневічаў (на жаль, дастаткова спаланізаваны), прадстаўнікі якога пакінулі свой адбітак у культурнай спадчыне і нацыянальна-вызвольным руху Беларусі і Польшчы. Напрыклад, Фелікс Кяневіч (1802—1863) у траўні 1831 г. кіраваў паўстаннем у Мазырскім павеце. Пасля задушэння паўстання эмігрыраваў з сям'ёй за мяжу, у Францыю. Але рэвалюцыйную дзейнасць бацькі прадоўжыў яго сын, Іеранім, які ў чатырнаццацігадовым узросце атрымаў баявое хрышчэнне на барыкадах Парыжа.

Ядвіга Любанская, як і яе старэйшыя сёстры Зоф'я і Клатыльда і браты Геранім і Антоні, атрымала добрае хатняе выхаванне пад апекай адукаваных гувернантак: полек, француженак, немак, а таксама скончыла прыватную школу ў Варшаве. Сапраўднай прадушынай для яе сталі літаратурныя і музычныя вечары з тэатральнымі інсцэніроўкамі, у якіх гожая паненка прымала самы непасрэдны ўдзел. Да таго ж вельмі любіла туалеты і заўсёды з густам апраналася.

У чэрвені 1905 г. Яўстах Любанскі зрабіў сваёй любай жонцы каралеўскі падарунак — наладзіў у яе гонар шыкоўны баль, аздобіўшы яго тэатральным відовішчам. Цэнтральная ліпавая алея, што злучала сядзібу з гарадской вуліцай — Ігуменскім трактам (сёння вул. Маякоўскага), ператварылася для экіпажаў заможных гасцей у сапраўдную казачную дарогу ў двухбаковым атачэнні прызыўных вітальных агнёў, якія пякуча-прагна абдымалі запаленыя смаляныя бочкі. А вечаровае паветра пад дахам ясназорага неба напаўнялі чароўныя мелодыі венскіх вальсаў Штраўса — іграла палкавая музыка, запрошаныя аркестры Каломенскага і Серпухаўскага ваенных палкоў, расквартараваных у Мінску. Адным словам, усё было зроблена ў лепшых традыцыях балявання вялікасвецкай знаці.



*Ядвіга Любанская. 1898 г.*

Але назаўтра раніцай пані Ядвіга кудысьці раптоўна знікла. Неўзабаве пакаёвы сабачка прынёс яе капялюш. Устрывожаныя гэткім нядобрым знакам, Любанскі з прыслугай кінуліся на пошукі. Прадчуванне бяды было недарэмным. Мусіць, апошняе, што ўбачылі вочы пані Ядвігі, была люстэркавая паверхня Лошы. Тапельніцу знайшлі паблізу выспы, якую лашчылі павольныя хвалі невялікай рэчкі, побач з тым месцам, дзе Лоша сустракаецца са Свіслаччу. Адзнакай глыбокай жалобы па заўчасна пакінуўшай гэты свет Лауры стала распараджэнне аўдавелага гаспадара Лошыцы: закласці цаглінамі і затынкаваць акно пакоя пані Ядвігі, размешчанага на першым паверсе Белага дома. У такім незвычайным выглядзе яно і захавалася па сённяшні дзень, як далёкі, шчымлівы водгук

страчанага сямейнага дабрабыту і своеасаблівы помнік нясцерпнаму чалавечаму жалю. Потым непадалёк ад месца трагедыі па загадзе гаспадара маёнтка пасадзілі самотную вярбу.

Але што адбылося на самай справе, ніхто дакладна не ведае па сёння.

## Белая Панна старасвецкага парку

З месцам трагедыі звязваюць таксама іншае дрэва на беразе Свіслачы — дрэва абрыкоса маньчжурскага (дарэчы, адзінае ў старых парках Беларусі). Гавораць, што падчас ягонага цвіцення, калі яно нагадвае вялікі ружовы букет, у Лошыцкім парку месячнай ноччу з'яўляецца прывід Белай Панны. Яна падобная да Чорнай Панны Нясвіжскага замка, якая нібыта спрыяе закаханым і заступаецца за бяздзетных жанчын. Мяркую, аналогія не выпадковая, бо агульнавядомая легенда пра тое, што ў вобразе Чорнай Панны з'яўляецца дух заўчасна памерлай Барбары Радзівіл — апошняй любові караля Рэчы Паспалітай Жыгімонта II Аўгуста. Можаце гэтаму верыць ці не, але былы намеснік дырэктара Лошыцкай садова-паркавай гаспадаркі Яўген Церахаў, як ён сам запэўнівае, на свае ўласныя вочы аднойчы выразна бачыў Белую Панну.

Цікавую версію таго няшчасця падаў гісторык Мікола Багадзяж. Праўда, яна пазбаўлена гістарычнай дакладнасці, бо граф Караль Эмерык Чапскі памёр у 1904 г.

М. Багадзяж прыводзіць словы вядомага ў 80-х г. XX стагоддзя шлягера Андрэя Макарэвіча — кіраўніка і саліста групы «Машына часу»:

*Ах, какой был изысканный бал,*
*Бал, какого еще не бывало.*
*Их сиятельство граф всех у входа встречал.*
*Красотою графиня сверкала.*

«З задавальненнем, — піша М. Багадзяж, — напявалі прыемную мелодыю лёгкай, з налётам рамантычнага настальгізму песні і меламаны беларускай сталіцы. Але, пэўна, мала каму з іх вядома, што сюжэт, дзе раптоўна сярод балю граф прыраўнаваў жонку так, што тая пабегла ў парк тапіцца, быў Макарэвічам амаль спісаны з натуры. Цікава, што сюжэт гэты з'яўляецца часткай гісторыі Мінска. Модны шлягер канца XX стагоддзя, аказваецца, у агульных рысах перадае вядомае гістарычнае паданне аб гаспадарах Лошыцкага парку». І далей, непасрэдна пераходзячы да таго ўрачыстага вечара: «З'явілася шмат гасцей, а жонка (Ядвіга Любанская. — **Ю. К.**) чакала свайго каханка. Яны ўжо даўно не бачыліся, бо Чапскі ездзіў за мяжу і толькі-толькі вярнуўся дадому. І трэба ж было так здарыцца, што ў самы непадыходзячы момант у пакой, дзе мілаваліся закаханыя, выпадкова зайшоў гаспадар. Што было далей — зразумела. Пані Ядвіга ў роспачы кінулася да рэчкі (у Макарэвіча — да сажалкі)».

Існуе яшчэ адна чутка — быццам бы ў прыгожай гаспадыні Лошыцкага маёнтка адбыўся раман з маладым чалавекам, які ці то працаваў у пана Любанскага, ці то быў з мясцовых жыхароў.

Усе гэтыя разнастайныя паданні, версіі, чуткі, якімі ахутаны вобраз пані Ядвігі Любанскай, натхняюць літаратараў, захопленых рамантыкай мінуўшчыны, да іх увасаблення ў мастацкім слове. Часам з-пад пяра здольных да прыгожага пісьменства людзей з'яўляюцца амаль легенды, але, мабыць, у гэтым выяўляецца пэўная чароўнасць старасвецкай Лошыцы, якая не перастае прывабліваць творчых асоб.

Так, у часопісе «Першацвет» у 1997 г. было надрукавана апавяданне маладой аўтаркі Марылі Сечык «Тайна Лошыцкага парку», дзе аўтарка праз кранальнае ў сваёй драматычнасці каханне Яніны і Тараса малюе той трагічны выпадак.

Зусім па-іншаму распавядае пра тыя змрочныя падзеі ў Лошыцы Антоні Кяневіч. Ён піша, што вестка аб заўчаснай смерці 15 чэрвеня 1905 г. яго сястры

сапраўды была для сваякоў памерлай як «гром з яснага неба», але адзначае, што да гэтага пані Ядвіга колькі год пачувала сябе надта нядужай. Здаралася, што яна нават губляла прытомнасць, але лекары, на жаль, нічым істотным дапамагчы не маглі. Улічваючы стан здароўя, у апошнія гады пры ёй знаходзілася нейкая пані Blanche Salm, з якой пані Ядвігу злучыла шчыльнае сяброўства.

У дзень смерці гаспадыня Лошыцкага маёнтка пасля снедання рушыла ў парк. Мінула дастаткова часу, але яна не вярталася. Пані Blanche неўзабаве захвалявалася, пайшла шукаць сваю таварышку і знайшла яе блізу берага Свіслачы, дзе праз рэчку была кладка. Пані Ядвіга ляжала ў вадзе, яе твар дакранаўся дна рэчкі, месца там было неглыбокае.

Як тое здарылася? Гэтае пытанне засталося нявырашаным і для Антонія Кяневіча.

Хутчэй за ўсё, прычынай трагічнага выпадку з'явілася хвароба пані Ядвігі, калі ў выніку чарговага прыпадку яна страціла раўнавагу і звалілася з кладкі ў рэчку ды ў дадатак яшчэ стукнулася галавой аб камень, што ляжаў на дне.

Але ёсць меркаванне, аб якім гаворыцца ў кнізе А. Кяневіча са спасылкай на сведчанні Яніны і Марыі Чапскай: маўляў, на самагубства (менавіта на гэта робіцца акцэнт) пані Ядвігі мог паўплываць яе раман з мінскім губернатарам Мусіным-Пушкіным, які ў хуткім часе ад'язджаў у Пецярбург. У такім разе не выключана, што амурныя справы з губернатарам маглі падштурхнуць эмацыянальную пані, ахопленую супярэчлівымі пачуццямі абавязку замужняй жанчыны і нястрымнага, няшчадна асуджаемага Касцёлам кахання, да іншага (не злучанага з ёй пад дахам каталіцкага храма) мужчыны, цаной уласнага жыцця вырашыць гэтую дылему.

Пахаванне пагляднай арыстакраткі, якое адбылося на другі дзень пасля яе смерці, ператварылася ў сапраўдную працэсію мясцовай шляхты і... жабракоў, і беднага люду, натоўпы якіх запоўнілі Лошыцкі парк. І невыпадкова, бо пані Ядвіга Любанская апрача сваёй знешняй вабнасці мела іншую прыродную адметнасць — спагадлівасць, таму і ўтрымлівала за свой кошт у Мінску дом для састарэлых і бяздомных людзей, куды штодзень дастаўлялі з маёнтка свежае малако і прадукты, а таксама лекавыя расліны з панскай дзялянкі. Пані Любанская таксама ўваходзіла ў склад рады Дабрачыннага таварыства Мінскай губерні (старшынёй якога быў граф Караль Эмерык Чапскі), з'яўлялася дырэктрысай «дамского отделения» губернскага камітэта «Общества попечительного о тюрьмах».

Чуллівасць натуры мілавіднай гаспадыні найпрыгажэйшай прыгараднай рэзідэнцыі падкрэслівае Энгаліна Іванаўна Ціхамірава: «Пані Ядвісі (менавіта так яе называлі ўсе мае сваякі) вельмі спадабалася мая цётка Юля (у той час яна была такая ненаглядачка-дзяўчынка), якую бабуля Алёна нярэдка брала з сабой у панскі дом. І пані заўсёды дарыла маленькай Юлі якую-небудзь цацку, а потым пяшчотна гладзіла яе па галоўцы і чамусьці сцішана плакала».

Страціўшы жонку, Яўстафій Любанскі стаў менш цікавіцца справамі гаспадаркі. Пакінуўшы яе пад апеку нейкага Казіміра Пржэцішэўскага, ён неўзабаве з'ехаў на Каўказ, як піша А. Кяневіч, дзе і памёр. А Лошыца перайшла ва ўладанне брата і сястры Я. Любанскага.

*Аўтар выказвае шчырую падзяку за фотакопію акварэлі Ю. Пешкі дырэктару Львоўскай навуковай бібліятэкі імя В. Стэфаніка НАН Украіны прафесару Міраславу Раманюку і кандыдату мастацтвазнаўства Ларысе Купчынскай.*



## Васіль ПАДАБАС

### ЗЛЫЯ РЫФМЫ

*Звязалі мне рыфмы*
*рукі.*

**Ніна Маеўская**

За што мне такая навала? —
Няхай мяне Божа крые, —
Не думала, не гадала,
Што рыфмы гэткія злыя.

Бо я не люблю прынукі,
А рыфмы ажно жахнулі:
Спачатку звязалі рукі,
А потым і рот заткнулі.

Цяпер я буду бажыцца
Душы маёй кожным фібрам, —
На рыфмы пара забыцца,
А вершы пісаць верлібрам.

### ДАГАНЯТЫ

*На кані, на кані, на кані*
*Дагані ты мяне, дагані!*

**Таццяна Мушынская**

Ох, як соладка мне ты маніў,
Ой, як горача ты заляцаўся:
«Даганю я цябе на кані!..»
Але конь наравісты папаўся.

Ох, як пяты мае ты лізаў,
Помніш, біў кулаком сябе ў грудзі
І пры людзях так смела казаў:
«Даганю я цябе на вярблюдзе!..»

Я паверыла моцна табе
І ўпусціла ў высокія мары,
Як сядзеў ты, мацак, на гарбе...
Ды вярблюд заблудзіўся ў Сахары.

Я такога цябе ці прысню —
Ох, і быў ты на транспарт сярдзіты,
«На ракеце цябе даганю!!!» —
Так крычаў, што сарваўся з арбіты.

## ГРЭШНАЯ ЗАТЫЧКА

*Хто святы, хто грэшны —*
*Цяжка разабрацца.*

*Не затычка ж я ў бочцы!..*

**Кастусь Жук**

У пост я надоечы ўлопаў
Ажно ці не дзве яешні.
І жонка на ўсю Еўропу
Крычала, што Костусь грэшны.

Ды я ва ўсім разбяруся,
Які я — святы ці грэшны...
Стаю і з сябе смяюся, —
Няўжо я гэтакі смешны?

А потым пахаджваю ў скрусе,
І твар мой робіцца посны,
І сам на сябе злуюся, —
Няўжо я гэтакі злосны?

Пайду ды вазьму нап'юся
І стану, як кот — шкадлівы...
Ды я ўжо сябе баюся, —
Няўжо я такі баязлівы?

Стаю і чагось чакаю,
Каўтаю кіслыя слівы
І сам сябе ціха лаю, —
Няўжо я такі бурклівы?

І раптам нібы ачнуся,
Забуду настрой сумніўны.
І сам на сябе дзіўлюся, —
Няўжо я гэтакі дзіўны?

Убачу ў акно калена
Жаночае.
Зухам — з хаты.
Ўсміхнецца суседка Алена:
«А ты, сусед, жукаваты!»

Пагляд яе гэткі ўсцешны.
Падкажа мне маладзічка,
Што лепей крыху быць грэшным,
Але не ў бочцы затычкай.

## ТАРМАЗЫ І КАХАННЕ

*Я знаю, што каханне гіне,*
*Калі бывае два разы.*

**Алесь Камароўскі**

Я ўсё жыццё з усмешкай думаў,
Ці маю ў сэрцы тармазы,
Бо паміж працаю і тлумам
Кахаў ужо не два разы.

І ўчора я ў чужой адрыне
З кабетай пекнай вуркатаў...
Той, хто казаў:
«Каханне гіне...» —
Відаць, ні разу не кахаў.

Ці ёсць дзе лепшае адхланне
Ў спякотны час і ў маразы...
Пакуль імкне мяне каханне —
Не цісну я на тармазы.



# МЕТРЫКА

*літаратурная*

## САКАВІК

**1**

— **90** гадоў з дня выхаду ў свет грамадска-палітычнай і літаратурнай газеты **«Дзянніца».**

Першая савецкая газета на беларускай мове. Выдавалася ў Петраградзе і Маскве да 24 лютага 1919 года. З 3 снежня 1918 года выходзіла як веснік Беларускага нацыянальнага камітэта і Маскоўскай беларускай секцыі РКП(б). Рэдактарамі былі З. Х. Жылуновіч (Цішка Гартны), І. А. Пятровіч (Янка Нёманскі). Асвятляла палітычныя, культурныя падзеі — у прыватнасці, пісала пра дзейнасць Белнацкома і яго аддзяленняў у Петраградзе, Віцебску і Смаленску, дзейнасць Беларускага навукова-культурнага таварыства ў Маскве, пра жыццё бежанцаў з Беларусі. На старонках газеты друкаваліся творы Я. Коласа, А. Гурло, І. Дварчаніна, навуковыя і публіцыстычныя артыкулы Г. Гарэцкага, Дз. Чарнушэвіча.

**2**

— **90** гадоў таму ў вёсцы Лешніца Пухавіцкага раёна на Міншчыне нарадзіўся **Бачыла** Алесь (Аляксандр Мікалаевіч), беларускі паэт, драматург, перакладчык.

Пасля заканчэння Беларускага педагагічнага тэхнікума працаваў выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры на Міншчыне. У 1939 годзе завочна скончыў Мінскі настаўніцкі інстытут, пасля чаго быў прызваны ў Чырвоную Армію. Удзельнічаў у Вялікай Айчыннай вайне. Пасля перамогі працаваў у «Настаўніцкай газеце», у газеце «Літаратура і мастацтва», быў уласным карэспандэнтам «Литературной газеты», рэдактарам Дзяржаўнага выдавецтва БССР, адказным сакратаром часопіса «Полымя», старшым рэдактарам выдавецтва «Мастацкая літаратура».

Друкавацца пачаў у 1934 годзе. Аўтар шматлікіх паэтычных кніг, сярод якіх — «Шляхі», «Подых вясны», «Юнацтва», «Снежная балада» і іншыя. Напісаў нарыс «Дарогамі Максіма», прысвечаны жыццёваму лёсу Максіма Багдановіча. Аўтар лібрэта опер «Яснае світанне», «Паўлінка» (па аднайменнай камедыі Янкі Купалы) і іншых. Пераклаў на беларускую мову паасобныя творы М. Гогаля, А. Талстога, а таксама некаторых рускіх, украінскіх, латышскіх пісьменнікаў.

Заслужаны дзеяч культуры БССР. Узнагароджаны шматлікімі ордэнамі і медалямі.

Памёр у 1983 годзе.

**2**

— **85** гадоў таму ў горадзе Бабруйску Магілёўскай вобласці нарадзіўся **Уладамірскі** Барыс Уладзіміравіч, беларускі акцёр.

Вучыўся ў Рэспубліканскім тэатральным вучылішчы. Працаваў у Беларускім тэатры імя Янкі Купалы, у Брэсцкім тэатры імя ЛКСМБ. Выканаўца шэрага яркіх роляў: Салавей («Салавей» З. Бядулі), Крыніцкі («Паўлінка» Я. Купалы), Яўхім («Людзі на балоце» паводле І. Мележа), Цімох Худзякоў («Характары» паводле

В. Шукшына), Рамэо («Рамэо і Джульета» У. Шэкспіра) і іншых. Удзельнічаў у стварэнні радыёпастановак «Бацькаўшчына» паводле К. Чорнага, тэлевізійных спектакляў паводле твораў беларускіх і рускіх пісьменнікаў. Здымаўся ў кінафільмах «Трывожнае шчасце» паводле І. Шамякіна, «Першыя выпрабаванні», «Бацька» і іншых, у тэлевізійных фільмах «Час-Не-Чакае», «Руіны страляюць», «Атланты і карыятыды».

Заслужаны артыст БССР.

Памёр у 1991 годзе.

**4**

— **100** гадоў таму ў гарадскім пасёлку Бялынічы на Магілёўшчыне нарадзіўся **Шарахоўскі** Янка (Іван Захаравіч), беларускі празаік, крытык, літаратуразнавец.

Навучаўся ў Магілёўскім педагагічным тэхнікуме, у Ленінградскім гісторыка-лінгвістычным інстытуце. Быў супрацоўнікам часопісаў «Чырвоная Беларусь», «Полымя рэвалюцыі», газеты «Літаратура і мастацтва». Вучыўся ў аспірантуры пры Мінскім педагагічным інстытуце імя М. Горкага. Падчас Вялікай Айчыннай вайны ўдзельнічаў у баях, быў інструктарам франтавой газеты. Пасля вайны працаваў у часопісе «Полымя», быў галоўным рэдактарам Дзяржаўнага выдавецтва БССР, намеснікам міністра культуры БССР, галоўным рэдактарам газеты «Літаратура і мастацтва», дырэктарам Літаратурнага музея Янкі Купалы.

Спачатку выступаў у друку як паэт, з 1931 года стала займаўся крытыкай і літаратуразнаўствам. Аўтар кніг «Янка Купала» і «Пясняр народных дум». Як празаік выдаў зборнікі апавяданняў «Срэбраная раніца», «Сплочаны доўг», кніжку апавяданняў для дзяцей «Сердалікавая бухта».

Памёр у 1973 годзе.

**4**

— **50** гадоў таму ў горадзе Полацку нарадзіўся **Баршчэўскі** Лявон (Леанід Пятровіч), беларускі перакладчык, літаратуразнавец, паэт.

Скончыў Мінскі педагагічны інстытут замежных моў па спецыяльнасці нямецкая і англійская мовы. Працаваў настаўнікам у сярэдняй школе № 10 горада Полацка, выкладчыкам у Наваполацкім політэхнічным інстытуце імя Ленінскага камсамола Беларусі. Быў народным дэпутатам БССР.

Друкуецца з 1973 года. Перакладае з нямецкай, польскай, чэшскай і іншых моў. Сярод ягоных перакладаў — кніга Бертальда Брэхта «На шалях праўды», п'еса С. Мрожака «Танга», творы іншых замежных пісьменнікаў.

**6**

— **125** гадоў таму ў вёсцы Варонічы на Слонімшчыне нарадзіўся **Бялькевіч** Іван Кандратавіч, беларускі мовазнавец.

У 1909 годзе скончыў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю, у 1925 — Беларускі дзяржаўны універсітэт. Працаваў настаўнікам, быў супрацоўнікам Наркамасветы БССР, дырэктарам Мсціслаўскага педагагічнага тэхнікума, Інбелкульта. У 1930 годзе быў рэпрэсаваны. Жыў у Расіі, на Украіне.

Даследаваў пытанні культуры беларускай мовы. Пісаў артыкулы па мовазнаўстве. Аўтар «Абласнога слоўніка Усходняй Магілёўшчыны».

Памёр у 1960 годзе.

**7**

— **70** гадоў таму ў вёсцы Круці Мядзельскага раёна Мінскай вобласці нарадзіўся **Чарняўскі** Міхаіл Міхайлавіч, беларускі археолаг, мастацтвазнавец, пісьменнік.

Пасля заканчэння Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага — навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР.

Займаецца даследаваннем матэрыяльнай культуры плямён каменнага і бронзавага вякоў, першабытнага мастацтва на тэрыторыі Беларусі. Напісаў шэраг навуковых і навукова-папулярных прац пра вытокі арнаменту, скульптуры, прыкладнога мастацтва. Аўтар кніг «З глыбінь тысячагоддзяў», «Неаліт беларускага Панямоння», «Бронзавы век на тэрыторыі Беларусі», «Страла Расамахі» і іншых.

**8**

— **90** гадоў таму ў вёсцы Горанка Краснапольскага раёна на Магілёўшчыне нарадзіўся **Ткачоў** Мікола (Мікалай Гаўрылавіч), беларускі празаік.

Навучаючыся на вячэрнім рабфаку, адначасова працаваў рабочым мэблевай фабрыкі ў Віцебску. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт народнай гаспадаркі імя В. У. Куйбышава. Працаваў у газеце «Піянер Беларусі». Служыў у Чырвонай Арміі, быў інструктарам-літаратарам дывізійнай газеты. Ваяваў падчас Вялікай Айчыннай вайны, быў на фронце, у партызанах, атрымаў кантузію. Працаваў пасля ў Магілёўскай абласной газеце, у часопісе «Полымя», узначальваў газету «Літаратура і мастацтва», быў сакратаром праўлення СП БССР, дырэктарам выдавецтва «Мастацкая літаратура».

Друкавацца пачаў у 1938 годзе. Выдаў раман «Згуртаванасць», зборнікі прозы «Пошукі скарбаў», «Дыханне агню».

Узнагароджаны ордэнамі і медалямі.

Памёр у 1979 годзе.

**9**

— **125** гадоў таму ў горадзе Вільні нарадзіўся **Аляхновіч** Францішак Каролевіч (псеўд. Ю. Монвід), беларускі драматург і тэатральны дзеяч, публіцыст, паэт, празаік.

Вучыўся ў Вільні, Кракаве, Варшаве. Ездзіў па Польшчы з тэатральнай трупай, працаваў рэпарцёрам у польскіх газетах, акцёрам у розных тэатрах, мулярам, пажарным, настаўнікам. Займаўся выдавецкай дзейнасцю. Пераследаваўся царскімі ўладамі, быў прыгавораны да турэмнага зняволення. У 1918—1920 гадах жыў у Мінску, быў дырэктарам і галоўным рэжысёрам мінскага «Беларускага тэатра». З 1920 года жыў у Вільні, рэдагаваў газету «Беларускі звон». У 1926 годзе быў арыштаваны пры нелегальным пераходзе ў БССР і на 10 гадоў сасланы на Салавецкія астравы. Быў абменены ў 1933 годзе на заходнебеларускага палітвязня Б. Тарашкевіча. У час фашысцкай акупацыі рэдагаваў тыднёвік «Беларускі голас».

Друкаваўся з 1917 года. Напісаў п'есы ««Калісь», «На вёсцы», «Заручыны Паўлінкі», «Птушка шчасця», «У лясным гушчары» і іншыя. Аўтар драматычных абразкоў «Манька», «Чорт і баба», «Дзядзька Якуб», «Бутрым Няміра», аповесцей «Пісьмы да яе», «Страшны суд», даследаванняў «Беларускі тэатр», кнігі ўспамінаў «У кіпцюрох ГПУ».

У 1944 годзе быў забіты невядомымі на кватэры ў Вільні.

**10**

— **75** гадоў таму ў вёсцы Градзялі Беластоцкага ваяводства ў Польшчы нарадзіўся **Андраюк** Серафім Антонавіч, беларускі крытык і літаратуразнавец.

З 1945 года — разам з бацькамі ў Беларусі, у вёсцы Бербашы Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці. Пасля заканчэння Беларускага дзяржаўнага універсітэта настаўнічаў на Старадарожчыне. Скончыў аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. Працаваў навуковым супрацоўнікам гэтага інстытута, быў галоўным рэдактарам выдавецтва «Мастацкая літаратура».

Друкуецца з 1964 года. Аўтар манаграфій «Жыццё. Літаратура. Героі», «Традыцыі і сучаснасць». Выдаў зборнікі крытычных артыкулаў «Вывяраючы жыццём», «Жыць чалавекам» і іншыя.

Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя І. Мележа.

**11**

— **105** гадоў таму ў вёсцы Парэчча Лепельскага раёна на Віцебшчыне нарадзіўся **Кляшторны** Тодар Тодаравіч, беларускі паэт, перакладчык.

Вучыўся на рабфаку ў Оршы, скончыў літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Быў супрацоўнікам радыё, рэспубліканскіх выданняў. Уваходзіў у аб'яднанні «Маладняк», «Узвышша», БелАПП. Стаў ахвярай сталінскіх рапрэсій.

Упершыню надрукаваў свае вершы ў 1925 годзе. Выходзілі паэтычныя зборнікі «Кляновыя завеі», «Светацені», «Ветразі», «Праз шторм на штурм» і іншыя. Займаўся перакладамі на беларускую мову асобных твораў У. Маякоўскага, М. Асеева, А. Лахуці, іншых пісьменнікаў.

Расстраляны ў 1937 годзе.

**12**

— **90** гадоў таму ў горадзе Магілёве нарадзіўся **Валасевіч** Эдуард Станіслававіч, беларускі паэт-байкапісец, драматург.

Пасля заканчэння ў 1941 годзе літаратурнага факультэта Магілёўскага педагагічнага інстытута служыў у Савецкай Арміі. Удзельнічаў у Вялікай Айчыннай вайне, дзе быў цяжка паранены. Працаваў у Батумі ў Дзяржаўным архіве Аджарскай АССР, выкладчыкам у Магілёўскім педінстытуце, загадчыкам аддзела ў магілёўскай абласной газеце. З 1952 года — у Мінску. Быў супрацоўнікам часопісаў «Полымя», «Вожык», працаваў у Белдзяржфілармоніі, быў дырэктарам Беларускага аддзялення Усесаюзнага агенцтва па аўтарскіх правах.

Друкаваўся з 1938 года. Аўтар кніг: «Вершы і байкі», «Залатая рыбка», «Сур'ёзна і з усмешкай» і іншых. Напісаў некалькі кніжак баек для дзяцей, вядомы як аўтар камедый і скетчаў, што ўвайшлі ў зборнікі «Свет клінам не сышоўся» і «З хворай галавы на здаровую».

Памёр у 1997 годзе.

**15**

— **140** гадоў таму ў горадзе Мінску нарадзіўся **Ляцкі** Яўген Аляксандравіч, беларускі крытык, гісторык літаратуры, даследчык рускага і беларускага фальклору.

Скончыў Маскоўскі універсітэт. Быў арганізатарам выдавецтва «Огни» ў Санкт-Пецярбургу. Даследаваў фальклор на поўначы Расіі, на Паволжы, у Літве, на Беларускім Палессі. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі жыў у Празе, загадваў там кафедрай гісторыі рускай мовы і літаратуры Карлава універсітэта.

Друкаваўся з 1890 года. Аўтар даследаванняў творчасці А. Пушкіна, Л. Талстога, Ф. Дастаеўскага, Я. Коласа, іншых пісьменнікаў. Займаўся вывучэннем старажытнай пісьменнасці, у прыватнасці, даследаваў «Слова аб палку Ігаравым». Пісаў артыкулы, прысвечаныя беларускаму фальклору, народнай міфалогіі, беларусазнаўству.

Памёр у 1942 годзе.

**15**

— **70** гадоў таму ў вёсцы Кустын Брэсцкага раёна нарадзілася **Малажай** Галіна Мікалаеўна, беларускі мовазнаўца, літаратуразнаўца, педагог.

Пасля заканчэння Брэсцкага педагагічнага інстытута працавала настаўніцай на Кобрыншчыне. З 1963 года была супрацоўнікам, з 1981 — загадчыкам кафедры беларускай мовы Брэсцкага педінстытута.

Друкуецца з 1968 года. Даследуе беларускую фразеалогію, дыялекталогію, мову мастацкай літаратуры. Аўтар прац пра творчасць М. Багдановіча, Я. Купалы, Ф. Янкоўскага, кніг «Беларуская перыфраза (кароткі слоўнік)», «Сучасная беларуская мова: Перыфраза», «Лінгвістычны аналіз тэксту». Сааўтар такіх навучальных дапаможнікаў, як «Беларуская мова», «Практыкум па беларускай мове» і іншых.

**17**

— **110** гадоў таму ў вёсцы Зембін Барысаўскага павета Мінскай губерні нарадзіўся **Харык** Ізі (Ісак Давыдавіч), беларускі паэт.

Навучаўся ў хедары, у рускай народнай школе ў Зембіне. Юнаком працаваў на заводах і фабрыках у Барысаве, Мінску, Гомелі. З 1917 — на сталым жыхарстве ў Мінску, дзе працаваў бібліятэкарам, загадваў агульнаадукацыйнай школай. Ваяваў добраахвотнікам у Чырвонай Арміі. Вучыўся ў Вышэйшым літаратурна-мастацкім Інстытуце імя В. Брусава. Скончыў Маскоўскі універсітэт. Быў рэдактарам яўрэйскага часопіса «Штэрн» («Зорка»), старшынёй секцыі яўрэйскіх пісьменнікаў СП БССР. Як шмат хто з тагачасных пісьменнікаў падпаў пад сталінскія рэпрэсіі.

Пачаў друкавацца ў 1920 годзе. Пісаў на яўрэйскай (ідыш), беларускай і рускай мовах. Выдаў паэтычныя зборнікі «Трапятанне», «Мінскія балоты», «Ад полюса да полюса» і іншыя.

Расстраляны ў 1937 годзе.

**17**

— **60** гадоў таму ў горадзе Маскве нарадзіўся **Лабынцаў** Юрый Андрэевіч, расійскі і беларускі літаратура- і кнігазнавец, гісторык культуры.

Закончыў Вроцлаўскі універсітэт у Польшчы. Працаваў у Дзяржаўнай бібліятэцы СССР імя У. І. Леніна. З 1994 года — дырэктар Цэнтра беларусазнаўчых даследаванняў Інстытута славяназнаўства і балканістыкі Расійскай Акадэміі навук.

Даследуе гісторыю, культуру і літаратуру Беларусі XII—XX стагоддзяў, уземасувязі славянскіх літаратур, гісторыю славянскіх старадрукаў. Аўтар кніг «Скарынаўскі каляндар», «Напои росою благодати...», «Малітоўная паэзія Кірылы Тураўскага», а таксама шматлікіх прац па гісторыі і культуры беларусаў.

Доктар гістарычных навук.

**18**

— **90** гадоў таму ў вёсцы Вылева Добрушскага раёна Гомельскай вобласці нарадзіўся **Пранузa** Паўлюк (Павел Кузьміч), беларускі паэт, перакладчык.

Адразу пасля заканчэння ў 1941 годзе Гомельскага педагагічнага інстытута імя В. Чкалава пайшоў ваяваць. Пасля дэмабілізацыі працаваў выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры ў Нясвіжскім педагагічным вучылішчы імя Я. Коласа, у сярэдняй школе. З 1982 года — у Мінску.

Друкаваўся з 1936 года. Выдаў зборнікі вершаў «Разгневаная зямля», «Добрай раніцы», «У дальнім раёне» і іншых. Аўтар шэрага зборнікаў вершаў для дзяцей. Складальнік зборніка вершаў і ўспамінаў пра Міколу Сурначова «Акопны спеў». Займаўся перакладамі з рускай, украінскай і польскай моў.

Памёр у 2007 годзе.

**21**

— **60** гадоў таму ў вёсцы Радкава Салігорскага раёна Мінскай вобласці нарадзіўся **Якубовіч** Леанід Яўгенавіч, беларускі паэт.

Працоўны шлях пачынаў з паштальёна, аператара аддзялення сувязі. Пасля заканчэння сярэдняй школы працаваў машыністам на другім Салігорскім калій-

ным камбінаце, у салігорскай раённай газеце «Шахцёр». Вучыўся завочна на факультэце журналістыкі Белдзяржуніверсітэта.

Друкавацца пачаў у 1965 годзе. Вершы змяшчаліся ў калектыўных зборніках «Рунь», «Універсітэт паэтычны». У 1979 годзе выйшаў паэтычны зборнік «Я з вамі, вёсны…»

Трагічна загінуў у шахце ў 1970 годзе.

**23**

— **60** гадоў таму ў вёсцы Ліпавічы Чашніцкага раёна Віцебскай вобласці нарадзіўся **Пашкоў** Генадзь Пятровіч, беларускі паэт, публіцыст, перакладчык.

Пасля заканчэння факультэта журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта працаваў на Беларускім радыё, у часопісе «Полымя», у апараце ЦК КПБ. Цяпер — галоўны рэдактар выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя».

Друкуецца з 1967 года. Аўтар паэтычных кніг «Кляновік», «Дыстанцыя небяспекі», «Гравюры дарог», «Зямлю слухаю» і іншых. Выдаў таксама кнігу вершаў для дзяцей «Дзяўчынка з блакітным мячыкам», кнігу нарысаў «Будзень як свята».

Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі.

**24**

— **100** гадоў таму ў вёсцы Зверавічы Краснінскага раёна на Смаленшчыне нарадзіўся **Глебаў** Аляксей Канстанцінавіч, беларускі скульптар.

Вучыўся ў Віцебскім мастацкім тэхнікуме. Быў адным з арганізатараў Аб'яднання моладзі Асацыяцыі мастакоў рэвалюцыі ў Віцебску. Удзельнічаў у Вялікай Айчыннай вайне.

Выстаўляўся з 1928 года. Працаваў выкладчыкам Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. Ствараў у галіне станковай і манументальнай скульптуры. Сярод работ — разнастайныя тэматычныя кампазіцыі батальнага і анімалістычнага жанраў, партрэты. Удзельнічаў у афармленні Дома ўрада БССР, стварыў барэльефы для дома Чырвонай Арміі, для Палаца піянераў і школьнікаў. Аўтар партрэтаў дзеячаў беларускай культуры — Я. Коласа, У. Уладамірскага, партрэтнай групы «М. Горкі і Я. Купала», скульптурных кампазіцый «Народны паэт БССР Янка Купала», «Францыск Скарына», помніка Францыску Скарыне ў Полацку і іншых работ.

Народны мастак Беларусі.

Памёр у 1968 годзе.

**25**

— **95** гадоў таму ў вёсцы Запрудоўка Гомельскага павета нарадзілася **Цімашкова** Любоў Яфімаўна, беларускі літаратуразнавец, крытык.

Пасля заканчэння ў 1931 годзе Гомельскага педагагічнага тэхнікума працавала настаўніцай. Скончыла літаратурны факультэт Мінскага педінстытута, пасля — аспірантуру пры ім. У час Вялікай Айчыннай вайны была ў эвакуацыі ў Горкаўскай вобласці. Пасля вызвалення Беларусі працавала выкладчыцай, загадчыцай кафедры рускай літаратуры Гомельскага педагагічнага інстытута імя В. Чкалава. З 1960 года — старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР, пазней — выкладчык кафедры замежнай літаратуры БДУ.

Даследавала беларуска-балгарскія і беларуска-польскія літаратурныя ўзаемасувязі. Аўтар брашуры «Беларуска-балгарскія літаратурныя сувязі», а таксама раздзелаў да шматлікіх навучальных дапаможнікаў па замежнай літаратуры.

Памерла ў 1978 годзе.

**25**

— **80** гадоў таму ў горадзе Рагачове Гомельскай вобласці нарадзіўся **Мехаў** (сапр. Няхамкін) Уладзімір Львовіч, беларускі празаік.

Скончыў аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта. Працаваў у рэдакцыях універсітэцкай шматтыражкі, газет «Літаратура і мастацтва», «Чырвоная змена», на Беларускім радыё.

Друкуецца з 1951 года. Выдаў зборнікі аповесцей, апавяданняў і нарысаў «Сцяг над рэўкомам», «Апошняя яўка», «Старадаўняя гравюра» і іншыя. Аўтар п'ес «Чырвоны губернатар», «Палёт».

Лаўрэт Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

**27**

— **85** гадоў таму ў вёсцы Рыдамля Талачынскага раёна Віцебскай вобласці нарадзіўся **Рылько** Алесь (Аляксей Іванавіч), беларускі празаік, драматург, публіцыст.

Пасля заканчэння сярэдняй школы і педагагічных курсаў у Оршы працаваў настаўнікам на Аршаншчыне. Падчас Вялікай Айчыннай вайны знаходзіўся ў партызанах, быў паранены. Пасля вайны настаўнічаў, вучыўся на аддзяленні журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, быў супрацоўнікам газет «Савецкі селянін», «Літаратура і мастацтва», часопісаў «Вожык», «Полымя», працаваў літкансультантам у Саюзе пісьменнікаў.

Друкуецца з 1946 года. Выдаў зборнікі апавяданняў «Мае сустрэчы», «Стуканок у аблавушцы» і іншыя.

Узнагароджаны медалямі.

Памёр у 1967 годзе.

**28**

— **70** гадоў таму ў вёсцы Сенніца Мінскага раёна нарадзілася **Каробкіна** Святлана Тарасаўна, беларуская паэтэса.

Дзяцінства яе прыйшлося на гады Вялікай Айчыннай вайны — разам з двума старэйшымі братамі і малодшай сястрой яна знаходзілася ў партызанскім атрадзе, дзе яе маці была сувязной і разведчыцай. Пасля заканчэння школы працавала прадаўцом, справаводам у народным судзе, машыністкай у статыстычным упраўленні, у літаратурным музеі П. Броўкі.

Друкуецца з 1968 года. Выдала паэтычныя зборнікі «Колер дабра», «Арабескі восені зялёнай».

*Аўтар рубрыкі*
*Янка Лайкоў.*



## *ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ І ПАДПІСЧЫКІ «ПОЛЫМЯ»!*

**Працягваецца падпіска на І паўгоддзе 2008 года.**

**індывідуальная льготная**
**для настаўнікаў (індэкс — 00471)**

**на 1 месяц — 4700 руб.**
**на 3 месяцы — 14 100 руб.**

**індывідуальная (індэкс — 74985)**

**на 1 месяц — 6600 руб.**
**на 3 месяцы — 19 800 руб.**

**ведамасная (індэкс — 749852)**
**на 1 месяц — 8800 руб.**
**на 3 месяцы — 26 400 руб.**

**ведамасная льготная (індэкс — 00727)**
**на 1 месяц — 7200 руб.**
**на 3 месяцы — 21 600 руб.**

***Аўтары нясуць адказнасць за факты, якія прыводзяцца ў публікацыях, у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь. Рукапісы не рэцэнзуюцца і аб'ёмам да двух аркушаў не вяртаюцца. У выпадках паліграфічнага браку ў часопісе звяртацца ў друкарню.***

*e-mail: polymya@bk.ru*

Рэдакцыя часопіса «Полымя», 220034, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара,
намесніка галоўнага рэдактара — 284-80-12,
аддзелаў прозы, паэзіі, навукі,
крытыкі і літаратуразнаўства — 284-80-91.

Стыльрэдактар *М. І. Гусева*
Камп'ютэрная вёрстка *А. А. Губар*

Падпісана ў друк 05.03.08 г. Фармат $70 \times 108\ ^1/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 18,20. Ул.-выд. арк. 18,13. Тыраж 3638 экз. Зак. 621.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.

Нашы індэксы
індывідуальны — 74985
ведамасны — 749852
льготны для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі — 00727
індывідуальны льготны для настаўнікаў — 00471

# Чытайце ў наступным нумары:

**Мікола Мятліцкі**
**Сяргей Давідовіч**
**Анатоль Цыркуноў**
Вершы

**Маргарыта Прохар**
**Паўночнае лета**
Аповесць

**Георгій Марчук**
**Муж, жонка і целаахоўнік**
Камедыя

**Леанід Левановіч**
**Стогнуць чырвоныя дрэвы**
Эсэ

**Алесь Яскевіч**
**В. Каратынскі: ля вытокаў нацыянальнай лірыкі і эстэтыкі**

ПОЛЫМЯ

ISSN 0130-8068




